


# ПОЛЫМЯ


*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**2** (976)

*ЛЮТЫ*

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**





**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2011**

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Мар’ян ДУКСА



* * *

Матуля неба, шчыра і прачула
вяртаеш нашы страчаныя сілы.
О колькі слёзак з твараў Ты згарнула,
вачэй патухлых колькі запаліла!
З Табою сэрца не ахаладзее,
з Табою цёплыя прыходзяць згадкі.
Ізноўку нават кволыя надзеі
у сэрцы прарастаюць, як зярняткі.
Зірнула Ты — адразу лёгка стала,
жыццёвыя сцішэлі завірухі.
Ты захацела, вельмі паспрыяла,
каб радасць выпусціць з абдымкаў скрухі.

* * *

Квітней для ўсіх, падворак без варот.
Хай тут па лісці скача ветрык свежы.
Як хочацца скруціць апошні дрот,
які іржой пабраўся на памежжы.

---

***Дукса Мар’ян Мікалаевіч*** *нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

Варожасці дрымучы забабон —
калючы знак гвалтоўнага падзелу.
След раздзяляльны, прабягае ён,
Як рана, праз усё зямное цела.
Жывыя галасы з усіх бакоў
плывуць да нас і нас гукаюць дзесьці.
Як хочацца з усіх мацерыкоў
людскія пальцы цесна пераплесці…
Гадзюкі-межы паміж нас паўзлі…
Любіць свой край — сур'ёзная прычына.
Ды нават не кругляк усёй Зямлі,
а ўвесь Сусвет — сапраўдная Айчына.

* * *

Брыдуць салдаты… Год сорак чацвёрты…
Усе ў абдымках попелу і гора.
У кожнага твар шэры і пацёрты.
Усе на стадыі апошняй зморы.
Ад пераходаў ногі іх апухлі,
не ногі, а груvасткія каменні.
Іх вочы нерухомыя патухлі,
хоць у душы і ззяе вызваленне.
Брыдуць салдаты. Нібы ўсе паснулі.
Сцішэлі рукі, і няма размаху.
Хоць у свядомасці і свішчуць кулі,
ужо ніхто не ўздрыгвае ад страху.
Гадзінамі гляджу на гэта фота…
І боль душу пранізвае нязвычны.
Ідзе-брыдзе перадавая рота,
нібыта ў сне жахліва-фантастычным.

* * *

Сто грам баявыя, сто грам
так помняцца франтавікам…
Яны руйнавалі нясмеласць,
маглі растапіць зледзянеласць.
Сто грам баявыя, сто грам
спружыну дарылі нагам.
Зняць стрэльбу змушалі з плячэй
і сэрцу забіцца хутчэй,
свінец пераскочыць густы,
са смерцю стаць толькі на ты.
Сто грам баявыя, сто грам,
акопнікі ўдзячныя вам.
Бо той, хто аднойчы вас браў,
ён ведаў, што страх паміраў.

* * *

Яны сюды зляцеліся ізноў,
сюды, на вечар, у былую школку,
дзе лепшы час іх ззяў, нібы вясёлка.
Зляцеліся з вязанкай цёплых слоў.
Бадзёрыя, вясёлыя наўздзіў.
Няўжо ж усе іх здзейсніліся мары?
Ах, прытвараюцца… Па іхніх тварах
карэктар-лёс грунтоўна пахадзіў.
Напісана на іх, які быў шлях.
Каму ў далоні сыпаліся зоркі,
каму з чужых сталоў аб’едак горкі —
адлюстравана ўсё гэта ў вачах.
Але нашто агучваць напаказ
куслівыя варункі ўласнай долі?
Галоўнае — ізноў у цёплай школе.
Усе жывыя. І шчаслівы клас.

* * *

У пыле кніжная паліца,
падыдзе, можа, хто — чакае…
Як хочацца ўсё ж пахваліцца,
што да яе — чарга людская.
Чарга змялела і змарнела,
аб ёй далёкія ўспаміны…
Ля царства кніг стаіць нясмела
гуманітар — студэнт адзіны.
«Як хочацца сысці на Неўскі.
Хоць, класік, цягнеш ні на грош ты…»
О геній, Фёдар Дастаеўскі,
табе маркоціцца навошта?
Хіба памрэ твая надзея?
Ёй усміхаецца бяссмерце.
Тваe высокія ідэі
не раз прашыюць наша сэрца.
Яны жывуць — моц нашай веры —
ў прасторы вечнай і бяздоннай…
Што кніга! Жоўтая папера
у грубай вокладцы картоннай.

* * *

У тэлевізары — крутыя
зноў верхаводзяць… Справа дрэнь…
Як вынік моцнай алергіі,
зноў разгуляецца мігрэнь.

Бо не апосталы-празорцы,
не ціхай вёскі дзецюкі —
адны серыйныя забойцы
мільгаюць
і гвалтаўнікі.
Няўжо вось гэткае — як норма?
Хто — хват,
каму — аддаць канцы.
Хто ў форме чыннай,
хто без формы —
між людства лётаюць стральцы.
Ну што ж так сталася, мой пане?
Яны ўсе
лезуць на таран.
Не мы ўжо на пярэднім плане.
Цяпер яны — на ўвесь экран.

* * *

Спальны раён — гэта мікрараён,
як ні кажы — гарадскія задворкі.
Гэта пустыр учарашні. І ён
тут аб'ядноўваў лагчыны і ўзгоркі.
Спальны раён — тут ні кветак, ні дрэў,
рэдка якая палётае птушка.
Можа, і тут нехта шчасце сустрэў.
«Спальны раён» — гэта нібы мянушка.
Тут яшчэ летам траву не стрыгуць,
гліна тырчыць камякамі паўсюдна.
Людзі трушком на прыпынак бягуць,
а вечарамі заўсёды бязлюдна.
След будаўнічай пляцоўкі ляжыць,
горад прыходзіць сюды асцярожна.
Цяжка сказаць, тут ці весела жыць.
Самае важнае — выспацца можна.

* * *

Што ж ты, мора, не станеш прэсным?
Вунь як бурляць навокал паводкі.
Колькі вады табе вылью́ць увесну
рэкі — вады несалёнай усё-ткі!
Што ж, чалавек, ты не робішся добрым,
што не атросся ад злосці і звады?
Мы табе столькі чуллівасці дорым,
столькі табе дасталося спагады.
Што пажадалі табе — ці збылося?
Ці што змянілася ў звілінах цёмных?
Ах, колькі слоў табе ў сэрца ўлілося —
слоў даравальных, светлых і цёплых.

* * *

Караблік радасці на моры бед…
Хоць прыстаняў тваіх нам не відно,
не разлюбіў ты навакольны свет,
ніколі не збіраешся на дно.
Караблік радасці, паміж пагроз
плывеш, адчуўшы бездань пад сабой.
На палубу ўзбягаюць хвалі слёз.
А вецер пахне горкаю журбой.
Караблік радасці, скажы нам, дзе ты ёсць
на моры бед, дзе церпіць сёння люд?
Караблік радасці, ты наш жаданы госць,
хоць і ляжыць у вечнасць твой маршрут.

* * *

Якія ні шалеюць тут вятры,
які віхор ні праляціць абвальны,
аднак на схіле кручанай гары
стаіць заўсёды дрэва вертыкальна.
Стаіць, пакуль не згіне ў забыцці…
Адкуль яно ў сабе знаходзіць сілу
ні ў якім разе ўгору не расці
згінаючыся — паралельна схілу?
І мець такі зайздросны проста лёс,
каб, стойкі ствол выцягваючы ў струнку,
беспамылкова ўгадваць верх нябёс —
інакшага не ведаць накірунку.

* * *

Ты выйдзі, красуня, на сонца хутчэй.
Хай ветрык адразу навокал плячэй
і лётае, і ахінае пяшчотна,
і сукню тваю павbooрушыць ахвотна.
Ускіне-раскіне твой сноп валасоў,
каб затрапятаўся.
Мільён галасоў
птушыных
абвесцяць, што свет не пусты,
у свеце нарэшце з’явілася ты.
І гаснуць, марнеюць
і смутак, і страх.
І сэрца жадае зноў біцца ў грудзях.
…Будзь вечнай прычынаю сэрцабіцця.
Ты — радасць,
ты — ветразь,
ты — крылле жыцця.

* * *

Ён прадугледжаны,
увесь цяжар мой — звыш…
Я столькі раз
скідаў з плячэй свой крыж!
Здавалася, што з ім
я ледзь брыду.
А скіну —
дык, гуляючы, пайду.
І праўда:
як страсаў свой груз з плячэй,
намнога пачувалася лягчэй.
Але слабеў
мой утрапёны дух,
і нечакана супыняўся рух.
Чаму ты
дзіўнай прагаю гарыш
падняць ізноў наканаваны крыж?

* * *

Упарта цісне ўласны лёс цяжкі,
не раз знянацку кідае дарога…
Не перашкодзяць частыя штуршкі
у вечнасць плыць і з Богам і да Бога.
Хаця няма за што сябе хваліць —
як матылёк, я мітуслівa лётаў.
Стараюся цяпер у вечнасць плыць
без рэзкіх рухаў, як і паваротаў.
Працягваць шлях хоць на адным крыле.
Не ўведаць злосць. Не скрыўдзіць анікога.
Удзячным быць за ўсё, што Бог пашле.
І плыць штодзённа з Богам і да Бога.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ВАЛОШКІ НА МЯЖЫ[1]

***(сямейная хроніка ў духу барока)***

*Роднаму гораду Брэсту прысвячаецца.*

Аўтар

## *Частка пятая*

### VIII

— У горадзе бушаваў пажар, — працягваў пляменнік. — Разбурэнні. Насельніцтва памкнулася на ўсход. Апошні раз сабралі турка́м і вырашылі ісці разам з усімі. А над дарогаю разбойнічала нямецкая авіяцыя. Ну, дзядзьку, у гэтай справе яны майстры! Жах! Здаралася нават, што самалёт ганяўся за асобным чалавекам. Некаторыя самалёты, — Косця задраў уверх галаву і паказаў рукой, — праносіліся так нізка, што было відаць, як з кабін выглядалі лётчыкі. Адсуне шкляныя засланкі і пазірае ўніз, не здымаючы чорных акуляраў, ды яшчэ нахабна ўсміхаецца. Пазірае і смяецца!

— А каб стрэліў у яго!

— Стрэліў? Дык ён бы бомбу ў адказ ці з кулямёта. Ды і з чаго стрэліш? Няма з чаго страляць! Войска і цывільных ахапіла паніка. Ну, набраўся і я страху...

— Дзіва што!

— Начавалі дзе папала. У небе ўвесь час гулі самалёты і адлюстроўваліся водбліскі пажараў. Страшэнная карціна!

— Як пры канцы свету! — хітаў галавой Цімоша.

— Пасля Быдгашчы нашы хлопцы, палітзняволеныя, якія да гэтага трымаліся разам, у адной калоне, рассеяліся сярод натоўпу — кожны, відаць, выбраў сваю дарогу. На развітанне я ім сказаў: «Калі хто прычэпіцца, кажыце, што прызваныя з запасу». Вось такія справы. Сышоў з дарогі і я. Натрапіў на пакінуты гаспадарамі хутар і спыніўся. Гаспадары пакінулі ўсё — прадукты, рэчы, адзенне, абутак, ну, літаральна ўсё. Я падсілкаваўся і пераапрануўся, скарыстаўшы тое-сёе з гаспадаровага гардэробу. Толькі, шкада, ніякага абутку не падабраў, на маю нагу нічога не прыдалося. Ну, але добра. Крыху ачуняў, адпачыў і ўжо хацеў рухацца далей, як раптам у двор увальваюцца польскія салдаты на конях, чалавек з пятнаццаць! На чале з крыклівым афіцэрам на брычцы, які трымаў сябе, ну, не ніжэй як галоўнакамандуючы, хоць быў усяго толькі капітан. Заходзяць у хату. Што рабіць? Унутры ў мяне ўсё

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2011 г.

захаланула, але не разгубіўся. Я, дзядзьку, на правах гаспадара запрашаю іх да стала, падаю закуску і некалькі пляшак зуброўкі, што знайшоў у каморы. Гасціннасць ёсць гасціннасць! Я як бы ўваходжу ў ролю.

— Здорава! — прыцмокнуў языком Цімоша.

— Ну, а што рабіць?

— Правільна! Калі шчасце, дык і з мяшка вылезеш.

— Селі за стол. Адну чарку кульнулі, другую і трэцюю кульнулі.

— Ого!

— Гэты капітан, дзядзьку, пад вялікім сакрэтам расказвае мне, што немцы пад выглядам вызваленых з турмы выкінулі на тэрыторыю краіны процьму дыверсантаў і яму загадана ўсіх іх лавіць і расстрэльваць. У мяне сэрца абарвалася. Ну, думаю, кранты! Але абышлося. Адпачыўшы, вайскоўцы пачалі сядлаць коней і збірацца ў дарогу. У іх была свая работа.

— Лавіць дыверсантаў?

— Так.

— Я напакаваў іх рэчавыя мяшкі ўсім, чым багата была хата таго хутаранца — паляка, які, бедалага, пакінуў жыллё і падаўся далей ад вайны. Капітан яшчэ больш падабрэў. У знак удзячнасці пакінуў каня. Сапраўдны верхавы вайсковы конь пад сядлом, толькі вельмі стомлены. За гэта я палічыў патрэбным таксама аддзячыць свайму госцю — паставіў яму ў брычку бочачку мёду і шкляны генцёр з зуброўкай. Надта ён яе ўпадабаў. Круцілася думка папрасіць пана капітана, каб ён выдаў мне дукумент, што вайсковы конь з сядлом паявіўся ў мяне невыпадкова, што яго падарыў польскі афіцэр за адданасць польскай арміі. І просьба да ўлад — лічыць гэты дакумент сапраўдным. Пан капітан ласкава склаў такую паперу, распісаўся і ўручыў мне. На развітанне я доўга махаў ім рукой. Калі яны паехалі, я разгарнуў атрыманы дакумент і ўбачыў, што ён быў напісаны на службовым бланку, на якім стаялі штамп і пячатка Другога аддзела Генштаба польскай арміі. Гэта была тая самая «двуйка» — галоўная служба ваеннай разведкі і кантрразведкі. Адлягло ад сэрца, і надарылася магчымасць крыху паспаць. Зарыўся ў сена і заснуў. Разбудзілі гукі недалёкага бою, які ўсё разрастаўся. Я хуценька напаіў каня, сеў у сядло, сунуўшы ў страмёны босыя ногі і пусціўся ў дарогу, далей ад гэтага пекла.

— Босым?

— А што рабіць? Няма ў што абуцца, хоць ты благім матам крычы. Мне ўсё жыццё на абутак не шанцуе. Еду босы. Зноў дагнаў нейкую калону. Заўважыў, як недаверліва паглядалі людзі: у вайсковым сядле, але босы. Ну, думаю, дрэнныя твае справы, Канстанцін! Некалькі разоў спыняў ваенны патруль — выручала «ахоўная грамата». Навокал, у напрамку Варшавы, рухаўся бясконцы чалавечы паток. Па-рознаму апранутыя і абутыя людзі, дашчэнту знясіленыя, густа пакрытыя пылам і брудам — з валізкамі, мяшкамі, карзінамі, тэчкамі... Ішлі ў напрамку Варшавы. Дабраліся нарэшце да нейкага горада. Гэта была яшчэ не Варшава, а Плонск — невялікі гарадок на захад ад польскай сталіцы. Конь мой знямогся і валіўся з ног. Я зняў з яго сядло, падвёў да калодзежа, напаіў. Каб хто не звёў бедную жывёліну, праз весніцы ўпусціў каняку ў чыйсьці зарослы сакавітым мурагом сад. Сам накіраваўся ў цэнтр, запруджаны народам. Кругом сляды бамбёжак, разбурэнні. Людзі ладзілі барыкады. З-пад руін выцягвалі нейкага чалавека. Раптам чую: «О-о! Хлябіч! Якая сустрэча!» І хто, думаеш, гэта быў?

— Хто?

— Начальнік караноўскай турмы пан Градзіньскі!

— Дык і ён там апынуўся?

— І ён таксама! «Невясёлая наша сустрэча», — кажу, бо пазнаў адразу, хоць выглядаў ён ужо па-іншаму. Турэмны касцюм змяніў на ваеннае абмундзіраванне ахоўнага колеру, на плячы вісеў карабін, на поясе — пустая кабура. Пісталет — хвацкі маўзер з доўгім ствалом — трымаў у руцэ. Ад аднаго ворага ўцякалі, але гэта нічога не мяняла, бо паміж сабой па-ранейшаму заставаліся ворагамі, стаялі адзін насупраць аднаго, твар у твар, амаль упрытык. Праўда, выгляд пан Градзіньскі меў ужо не той, што раней. Турэмшчык здаваўся смяртэльна стомленым, брудны, даўно няголены твар аброс рудым шчаціннем. Толькі востры позірк па-ранейшаму калоў злосцю і каварствам. Я яму напомніў пра нашу размову ў яго кабінеце. Гэтага, кажу, магло б не быць, каб вы тады мяне паслухалі. Яго ажно перакасіла ад маіх слоў. «Слухаць? Знішчаць вас усіх трэба, а не слухаць!» А я яму на гэта кажу: «Цяпер нам, пане, адна дарога...» Тут ён і напудзіўся на мяне: «У падвал!» Пры ім былі памагатыя — яны мяне адразу ж і справадзілі ў той падвал. У падвале нас аказалася чалавек дзесяць, у тым ліку два вайскоўцы, якіх палічылі дэзерцірамі. Адзін з іх — капрал — усё апраўдваўся, што ён не дэзерцір, але, вядома, у такой абстаноўцы каму што дакажаш? Пасадзілі як міленькага. Гэты капрал — слова за слова — пачаў гаварыць з вартавым, што стаяў за дзвярыма, а той кажа: «Ноччу вас маюць расстраляць». Ну, бо, вядома, куды нас дзець! Раімся з капралам: што рабіць? А ён кажа: «Ёсць у нас з другам пісталеты — у халявах пахавалі». Друг той побач, але чалавек, відаць, слабы. «Не буду, кажа, у сваіх страляць». Тады, штурхаю яго пад бок, аддай пісталет мне! Ён і аддаў. Апоўначы пачуліся крокі, нехта набліжаўся да падвала. «Адчыняй!» Ну, думаю, трымайся, Косця! Шанец у цябе ёсць! Загрымеў замок, рыпнулі дзверы. Я з капралам адступілі ў бакі. У падвал увайшлі двое паліцыянтаў з уключанымі ліхтарыкамі. Я стрэліў першым — ва ўпор. Набраўся смеласці і стрэліў! Тут жа бухнуў стрэл капрала. Паліцыянты, як мяшкі, асунуліся на дол. Вартавы даў драла.

— Адчайны ты! — не пераставаў дзівіцца Цімоша.

— Людзі, не паспеўшы развітацца, знікалі ў цемры. Я падаў руку капралу і таксама пабег. Не марудзіў. Не звяртаючы ўвагі на бамбёжку, бег на ўсход. Дабраўся да Варшавы. Горад гарэў: гарэла ўсё, што магло і не магло гарэць: дрэва, каменні, метал. Густа-чырвонае полымя шугала пад самае неба. Немцы затрымалі ўжо на падыходзе да Брэста. Мясцовы, кажу, з запасу прызваны, на фронт гналі, цяпер дадому іду. Адпусцілі. Такая вось гісторыя...

— Перажыў шмат, — паспачуваў Цімоша, і яны яшчэ асушылі па чарцы. За акном ужо світала. Трэба было пасля такой доўгай дарогі адпачыць. Спакайней за ўсё — на гарышчы.

Пажыўшы колькі дзён у Цімошы, Косця на самым пачатку снежня заспяшаўся ў Брэст. Цягнула. Хацеў сустрэцца з Ігнатам Лісаком, у якога магла быць цікавая інфармацыя. Павёз усё той жа Цімоша, запрогшы старую каняку, якая ледзьве цягнула лёгкі вазок з двума седакамі. Седакі часам саскоквалі з воза, ішлі побач. Дуў вецер, засыпаючы твар колкай крупкай, шчыпаў шчокі марозік, неўзаметку забіраючыся пад світку. Нос у Косці закладзены прастудай, і ён вымушаны быў дыхаць ротам. На пытанне Цімошы, дзе ён прастудзіўся, пляменнік адказаў:

— Гэта, дзядзьку, турмы адабралі ў мяне насавое дыханне. — Па гэтай ці па якой іншай прычыне седакі больш маўчалі. Косця думаў пра сваё. Хто-хто, а Ігнат, калі жыў-дуж, павінен ведаць абстаноўку. Калісьці на ім многае сыходзілася, асабліва, калі жыла Марыя. Шмат хто на сабе паспытаў яе чараў. Але даўно ўжо няма прыгажуні Марыі. Так на падпольнай рабоце і загінула — закатавалі ў турме. Гадаў распарадзіўся. Чалавек з плямай на шчацэ. Што ж,

лёс іграе чалавекам, як хоча, то так павернецца, то інакш, распараджаецца, як гаспадар які. Косця паспытаў гэта на сабе.

Пра многае думалася. Па твары часам прабягаў цень скрухі і скепсісу. Не дзіва. Перажыўшы паласу недаверу пасля роспуску КПЗБ, ён не мог глядзець на свет ранейшым наіўным і незаімглёным позіркам.

Як толькі даехалі да горада, яшчэ на былой Лётнічай (цяпер гэта была Авіяцыйная) пляменнік саскочыў з вазка і развітаўся з дзядзькам. Цімоша павярнуў у адваротным кірунку. У Брэсце Косця падаўся ў прыгарад — у бок Трышына, дзе ўдаўцом жыў Ігнат. «А можа, ужо ажаніўся? Цяжка ж адна-му...» Дом № 3 стаяў на сваім месцы, з левага боку, у глыбіні двара. Ад вуліцы яго аддзялялі плот і драўляныя веснічкі. Вокны заслонены фіранкамі. Косця агледзеўся і падняў каўнер, паводзіў сябе ўвесь час вельмі асцярожна. Рамізнікі, якіх калісьці было шмат, кудысьці зніклі, і праз увесь горад давялося ісці пяшком. Косця праціснуўся ў веснічкі, узышоў на ганак і нясмела пастукаў. Раз, другі, трэці. Нарэшце ў хаце нехта заварушыўся, колькі разоў кашлянуў.

— Хто? — пачулася з сянец.

— Свае.

Бразнула засаўка, і ў праёме нешырока прачыненых дзвярэй паказалася постаць добра ўжо ссівелага чалавека. Косця пазнаў Ігната. У вачах — насцярожанасць.

— Ну, здарова!

— Здарова! — адказаў гаспадар, напружана ўзіраючыся ў таго, хто перад ім стаяў, і не пазнаючы госця. — Ты?

— Я.

— Косця?

— Ён самы.

Прыемна было, што яго пазналі, бо цяперашнім часам многія з іх асяроддзя, з былых падпольшчыкаў, не спяшаліся пазнаваць старых знаёмых.

— Ну, здароў! — зноў паўтарыў Ігнат і запрасіў у хату.

Памяшканне дыхнула цеплынёй ад толькі што выпаленай печы. Здзівіла, аднак, цішыня, якая звычайна ўсталёўваецца там, дзе жывуць адзінокія людзі. Пад лаўкай сядзеў вялізны стары кот, паглядаючы на госця, як здалося Косцю, пільным і выпрабавальным позіркам, нібы пытаючыся: «Ну, чаго ты, чалавеча, прыйшоў? Што ад цябе чакаць? Добрае што ці благое?..» Кот нечым падобны быў на гаспадара, узяўшы нешта ад яго характару, нібы скапіраваўшы яго.

— Ну што, адседзеў? — спытаў Ігнат, сядаючы на лаўку.

— Вайна вызваліла, — патлумачыў госць, прысеўшы на столак.

— Хутка ўсё адбылося, а здавалася, панам тым і зводу не будзе. Здавалася, што навечна.

— Што мае пачатак, тое павінна мець і канец, — ухіліста адказаў госць.

— А Сямён Гарадчук у Маскву ездзіў, каб да Украіны далучылі.

— Каго далучылі? — не ўцяміў Косця.

— Ну, наш край, Берасцейшчыну.

— І які вынік?

— Сказалі, што партыя лепш ведае, каго з кім злучаць.

— Ну і правільна сказалі.

— Прапаганды шмат.

— Гэтага хапае.

— А тут, браце, з матрыцарняю[1] справа выйшла! Нават я не ведаў, што ў горадзе ёсць матрыцарня!

---

[1] Матрыцарня — друкарня.

— Калісьці за матрыцарню адказваў Меер Зільбер, — успомніў Косця.

— Калі тое было! — павёў галавою Ігнат. — Яшчэ пры Грамадзе! А гэтая працавала з дваццаць сёмага па трыццаць восьмы, на рагу Уніі Любельскай і Беластоцкай, у падвале. І ведаеш, хто ёю апекаваўся?

— Хто?

— Іван Валошка. І падвал сам капаў. Ушыў у світку вялікія кішэні і насіў зямлю ажно ў Мухавец. Вялікі падвал атрымаўся — тры на тры. Потым тэхнікі абсталяванне ставілі, па частках. І гэта, заўваж, побач з дэфензівай.

— І адкуль ён?

— З-пад Жабінкі. Вёска, здаецца, Арэпічы.

— Ну і ну! — падзівіўся Косця. — Усё ж такі ўмелі ў нас будаваць падполле!

— Іван Раманавіч Валошка. Просты чалавек, ён нават і не ведаў, што нас ужо распусцілі[1], і працягваў чакаць сувязніка. А яго няма. І работа спынілася, як бы і друкаваць нічога не трэба. Нарэшце і Саветы прыйшлі, а матрыцарняй ніхто не цікавіцца. Чалавеку не па сабе стала. Прыходзіць Іван да мяне і пра ўсё расказвае. Нават не ведаю, чаму ён мне вырашыў адкрыцца. Што рабіць — пытаецца. У горадзе — Саветы. «Доктара» няма. «Доктар» — гэта мянушка яго сувязніка, павінен быў прыйсці з паролем: «Палескія вятры нясуць людзям вільгаць». А Валошка павінен адказаць: «Чакаем вялікага ўраджаю грэчкі».

— Бязглуздыя ў нас паролі былі, — не выцерпеў Косця. — Калі, скажам, зімою, дык якая грэчка?

— Ну, вядома, — згадзіўся Ігнат, — але не ў тым справа. Нараіў я Івану ісці да ўлад. Улада — савецкая, павінна зразумець. А «доктара» таго не дачакаешся. Можа, і паслаць яго няма каму. Ідзі, кажу, і адкрыйся: так і так, партыйная друкарня, давайце заданне, будзем друкаваць. Іван так і зрабіў, пайшоў у штаб да пагранічнікаў. «У мяне, кажа, друкарня, і не ведаю, што з ёю рабіць...» Афіцэр, як пачуў, што Іван кажа, тут жа скамандаваў: «У ружжо!» Салдаты пахапалі вінтоўкі і выскачылі на двор. Падкаціў самаход, усе паселі, Івана запхнулі ў кабінку, каб паказваў дарогу. Адлегласць — невялікая, дзве-тры вуліцы. Іван пальцам паказваў, дзе павярнуць. Акружылі дом, дзе была матрыцарня, і дасталі з падвала і станкі, і запчасткі, і архіў, і ўсё гэта разам з Іванам здалі ў энкэвэдэ, а там следчы дапытваўся.

— Дзе і колькі ты выпусціў антысавецкіх лістовак? Кажы! Валошка гэтага, зразумела, не чакаў і абалдзеў, стоячы з адкрытым ротам, але выпусцілі. На развітанне следчы нават падаў руку і пасміхнуўся: «Навошта вам гэтымі глупасцямі была занімацца?» Выпусцілі, а цяпер зноў забралі. Вось такія справы, — Ігнат быццам дзеля прыліку пару разоў кашлянуў.

— Ну і справы тут у вас! — пахітаў галавою Косця.

Памаўчаўшы, Ігнат сказаў:

— Сталін выклікаў кіраўніцтва КПЗБ у Маскву і пастраляў. Выходзіць, што слаба яму дапамагалі. А планы ў яго былі... «Даёш Варшаву!», «Даёш Берлін!» Усё на маіх, можна сказаць, вачах...

Косця ажно сцяўся, але прамаўчаў, нічога не сказаў, аблізнуў вусны і ўздыхнуў. Пра сваё мінулае, калі яму давялося прычыніцца да дзейнасці КПЗБ, стараўся не ўспамінаць. Ігнат гэта разумеў. Магчыма, таму сказаў:

— А людзі былі выдатныя! Героі!

— Людзі былі моцныя, — згадзіўся Косця.

— Дзьмулі, дзьмулі, а касцёр і не разгарэўся, — як бы ўшчуваючы некага, дадаў Ігнат. Адчувалася, што яму таксама нялёгка. Яны яшчэ колькі

[1] Маецца на ўвазе роспуск Кампартыі Польшчы ў 1938 г.

часу пасядзелі моўчкі, нібы не было пра што гаварыць. Ці баяліся паглыбіць гамонку, бо і ў сцен могуць быць вушы.

Мяўкнуў кот і пацёр лапкай за вухам.

— А ў нас тут яшчэ адна прыкрая рэч адбылася, — сумна пасміхнуўся гаспадар. — З Польшчы шмат яўрэяў наплыло, ад немцаў уцякалі, а тут нястачы, цяжкасці — і з жытлом, і з харчаваннем, і з работай. Ну, проста халэмус. Трагедыя, — я табе скажу. Дык вось сабраліся яны, гаротныя, каля сінагогі — гэтай, што на Дамброўскага, і просяць: вярніце нас на радзіму, у Польшчу. І шмат — дзве тысячы чалавек. Транспарант паднялі — «Вярніце нас на радзіму». Дык нашы ўлады былі напалохаўшыся, войскі паднялі, конных пагранічнікаў, старшыня гарвыканкама Салавей Іосіф Мендзелевіч выступіў! Угаворвалі. Я таксама там быў. Не паслухаліся! Доўга ўгаворвалі, але дарэмна. І я табе скажу — патрабаванне мітынгу было выканана. Паставілі іх — гэтыя дзве тысячы — у калону і ў суправаджэнні конных пагранічнікаў, праз Варшаўскі мост, адправілі за Буг. Цвёрдай граніцы яшчэ не было, дамовіліся з немцамі і — ўпярод. Узялі, хто што мог — чамайданы, мяшэчкі, скруткі, тое, што можна было несці, і пайшлі. За Бугам, кажуць, іх акружылі немцы і адправілі ў канцлагер каля Бяла-Падляскі. Вось так вярнуліся на радзіму...

— Цяжкі выпадак, — уздыхнуў госць, — хай бы тут часовае жыллё сарудзілі...

— «Васточнікаў» шмат панаехала, — зноў азваўся гаспадар. — Даверу да іх няма, але цяпер іх сіла. За што бароліся, на тое і напароліся.

Госць прамаўчаў, прыгладзіў парадзелую чупрыну. І ён, і гаспадар добра разумелі, што капэзэбоўцы сталі як бы заложнікамі ўвядзення новых парадкаў, якія з мясцовага насельніцтва мала каму падабаліся. Прыкра было гэта ўсведамляць. Сапраўды, як у прымаўцы: за што бароліся, на тое і напароліся.

— Я часам думаю, — загаварыў Ігнат, паскробшы патыліцу, — можа, яно і добра, што Марыя Васільеўна, царства ёй нябеснае, не дажыла да гэтай пары, а то надта б пераймалася. Чуллівы характар мела.

— Я помню яе, — сказаў Косця. — Нічога, будзе яшчэ і на нашай вуліцы свята.

— А хто яго ведае...

— Будзе.

Ігнат зірнуў на госця:

— Можа, хочаш есці, то капусты налью?

Косця адмоўна хітнуў галавой. Уздыхнуўшы, спытаў:

— А з нашых каго можна ўбачыць?

— Нашы не высоўваюцца. Баяцца. Многіх забралі. А некаторыя і на новую службу пайшлі, следчымі нават працуюць.

Госць пачаў збірацца. Успомніўся чамусьці Піліп Пестрак, з якім сядзелі колькі месяцаў у Лукішках, у адной камеры. Дзе ён зараз? Можа, начальнік які? Прыяцеляў, сяброў, таварышаў — па свеце шмат. Толькі лёс чамусьці не спрыяе.

— Нічога! Неяк яно будзе! — спрабаваў падбадзёрыць Ігнат, чуючы, якія сумныя думкі раяцца ў галаве таварыша. — Яшчэ ўсё пераменіцца.

— Пераменіцца, калі нас не будзе.

— Хто яго ведае.

Косцю нічога не заставалася як вярнуцца ў Пруску. Выйшаўшы ад Ігната, доўга азіраўся па баках: адчуванне было такое, што яго зноў высочваюць. Адразу ж пасунуўся на чыгуначны вакзал, каб ехаць да Лышцыцаў. У галаве было пуста, як у бочцы з-пад селядцоў.

## IX

Зіма 1939—1940 гадоў выдалася нейкай на рэдкасць лютай, вельмі марознай і снежнай. І не толькі ў Прусцы, не толькі на Беларусі, але ажно да Урала. Грозна трашчалі ў садах дрэвы. У Пацаў вымерзлі пчолы — Амброжый з Мірыкам не змаглі дагледзець і своечасова пахаваць у амшанік. Якаў Арыстархавіч аб'явіў вымову аднаму і другому.

У Прусцы па-ранейшаму працаваў рэўкам, на сходах, якія цяпер збіраліся надта часта ў памяшканні школы, гучаў голас упаўнаважанага Залатоўскага:

— Таварышы, вайна ідзе. Раненых шмат. Бінтоў не хапае. І малако раненым патрэбна. Прашу ўсіх мець гэта ў віду. Па малаку трэба правесці сход. Несазнацельнасці ў нас пакуль што, на вялікі жаль, многа. Колькасць такавых не змяншаецца, а, па маіх дадзеных, павялічваецца!

Назаўтра перад хатай Хвядзюшкі стаялі бідоны з малаком і ляжалі сувоі белага кужалю.

У газетах з'явіліся паведамленні аб наступленні Чырвонай Арміі на Карэльскім перашыйку. Паказвалі фільм «Лінія Манэргейма». Артылерыя граміла так званых белафінаў, рваліся снарады, пырскі ад выбухаў узляталі ў неба. Відаць было, што немалых намаганняў каштаваў горад Выбарг. Але чаму не паладзілі з гэтымі «белафінамі» і чаму яны белыя, ніхто толкам не ведаў.

— «Кукушкі», таварышы, назаляюць, — інфармаваў і тлумачыў Залатоўскі, звальваючы цяжкасці і няўдачы вайны на фінскіх снайпераў, сярод якіх не мала было жанчын. — «Кукушка», таварышы, гэта жэншчына, каторая сядзіць на сасне і пастрэльвае. І дзелает гэта, таварышы, метка. Буржуазія, таварышы, ідзёт на ўсё, каб хаця б як-небудзь прадоўжыць сваё гасподства, аднак у пабедзе сацыялізму ў аб'ёме ўсяго зямнога шара самненій нет. — Залатоўскага слухалі ўважліва, але была ў гэтай уважлівасці і нейкая абыякавасць. Адчувалася, што людзі перакормленыя палітычнымі навінамі.

Памаўчаўшы, упаўнаважаны працягваў:

— І яшчэ, таварышы, адно дзела. Есць пастанова Саўнаркама аб падпісцы на заём. Гаворка ідзе пра ўнутраны заём трэцяй сталінскай пяцігодкі, выпуск чацвёртага года. Пазычае гасударства на дваццаць гадоў з чатырох працэнтаў гадавых. Капіталісты нам не пазычаць, таварышы, я думаю гэта паясняць не трэба...

— Не трэба, — адгукнуўся Гамон.

— Восстанавіцельны перыяд, таварышы, пераходзіць у шырокае будаўніцтва асноў! — Упаўнаважаны з ходу даваў палітычныя фармулёўкі і ўстаноўкі. — Нада раскашэліцца!

— Гэта ж уціск! — падаў голас Фэдар-японец, павярнуўшы да ўпаўнаважанага васпаваты твар.

— Уціск быў пры Польшчы! — парыраваў Залатоўскі. — Не трэба путаць адно з другім, таварыш!

— Вот як з газаю быць — газы няма... — паскардзілася Дзякрэта, але ўпаўнаважаны і тут не разгубіўся:

— Газы няма, затое солі аж заваліся!

У зале зарагаталі. Упаўнаважаны таксама ўсміхнуўся.

— К чаму я кланю, таварышы? Вы павінны зразумець, што філантропіяй мы займацца не будзем, не наша гэта забота.

Што такое «філантропія», ніхто не ведаў, у тым ліку і сам упаўнаважаны, але пачуўшы недзе гэтае слова, ён ужываў яго дзеля аўтарытэтнасці.

— Гэта прадрашано, таварышы! — скончыў сваё выступленне ўпаўнаважаны.

Па навакольных вёсках пачаліся зернепастаўкі, нарыхтоўкі мяса, яек, малака, нават шчаціння і свіных скур.

Працягвалася, набірала сілу, нібы хто прыспешваў, саветызацыя. Як некалі ехалі на «крэсы» з захаду, так цяпер пацягнуліся так званыя «спецыялісты» з Усходу. Цягнуліся няспынным канвеерам, займаючы кіруючыя пасады ў партыйных і савецкіх органах, ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, навукі, адукацыі і культуры. Ехалі настаўнікі, журналісты, урачы, медсёстры, інжынеры, прадаўцы, прыбіральшчыцы. Пра гэта ў Лявона зайшла размова з Косцем, які, вярнуўшыся з Брэста, ад Ігната, адведаў Кужалёў. Пасля доўгага расстання яны абняліся, селі за стол і нейкі час маўчалі, успамінаючы, мусіць, мінулае. Потым Косця расказаў пра сябе — паўтарыў у скарочаным выглядзе тое, што распавёў Цімошы. Лявон з Фёклай слухалі і хіталі галовамі. Нацярпеўся чалавек. Звярнулі ўвагу на яго шчарбаты рот і яшчэ больш пашкадавалі небараку. «Турма не родная маці, — здароў’я яна не дадасць, а апошняе адбярэ».

— Я з захаду ішоў, а цяпер з усходу народ прэ. У Берасці на вакзале аднаго такога сустракаю і пытаю: «Куды едзеш?» «У Западную», — кажа. «А што збіраешся рабіць?» А ён мне адказвае: «Сакратаром райкама, спадзяюся, паставяць». «А колькі ў цябе класаў?» — пытаюся. «Шэсць класаў маю». «Дык ты ж, — кажу, — малаграматны». А ён рагоча: «Я ж васточнік!»

— Дзівак нейкі.

— Не скажыце.

— Няўжо так і кажа?

— Далібог! Але ж і праўда: раней палякі ўсюды сядзелі, цяпер «васточнікі».

Лявон і сам чуў, калі ездзіў у Камянец дабівацца пенсіі, — ва ўсіх установах і канторах, замест польскага «ензыка», гучала руская мова: «Здраствуйце, здраствуйце!» У мясцовым адміністрацыйным апараце не было ніводнага мясцовага чалавека.

— Калі былі ў бежанстве, дык там нам казалі: вы не мясцовыя, пасада вам не паложана. Вярнуліся — пад палякаў трапілі. Пасад таксама не даверылі. Цяпер улада памянялася, але тое ж самае. — Лявон развёў рукамі.

— Калі ўрачы прыязджаюць, інжынеры — я разумею. А прыбіральшчыцы нашто?

— Відаць, не надта давяраюць нашым. Каб якую паперу сакрэтную не вынесла... — Косця засмяяўся са свайго досціпу.

Фёкла ўздыхнула і па справах выйшла на кухню. Лявон зірнуў на Косцю:

— Цяпер гэтыя чыноўнікі што захочуць, тое з табой і зробяць.

— Са мной?

— Не, я ўсіх маю на ўвазе, і сябе таксама.

Праз расквечанае белай папараццю акно чутно было, як ад моцнага марозу затрашчаў плот.

— Ну і зіма ў гэтым годзе! — здрыгануўся Косця, хоць у хаце не адчувалася холаду — Фёкла натапіла печ.

Яны закурылі, па хаце разлёгся тытунёвы дым.

— Хутка каляды! — напомніў Лявон.

— Што каляды! Цяпер першамайскага свята трэба чакаць!

— Сапраўды, многае памянялася! І ў нас, і ў свеце. У Берасці вунь колькі войска, палякі столькі не мелі, а бальшавікі маюць. І зброя адмысловая — танкі. Танкі, мусіць, нішто не спыніць.

— Танк едзе, пакуль бензіну хопіць, — патлумачыў Косця.

— Афіцэр быў у Прусцы. Казаў, калі ваяваць будзем, дык на чужой тэрыторыі, на сваю не пусцім і свайго не аддадзім. А пралетарыят у Заходняй Еўропе нас, кажа, падтрымае. Добра, калі падтрымае.

— Ну, што падтрымае, дык гэта так. Пралетарыят, канечне, падтрымае, на тое ён і пралетарыят — родная кроў. Словам, мусіць, і сапраўды нешта будзе, бо адзін аднаму яны не саступяць.

— Хто?

— Гітлер і Сталін.

— Ты так лічыш?

— А што?

— Цяпер саветы з немцамі — не разліць вадой. І хлеб, і жалеззе — усё пруць у Берлін. А на Англію, кажуць, ён лятае цэлымі эскадрыллямі.

— Хто?

— Немец. Мне Шпронька казаў. А Саветаў немец не чапае.

— Заўтра ўсё можа памяняцца. Гэта — перадышка. Нешта, дзядзьку, будзе.

— Вось і я так думаю. — Лявон уважліва паглядзеў на Косцю. — Па вёсках прайшоў сполах, што заможных будуць у Сібір вывозіць. Ці праўда гэта? Такі загад у высокіх сферах быццам бы ўжо і рыхтуецца...

— Дык вы, дзядзьку, не заможны.

— Вядома, але...

— Вам нічога не пагражае.

— А хто яго ведае.

— Неяк яно будзе, — сказаў Косця, успомніўшы словы Ігната Лісака, і дадаў: — Усё будзе добра. — З гэтымі словамі ён выйшаў з хаты.

* * *

У студзені 1940 года пачаліся работы на Днепра-Бугскім канале, які павінен быў злучыць водным шляхам Украіну, Беларусь і Еўропу. Канал існаваў даўно і называўся Крулеўскім, але з цягам часу, нягледзячы на гэтую пышную назву, саступіў сваю ролю чыгунцы і быў даволі-такі запушчаны і забыты. Цяпер вырашылі яго паглыбіць, у прыватнасці, участак паміж Мухаўцом і Пінай, і добраўпарадкаваць. Працавалі ўдарнымі тэмпамі, па-стаханаўску, у некалькі змен, днём і ноччу. Да справы, у парадку працоўнага перавыхавання, прыцягнулі зэкаў, каб не карміць дармавым хлебам. Адбывалася такая ж «перакоўка» чалавечага «матэрыялу», як і на Беламорканале і інш. Сярэдняя норма выпрацоўкі на будаўніцтве складала да двухсот працэнтаў і нават болей. Сапраўдны сацыялістычны наступ!

— І нашы паны там, — расказваў Якаў Арыстархавіч, сустрэўшы Лявона ў Камянцы (Кужаль усё працягваў дамагацца пенсіі).

— Хто?

— Як хто? Вітальд з Каралем. Яны ў Брэсце гэты час жылі, дык мабілізавалі!

— Хто мабілізаваў?

— Саветы, хоба на іх. Саветы не жартуюць, давялося і панам узяцца за рыдлёўкі.

— Мёрзлую зямлю рыдлёўкай не надта і возьмеш.

— Ну, ламы ёсць, кувалды. Вогнішчы паляць, адаграваюць, — Якаў Арыстархавіч сумна пасміхнуўся — нібыта і жартаваў, але выгляд меў паніклы. Ранейшай дзябёласці ўжо не было. І апрануты быў не так фасоніста, як раней. І кажух стары, і шапка старая, і без гальштука.

— Дык узяліся не на жарт? Можа, што і атрымаецца...

Якаў Арыстархавіч, відаць, не быў у гэтым упэўнены, таму пачаў пра іншае:

— А крамы, я табе скажу, неяк вось і апусцелі, — перайшоў ён на «сумежную» тэму. — Хоба іх не брала, не блага атаварваюцца. Дадому вязуць! Прыехаў голы, а адсюль, кажуць, дзве валізкі павёз. Васточнікі, хоба на іх! А люд наш просты, можна сказаць, наіўны. Яму, што ні скажы, верыць.

— Просты, — згадзіўся Кужаль.

— Пакуль што, хоба на іх, падаткамі абклалі. І зямлю, і жыўнасць, і сад. Кожнае дрэва палічылі!

— Няўжо кожнае дрэва?

— І дрэвы, і парэчкі, і вуллі не забылі. Гэты падатак, хоба на яго, кулацкім называецца. Відаць, не адужаць нашай гаспадарцы. Горш, чым пры санацыі!

У душы Якаў Арыстархавіч быў моцна раззлаваны, і Лявон са спачуваннем глядзеў на фальваркоўца.

— Чаго яны ад мяне хочуць? Я ж не член КПЗБ, ніколі ім не быў. Але я ведаю: гэта бранавіцкія людзі зло на мяне маюць. Аляксей Ніканюк цяпер дэпутат раённага савета — ён якраз і стараецца. Мне з Амброжыем за адну авечку трэба паўкіло воўны здаць, а бранавіцкім — 300 грам. Картопель ім — дванаццаць цэнтнераў, а нам — дваццаць. Дык дзе ж тая праўда?

Якаў Арыстархавіч махнуў рукой. Паміж фальваркам і вяскоўцамі даўно існавала нябачная сцяна варожасці, якая іх раздзяляла, і вось цяпер яна гатовая была абваліцца на фальварак.

— Малако, хоба на яго, трэба здаваць і на кароў, і на авечак.

— На авечак?

— І на авечак.

— Дык авечка ж не карова.

— А яны гэтага пад увагу не прымаюць.

У думках Кужаль шукаў словы, каб як паспачуваць прыяцелю, але патрэбныя словы, як на тое, не знаходзіліся.

— Нас, кажуць, да дзесяці гектараў абрэжуць, — зноў паскардзіўся Якаў Арыстархавіч. — Эх!

Лявон паспрабаваў яго супакоіць:

— Не можа таго быць!

— Можа! На Салаўкі могуць выслаць. У вас нічога пра гэта не чутно? Ходзіць, кажуць, па вёсках «чырвоная мятла».

— Размовы ідуць, але няпэўныя, ніхто нічога не ведае.

— Калі заарыштуюць, дык тут, хоба на іх, не пакінуць — на Салаўкі павязуць, на белыя мядзведзі. Сталін жартаваць не любіць. Сваіх, бальшавікоў, пабраў, цяпер да нас чарга дайшла. Першымі асаднікаў падмялі, а там — па парадку. За асаднікамі пайшлі ксяндзы, гмінныя чыноўнікі, ляснічыя і леснікі і іншы службовы люд. Пацягнулі чамусьці нават пажарных, — Якаў Арыстархавіч паціснуў тоўстымі плячыма. Выказаўшыся, ён раптам змоўк, засяродзіўшыся, відаць, на нейкіх сваіх думках. Лявон здзіўлена і скрушна пахітаў галавой. Выходзіла, што чалавек прадчувае свой лёс. Але хто ведае, які ў яго лёс.

— Усё будзе добра! — падбадзёрыў на развітанне сябра, а заадно і сябе. — Урэшце ж, мы неблагія людзі, а гэта — галоўнае. Значыць, усё будзе добра.

На гэтым яны і разышліся. Якаў Арыстархавіч махнуў рукой і падаўся да сваёй фурманкі. Лявон пакіраваў да сваёй, трэба было вяртацца дадому.

Мінуючы Замасты, праехаў міма Хайчынай карчмы, якая стаяла зачыненая. Цяпер Хайка гандлявала на базары ў казённай лаўцы. Лявон падумаў, добра, што паспеў у тэрмін вярнуць ёй пазычанае.

З Камянца сустракала Фёкла. Вячэралі, калі зайшоў Васіль. Схуднелы і на чымсьці засяроджаны. Яго запрасілі за стол, але ён адмовіўся. Счакаўшы крыху, сказаў, як бы хвалячыся:

— Тато, я вучыцца хачу на сувязіста.

Для бацькоў гэта было нечакана.

— На якога сувязіста? — не зразумеў Лявон. Фёкла таксама насцярожылася.

— Ну, каторы на пошце працуе. Ну, як бы ў Ратайчыцах.

— На паштальёна, значыць?

— Не, паштальён — што, гэта вышэй! Можа, начальнікам пошты буду?..

— А дзе ж гэта вучаць?

— У Берасці.

— А на гаспадарцы хто застанецца? — запытала маці.

— Прося. Яна згадзілася. Дык гэта ж недалёка, буду наязджаць. Ды і яна да мяне зможа наведацца.

— Глядзі, каб усё добра было, каб чаго благога не атрымалася. Крок — сур'ёзны! — папярэдзіў Лявон.

— За мяне баяцца не трэба.

На Васіля зноў, і на гэты раз, паўплываў Косця, як калісьці нараіў ісці ў СССР. Сустрэў яго каля Шпронькавай лаўкі, у якой цяпер сядзеў Міцька Балабайка. Косця купляў папяросы. Павіталіся, моцна пацiснуўшы адзін аднаму руку. «Колькі лет, колькі зім!» — як бы пракаменціраваў іх сустрэчу Балабайка.

— Як справы?

— Так сабе.

Васіль ужо чуў, што Косця вярнуўся з турмы. Разгаварыліся, успомнілі старое, перайшлі на новыя тэмы.

— Цяпер такі час, хлопцы, што вучыцца трэба, у горад падавацца! У Брэсце, я чуў, вучылішча сувязі адчынілася. Там і курсы ёсць для такіх, як вы. — Косця закурыў, пусціў пад столь блакітны дым. — Во куды трэба паступаць! На курсы ў вучылішча! Скончыўшы, на пошце будзеце працаваць. Пошта — гэта сувязь са светам! Гэта не тое, што за прылаўкам сядзець.

Міцька, звычайна таварыскі і гаваркі, маўчаў, можа, нават пакрыўдзіўся, а Васіль дык неяк адразу захваляваўся:

— Як у горад? А жонка, а гаспадарка?

Косця як бы загадзя ўсё прадумаў:

— Што тая гаспадарка табе дала апроч гора і непрыемнасцей, а кончыш вучылішча — спецыялістам будзеш. А жонка — жонка нікуды не дзенецца, у хаце будзе сядзець. Ды ў горадзе заўсёды можна знайсці жанчыну, калі ўжо на тое пайшло.

— А хлеб?

— Хлеб? Хлеб можна купіць і ў магазіне. Гэта не праблема. Хлеб і да хлеба.

І Васіль, і Балабайка здзіўлена глядзелі на старэйшага таварыша, а Косця працягваў, кіўнуўшы на лавачніка:

— Ну, хай сабе Балабайка сталую работу мае, у лаўцы сядзіць, а ты, Кужаль? — ён павярнуўся да Васіля. — Табе свабодна можна паступаць. Адукацыя, брат, вялікае дзела. Без адукацыі ты нішто.

Потым гэтая думка неадчэпна круцілася ў Васілёвай галаве. Вось ён і выклаў яе спачатку жонцы, затым бацькам, для якіх яна стала вельмі нечаканай, і сын пачаў тлумачыць:

— У нас жа тут адно і тое ж, адно і тое ж, з году ў год! Нічога, апроч конскага хваста не бачыш.

Лявон маўчаў. Ён пакрыўдзіўся на гэтыя пасынкавы словы, але нічога не сказаў, толькі падумаў: «Вось так яно часцей за ўсё і здараецца. Гадуеш, гадуеш, а ён цябе потым і кіне. Пойдзе куды-небудзь і забудзе. І на маці не паглядзіць...»

— І яшчэ, тато, ведаеце што, заманулася мне памяняць прозвішча.

Лявон з Фёклай аціхлі, насцярожыліся. Зразумелі, што іх чакае яшчэ адна навіна.

— Можа, нават не памяняць, а вярнуцца да свайго, да расейскага.

— Дык ты як бы адракаешся ад нас ці што? — пасля непрацяглай паўзы спытаў Лявон. — Дык ты так і кажы!

— Божа барані, не адракаюся і ніколі не адракуся. Што вы?! Тато! Як вы маглі такое падумаць? Ад вас я не чакаў...

— Разумею, — пасміхнуўся ў вусы айчым, — ты, мусіць, як Шпронька. Цяпер ён ужо не Мікалай Тамашавіч, а Мікалай Фаміч. Па-расейску.

— Я не Шпронька.

— Глядзі!..

— У Запалонным быў некалі такі чалавечак Таццянка, дык усё мяняў прозвішча, — успомніла Фёкла, якой таксама, відаць, не даспадобы было сынава рашэнне, — бальшавіком сябе лічыў. Апошні раз, здаецца, узяў сабе прозвішча Пралетарыятаў. Надта ўсе смяяліся.

— Я ж не Таццянка, — скрывіў вусны Васіль, незадаволены гэтым параўнаннем. — Пры чым тут нейкі Таццянка.

— Ну што ж, маладым цяпер дарога, — сказаў Лявон, — мяняй! Толькі ці не спяшаешся ты з гэтым мяняннем?

— Чаму ж?

— Справа твая...

— Я ж вярнуся.

— Глядзі ж, сынок, у тым Берасці каб у чарку не заглядаў, — паківала пальцам Фёкла. — А то чарка — такая рэч, што ў ёй і патануць можна.

— Не-е, гэта мне не пагражае.

* * *

Косцю забралі ўжо на згоне зімы, калі ён знаходзіўся ў Брэсце і начаваў у Ігната Лісака. З'явіліся пасля апаўночы. Ігната не чапалі, а Косцю пасадзілі ў легкавушку і адвезлі ў Брэсцкае ўпраўленне НКУС па вуліцы Астроўскага. Відаць, за ім увесь гэты час сачылі.

— Мы ведаем, што вы супрацоўнічалі з палякамі, — сказаў следчы. — Раскажыце ўсё па парадку і падрабязна.

— Гэта паклёп!

Следчы ўнурыўся ў паперы і не то прачытаў даслоўна, не то пераказаў змест адной з іх:

— Следствіе распалагае даннымі пра тое, што вы, будучы арыштаваным у 1931 годзе польскімі ўладамі ў Брэсце, былі завербаваныя для шпіёнскай работы ў СССР у карысць польскай дзяржавы на падрыў мошчы СССР...

На такое абвінавачанне заставалася толькі пацiснуць плячыма і горка пасміхнуцца. Гэта ўсё адно, калі б сказалі: «Дакажы, што ты не вярблюд». Ізноў трэба было змагацца.

## X

Вясна саракавога года, нібы кампенсуючы зімовыя халады, пачалася рана. Яшчэ на першым тыдні сакавіка ад талага снегу распухла Лосьна і пачалася паводка. Паплылі крыгі. Весялей зірнула з пасвятлелых нябёсаў сонца, і тут жа, адскочыўшы ад зямлі, зазелянела кволая травіца. Ажылі, дыхнулі гарка-

ватым водарам лазнякі, густа акінуўшыся дробненькімі пупышкамі. Набухалі пупышкі і ў пажаўцелай вярбы, крушыны, чаромхі, паказаліся першыя лісточкі. Зацвілі пралескі. Красавік выдаўся ўжо зусім цёплым. Зацвіла бяроза, што стаяла ля хаты Фэдара-японца, звесіўшы жаўтлявыя каташкі. Ляцелі з поўдня птушкі, крумкалі ў ставах на выгане жабы, а вечарам тонка звінелі ў паветры камары. Толькі сады стаялі змораныя незвычайнымі маразамі мінулай зімы і не спяшаліся ажываць.

Подых надыходзячай вясны не застаўся па-за ўвагай і ўпаўнаважанага Залатоўскага. Прыехаўшы з Камянца, апрануты ў шынель, ён тут жа сабраў рэўкам і, упёршыся кулакамі ў стол, загадаў неадкладна склікаць сход. Хвядзюшка з таварышамі забегалі па вёсцы, папярэджваючы аб чарговым сходзе, і вечарам прускаўцы, не чакаючы напаміну, пацягнуліся да школы.

— І ўсім ісці? — перапытвалі некаторыя.

— Усім! Загадана!

— Ой, людкове!

Лявон выйшаў з хаты, зачыніў за сабою дзверы, зірнуў на каштан, на якім месцілася шпакоўня. Шпакі ўжо прыляцелі. Ля шпакоўні ішла спрэчка і ўжо даходзіла да бойкі, ляцела пер’е: вераб’і з поспехам выганялі гаспадароў з наседжанага месца. «І тут валтузня, — падумаў Лявон, — і тут спакою няма, і гэтак скрозь...»

Зала была ўжо поўная, прыйшлі людзі з Выгнанкі і іншых мясцін. Кужаль таксама прысеў, зняў шапку, прыгладзіў валасы і падрыхтаваўся слухаць. За сталом прэзідыума, апроч Залатоўскага, знаходзіліся Хвядзюшка з Мурашкам. Упаўнаважаны, не здымаючы шыняля, дастаў з партфеля стос спісаных лісткоў і пачаў даклад, час ад часу заглядаючы ў напісанае. Як звычайна, перш за ўсё ахарактарызаваў міжнароднае становішча:

— Таварышы! Што мы маем на сённяшні, груба кажучы, мамент? Мы маем далейшы рост магутнасці СССР на міжнароднай арэне і расцеранасць усяго капіталістычнага свету. Справы нашы на пад’ёме. Фінская вайна, як і чакалася, скончылася нашай поўнай перамогай. Белафіны не вытрымалі націску Чырвонай Арміі і адкаціліся ў сваё логава. Не дапамаглі і «кукушкі». Але аддыхаць, таварышы, на лаўрах, нялызя!

— Ні ў коем случае! — падтрымаў упаўнаважанага Гамон, якога нешта непакоіла. Ён туды-сюды пакруціўся, засунуў руку пад світку і пачухаў грудзіну.

— Мы не павінны забываць: па меры будаўніцтва сацыялізму класавая барацьба завастраецца! Гэта я вам аўтарытэтна заяўляю. Таварыш Сталін таго ж мненія. Міравая контррэвалюцыя не спіць, яна дзелае сваю брудную справу, і гэта трэба разумець. Мы знаходзімся ў капіталістычным акружэнні. Пільнасць, пільнасць і яшчо раз пільнасць! Вось у Камянцы адзін таварыш просіць дазволіць яму выехаць у Палесціну, забываючы або не ведаючы таго, што Саветы праз самы кароткі тэрмін, не сакрэт, будуць і там. Будзе! Пажар рэвалюцыі палае і будзе палаць! Пакудава не запалае паўсямесна!

Зала ўважліва слухала. Не чутно было нават, каб хто хоць раз кашлянуў.

— Таварышы! Мы не маем права проста жыць, каб жыць. Перад намі пастаўлены вялікія мэты і сфармуліраваны задачы, якія патрабуюць з нашага боку такіх жа вялікіх намаганняў па будаўніцтве сацыялізму.

Слова «сацыялізм» прамоўца вымаўляў мякка, з мяккім канчаткам — атрымлівалася: «сацыялізьм». І гучала яно, як нешта сваё, мякка і блізка.

— Таварышы! Як вы вазможна заўважылі, я пераходжу да ўнутранага палажэнія.

— Заўважылі! — зноў адазваўся Гамон, але ўпаўнаважаны строга на яго глянуў і той аціх.

— Унутранае палажэніе, таварышы, абнадзёжывает. Усе сілы кінуты на індустрыялізацыю і калектывізацыю! Расце выплаўка сталі, дабыча вугля, мы на першым месце па жалезу і чыгуну. Растуць тэмпы. Даганяем і пераганяем. Тое ж самае — сельская гаспадарка. Планы выконваюцца і перавыконваюцца! Ураджаі растуць. Людзі радуюцца. Усе мабілізаваныя на барацьбу за высокія тэмпы. Таварышы Сталін не спіць начамі, працуе ў Крамлі. Яму адтуль далёка відаць! Краіна — вялікая! Не зжыта аднак, груба кажучы, галавацяпства. Гэтага пакуль што, на жаль, хапае. Адсюль — лагічны вывад: вапрос нада ставіць рабром і прама! Многае, таварышы, залежыць ад работы на мястах. У прыватнасці, па нашым раёне. Ёсць загад хутчэй сеяць, дзяржава чакае высокіх паказчыкаў. Наша задача, таварышы, даць пітаніе пралетарыяту.

— Пралетарыят — гегемон! — напомніў Шпронька, які сядзеў у першым радзе. — І ён, канешна, не можа чакаць, таму што голад, як вядома, не цётка.

— Сеяць яшчэ рана, яшчэ зямля не падсохла, — заварушыўся, падаў голас разважлівы Павал Гальяш, які сядзеў у першым радзе, побач з Лявонам і Цішкам Пахолкам.

— Зямля падсохне, — зірнуў у яго бок упаўнаважаны, — на тое яна і зямля, а адстаючых, таварышы, б'юць. Я, як прадстаўнік партыйнага актыву, завяраю! Адстаючых — б'юць! І вельмі больна!

— А што будзе, прымерам, з панскай зямлёй? — запытаў Оргій Ламака, пачухаўшы патыліцу. Гэтае пытанне яго, як і астатніх малазямельных, надта турбавала.

Зала аціхла, а потым пачуліся сцішаныя галасы:

— Падзяліць! Падзяліць!

У зале зашумелі, а хтосьці гукнуў выразна і патрабавальна:

— Падзяліць бы рэшту той зямлі, што засталася...

Зала аціхла. Упаўнаважаны агледзеў прысутных з нейкім прыкрым шкадаваннем і здзіўлена захітаў галавой.

— Адзінаасобная ў вас душа! Адзінаасобная псіхалогія! А я быў усё-такі іншай пра вас думкі. Дробнабуржуазны элемент! Вас кожны дзень трэба перавыхоўваць! Жаль, вельмі жаль. Пра што гэта гаворыць? Пра нізкі ўзровень палітычнай свядомасці ў вашым раёне! — Усім сваім выглядам упаўнаважаны паказваў, што ён глыбока расчараваны прыватніцкай псіхалогіяй сваіх падапечных. — Адразу відаць, што вы не знаёмыя з трудамі таварыша Сталіна і з «Кароткім курсам гісторыі ВКП(б)». Ёсць такая кніга! Там усё сказана. Што далжон знаць просты савецкі чалавек. Там сказана і тое, па якой дарозе мы павінны ісці.

Выходзіла так, што і Сталін, і яго ўпаўнаважаны Залатоўскі добра ведаюць, што наперадзе іх чакае вялікае і неспазнанае шчасце, а яны па сваёй някемлівасці ад таго шчасця адмаўляюцца.

— К чаму гэта я кланю, таварышы? — зноў загаманіў Залатоўскі, прыцмокнуўшы языком. — Атвет прастой, і ён напрошваецца сам сабой. Мы прыйшлі к выващу, таварышы, што зямлю Падгурскага раздаваць нецэлесаабразна! Заяўляю вам з усёй атветсценнасцю, што ўсе, хто імеет более дзесяці га, будуць раскулачаны.

— Дзесяць гектараў — гэта не шмат, — зноў уголас разважыў Павал Гальяш.

— Гэта па-вашаму не шмат, а па-нашаму — многа! — абурыўся ўпаўнаважаны. — Пайміце меня, я забочуся аб вас, аб вашай жызні. Пакуль саарганізуецца калгас, таварышы, трэба падумаць аб чом-та другом. Трэба падумаць, як усё ж такі быць бліжэй да сацыялізму.

Упаўнаважаны гаварыў загадкава, падыходзіў здалёк, нарэшце закінуў рукі за спіну і задумліва прайшоўся па сцэне. Чутно было, як рыпелі яго новыя, нядаўна пашытыя хромавыя боты. Не вытрымаў, падняўся Гамон.

— Я палагаю, што ў маёнтку былога эксплуататара Падгурскага цэлесаабразна сарганізаваць камуну. Камуна ўсё ж бліжэй да сацыялізму і да камунізму!

— Некалі тут была ўжо адна камунія, — не ўстаючы, зазначыў Павал Гальяш. — Адразу пасля рэвалюцыі, пры тых Саветах.

— А я асабіста састаяў у камуне, калі знаходзіўся ў Расіі, у бежанстве! — перабіў яго Гамон, жадаючы паказаць, што ён лепш, чым хто, ведае, што такое камуна.

Упаўнаважаны падняў руку, спыняючы аднаго і другога, і сам спыніўся.

Хтосьці з задніх радоў гукнуў:

— А можа, калгас?

Публіка зноў зашумела.

— Усяму свой час! — Залатоўскі пастукаў костачкамі пальцаў па стале, пранізаў залу свідруючым паглядам. — Ёсць, таварышы, мненіе раёна саздаць нешта новае. Каб быць больш канкрэтным, скажу: цяпер перад вамі, таварышы, стаіць задача пастроіць узорную дзяржаўную гаспадарку. Для агульнага блага трэба папрацаваць усім! Гэта прадрашано, таварышы! Кагосьці, магчыма, давядзецца паслаць на курсы трактарыстаў. Нада мабілізавацца на барацьбу за высокія тэмпы!

Усчаўся гоман. Загаманілі нават тыя, хто звычайна маўчаў.

— Ого! — здзівіўся Міхаль Тупчык.

— Усіх папрашу патрудзіцца для обшчага блага! — натхнёна працягваў прамоўца, рэзка, як шабляй, рассякаючы рукой паветра. — Мненіе, таварышы, аб нас парція будзе састаўляць па канечнаму рэзультату! Выканана — значыць выканана, а не — дык не!

Тут, аднак, сталася нечаканае. Нехта ў зале сапсаваў паветра ды так гучна, што ўсе пачулі і з задавальненнем зарагаталі. Упаўнаважаны некалькі разоў абабег вакол стала, як бы нават разгубіўся, бо ад мясцовага люду можна было чакаць чаго хочаш. «Сарваць хочуць!» магчыма нават падумаў ён, але ўсё ж такі супакоіўся і палічыў патрэбным далучыцца да агульнага рогату і таксама засмяяўся, адтапырыўшы шчокі. Пасля гэтага смех заглох і наступіла напружаная цішыня. Хвядзюшка з Мурашкам кінуліся ў заднія рады, адкуль пачуўся гэты гук, каб знайсці вінаватага.

— Гэты таварыш Польшчу назад жджэ! — як бы пракаменціраваў пасля паўзы ўпаўнаважаны. — Гэта не што іншае, як скрыты сабатаж, але мы яго выкрыем. Тады не паздаровіцца.

— Гэта ад страху, — паблажліва патлумачыў Гамон.

— Я ўсматрываю ў гэтым недахоп палітыка-выхаваўчай работы! — сыкнуў на яго Залатоўскі. — Вы мне зубы не загаворвайце! Не на таго напалі. Гэта — палітычны мамент! Я падкрэсліваю, таварышы! Класавая барацьба абвастраецца, аб чом і сведчыць тое, што толька што праізашло. Перажыткі мінулага трэба ўпорна скараняць! Таварышы, я бачу, нам неадкладна трэба садзіцца за вывучэнне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», там на ўсе вапросы есць атветы. Не сакрэт, і мы пра гэта ведаем, атрыцацельныя перажыткі яшчо некатарае ўрэмя будуць, аднак нада імкнуцца ўсімі сіламі к новай жызні. Да калякціўнага труда, таварышы! Вось узяць, к прымеру, тыя ж шарваркі[1]. На шарварках павінны ўдзельнічаць усе, у тым ліку, таварышы, і царкоўны клір! Паразітычных элементаў савецкая ўлада не пацерпіць. Па шарварках,

[1] Шарварак — павіннасць па добраўпарадкаванні дарог.

таварышы, таксама будзем меркаваць аб вашай сазнацельнасці. Але галоўнае на цяперашні мамент — гэта сеў. Картофель, проса, грэчка і гэтак далей. Усе сельскахазяйсцвенныя культуры.

Упаўнаважаны перавёў дых і спытаў:

— Якія будуць пытанні, таварышы?

Пытанняў не было.

— І яшчэ, таварышы, — успомніў упаўнаважаны, —— у мяне есць прапанова на Першае мая правесці мітынг непасрэдна ў былым панскім маёнтку! Нада паказаць, хто хазяява!

Прускаўцы разыходзіліся заклапочаныя, шкраблі патыліцы, уздыхалі, думалі, як яно ўсё павернецца. Адчувалася, што дзяржава брала чалавека пад свой кантроль.

План па сяўбе даводзілі да кожнага двара. Апроч таго, абраблялі яшчэ і маёнткавую зямлю. Сядзіба Падгурскіх стала дзяржаўным маёнткам — «дзяржгасам», якім кіраваў упаўнаважаны Залатоўскі. Начаваў ён у панскіх пакоях, а днём рабіў абход, сачыў за працай, даваў указанні. Вечарам складаў зводкі і пасылаў у раён.

На 1 мая, якое прыйшлося ў тым годзе на сераду, ля былога панскага палаца адбыўся святочны мітынг, на якім, як звычайна, выступіў упаўнаважаны з дакладам пра міжнароднае становішча і ўнутраныя справы. Парадак забяспечваў Мурашка. Пасля мітынга — канцэрт: вучні Прускаўскай школы пад кіраўніцтвам настаўніцы Вішаньковай чыталі вывучаныя на памяць вершы, спявалі «От края и до края». Некалькі песень праспявала і сама Вішанькова. Асабліва добра прагучала «Расцветали яблони и груши...» У панскім садзе цвілі пралескі, рыхтаваліся да квітнення слівы і вішні, а за імі яблыні і грушыдулі, як тут казалі. Паміж паркавых дрэў, апранутых у пяшчотную намітку маладой лістоты, гуляў бесклапотны ветрык, чуліся птушыныя галасы. У небе лагодна ззяла сонца. Прырода надзіва гарманіравала з радаснымі песнямі.

Вішаньковай доўга апладзіравалі.

На канцэрце выступаў таксама Лаўр Яўсеевіч са сваім хорам. Спявалі таксама зладжана. Праўда, новых песень харысты яшчэ не развучылі — спявалі «Вячэрні звон», «Скажы-ка, дзядзя» і «Дзела была пад Палтавай». Перад кожнай песняй дырыжор пастукваў камертонам аб пазногаць і падносіў да вуха, ловячы патрэбны тон. Відаць было, што чалавек на сваім месцы. Упаўнаважаны аднак палічыў рэпертуар устарэлым і вымушаны быў зрабіць адпаведную заўвагу кіраўніку хору. На гэтым, так бы мовіць, афіцыйная частка мітынгу скончылася.

— Пасля святочнага мітынгу палагаюцца масавыя народныя гулянні, — абвясціў упаўнаважаны на заканчэнне, і прускаўцы пацягнуліся ў вёску, дзе моладзь ладзіла традыцыйныя музыкі.

Рэўкамаўцы сабраліся на сумесны абед — у тым пакоі, дзе калісьці была панская сталовая і абедаў сам Падгурскі. Ежу гатавала панская кухарка пані Альжбэта. Заўмаг Міцька Балабайка прынёс паўлітроўку «Маскоўскай». Паселі за стол. Зарэзалі перад гэтым пару панскіх парсюкоў і шкадлівую карову Маргарытку, якая часта забягала на сялянскія палеткі. Мяса здалі дзяржаве, але нешта пакінулі на свята.

— Ну, што ж, таварышы... Гэтага дня мы даўно чакалі, — сказаў упаўнаважаны, займаючы месца на чале стала. — Пасяўная арганізавана па плану раёна, указанні выконваюцца, пачатак паложаны! Аднака зазнавацца ні ў коем случае няльзя. Работы прадстаіць яшчо многа. Мы павінны зрабіць наш дзяржгас узорным!

Балабайка разліў гарэлку па кілішках. Першым высока падняў свой кілішак упаўнаважаны:

— Вып’ем за таварыша Сталіна!

Не стрымліваючы хвалявання, пачалі чокацца, звонка стукаючыся кілішкамі.

— Та-ак, таварышы, а дзе наша «ўра»? — напомніў упаўнаважаны. — Ура!

Нядружна, нібы саромеючыся, падхапілі «ўра». Грамчэй за ўсіх — Гамон. Яго падтрымалі Хвядзюшка і Пахолак. Мікіта Галёнка ўспомніў Запалоннае, гарачыя прамовы Пяцельнікава і вышэй падняў кілішак:

— Вып’ем за камунізм!

— Правільна! — падтрымаў Мурашка.

— Не сакрэт, гэта наша мэта.

— Падкаваны! — пахваліў Галёнку Гамон. — А я прапаную назваць наш дзяржгас па прозвішчы таварыша Сталіна!

— Нада пасаветавацца! — упаўнаважаны ткнуў відэльцам у той бок, дзе знаходзіўся райцэнтр. — З начальствам нада саветавацца. А как жа?

Выпілі за Сталіна, за камунізм. Згаладнелыя за цэлы дзень, накінуліся на закуску. Асабліва Ламака.

— Закусвайце, закусвайце! — запрашала пані Альжбэта.

Курцы закурылі і ўсмак зацягнуліся, запыхкалі дымам.

Павесялелы Гамон смяяўся, шчэрачы бяззубы рот:

— Плакаў я плакаў, а бог быў аднакаў, а як стаў танцаваць, пачало шанцаваць!

Грамада падтрымала яго дружным рогатам: Гамонава прымаўка спадабалася.

Упаўнаважаны ўжо з большага перакусіў і, відаць, рыхтуючыся пра нешта казаць, гучна пракашляўся, выцер рот насоўкай.

— У Камянцы вунь ужо МТС арганізавана, а ў Дзмітровічах — калгас, — здалёк пачаў ён, ні на каго не глянуўшы. У Астрамечаве арганізавалі ўжо сельскі савет, выбралі ў яго дэпутатаў. Мы адстаём. Першы этап савецкага будаўніцтва закончаны, а мы з вамі факцічаскі ззаду. Задачы стаяць бальшыя. Наш рэўкам, таварышы, зрабіў сваю справу. Рэўкам нам параілі распусціць. Гэта прадрашано, таварышы!

Рэўкамаўцы паапускалі галовы.

— А мы? — развёў рукамі Мікіта. — А мы?

— Рэўкам сваю справу зрабіў, і можна падумаць пра будучыню, — сказаў на заканчэнне ўпаўнаважаны і паслаў Балабайку яшчэ па адну пляшку.

## XI

Васіль к таму часу знаходзіўся ўжо ў Брэсце — вучыўся ў вучылішчы сувязі, што месцілася ля старога паштамта па былой Ягелонскай, перайменаванай цяпер у Маскоўскую. Жыў у інтэрнаце. Паспеў за гэты час памяняць прозвішча — у пашпарце стаяла: Платонаў. Пачуваўся добра. У вольны час выходзіў, аглядаў горад і ўсё больш пераконваўся, што ў горадзе не горш жыць, чым у вёсцы. Аднойчы нечакана напаткаў даўнюю знаёмую — Амелію. Яна першая яго пазнала і падышла з пытаннем:

— Пан таварыш мае пшыпаліць?

Прыгледзеўся і пазнаў даўно знаёмую. На ёй было добра падношанае паліто ці плашч з крыху ўжо аблезлым футравым каўняром (нягледзячы на цёплае надвор’е), на нагах — туфелькі на высокіх тоненькіх абцасіках, але ўжо не новыя і даволі стаптаныя. На галаве — капялюшык з папяровымі кветкамі. Валасы з каштанавых ператварыліся ў рудыя. Твар густа нафарбаваны, а паверх яшчэ і напудраны.

«Якая намалёваная, — падумаў ён, — яшчэ больш, чым у той раз. Але ж і пастарэла. І сумная нейкая». Адчувалася, што горад даў ёй немалы вопыт жыцця, але было ў Амеліі і нешта такое, што адштурхоўвала ад яе.

— Ну, што, пан — таварыш — камісар? — не без нейкай злараднасці пасміхнулася прастытутка. — Як жыццё?

— Жыццё як жыццё, — стрымана адказаў і таксама ўсміхнуўся колішні пастушок. Праўда, цяпер ён не быў падобны на пастушка, сталы стаў і пасмялеў.

— Ты ўжо, я бачу, ладны мужчына. Салідны стаў. Ажаніўся?

— Ну, вядома.

— А ў Брэсце чаго?

— А я вось залічаны ў вучылішча сувязі на курсы. Вучуся. Спецыяльнасць хачу мець.

— Гэта ля паштамта? Каля кіно Сарвэра?

— Там.

— Дык запрасіў бы ў кіно!

— Як-небудзь у іншы раз. Няма часу. — Ён успомніў, як яна калісьці зацягнула яго ў «грэшную трынаццатку» і як ён ледзь-ледзь выбраўся адтуль. — Ну, а ў вас што новага? Ты па-ранейшаму там?

— Навін шмат, але пра ўсё не раскажаш. Пані Казіміра, дзякуй богу, жывая і здаровая, — ухіліста адказала Амелія, але ў падрабязнасці не ўваходзіла, таму што, па ўсім відаць, яны былі невясёлыя. Новая ўлада, пасля верасня 1939-га, не спрыяла прадстаўніцам яе прафесіі. Гэта не тое, што раней, калі за перайманнем вопыту Амелія з гаспадыняй без перашкод ездзілі ажно ў Рым і Парыж. Праўда, на пачатку ўсё яшчэ неяк абыходзілася, яшчэ звязвалі канцы з канцамі, тым болей што шэфства над іхняю «Вілаю шчасця» ўзяў сам Брэсцкі НКУС. Мелі намер перавыхаваць гэты дэкласаваны, як нкусаўцы называлі жыхарак «дома», элемент. Паводле савецкага погляду на рэчы, прастытуцыя з’яўлялася ўсяго толькі сацыяльнай хваробай, прадуктам згубнага асяроддзя. Прастытутак, лічылася, можна перавыхаваць, як і кожнага чалавека, калі ён мае ў гэтым патрэбу, з дапамогай працоўнай тэрапіі. Павялося гэта яшчэ з часоў Ф. Э. Дзяржынскага, які ўзначальваў калісьці папярэдніцу НКУСа — ВЧК і вялікую ролю ў камуністычным выхаванні надаваў менавіта такой тэрапіі, пра што было напісана цэлы шэраг «педагагічных паэм». Берасцейскія нкусаўцы таксама стараліся не адставаць у гэтай справе і пастаянна трымалі «грэшную трынаццатку» (цяпер ужо па вуліцы 1-га Мая) у полі сваёй увагі. Яны заходзілі сюды даволі часта, аднак звяртацца да працоўнай тэрапіі не спяшаліся, абмяжоўваліся гутаркай і часцей за ўсё выступалі ў ролі кліентаў. Астатнім грамадзянам наведваць «Вілу шчасця» было строга забаронена. Ад нкусаўцаў, вядома, прыбытку ніякага не было, «фірма» развальвалася, жылі з таго, што «гаспадыня» выпускала сваіх «дзяўчат» на панэль. Некаторыя вымушаны былі выйсці замуж. Упершыню пайшла на панэль і Амелія. Прыцягальная для мужчынскіх вачэй, яна валодала немалой прабіўной сілай і спалучала ў сабе хітрасць з таварыскасцю, дзелавую ўчэпістасць з жаночай прывабнасцю, але справы, мяркуючы па ўсім, не надта ладзіліся. Гэта відаць было па яе вачах, у якіх, як заўважыў Васіль, пад пафарбаванымі павекамі стаіўся глыбокі сум. Яна заўсёды была цвёрда ўпэўнена, што грамадства ніяк не абыдзецца без яе прафесіі, бо прырода бярэ сваё, і раптам усё стала па-іншаму. Гэта ўспрымалася як катастрофа.

Летам 1940 года на ход падзей паўплывала Першая канферэнцыя Брэсцкай гарадской партыйнай арганізацыі КП(б), на якой прагучалі рэзкія выказванні супраць прадстаўніц гэтай старажытнай прафесіі, угледзеўшы небяспеку

быццам бы ў тым, што каля прастытутак, як сказана было ў рашэнні, «уюць гнёзды шпіёны замежных разведак». Пасля гэтага ўсё стала ясна і зразумела.

— А Караль Падгурскі на Вялікім базары лахманамі гандлюе, — крыху памаўчаўшы сказала яна, смеючыся. — Пастарэў і нават галіцца перастаў. Так і ходзіць зарослы шчаціннем.

— Былы пан, — паправіў яе прускавец.

— Былы, але пан! — стаяла на сваім Амелія, яна зноў усміхнулася, апусціўшы нафарбаваныя павекі.

— Ехала б ты ў Пруску ды бралася б за новае жыццё.

— А што ж там новага?

— Ну, усё новае. У маёнтку Падгурскіх дзяржгас.

— А што гэта такое?

— Да дзяржавы перайшоў маёнтак.

— Можа, ты і праўду кажаш, — яна зноў крыху памаўчала. — А сам ты чаму там не застаўся?

— Я вярнуся, скончу курсы і вярнуся.

На гэтым яны рассталіся. У «Вілу шчасця» Амелія на гэты раз не запрашала. Яна пайшла, непрыкметна азіраючыся па баках і цокаючы стаптанымі абцасікамі па тратуары.

У нядзелю Васіль наведаўся дадому. Ад Лышчыцаў ішоў пешкі. Стаяла страшэнная спёка. Лета саракавога года на Берасцейшчыне выдалася надта спякотнае і засушлівае. Дакучала гарачыня, якая доўга трымалася і ад якой, здавалася, усё навокал нібы самлела і замёрла. Не ішлі, хоць ты што рабі, жаданыя дажджы, забыўшыся на людзей і зямлю, якая так прагна і нецярпліва іх чакала. У чэрвені ні кроплі не ўпала. Пашарэла пад сонцам трава, звялі кветкі і нават лістота на дрэвах і кустах. Жыта і пшаніца ўжо адкрасавалі і цяпер стаялі ў разгубленасці, не ідучы ў сцябло і не наліваючы коласа.

Прускаўцы па некалькі разоў на тыдзень хадзілі на працу ў дзяржгас, адраблялі шарваркі. Паводле ўказа ад 26 чэрвеня 1940 года спазненне на работу як і датэрміновы, нават на некалькі мінут, сыход з яе строга караліся. Так званых парушальнікаў дысцыпліны аддавалі пад суд.

Васіль стаміўся і ўзмакрэў, пакуль дайшоў з тых Лышчыцаў. Дома сустрэла жонка.

— Вярнуўся! Яна кінулася яму на шыю. — А я думала...

— Што думала? — Ён моцна яе абняў.

— А я думала — ты ўжо і не вернешся... — ціха прашаптала Прося.

— Чаму?

— Яшчэ і пытаеш...

— А што?

— Напэўна ж каханку там завёў. Дзіва што, у Берасці ды каханку не завесці. Завёў! Ой, жорсткія вы мужчыны...

— Дзівачка ты! Там на вучобу часу нестае, а ты пра каханку. Крыўдзіш, дарагая!..

Яны яшчэ раз моцна абняліся. Калі цалаваліся, дык вусны яго здаліся ёй не такімі звыклымі, як заўсёды, а сухімі і непадатлівымі. «Разлюбіў?» — зноў мільганула здагадка. Яна адвяла вочы ўбок і прамовіла з дакорам:

— А мне кажуць: глядзі, Прося, вывучыцца і кіне цябе, ажэніцца на якой гарадской. Кажуць, савецкія сваіх жанок не пільнуюцца. Дзе жыве, там і жонку мае.

Васіль зарагатаў, быццам пачуў нешта вельмі смешнае:

— Лухта! Не слухай!

— Не лухта! Я раней за цябе ўбачу тую, якая табе падабаецца...

Але Васілёвы словы, мусіць, заспакоілі Просю, і яна, прытуліўшыся да мужа, паспачувала:

— Ну, як ты там?

— Патроху. Вучаць нас, як на пошце працаваць. З новымі сябрамі пазнаёміўся. Жывём у інтэрнаце.

— Дзе?

— Ну, у адным пакоі. Дзесяць ложкаў — у адным пакоі. Спім, а потым на заняткі. На астатняе і часу няма.

— Дастаецца вам.

— Хапае.

Вася, здалося ёй, стаў нейкім іншым, як бы не тутэйшым. У яе было такое адчуванне, што ён прыйшоў з іншага свету, больш прываблівага, чым гэты, у якім жыла яна. Лічы, стаў ужо гарадскі, больш упэўнены ў сабе, але і легкадумны.

— У горадзе — што! Былі б грошы — з голаду не памрэш, — дадаў ён. — У магазінах прадукты і на базары. У сталоўцы кашы можна пад'есці, рыба сушаная.

— Сушаная?

— Сушаная і салёная надта.

Яна звярнула ўвагу на яго прычоску:

— Ты і падстрыгся ўжо па-гарадскому.

— У палікмахерскай быў, — засмяяўся ён, — ніяк не навучуся гаварыць «парыкмахерская» — смяюцца з мяне васточныя. Прыедзь калі, убачыш, як я там жыву. Па-гарадскому! На раніцу чай, у абед — суп, на вячэру зноў чай.

— Прыеду як-небудзь, калі не чакацьмеш, — паабяцала Прося і ціха засмяялася.

Ён зноў пяшчотна яе абняў і пачаў туліць да сябе, вуснамі шукаць вусны.

— А ты папрыгажэла! — прашаптаў ён, праводзячы рукой па яе сцёгнах і моцных каленях.

— Згаладнеў?

— Ну, вядома...

Пабыўшы нейкі час удваіх, яны сабраліся да бацькоў адведаць іх і сына. Ішлі праз вёску, віталіся з суседзямі.

Валодзіка з дзедам засталі ў садзе. Лявон, вярнуўшыся з царквы, пайшоў разам з унукам паглядзець завязь на дрэвах. Тут было не так горача, зрэдку між дрэў гуляў нават ледзь улоўны ветрык. Дрэвы пасля суровага зімавання ўсё ж такі аджылі, і паміж пабляклага лісця там-сям выглядалі маленькія яблычкі. Некаторым неставала сіл трымацца за галінку, і яны ападалі на дол, у пажухлую траву. Павіталіся з Лявонам, і малы ўзрадаваўся прыходу бацькоў, пацягнуў ручкі да маці. Тварык у яго вабны, нібы летняя раніца, але выгляд даволі кволы, ножкі тоненькія. Хадзіць Валодзік пачаў позна — адольваў рахіт. Але цяпер усё ўжо, здаецца, засталося ззаду. Больш за ўсіх ён любіў бабулю, але да дзеда таксама хінуўся. Падышла Фёкла, пацалавалася з Васілём і нявесткай.

— Прыехаў?

— Ну, а як жа?

Прыбегла сучка Нэрка, сунулася мокраю пысаю малому проста ў шчаку, завіляла хвастом. Валодзік ад задавальнення ажно раскрыў роцік. Прося ўзяла сына на рукі і ўздыхнула:

— Ой, калі ж ён вырасце...

— Вырасце, і не заўважыш калі! — супакоіла яе свякроў. — Ну як табе там? — звярнулася яна да Васіля.

— Ну, займаюся на курсах. Хутка скончу. Пад восень недзе.

— Галодны, напэўна?

— Не, я ж з хаты бяру ды яшчэ стыпендыя дваццаць рублёў.

— Ну то няблага! — пасміхнуўся Лявон. — Калісьці плацілі тыя, хто вучыўся, а цяпер наадварот — ім плацяць. Калі так, то можна і вучыцца.

З таго боку вёскі, дзе знаходзілася школа, пачулася песня. Гучала звонка, бадзёра:

Знай, Ворошилов, мы все начеку,
Пяди одной не уступим врагу...

— Гэта Лаўр Яўсеевіч з вучнямі, — патлумачыў Лявон, — спевы ў школе выкладае. Царкоўным хорам кіраваць адмовіўся. Кажа, часу няма. Вучыць дзяцей хадзіць у нагу, да войска рыхтуе.

У 1940 годзе ішла мабілізацыя ў Чырвоную Армію, але з Прускі нікога не маглі ўзяць, бо тут не было прызыўнікоў 1919—1920 гадоў нараджэння — тады, у бежанскую пару, надта мала народу нараджалася.

— Лаўру Яўсеевічу Мікалай Фаміч дапамагае — разам у школе працуюць. Ды яшчэ Аляўціна Дзіядотаўна малодшыя класы вядзе, — дадала Фёкла.

— Схуднеў Шпронька ў параўнанні як быў, — быццам пашкадаваў былога лавачніка Лявон. — Каб хвароба якая не прычапілася...

— Гэта ад таго, што ён арыфметыку выкладае, — жартам сказала Прося, — задачкі трэба рашаць.

Усе засмяяліся, у тым ліку і Валодзік, які сядзеў на руках у маці і як бы нешта цяміў з таго, пра што гаварылася.

— Упаўнаважанага Залатоўскага пасадзілі, — сказаў Лявон.

— За што?

— За нерадзівае кіраўніцтва, пасяўную рана правёў, пасевы пагінулі. Цяпер новы на яго месцы, нейкі Чарноў.

— Адкуль ён?

— Васточнік.

— Дык ідзіце ў хату! — запрасіла Фёкла. — Абедаць пара.

Яшчэ з сенцаў Васіль адчуў пах бліноў, якія напякла маці да яго прыезду. Здаецца, і не папярэджваў, але ж не была б маці...

У хаце селі за стол, і Лявон павёў гаворку, звяртаючыся да пасынка:

— Вось з’явілася новае слова — «блат». Я ўжо яго не раз чуў, але не ведаю, што гэта такое? Блат, па блаце...

— А гэта азначае сувязь, знаёмства. Без знаёмства, без блату цяпер не пражывеш. Таму і кажуць: дастаў па блаце.

— Вось яно што! Зразумела. Каб тавараў хапала і былі грошы, дык не патрэбен быў бы і блат.

— Ну, падобна, што і так.

Фёкла паставіла на стол бліны ў шырокай талерцы, квашаную капусту, сала, суп са шчаўя, Лявон накроіў хлеба, прынёс бутэльку гарэлкі. Захавалася яшчэ са старых часоў. Выпілі за сустрэчу. Памачылі вусны і нявестка са свякрухай. Прося пакаштавала бліны і пахваліла:

— Смачна!

— У горадзе добра, — расказваў Васіль, — можна і піва куфаль выпіць.

— Некалі ў Амерыцы я таксама піва піў, — успомніў Лявон. — Зойдзеш у салун і вып’еш. Імбірнага ці яшчэ якога.

Пасынак сказаў:

— А можна і гарэлкі сто грамаў дзёрнуць!

Лявон здзівіўся:

— Як — сто грамаў? Няўжо гарэлку на вагу прадаюць?

— Не, у шклянкі наліваюць, але мерка такая — сто грамаў.

— У шклянкі наліваюць, а не ў кілішкі? — не пераставаў дзівіцца Лявон.

Фёкла з Просяй пераглянуліся.

— Ты ж там не пі! — строга сказала маці. — Табе нельга піць, бо ў цябе сям'я.

— А я што — п'ю?

— Глядзі!

— Чаго гэта вы на чалавека! — абараніў пасынка Лявон.

— А ў вас што новага? — у сваю чаргу спытаў Васіль, закусваючы квашанай капустай.

— Навін асаблівых няма, — адказаў Лявон.

— Няма?

— Шарваркі адрабляем, каменне возім. Патроху кратаемся, а як яно далей будзе, невядома. Рэўкам, праўда, распусцілі. Непатрэбны стаў.

— Чуткі ёсць, што кулакоў напэўна вывозіць будуць, — памаўчаўшы, сказаў Васіль. — Багатых цяпер, у каго зямлі шмат, кулакамі называюць. Калі хто каго збоку на работу наймаў...

У Лявонавай душы жыла трывога і за свой лёс, і за Фёклу: чаго добрага, і іх могуць запісаць у кулакі — зайздроснікаў нямала. Але пра гэта ён вырашыў не гаварыць. Ён умеў захоўваць спакой нават у самыя цяжкія хвілі жыцця. Сказаў пра кума Якава Арыстархавіча і Амброжыя:

— Мы чулі пра гэта. Неяк кум з Амброжыем заходзілі, дык скардзіліся, што вялікімі падаткамі абклалі і што Бранавічы на іх наступаюць ды і алешкаўскі Свісціян таксама ўвесь час наязджае, са свету зжывае.

— Бо зайздросцяць, — сказала Прося. — Багатым заўсёды зайздросцяць.

— Свісціян такі! — згадзіўся пасынак. — Я яго ведаю.

— Яго ўсе ведаюць, — адгукнулася Фёкла. — Літасці ад яго не чакай і ўпоперак дарогі не станавіся...

— А па свеце што чуваць? — спытаў Лявон, памаўчаўшы і прыгладзіўшы над ілбом чубчык.

— Гітлер ваюе, столькі краін пабраў і ўсё яму мала! Данію захапіў, Нарвегію, Бельгію, Галандыю, а цяпер Францыя лягла!

— Што ж з гэтага будзе?

— Ніхто не ведае.

— Каб новая вайна не ўсчалася! — затрывожылася Фёкла.

— На Савецкі Саюз не палезе! — запэўніў сын. — Куды там! Савецкі Саюз — непабядзімы. У Брэсце ўсе пра гэта ведаюць. Куды ні глянеш — усё вайскоўцы і вайскоўцы. Гэта — па-першае, а па-другое — пакт! Пакт аб ненападзенні паміж Савецкім Саюзам і Германіяй — у мінулым годзе заключаны.

Яны зноў выпілі па кілішку.

— Ну а ты калі тыя курсы скончыш? А то Прося вунь ужо замаркоцілася! — звярнулася да сына Фёкла.

— Восенню. Я ж часта прыязджаю, і на тым тыдні быў.

— Часцей наведвайся і нас не забывай!

Адведаўшы бацькоў і сына, маладыя развіталіся і пасунуліся да сябе. Васілю пара ўжо было збірацца назад, у Брэст.

Малы на адыход бацькоў аніяк не рэагаваў. Фёкла паклала яго спаць і прыкрыла посцілкай.

## XII

Вялікім мітынгам, палкімі прамовамі адсвяткавалі заканчэнне будаўніцтва Днепра-Бугскага канала. Як значную перамогу новай улады. Пабудавалі яго за нейкіх восем месяцаў — пачалі ў студзені 1940 года, а ўжо ў жніўні канал

агульнай працягласцю 202 км быў гатовы. Прыйшлі першыя два караваны з Кіева — з украінскай пшаніцай, якую адпраўлялі ў Германію, і адзін караван з ведрычскім дубам, які накіроўвалі туды ж. На некалькіх баржах ляжалі таўшчэзныя камлі — па пяць метраў у дыяметры. Берасцейцы дзівіліся, што на балотным Палессі можа вырасці такі волат.

Па вадзе праз Брэст, як і па чыгунцы ішло шмат што — нафта, зерне, алюміній...

Якаў Арыстархавіч к гэтаму часу ўжо сядзеў. Гэта Свісціян пастараўся, якога Пацы асцерагаліся, ды не ўсцерагліся. Начальству, якое наведвалася ў Алешкавічы і Бранавічы, Свісціян кожны раз напамінаў: «А калі куркуля нашага заберацe? Абдзіралу гэтага? Мiраеда! Тады яму было добра — пры паляках, і зараз добра — пры Саветах!»

Напамінак, пэўна, падзейнічаў, бо ўжо ў канцы ліпеня ў Альберціне з'явіўся Аляксей Ніканюк — дэпутат сельсавета, з ружовай паперкай у руках.

— Тут вам павестка.

— Выклікаюць? Куды?

Замест адказу Аляксей працягнуў паперку, Якаў Арыстархавіч разгарнуў, і адразу ў вочы кінуліся вялікія літары — НКУС.

— А што ім, хоба, трэба? — услых падумаў Якаў Арыстархавіч і пацёр даланёю лысіну.

У Аляксея адказу на гэтае пытанне не было, ён ніякавата павярнуўся і, не развітаўшыся нават, пайшоў.

Якаў Арыстархавіч спахмурнеў. Выклікалі ў Камянец, у райаддзел НКУС. Раіліся з Амброжыем, што рабіць, і вырашылі, што, раз выклікаюць, трэба ехаць. У галаве круціліся страхоткія думкі: «Ці вярнуся? Можа, хоба на яго, адразу і пагоняць куды-небудзь на Салаўкі як таго Аляхновіча, пра якога казаў некалі Мірык? А можа, і горшае?..»

— Божа святы! Што ж гэта з намі будзе? — заломвала рукі Хвядося. — Чым жа мы вінаватыя? Чаму на нас ганежа такая? Каму не дагадзілі?

Спакавала мяшэчак з правізіяй, паклала пару ніжняй бялізны. Да Камянца адвёз Амброжый. Якаў Арыстархавіч апрануў усё паношанае, павязаў стары, пацёрты гальштук, у руку ўзяў нязменную кульбу. Пастаяў на падворку, спыніўшыся паглядам на магутных старых ліпах, што абступалі сядзібу з поўначы, як спрадвечныя вартавыя, не баючыся ні бур, ні навальніц. Дрэва, выходзіць, не баіцца, а чалавеку трэба баяцца. Успомніў пра Мірыка, які туляўся недзе па Берасцю, шукаў службу, і нешта не шанцавала.

У райаддзеле НКУС яго сустрэў дзяжурны — касавокі салдат у фуражцы з сінім верхам і гімнасцёрцы з такімі ж сінімі пятліцамі на каўняры. Глянуў неяк бокам у павестку і прапанаваў пачакаць у падвале, спаслаўшыся на тое, што начальства пакуль што занятае. Падвал аказаўся маленькім, і вузкім. Пахла сырасцю і яшчэ нейкай поскуддзю. Вязень прысеў на столак, задумаўся, абапёршыся на кульбу. Зноў прыгадаў Мірыка, Амброжыя, Хвядосю, бераг Лосьны насупраць фальварка. Падумаў пра Альбэрцін: «Здаецца, што нешта маеш, набыў, гаспадар быццам бы, а яно так выкіруецца, што толькі ахнеш». Азірнуўся па баках. Падвал здаўся падобным на цагляную труну. Аднекуль даносіўся стук пішучай машынкі, нібы недзе ў лесе абстукваў дрэвы дзяцел. Па скронях пацёк пот, і ён з жахам абмацаў сябе — жывот, грудзі, але, здаецца, усё было на месцы. Праз нейкі час выклікалі. Зарыпелі і адчыніліся дзверы, і ў падвал зазірнуў усё той жа касавокі салдат у фуражцы з сінім верхам.

— Хто тут на «пэ»? — спытаў ён, хоць у падвале быў адзін толькі Якаў Арыстархавіч.

— На што? — не зразумеў фальварковец.

— Прозвішча на «пэ»!

— На «пэ»? Ну то, можа, гэта я?

— Як ваша прозвішча?

— Пац.

— Вось-вось! Да начальніка! Палку пакіньце здзесь.

Давялося ісці без кульбы, прытрымліваючыся за парэнчы. Хуценька падняліся — Якаў Арыстархавіч паперадзе, вайсковец ззаду — на другі паверх, дзе знаходзіўся кабінет начальніка. Нкусавец сядзеў за сталом, са строгім выглядам унурыўшыся ў паперы, як бы пра нешта думаў ці штосьці вывучаў. З выгляду быў яшчэ зусім малады. Апрануты напалавіну ў вайсковае (гімнасцёрка), напалавіну ў цывільнае (пінжак). Якаў Арыстархавіч спыніўся ля парога і пачаў цярпліва чакаць, каб не перашкодзіць чалавеку ў яго важным занятку. Але нарэшце вырашыў напомніць аб сабе:

— Вы, можа, пра нешта хацелі спытаць? — Нкусавец адарваў ад папераў дробны курносы тварык і ўпёрся ў Якава Арыстархавіча калючым паглядам шэрых вачэй. Чалавек, які стаяў перад ім, меў нейкі падкрэслена салідны выгляд: доўгая, хаця ўжо і пашарпаная, світка, пінжак, добра-такі замусоленая, але зашпіленая на ўсе гузікі жылетка, вялікая не то паголеная, не то проста лысая галава, падобная на більярдны шар, падбароддзе зацягнута ў павязаны буйным вузлом гальштук.

— Маё шанаванне! — дадаў Якаў Арыстархавіч.

— Грамадзянін Пац?

— Так.

— Старшы лейтэнант Афінагенаў, — назваўся сам.

— Імя і імя па бацьку?

— Якаў, бацька — Арыстарх.

— Якаў Арыстархавіч, стала быць.

— Ну, так.

— А што гэта вы — неяк незразумела — як бы селянін, а гэта пачапілі, — Афінагенаў паказаў кіўком галавы на гальштук.

— Прывычка. — Якаў Арыстархавіч крыху замяўся, і нкусавец заўважыў гэта.

— Што, Якаў Арыстархавіч?

— А скажыце, ці ведае пракурор, што я тут у вас?

— Разумеецца. Ведаюць усе, каму палажана.

— А якія падставы для майго арышту?

— Ну, як вам сказаць...

— Справа ў тым, што я ні ў чым не вінаваты. Дальбог, не вінаваты.

— Ды вас ніхто і не вінаваціць. Пабудзьце нямнога, пакуль разбяромся.

— Жыццё маё, ведаеце, не надта багатае на падзеі. Адукацыя ў мяне, хоба на яе, невялікая, укрыўдзіць мяне вельмі лёгка...

— Пакуль што не будзем аб гэтым.

Старшы лейтэнант дастаў пачак «Беламора», закурыў, прагна зацягнуўся папяросай і, склаўшы вусны трубкай, выдыхнуў цэлае воблака шызага дыму. Насоўваўся вечар — за акном прыкметна пацямнела. З'явіўся той самы вайсковец у форме НКУС, хоць яго, здаецца, ніхто не выклікаў, і паказаў на дзверы. Якаў Арыстархавіч паслухмяна падыбаў паперадзе канваіра.

На гэты раз яго адвялі ў больш прасторнае сутарэнне, з нарамі, прынеслі мяшэчак з правізіяй. Канваір загадаў зняць гальштук і выцягнуць са штаноў папругу і забраў іх з сабою. Гэта азадачыла арыштаванага. Якаў Арыстархавіч сеў на край нараў, схіліў на бок галаву і задумаўся. У глыбіні калідора

паступова аціхлі крокі канваіра, які вяртаўся наверх. Не думаў Якаў Арыстархавіч, што калі-небудзь акажацца ў такім становішчы. Успомніліся непамысныя словы, пачутыя калісьці ад таго бадзягі Кузёмкі: «Можа, чалавек дзеля таго і жыве, каб калі-небудзь трапіць у турму». Зрэдку гэты дзівак заходзіў і ў Альбэрцін, але, вядома, усур'ёз яго ніхто не ўспрымаў. Дзівак і ёсць дзівак.

Якаў Арыстархавіч развязаў мяшэчак, дастаў сухар і стаў грызці. Запіў вадою, што стаяла ў кутку, у вядры з прычэпленай да яго жалезнай конаўкай. Запіўшы, прылёг на нары, акрыўшыся світкай. Доўга не мог заснуць. Засынаючы, аднак, успомніў пра вятрак, пра які ўвесь час думаў, але так і не паставіў у Альбэрціне. Пашкадаваў, што без яго ніхто не паставіць. Амброжый не здолее купіць, гэта трэба ехаць у пушчу, шукаць у нейкай пушчанскай вёсцы ці хутары. Потым перавезці трэба. Амброжый не здатны, больш царкоўнымі справамі займаецца. Бацька Арыстарх наказваў, каб паставілі свой вятрак. Паміраў з гэтымі словамі. Вятрак патрэбен, прыбытак можа даць, і самае яго месца — там, на той пясчанай выспе за сыраварняй...

Назаўтра яго выклікалі зноў. Прасіў, каб вярнулі гальштук і папругу — папружку вярнулі, а гальштук нібыта недзе згубіўся. Без гальштука было неяк ніякавата.

— Прыступім да справы, — пачаў следчы, не ўзнімаючы галавы ад папер. Гэта быў усё той жа старшы лейтэнант Афінагенаў у тым жа сваім цывільным пінжачку.

«Што гэта ён мае на ўвазе, якую справу?» — занепакоіўся Якаў Арыстархавіч, але ўголас нічога не сказаў, прамаўчаў. Сеў на прапанаваны следчым стул.

— Ваша імя і імя па-бацьку?

— Якаў Арыстархавіч.

— Год нараджэння?

— 1889-ты.

— Та-ак. Сацыяльнае паходжанне?

Паддопытны не зразумеў. Следчы нарэшце, падняў галаву і ўважліва паглядзеў на яго, нібы бачыў упершыню, патлумачыў пытанне:

— Хто вашы радзіцелі?

Якаў Арыстархавіч, мабыць, ад нечаканасці, задумаўся і таксама паўзіраўся ў следчага, у яго напружанае аблічча і строга падцятыя вусны.

— Бацька і маці.

— Вы за каго мяне прымаеце?

— А што?

— Хто яны — рабочыя, сяляне ці, магчыма, паны? Не ўтойвайце!

Арыштаваны пацiснуў плячыма:

— Сяляне.

— Сяляне? Заможныя?

— Я б не сказаў.

— Ну, канешна, вы не скажыце. Раскажыце сваю біяграфію! Как на духу!

— Таварыш, я ні ў чым не вінаваты. — Затрыманы колькі разоў кашлянуў.

— Гэта здаецца так, што невінаваты. Кожны чалавек у чым-небудзь вінаваты. Тым больш арыштаваны! Вы арыштаваны, стала быць, лепш, чым хто, ведаеце сваю віну. Як кажуць, ведае кошка, чыю мясу з'ела.

Якаў Арыстархавіч зноў ніякавата пацiснуў плячыма, не надта цямячы, куды хіліць следчы.

— Дзе пражываеце? — спытаў следчы і сам адказаў: — У населеным пункце Альбэрцін.

— Альбэрцін, — пацвердзіў арыштаваны.

— Уявіце, Якаў... — следчы запнуўся.

— Арыстархавіч.

— Уявіце, Якаў Арыстархавіч, што вы ў папа на споведзі, і — аб усім па парадку...

— Але ж я, хоба на яго, не вінаваты! Богу душой не вінаваты!

— Паўтараю. Гэта вам так здаецца, што не вінаваты, а калі падумаць?..

— Ну, таварыш! — узмаліўся паддопытны.

— Што гэта да вас прыстала — таварыш ды таварыш? У нас паложана казаць грамадзянін. Папярэджваю: наша служба жартаваць не любіць. У нас у адзін мамент загрымець можна.

— Прашу прабачэння.

— Сазнайцеся, і вы ўсё аблегчыце. Дапамажыце следству! — Афінагенаў няўцямна развёў рукамі. — Вы ж увайдзіце ў маё становішча — не буду ж я вам пальцы ў дзвярах заціскаць!

Якаў Арыстархавіч скрушна павёў галавой. Відаць было, што ён шчыра спачувае следчаму ў яго незайздросным становішчы, але не ведае, як дапамагчы.

— Следству вядома, што вы наймалі людзей, трымалі батракоў.

— Гэта вы пра парабкаў пытаеце?

— Пака што пра батракоў, а пра парабкаў мы яшчэ спросім.

— Я так разумею, што батракі і парабкі, хоба на іх, — адно і тое ж, — сціпла зазначыў Якаў Арыстархавіч, — і ўсім, хто наймаўся да мяне на працу — на сенакос ці на жніво — я плаціў. Ніхто не скардзіцца, бо не крыўдзіў.

— Ну, гэта як сказаць.

— Я сам набыў тое становішча, якое меў.

— Якое становішча?

— Ну, скажам, пэўную павагу. Я і суседзям дапамагаў, тым жа бранаўцам і алешкаўцам. Я, хоба, хацеў, каб яны навучыліся сады садзіць, пчол гадаваць, а яны ўсё на мяне зуб тачылі...

— Вы дапускалі не нужныя разгаворы, перасуды.

— А што я каму казаў?

— У разгаворах з некаторымі людзьмі вы, напрымер, неаднакратна заяўлялі, што пры савецкай уладзе будуць цяжкасці.

— Дык, грамадзянін начальнік, для мяне яны пачаліся ўжо...

Нкусавец пасміхнуўся, палічыўшы, што яго паддопытны не без пачуцця гумару, другі б на яго месцы жартаваць бы не здолеў. На самай справе Якаў Арыстархавіч зусім не хацеў жартаваць, а гаварыў па справе, як ён яе сабе ўяўляў.

— У доме ў вас, ёсць звесткі, няма партрэтаў правадыроў. Як гэта разумець?

— Не ўспеў купіць.

— Партрэты купіць не паспелі, а пры Польшчы буржуазныя газеткі нябось выпісвалі?

— Я б савецкую выпісаў, але ж савецкіх не было, — як мог, апраўдваўся паддопытны.

— Далей, — працягваў следчы. — Беднякі скардзяцца, што вашыя пчолы з іх грэчкі мёд збіралі...

Тут Якаў Арыстархавіч не вытрымаў і ўсміхнуўся:

— Яны ж, хоба на іх, апладнялі грэчку тую. Пчолы для грэчкі — добра!

— Народная ўлада разбярэцца, што добра, што не! — Пасля гэтых слоў Афінагенаў выклікаў канвойнага.

Суд адбыўся 1 жніўня. Уласна, нават не суд, а так — кароткая размова. Выклікалі ў залу і зачыталі рашэнне: пяць год папраўча-працоўных легераў. Суддзя ўрачыстым тонам сказаў колькі слоў пра будоўлі камунізму, куды павінен ехаць Якаў Арыстархавіч і дзе адбудзецца сацыяльна-класавае пера-

фарміраванне яго асобы. Як бы павіншаваў, парадаваў даверам. Абышліся, на здзіўленне Якава Арыстархавіча, без адвакатаў і без доўгай працэдуры. З суда павезлі на закрытай машыне, на якой было напісана ХЛЕБ. Якаў Арыстархавіч скрушна падумаў, што яму і машыны, якой трэба, не хапіла, а павязуць у хлебавозе. Але «хлебавоз» аказаўся звычайным «варанком» з кратамі ўнутры. Куды вязуць, Якаў Арыстархавіч, не ведаў, агледзеўся, калі «хлебавоз» даставіў на месца. Пазнаў вядомы будынак брэсцкай турмы. У прыёмным аддзяленні старшы загадаў:

— Панціклееў, абышчы!

Службовец у форме НКУС абшукаў, але нічога забароненага не знайшоў. У камеру адвёў наглядчык.

— Захадзі! — загадаў ён, уставіўшы ключ і адчыніўшы ўваход, акаваны чорным жалеззем.

Якаў Арыстархавіч паслухмяна пераступіў парог і ажно здрыгануўся, пачуўшы, як ззаду бязлітасна бразнулі жалезныя дзверы. «Вось яна — турма, — падумаў ён, — э-эх!»

У камеры было шматлюдна і душна, не хапала свежага паветра.

— Новенькі! — сказаў нехта, і пад ногі шмякнулася нешта белае. Якаў Арыстархавіч ад нечаканасці шарахнуўся ўбок, прытуліўся да вушака. Гэта быў звычайны ручнік, аб які яму загадалі абцерці ногі. Традыцыя такая. Якаў Арыстархавіч старанна выцер боты і не забыў сказаць «маё шанаванне», у адказ на якое пачуўся ціхі рогат, як бы новенькага мелі за блазна.

— Добры дзень! — з нараў саскочыў даўгалыгі дзяцюк з апухлым тварам. — З прыбыццём! Цыгарэты ёсць?

— Я не куру, — адказаў фальварковец.

— Ну і дурань! На чым папаўся?

— Я не вінаваты.

— Каму іншаму гэта скажы! — захіхікаў вязень і зноў ускочыў на нары.

— Дай яму ў рыла, каб юшкай умыўся! — параіў нехта з дальняга кутка. Да каго адносілася гэтая парада, цяжка было зразумець.

— Ладна, папаша, не сцы, как-нібудзь абайдзёцца! — па-руску пачулася з другога боку, і гэта крыху суцешыла Якава Арыстархавіча і падняло настрой. Ён з маўклівай удзячнасцю зірнуў у той бок, дзе па нарах размяшчаліся, напэўна, старажылы, але хто з іх сказаў — не зразумеў.

Месца новенькаму прызначылі ля парашы — вялікага драўлянага кубла, што стаяў у кутку, і фальварковец канчаткова зразумеў, што жыццё памянялася, старое засталося там, за кратамі. Пачалося знаёмства з турэмным побытам. Уздоўж сцен і пасярдзіне — нары ў тры ярусы, і ўсе забіты людзьмі. Народу ў камеры — чалавек трыццаць. Нараў на ўсіх не хапала. Ноччу, калі палягуць спаць, дык да парашы, ля якой месціўся Якаў Арыстархавіч, не дабрацца. У камеры стаяў суцэльны храп. Ля столі ўсю ноч гарэла лямпачка, што рабіла турэмнае існаванне яшчэ больш аднастайным. Да новых умоў існавання не проста было прывыкнуць. Дужа назалялі блохі, якіх тут паблажліва, па-свойску, называлі скочкамі, нягледзячы на тое, што яны былі надзвычай куслівыя. «Джаляць яшчэ мацней, ніж пчолы!» — са здзіўленнем думаў Якаў Арыстархавіч. Гэтых «скочак» развялося столькі, што з імі проста перасталі змагацца.

Неўзабаве Якава Арыстархавіча прызначылі каліфактарам. У яго абавязак уваходзіла выносіць парашу і апаражняць яе на заднім двары турмы, прыбіраць, разносіць яду. Кармілі слаба. На снеданне і вячэру атрымлівалі па невялічкай лусце чорнага дрэнна выпечанага хлеба, тры-чатыры бульбіны, хвост іржавага селядца, кубак горкай кавы. На полудзень прыносілі баланду. Для здаровага

чалавека гэтага, вядома, не хапала. Назаляў, таміў голад. Баланда з селядцом не сунімалі думак пра ежу. Перадачы былі абмежаваныя, ды і дзяліцца даводзілася. З волі насілі перадачы Васіль з Мірыкам. Памятаў Васіль, што Якаў Арыстархавіч даводзіцца яму кумам, а кум — гэта ўсё адно як радня.

Час ад часу, звычайна з раніцы, вязняў выпускалі ў двор — там была загарадзь для шпацыру. Пятнаццаць мінут — і назад, у камеру.

Сядзелі хто за што, некаторыя — гэта Якава Арыстархавіча на пачатку асабліва дзівіла — за неасцярожна расказаны анекдот. Магчыма, якраз гэтая неасцярожнасць прывучыла людзей да пільнасці, і яны, будучы ў турэмным арышце, вельмі падазрона ставіліся адзін да аднаго, у тым ліку і да Якава Арыстархавіча, але тут адыграў станоўчую ролю таварыскі, гаварлівы характар фальваркоўца. Перад шпацырам ён нават у наглядчыка пацікавіўся надвор’ем, а потым спытаў: «Колькі вы палучаеце?» Той у сваёй панурасці нічога не адказаў. Вечарам Якаў Арыстархавіч з гэтымі ж пытаннямі звярнуўся да другога наглядчыка, які змяніў першага. Наглядчыкі з вязнямі не размаўлялі, і яго пытанні нібы і не чулі. Затое вязні неўзабаве прызналі ў ім чалавека бывалага і дасведчанага і ставіліся з павагай.

— Магутнае, хоба на яго, збудаванне — гэтая турма! — казаў ён сваім новым таварышам. — Будаўніцтва ў 37-м годзе скончылі. Я так чуў, што першым сюды пасадзілі таго інжынера, што будаваў.

— За што ж яго маглі пасадзіць? — цікавіліся вязні.

— Разбагацеў ён, кажуць, на гэтым будаўніцтве.

— Не дурань, відаць, быў.

У размову уступіў маўклівы таварыш — былы капэзэбовец Аляксандр Саванеўскі:

— Будаваў хто? Вязні будавалі. Бралі людзей за нядоімкі, яшчэ за што, — яны і будавалі!

Успамінаўся Якаву Арыстархавічу бацька — Арыстарх: «Некалі бацька наглядчыкам тут быў, а мне сядзець даводзіцца. Хто б падумаў, што так здарыцца! Упартая рэч — лёс. Яго, хоба на яго, і на кані не аб’едзеш...»

## XIII

Пэўны рух у камеры ўсё ж такі назіраўся. Адных кудысьці выклікалі, і яны пакідалі наседжанае месца, развітваліся з таварышамі, некуды знікалі. Іх замянялі іншыя. Аднойчы загрымеў замок, адчыніліся дзверы і ў камеру ўвайшоў сярэдняга росту хударлявы чалавек з крыху курносым тварам і выцвілымі рудаватымі вусамі, што сумна навісалі над цёмнымі вуснамі. Якаў Арыстархавіч сядзеў у гэты момант на нарах, лавіў і знішчаў блох, якіх за апошні час развялося яшчэ больш, неадольная сіла. На што ўжо быў цярплівы да гэтых стварэнняў, але і яго цярпенне скончылася. Падняў галаву, уважліва прыгледзеўся да навічка і са здзіўленнем прызнаў у ім пруская ўскага Косцю Хлябіча — Трахімавага сына. На сенакосе ў Альбэрціне быў ды яшчэ жабу гарэлкай напаіў, дужа смешна скакала. Такое помніцца доўга. Наглядчык, які прывёў Косцю, паўзіраўся па кутках і прыкмеціў адчыненую амаль пад самай столлю фортку ў запыленым акенцы.

— Фортку, граждане заключоныя, толькі па распісанню, а не абы-калі. Каб парадак быў!

Косця, відаць, не блага быў знаёмы з турэмнымі звычаямі і традыцыямі, таму што не шарахнуўся ў бок, як Якаў Арыстархавіч, калі крымінальнікі кінулі пад ногі ручнік. Патаптаўся па ім і даў «добры дзень». Як новы вязень, ён, без супраціўлення, заняў месца побач з парашай, пачаў азірацца навокал,

заўважыў Саванеўскага, але ні той, ні другі не паказалі, што знаёмыя. Пазнаў ён і Якава Арыстархавіча, але ад сустрэч і размоў з фальваркоўцам ухіляўся. Тое, што ён апынуўся ў адной камеры са сваім па сутнасці класавым ворагам на пачатку моцна закранула гонар і самалюбства былога падпольшчыка, але, падумаў Косця, з кім толькі не даводзілася сядзець! Першым, аднойчы пасля шпацыру, падсуседзіўся да яго Якаў Арыстархавіч.

— Канстанцін Трахімавіч? — перапытаў дзеля большай упэўненасці.

— Ён самы, — асцярожна прызнаўся вязень.

— Ну дык — маё шанаванне! — узрадаваўся Якаў Арыстархавіч. — Рады бачыць!

— А я вас таксама пазнаў.

— Лёсы часам перасякаюцца.

— Сапраўды.

— Памятаеце, як на пакосе жабу гарэлкай падпаілі?

— Чаго толькі ў жыцці не здараецца! — усміхнуўся Косця. — Не чакаў вас тут сустрэць.

— Ад турмы і ад сумы не заракайся, — неяк радасна зазначыў суразмоўца. — І тут можна было б цярпець, але надта шмат блох. Ну, проста процьма! І куслівыя, хоба на іх! Каб які паратунак знайсці?

— Дзе турма, там і блохі, дзядзьку, — па-філасофску адказаў Косця. — А за што вы сядзіце?

— А за нішто! — фальварковец паціснуў плячыма. — Мяне павінны выпусціць, я ні ў чым не вінаваты...

Суразмоўца скептычна скрывіў вусны і прыплюшчыў вока:

— Выпусціць — гэта значыць прызнаць сваю памылку. Яны на гэта не пойдуць...

Якаў Арыстархавіч уважліва паглядзеў на земляка, які, мяркуючы па усім, быў чалавекам дасведчаным.

— Але ж я таго не датычны, у чым мяне абвінавачваюць. Незразумела!

Да іх падсеў Саванеўскі. Да аднаго Косці ён, магчыма, і не падсеў бы (правілы канспірацыі!), але з ім быў яшчэ адзін — Якаў Арыстархавіч. Завязаў нязмушаную размову:

— Адкуль вы, хлопцы?

— З-пад Камянца.

— А за што?

— Я не вінаваты, — адгукнуўся фальварковец. — Памылка, няйначай. Я ў гэтым упэўнены, але не ведаю, што рабіць. Як на тое і адвакаты недзе пахаваліся!

Косця на гэтае пытанне нічога не адказаў, прамаўчаў, ведаючы, што ён з Саванеўскім аднаго лёсу.

— Першага жніўня, — зноў загаварыў Саванеўскі, — дзень вызвалення Брэста ад пілсудчыкаў. Дваццаць гадоў назад, я яшчэ пацаном быў, а помню! Цікава, ці будуць гэты дзень адзначаць? Усё ж такі наша гарадское свята...

— А я, хоба на яго, неяк і не запомніў, — прызнаўся фальварковец і самакрытычна дадаў: — Такія рэчы помніць трэба! Гэта дрэнна, што не помнім.

— Адбываюцца больш важныя падзеі, — разважыў Косця, — вунь Гітлер ужо палавіну Еўропы захапіў і ў наш бок зарыцца. Каб ён таго...

— А рабочы клас нашто? — не згадзіўся Саванеўскі. — Рабочы клас не дасць. Рабочы клас у Германіі — гэта сіла ды яшчэ якая!

— А я немцаў яшчэ па той вайне ведаю, — пажвавеў Якаў Арыстархавіч, жадаючы паказаць сваю дасведчанасць, — надта парадак любяць. Ну ўжо настолькі пра парадак дбаюць, што, мажа, аж занадта.

— Дык немцы — гэта адно, а Гітлер — другое, — патлумачыў Саванеўскі, — зусім другое! Ён жа, сабака. І Тэльмана пасадзіў.

— Толькі што ў Брэсце сумесны парад праводзілі! — зноў уставіў Якаў Арыстархавіч.

— Гэта мы ведаем, — сумна пасміхнуўся Саванеўскі. — Паглядзім, цярпення ў нас шмат. — Ён уздыхнуў. — Цярпення нам не пазычаць.

Праз колькі дзён Саванеўскі паведаміў Косцю атрыманую з волі вестку:

— Гадава арыштавалі.

— Каго?

— Гадава. А ты што — пра такога не чуў?

Косця з сумнай усмешкай паглядзеў на сябра.

— Чуў? Не толькі чуў. Гэта ж ён мяне пад арыштам трымаў. Дапытваў. Біць ён умее. Пляма ў яго на шчацэ і ў роце каронка залатая, з левага боку.

— Ён самы!

— Сволач!

— Сволач, — згадзіўся Саванеўскі, — ды яшчэ якая. Прафесіянал! Нашых ён шмат высачыў, але і сам нарэшце...

— З «двуйкі»[1] ён.

— Адтуль.

— А як жа яго злавілі? Гэта ж не проста такога злавіць. Мацёры!

— Лісак высачыў, у цягніку Ковель — Брэст ехаў. Гадаў на адным месцы не сядзеў, а ўсё то тут, то там. Хаваўся. Лісак засёк яго ў цягніку і паведаміў у НКУС. А тыя... мяне на апазнанне вадзілі. Гляджу — Гадаў.

— Выходзіць, што мы з такім нягоднікам, з такім вылюдкам у адной турме сядзім! Дзе ж праўда?

Яны ўздыхнулі, адказу на гэтае пытанне ні ў аднаго, ні ў другога не было.

Турэмнае жыццё Якава Арыстархавіча скрашвалі ўспаміны пра сад, пчальнік і думкі пра млын. Пра сваякоў, нават пра жонку Хвядосю ён думаў менш. Надта павольна рухаўся час, і яму здавалася, што знаходзіцца тут вельмі і вельмі даўно. Зрэдку наведваліся сын Мірык з Васілём, які цяпер ужо меў прозвішча не Кужаль, а Платонаў. Перадавалі прадукты. Фальварковец быў яму ўдзячны. Тут у турме, ён упершыню пачуў слова «каэр»[2] і быў здзіўлены тым, што яно мае дачыненне і да яго.

* * *

Вярнулася ў Пруску Амелія Канстанцінаўна — Дзідзя, як называлі яе гаспадыня і сяброўкі з «Вілы шчасця» на Баторыя, 13. Працоўная тэрапія, якую Брэсцкі НКУС практыкаваў для перавыхавання прастытутак з «Вілы шчасця», не дала належнага выніку. Свядомых будаўніц сацыялізму з іх не атрымалася. Амелію, напрыклад, прызначылі ў гарадскі выканкам прыбіральшчыцай, але вядро і швабру яна не ўпадабала з першага разу. І не дзіва: жанчынам яе прафесіі цяжка было расставацца з ранейшым размерана-гультаяватым укладам бесклапотнага існавання і прывычнай завядзёнкай бавіць час паміж кліентамі, кавай і картамі. Таму на пасадзе прыбіральшчыцы не старалася, а потым наогул перастала з'яўляцца на працу. Папярэджанні не мелі поспеху. Цягнула на панэль, але поспех быў мізэрны, а заробкі няпэўныя. Настрой рэзка пані-

[1] «Двуйка» — другі аддзел Генеральнага штаба польскай арміі ў міжваеннае дваццацігоддзе (контрразведка).

[2] Каэр — контрэвалюцыянер.

зіўся. Душа была атручана непрыемнай думкай, што жыццё не ўдалося, што лёс пакінуў яе адну. Былая прафесія аддаляла ад людзей, спараджала адчужанасць. Вельмі хацела пазнаёміцца з якім-небудзь прыстойным чалавекам, каб выйсці замуж, але, на жаль, не шанцавала. Згадвала колішняга свайго паручніка, аднак такія ўжо зніклі. Савецкія афіцэры былі зусім іншыя — бедныя і нейкія несамастойныя і не рамантычныя. Заўсёды пры службе, у іх ні на што не хапала часу.

Урэшце яе паводзіны не спадабаліся новай уладзе. Прыгразілі, што пасадзяць, і Амелія задумалася. Успомніла пра спадчыну, якая засталася пасля бацькі — былога ўрадніка Кастантыя. Раскінула карты. У «Віле шчасця» часта варажыла кліентам. Цяпер паваражыла сабе. Выпала — «дарога». У выніку ўсяго гэтага Амелія апынулася ў Прусцы. Брат Восіп, як ні ўпіраўся, вымушаны быў саступіць чвэрць бацькавай хаты, што, вялізная і запушчаная, стаяла ля камянецкага гасцінца, пры ўездзе ў вёску, адлюстроўваючыся ў вялізнай лужыне. У першы ж дзень свайго вясковага жыцця, на раніцу, яна зрабіла выразны макіяж, апранула шырокі чырвоны плашч і, уздзеўшы на галаву капялюшык з папяровымі кветкамі, а на рукі — пальчаткі з голымі пальцамі, выйшла на вуліцу. Атарапелыя прускаўскія кабеты праз вокны з жахам пазіралі на ўраднікаву дачку ў такім экзатычным яе ўбранні. Потым, ля калодзежа, перамаўляліся — Тупчыкава Гапа, Гамонава Матрона, Куліна Каленікава, Ганна Відэрка, Фёкла, Дзякрэта. Да іх далучылася і жонка Оргія Відэркі Прузына.

— Прывалаклася на нашу галаву, ембіца праклятая! — ярылася Гапа.

— Бясстыжая! — падтаквала ёй Каленікава Куліна. — Лында! Апранута пазорна, аж вочы рэжа.

— Няўжо гэтак цяпер апранаюцца? — не цяміла Матрона.

— Нерадніца яна, — сказала Фёкла і патлумачыла: — Блудніца. — Потым, праўда, чамусьці шкадавала, што гэтак сказала.

Адна толькі Дзякрэта маўчала.

— Бэська! — падвяла вынік сухарлявая Прузына — жонка Оргія Відэркі.

Прускаўскія кабеты чакалі, мусіць, што да яе пойдуць мужыкі. Гэтага аднак не адбылося. Дачка ўрадніка не стала, як цяпер бы сказалі, сексуальна даступнай для мясцовага люду. Прускаўскіх мужчын яна чамусьці не толькі не любіла, але нават як бы ганьбавала імі. А тыя плацілі тым жа: ніхто да яе не заляцаўся і не прыставаў.

У Прусцы яна зноў вярнулася да свайго імені Амелія і зрабілася нейкай флегматычнай і да ўсяго раўнадушнай, апроч царквы, якую кожную нядзелю старанна наведвала. Прускаўцаў нават здзівіла, што Амелія Канстанцінаўна такая надзвычай багамольная. Не прапускала ніводнага набажэнства і ў царкве заўсёды станавілася паперадзе ўсіх. Мінулае, аднак, стаяла нябачнай сцяной паміж ёй і вяскоўцамі. Усе ведалі, што Амелія — бэська, і ніхто не хацеў вадзіць з ёй знаёмства, што не выключала пэўных дзелавых кантактаў. Бо Амелія зрабілася краўчыхай, пачала шыць — сукенкі, кофты, спадніцы для мясцовых прыгажунь. Шыла з густам, па гарадской модзе, нават з парыжскім, як яна запэўнівала, шыкам. Быў у яе і яшчэ адзін, не менш, а можа і больш важны, чым шыццё, занятак. Карты. Цяпер яна варажыла на картах. Тут за парадамі, з просьбай паваражыць ішлі да яе кабеты з усёй акругі. Верылі, што Амелія скажа праўду. Сярод яе кліентак аказалася і Прося. З Просяй — жылі па-суседску, лічы, праз вуліцу. Раздзяляў іх толькі магазін — былая Шпронькава лаўка, у якой цяпер гандляваў Міцька Балабайка. Амелія звярнулася да Просі першай (Васіль яшчэ знаходзіўся ў Брэсце на курсах):

— Ці няма ў вас снатворнага?

— А што гэта такое? — не зразумела маладзіца, углядаючыся ў аблічча суседкі — жанчыны з незвычайным мінулым, нібы шукаючы ў ёй нейкіх прыкмет прыроднай амялы — вечназялёнай расліны з белымі ядавітымі ягадамі, што можа аблытаць і засушыць здаровае дрэва.

— Гэта такія пігулкі[1], каб заснуць. Я адна не магу спаць.

«Няўжо ёсць нейкія «пігулкі», якія замяняюць мужчыну? — здзівілася Прося. — Чаго толькі не прыдумаюць!..»

— Не, у мяне няма.

— Шкада.

— Прыедзе Васіль, дык я скажу, ён у Берасці купіць, калі недарагое.

— Недарагое. Калі можна, скажыце!

Прося якраз варыла вячэру, пакарміла суседку, і тая, падзякаваўшы, пайшла. На развітанне спытала:

— Дык Васіль гэта ваш муж?

— Муж.

Ужо другі тыдзень, як не прыязджаў з Берасця Вася, і Прося непакоілася, думала пра тое, ці не знайшоў ён там сабе каго. Зваблівых жанчын шмат. Апошнім часам паміж імі зноў атрымаўся разлад, амаль што пасварыліся. Ёю ўсё больш авалодвала скрытая, але ад гэтага не менш злая рэўнасць, унутраны голас падказваў: нехта ў яго ёсць. Улюбчывы стаў праз меру, такі ўлюбчывы, што калі ўбачыць прыгожыя ножкі, дык ажно войкне ад захаплення. Неяк яна была наведалася да яго. Пабылі ў іхнім інтэрнаце, у пакоі, а потым выйшлі на вуліцу, дык ён — яна заўважыла — так азіраўся на прыгожых дамачак, што, здавалася, шыю скруціць. А як ён там цяпер? Пачалі сніцца нядобрыя сны. «А можа, я пакіданка ўжо? Можа, ён другую мае? Гэта ж горад...» Трывога і падштурхнула яе ў бокураднікавага дома, дзе ў яго ценевым, паўночным кутку жыла варажбітка: што скажуць карты? Каб не ісці з пустымі рукамі, Прося злазіла на гарышча, адрэзала кавалак кумпяка, загарнула ў чыстую палатняную ашмоціну, падумала і адрэзала яшчэ і паўбуханкі хлеба і пайшла. Старая бацькава хата, у якой пасялілася Амелія, здаўна была акружана подыхам нейкай незразумелай адчужанасці, закінутасці і страху. Тут яшчэ лунаў цень грознага Кастантыя, які калісьці напінаў на сябе сіні мундзір, чапляў да пояса шаблю і трымаў у парадку і пакоры ўсю акругу. Прося, абмінуўшы лужыну, зайшла з паўночнага боку, дзе знаходзіліся дзверы ў жытло варажбіткі, і пастукала. З глыбіні пакояў данёсся сабачы брэх. Гаў! Гаў! Пачуліся крокі і запытанне: «Хто?» Прося адказала, і дзверы памалу адчыніліся. У нос шыбануў пах, як з сабачай буды. Прося нават затуліла нос рукой. Да брэху далучылася кацінае «мяў». Гаспадыня сустрэла ў зашмальцаваным халаце няпэўнага колеру і з папільёткамі ў пакамечаных валасах.

— А-а, гэта вы? Заходзьце, заходзьце!

У кватэры панаваў паўзмрок. Па кутках, на нейкіх лахманах, сядзелі сабакі разам з катамі і з цікаўнасцю пазіралі на наведвальніцу. «Хто ты такая? Чаго прыйшла? Што табе трэба?» — нібы пыталі яны. Ад шафы, дзе Амелія, відаць, склала прывезеныя з Брэста сукенкі і іншае ўбранне, чуўся кіславаты пах парфумы. Прося разгледзелася. У покуце стаяла, пакрытае роўным пластом пылу, старое піяніна, набытае, напэўна, яшчэ бацькам — ураднікам Кастантыем. На піяніне — крыж з распяццем. Прося звярнула ўвагу на павуціннне, што звешвалася са столі і шчыльнымі мярэжамі аблягала куты, а пылу кругом было столькі, што час ад часу даводзілася чхаць. Выцерці пыл і прыбраць кватэру ў гаспадыні, напэўна, па нейкай прычыне не было часу або ленавалася. Прося

[1] Пігулкі — таблеткі (польск.).

нават з некаторым жахам угледзела вялікіх шэрых павукоў, што стаіліся ў мярэжах і як бы кагосьці чакалі. Гаспадыня заўважыла яе погляд.

— Павукі — мае сябры, — патлумачыла яна, не апраўдваючыся, а як бы нават з гонарам. — Я і там іх любіла, дзе была раней, у Брэсце. Вядома, там было іншае жыццё. Там я з раніцы піла каву з цясткамі і чытала часопісы. А якія людзі! Там я і клопату не ведала. А тут? — Амелія махнула рукой. — Праўда, часопісы я чытаю і тут, — яна паказала на стол, на якім ляжала куча старых часопісаў са стракатымі вокладкамі. Амелія стала раптам нейкай залішне гаваркой. — Ой, як я жыла! А плацце якое я насіла, ведаеце? Маркізетавае! Наскрозь прасвечвалася! — Яна дастала з шафы сукенку, пашытую з вельмі ж празрыстай тканіны. — Бачылі такое?

Прося ў здзіўленні пахітала галавой.

— Прыгожа, праўда?

—У вёсцы такое не апранеш.

— А для каго тут апранаць?

— Ну, вядома, тут не горад, — згадзілася Прося.

— Люблю культуру і, хоць трэсні, не магу сябе перайначыць! — Амелія прытупнула нагой, шмякнуўшы аб падлогу хатнім тапачкам. Зноў, але на гэты раз ціха забурчэлі сабакі і ў левым кутку мяўкнуў кот. Адчувалася, што яны з гаспадыняй заадно.

— Замуж вам трэба, — параіла Прося.

— А што тое замужжа?! Я жыла з адным, і мы былі ў згодзе, хоць і не пашлюбаваныя, але рассталіся. У кожнага чалавека сваё жыццё. У яго — сваё, ён быў афіцэр, у мяне — сваё. Ведаеце, ён быў вельмі прыгожы, але надта раўнівы, а я люблю свабоду.

Прося паціснула плячыма.

— У нашага дзяка многія закаханы, — сказала яна, каб нешта сказаць.

— Дарагая, — засмяялася Амелія, — а нашто мне гэты стары парасон?

— Можа, і так, — разважыла маладзіца, — тут не ўгадаеш.

— А ты да мяне толькі наведацца ці па справе? — Амелія ўвесь час пазірала на скрутак, які госця трымала ў руках, не ведаючы, куды яго дзець.

— Я паваражыць, — Прося, не знайшоўшы, куды пакласці гэты пакунак з вяндлінай і хлебам, аддала яго гаспадыні ў рукі.

— Варажбой, ведаеце, я не займаюся. Часам, праўда, як і кожнай жанчыне, даводзіцца раскінуць карты каму-небудзь са знаёмых, але... Лепш за ўсё варажыць, ведаеце, на кафейнай гушчы, але дзе цяпер возьмеш кавы!

— А можа на картах паварожыце?

— Ну, што ж...

— Ой, дзякуй!

— На картах — гэта можна, — згадзілася Амелія, узяўшы скрутак, і яны прыселі за стол. Сабакі зноў забурчэлі, на гэты раз адчуўшы, відаць, пах вяндліны і хлеба. Гаспадыня адсунула часопісы ўбок, дастала з кішэні свайго зашмальцаванага халата карты і раскінула іх — па шэсць у чатыры рады. — Здыміце карты левай рукой... Не-не, левай! Раскладзіце іх на пяць стосікаў. Так. Часам для забавы раскіну... Ага! — раптам як бы ачнулася яна, перавярнуўшы першы стосік. — Выдатна! Бардзо, бардзо... Казённы інтэрас. Важны пан з паперамі. Клопаты. Непрыемнасці. Сварка ў казённым доме. Размовы. Два каралі пры табе, адзін прамы, другі перакручаны. Не ладзяць, відаць, паміж сабой. Камусьці ты вельмі падабаешся. О! Чарна дама! І паглядае на простага караля. Дама маладая, прыгожая, чарнявая.

— Гэта, мусіць, у Брэсце сабе завёў, — уздыхнула Прося, пазіраючы на Амелію сумнымі вачыма.

— Так карты леглі! — развяла рукамі варажбітка. — Тут нічога не зробіш. Як ужо карты лягуць. — У пацвярджэнне яе слоў зноў забурчэлі сабакі.

Прося падперла шчаку рукой. Сэрца калацілася. Карты ж, пэўна, не маняць.

— Дык што ён? Пакінуў цябе?

Прося захліпала носам, гаварыла амаль плачучы:

— Не, не пакінуў, але ўсякае думаецца. Сны сняцца ўсякія. Сніцца, што выйшла я з хаты, гляджу і вачам не веру — столькі навокал бітых бутэлек. Што, думаю, такое? Гляджу на нашу чаромху і раптам бачу: гэта ўжо не чаромха, а ніцая вярба...

— Ніцая вярба — гэта нядобра. Баюся — плакаць будзеш. Запомні, мілая, кахаць — значыць прайграваць. Дык ці варта кахаць? Раю табе падумаць над гэтым.

З дрэнным настроем вярталася Прося дахаты.

## XIV

Васіль вярнуўся з Брэста і быў прызначаны начальнікам пошты ў Ратайчыцах. Пачаў працаваць. Гэта якіх пяць кіламетраў ад Прускі, побач. Тут цяпер знаходзіўся цэнтр сельсавета і месцілася пошта. Просю ўзяў тэлефаністкай, спытаўшы: «Ці змагла б ты па тэлефоне размаўляць?»

— А чаму б не? — узрадавалася тая ад таго, што будзе побач з мужам і з яе боку будзе больш кантролю.

Перад гэтым Прося зрабіла новую прычоску — андуляцыю і стала выглядаць амаль па-гарадскому.

— Працаваць на пошце не складана, работы не шмат, — запэўніў Васіль, — ды і я, калі што, дапамагу.

І сапраўды, работа была не цяжкая, хаця і патрабавала ўвагі. Калі званіў тэлефон, Прося паднімала трубку і прыкладала да вуха. «Прыміце тэлефанаграму!» — часцей за ўсё чулася ў навушніку. Брала аловак і запісвала на чыстым аркушы паперы. Тэлефанаграмы часцей за ўсё былі ад камянецкага і брэсцкага начальства.

*«Ратайчицкий сельсовет тчк указание из области тчк быстрее молотить тчк государство ждет хлеб тчк усилить поступление зерна тчк виновные будут привлечены ответственности».*

Ці, напрыклад, такая тэлеграма: *«Срочно организуйте сбор средств для установки в городе Каменец памятника вождю пролетариата Ленину тчк».*

Такіх указанняў на дзень паступала па некалькі, а часам нават звыш дзясятка, і яны пачыналі назаляць сваёй тупой аднастайнасцю. Тэлефанаграмы перадаваліся ў сельсавет — начальству.

Тым часам яна чакала другое дзіця. Ужо чула, як яно шавеліцца, стукае ножкамі недзе пад сэрцам. Трывожылася. Давялося звальняцца.

Віталік нарадзіўся 14 верасня. Роды цягнуліся гадзін шэсць, у параўнанні з першымі выдаліся куды лягчэйшымі. Стрэліла, можна сказаць, як з гарматы. Здаровенькі ўдаўся хлопчык, наліты, як яблычак. Ахрысцілі ў царкве, назвалі Віталіем, за кума ўзялі Ляксандра Гальяша, хлопчык рос, хутка ўжо трымаў галоўку і пасміхаўся бяззубым роцікам.

Першы кум Якаў Арыстархавіч па-ранейшаму бавіў час у Брэсцкай турме, і яму насілі туды перадачы. Часцей за ўсіх наведваліся Васіль з Мірыкам, які жыў і працаваў у Брэсце.

Лявон з Фёклай гадавалі Валодзіка, які рос у іхняй хаце, цешыў дзеда з бабай.

Школьнікі, ідучы па вуліцы, спявалі пад кіраўніцтвам Лаўра Яўсеевіча:

Кони сытые
Бьют копытами,
Выполним по-сталински приказ...

У лістападзе 1940 года адбыўся візіт Старшыні Савета Народных Камісараў СССР Молатава ў Берлін. Вёў перагаворы. Берлін бамбілі англічане, так што перагаворшчыкам давялося хавацца ў бамбасховішчы.

Неўзаметку надышоў Новы, 1941 год. На пошце Васіль меў магчымасць праглядаць газеты. І некаторыя матэрыялы спынялі ўвагу. У навагоднім нумары ад 1 студзеня газета «Правда», віншуючы сваіх чытачоў з Новым, 1941 годам, пісала:

*«Велика наша страна: самому земному шару нужно вращаться девять часов, чтобы вся огромная наша советская страна вступила в новый год своих побед. Будет время, когда ему потребуется для этого не девять часов, а круглые сутки... И кто знает, где придется нам встречать новый год через пять, через десять лет: по какому поясу, на каком новом советском меридиане?..»*

Гэты нумар «Правды» Васіль прывёз дадому і паказаў мужчынам, што збіраліся ў хаце Мікіты Галёнкі. Мікіта чытаў уголас. Слухачы адчулі ўзнёслы тон перадавіцы, але спасцігнуць сэнс было цяжка. «Пояс» і «мерыдыян» гучалі адцягнена, як словы з нейкай новай песні. Каб разумець, што такое «пояс» і «мерыдыян» і як яны могуць быць звязаны з сустрэчай Новага года, трэба было хоць крыху ведаць сталінскую «геаграфію», якая ў пэўным сэнсе складала дзяржаўную таямніцу. Прускаўцы доступу да яе не мелі і ў палітыцы цямілі слаба, і калі што і адчувалі, дык хутчэй інтуітыўна, падсвядома. Адчувалі напор новага гаспадара Еўропы — Гітлера, чыя агрэсіўнасць выглядала вельмі канкрэтнай і мэтаімкнёнай. Гэты не таіў сваёй «геаграфіі» — са сваім вермахтам адкрыта і надзвычай паспяхова «асвойваў» усё новыя «паясы» і «мерыдыяны». Забіраў усё новыя краіны і гарады. Пакуль што ў Еўропе — Данію, Нарвегію, Люксембург, Бельгію, Галандыю, Францыю. Тое, што з ім ваявала Англія, мала што значыла.

10 студзеня 1941 года Расія заключыла з Гітлерам гандлёвы дагавор.

12 красавіка германская армія захапіла Белград.

У прускаўскіх садках гэтай вясной буйна цвілі вішні.

***2008 г.***



**Фелікс БАТОРЫН**

# «ПЯЮЦЬ ЗАДУМЛІВА ВЯТРЫ...»

* * *

Я за́зімак вітаю з ганка.
У шэрым небе сонца слепне.
Прысыпаная снежнай манкай,
Зямля ўжо ад марозу крэпне.

Дзень выхадны і бестурботны.
Абцас мой лёд калюжын крышыць.
І, ні вясёлы, ні маркотны,
Я растаю ў крыштальнай цішы.

Я растаю. І дзякуй Богу
За супакой (гады ў рады хоць)!
І мне не хочацца нічога, —
Адно ісці, глядзець і дыхаць…

* * *

Бязважкія сняжынкі. Пласт шматтонны.
А скрозь яго — былля сухога шчэць.
Заледзянела скурчаныя кроны
Знясіленаму сонцу не сагрэць.

Яно скарынку снегавую ліжа —
Промнеязыкі напаўсонны звер.
І патанаюць хрумстка ў гурбах лыжы,
І абрастае шэранню каўнер.

---

*__Фелікс Баторын (Хаймовіч Фелікс Барысавіч)__ нарадзіўся 5 лютага 1948 года ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1972). Працаваў у розных лячэбных установах Барысава і Мінска.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Раніца» (1981), «Зялёны тралейбус» (1986), «Я дрэва пасадзіў» (1991), «Паглядам акідваю шлях» (2001), «На вуліцы Максіма Багдановіча» (2007). Перакладае паэзію і прозу з рускай, нямецкай, ідыш і польскай моў.*

* * *

Зіма і сцюжа на двары. Зіма і сцюжа.
І хохлік коціцца з гары, як белы кот.
Брыкет падмок, але гарыць. Дыміць не дужа.
І каля печы на вядры макрэе лёд.

Маўчы, маўчы, не гавары. Не трэба словаў.
Няхай завейныя віры туманяць даль.
Пяюць задумліва вятры. З іх спеўнай мовы
Цячэ, як плынь, у свет стары сусветны жаль.

Пад тыя песні выць ваўку, кугакаць соўцы,
А нам заснуць на лежаку — пры боку бок.
Прыснім вясну, прыснім раку, што песціць сонца,
І салавейку, што шпаку задаў урок.

## ПРАДВЕСНЕНСКАЕ

Вея змоўкла на ноце басовай,
Хмару вычарпаў снегапад.
Я прытоптваў снег і рассоўваў,
Пракладаючы сцежку ў сад,
Дзе ўжо яблыні шэрань пышную
Атрасалі ў паўзабыцці.
Ім карцела ўсімі пупышкамі,
Увабраўшы цяплынь, зацвісці
І, ўзмахнуўшы крыллем зялёным,
Узляцець у прадонне нябёс,
Свет абдаўшы пчаліным звонам.

Ды хапаў іх за вецце мароз.

* * *

Сышліся на світанні сонца з месяцам
Над дальняю асмужанай гарой,
Дзе ў сіняй дзежцы цеста хмарак месіцца
І вабіць прамянёў іскрыстых рой.

Сустрэліся, душу і слых лагодзячы,
Спеў жаўрука і песня салаўя.
У яву з сонных мрояў пераходзячы,
Вітаюся з расістай сцежкай я.

Сыходзіцца, страчаецца, зліваецца
Ва ўсіх сваіх праявах хараство.
Вось так звычайна дзіва адбываецца
І ажывае ў прастаце баство.

* * *

Казыча праменьчык маю даланю,
Травінка ласкоча нагу.
А я нешта вельмі прыгожае сню,
А што — разабраць не магу.

Мне, праўду сказаць, і не важна, каб сны
Канкрэтны сюжэт набылі.
Даволі й таго, што даводзяць яны,
Як добра мне быць на зямлі.

* * *

Са світальнаю зоркай спатканні кароткія:
Зіхатне — і растане ў блакіце.
І дарэмна так доўга ў прадонне дрыготкае
Вы, спазніўшыся, пільна глядзіце.

Разліваецца промнямі сонца гарачае
Па лагчыне, раўніне, пагорку,
Паглынае чужое святло, каб не бачылі,
Праганяе суперніцу-зорку.

* * *

Экзатычным аранжавым фруктам
На абрусе аблокаў сонца.
Сок чырвоны з яго праступае
І сцякае за далягляд.
І, табе цалуючы рукі
І мілуючы лапкі сасонцы,
Залаты праменьчык знікае,
Каб вярнуцца ўранку назад.

А калі ён вернецца ўранку,
Будуць тыя жа луг і сасонка,
Але ў лузе зменяцца краскі
І трава за ноч падрасце.
А цябе загародзіць фіранка.
І шчаслівa, хоць і паўсонна,
На мае ты адкажаш ласкі,
Твар усмешкаю расцвіце.

Я нікольki цябе не раўную
Ні да сонечнага прамення,
Ні да ўсіх мужчын на планеце —
Тых, што ёсць, і тых, што былі.

Я даверам любоў ратую,
Я мацую яе разуменнем.
Я табою жыву на свеце
На табою абжытай зямлі.

## МЫЦЦЁ НОГ

Хадзіў я па сцежках,
Ступаў па дарогах, блукаў без дарог.
І ўсюды са мною
Хадзіла і ты, не шкадуючы ног.
Я мілыя ногі,
Стамлёныя доўгай і цяжкай хадой,
Абмыю пяшчотна
Нагрэтай празрыстай крынічнай вадой,
Абмыю настоем
Пупышак бярозавых і чарады.
Тканіна льняная
Асушыць апошнія кроплі вады.
Ахутаю пледам,
Каб цёпла зрабілася мілым нагам,
І мяккай пярыне
Да самага рання люляць іх аддам.
Я выллю на травы
Ваду з тваіх ног — і народзіць трава
Дзівосныя кветкі
Нязнанага ў свеце дасюль хараства.

* * *

З вярбою сварыцца чарот,
І моршчыцца вада сярдзіта,
І ветру скардзіцца нібыта,
І гоніць друз на дальні брод.

Магу гадзінамі глядзець,
Як плынь спрадвечная віруе,
І спасцігаць яе, жывую,
І нават нешта разумець.

* * *

Акурат пасярэдзіне верасня
Асаблівы здараецца дзень:
На прасторы ад Гом’я да Берасця
Наступае цяплынь і сухмень.

І раскошай асенняе квецені
Насалодзіцца ўволю наш зрок.
Запаволена пройдзем па свеце мы,
Маладзеючы што ні крок.

Лёгка плысці нам плынямі радасці,
Як спагаднаю хваляй — чаўну.
І адступяць ад нас лістапады ўсе.
Нам з табою вядома — чаму.

## АСЕННІ БЛЮЗ

Пацяклі тума́ны па лугах ды лагах,
У азёр па грудзях, у лясоў у нагах.
Пацягнуліся ўслед касякі журавоў,
Быццам іх нехта ўладны на поўдзень павёў.
Нібы слёзы нябёс, журавоў галасы
Абрасілі застылыя ў скрусе лясы.
Мы ідзем па туманнай плывучай смузе.
Не ўцягнуць нас у свой калаўрот мітульзе.
Пад нагамі зямля, і надхмарная сінь,
І крывінкі параненых жалем асін.

* * *

Вось і восень воз ладкуе,
Вось нямазана рыпіць…
Больш зязюля не кукуе,
Восы спяць, і вусень спіць.

Вецер свішча доўгай пугай.
Праз імжу і слоту мы —
За калюгаю калюга —
Шлях трымаем да зімы.

* * *

Стынь мярцвіць палі пустыя.
Восень плача і смяецца,
Атрасае залатыя
На дыван дзірванны з вецця

І разгубленай удоўкай
На сыходзе маладосці
Хіліць горкую галоўку
І чакае ўсё чагосьці.

Гэтак тужаць па каханні,
Па прагнаных ветрам чарах,
Па дарэмных парываннях,
Па былых нязбытных марах.

Так аднойчы цверазеюць
Праз усё, што адбылося,
І на прышласць жыта сеюць.
Рунь гадуе дбайна восень.

Не такую і пустую,
Значыць, восень мае ніву.
Па яе палях прастую
Засмучоны і шчаслівы.

## ПАЎНОЧНЫЯ ШОЛАХІ

Гусцеючы, поўнач струменіць на зорах настоены змрок,
І шолахі лісця зліваюцца ў ціхую сумную песню.
І хочацца гэтак замлелым дзвярам адамкнуць свой замок,
І хочацца верасню, жоўкнучы, ветрам надыхацца веснім.

Танчэючы, ветах нібыта падаў мне акрэслены знак,
Журботнаю вехаю шлях мой у познюю восень пазначыў.
І хочацца гэтак губам зноў адчуць пацалункавы смак —
Амаль што забыты, амаль несапраўдны і прагна юначы.





Уладзімір ЛІПСКІ

# МУЖЫК*

***Дакументальная аповесць***

## ПАЛЕТАК ЗЯЛЁНАГА ЮНАЦТВА

## II. Алёша з Дастоева

*Осмыслить и прочувствовать можно и верно и разом, но сделаться человеком нельзя разом, а надо выделаться в человека.*

Фёдар Дастаеўскі

### 1. З Бэрваў — у Сяло

— Сынок!.. Лёшка!.. Прачынайся. Сонейка на небе. Табе ў школу трэба, — мама мякка дачыркнулася шурпатай рукой да кірпатага носіка, і Лёшка мячыкам падхапіўся з-пад коўдры.

— Мыйся, сынок, ды гайда за стол. Цябе чакаюць любімыя драчонікі...

Мама гаварыла, а Лёшка таропка нацягваў на сябе штаны, кашулю, шкарпэткі. Абуў карычневыя сандалі, зашпіліў іх раменьчыкамі. Усё новае, у магазіне купленае. Ажно ў Іванаве. Такая абноўка ў Лёшкі ўпершыню. Вочы зіхацелі ад радасці, куды і падзеўся сон.

У дзіцячым пакоі прадаўжалі моцна спаць брацік Васіль і сястрычка Галя. Алёшка ўпершыню адчуў, які ён ужо дарослы ў параўнанні з імі. Яму спадабаліся маміны паважлівыя словы, яе хваляванне.

За сталом ужо сядзела Марыя. Ёй добра, яна ў чацвёртым класе, а яму, Лёшку, яшчэ толькі трэба адольваць «Буквар».

— Ешце, дзетачкі, — ласкава гаварыла маці і наказвала. — Ты ж, Манька, прыгледзь за Лёшкам. Падкажы яму, як у той школе што рабіць...

Вера Пракопаўна сама ніколі не хадзіла ў школу. Сіроцкае дзяцінства, вайна пераблыталі яе лёс. І ёй вельмі карцела, каб дзеці не былі панамі, якія спяць на хамутах, каб не жылі так, як яна — часам з квасам, а парой з вадой ды з бядой.

— Бацька ледзь пачало світаць пабег на ферму, — разгаварылася маўклівая маці. — Наказаў табе, Лёшка, каб слухаўся настаўнікаў у школе, каб усё добрае на вус намотваў, а ўсё благое з вушэй выпускаў...

Бразнула клямка ўваходных дзвярэй, і на парозе з’явіўся дзед Васіль:

---

[1] Працяг. Пачатак у № 1, 2011 г.

— Добры дзень у хату, — зняў шапку, спагадліва зірнуў на Лёшку і звярнуўся да нявесткі. — Вера, мо на кані завезці дзяцей у школу? Стануць акадэмікамі, на машыне нас пракатаюць.

— Ай, бацька, хай ідуць пехам, як усе дзеці калгаснікаў. А то зноў упікнуць: аднаасобнік песціць унукаў.

Маці і дзед выйшлі ў двор. Маці адарвала ў агародчыку вяргіняў, падала іх Мані і Лёшку:

— Дасцё настаўнікам ад усіх нас, Скакуноў...

Дзеці выбеглі на вуліцу. Там ужо былі аднагодкі з Вулькі-Дастоеўскай, амаль з кожнай бэрваўскай хаты. Як пчолкі з вулляў, выляталі з двароў прыбраныя хлопчыкі і дзяўчынкі. Стрыжаныя, адшараваныя ад летняга пылу, у святочных уборах, яны крыху дзівіліся адзін з аднаго, нават не пазнавалі.

Бэрвы — гэта пасёлак Дастоева, які ўпіраецца сваёй вуліцай амаль што ў рэчку Стругу, у былую крыніцу, у нізіну, балоцістую мясціну. Вось чаму тутэйшая вуліца заўжды была забрудненай, амаль непраходнай. Кожны насупраць свайго пляца масціў з бярвенняў кладкі. Ад іх і назва — Бэрвы.

Дзеці з візгам і рогатам шустра скакалі па кладках. Абудзілі ўвесь пасёлак. Каля двароў стаялі дарослыя дастоеўцы, праводзілі сваіх спадчыннікаў у дарогу да ведаў. Кожны з іх, відаць, прамаўляў пра сябе малітву:

«Магутны Божа! Пашлі нам ласку Духа твайго Святога, які дае і мацуе нашы душэўныя сілы. Хай жа нашы дзеткі растуць Табе, Творцу нашаму, на славу, бацькам і настаўнікам на радасць, Царкве і Бацькаўшчыне нашай на дабро. Амінь».

Быў панядзелак, 1 верасня 1953 года. Гэтым днём пачалася новая эра ў жыцці Алёшы Скакуна. Ён стаў адным з 8.844 вучняў раёна, якія селі тым днём за школьныя парты.

Школа стаяла ў Сяле. Так называўся цэнтр вёскі Дастоева, дзе месціліся калгасная кантора, клуб, магазіны, камбінат бытавога абслугоўвання.

Ад Бэрваў да Сяла — які-небудзь кіламетр. Мы падлічылі з Аляксеем Сцяпанавічам Скакуном, што за адзінаццаць школьных гадоў ён вымераў дарогу ад сваёй хаты да школы на адлегласці ў пяць тысяч кіламетраў. Тыя крокі сталі асноўнымі і, відаць, рашаючымі да вышыні, якую ён адолеў у сваім жыцці.

На дарозе з Бэрваў у Сяло, з хаты ў школу і назад, праходзілі як бы пазакласныя ўрокі пазнання людзей, прыроды, сяброўства і вернасці, адкрыццё праблем, якімі жылі, якія турбавалі дастоеўцаў.

Аднойчы, калі Лёша ўжо навучыўся чытаць і пісаць, вярнуўся са школы, пачаў абедаць. Сядзіць за сталом нейкі сумны, задуменны. Маці з бацькам адчулі сынаву трывогу, пачалі выпытваць:

— Мо ў школе што здарылася?.. Мо з сябрамі не паладзіў?.. Мо баліць што?..

А Лёшка, хто б падумаў, зусім па-сур’ёзнаму апавядае:

— Сёння мы класам прыбіралі каля калгаснай «Дошкі гонару». Там вывесілі фоткі дзядзькі Сцяпана Матрусевіча, цёткі Арыны Кузьміч...

— О, дык ім прысвоена званне «Заслужаны калгаснік», — патлумачыў бацька.

Лёшка прадаўжаў пералічваць тых, хто запомніўся яму на Ганаровай дошцы:

— Там яшчэ ёсць партрэты Пятра Бандарука, Паўла Бутрыма, Цімафея Дзеркача, Івана Палешука...

— «Гэта нашы маякі», казаў пра іх старшыня Ходас, — азвалася ад печы мама Вера.

— Ага, мама, а чаму вашага няма там здымка?

— Што ты, сынок, я — паляводка. Прафесія мая — куды пашлюць, тое і раблю.

— А вы, тата, хіба не зарабілі? Прачнуся — вы на ферме. Кладуся спаць — вы на ферме...

— Ходасу відней, — патлумачыў бацька і расказаў, што заслужаным калгаснікам Ходас за кошт калгаса выпісвае дзве газеты, дазваляе бясплатна наведваць кіно ажно дваццаць разоў, яны бясплатна карыстаюцца электраэнергіяй, радыёкропкай, лазняй, могуць без білета два разы з'ездзіць у Іванава, змалоць у калгасным млыне пяць мяхоў зерня.

Лёша Скакун яшчэ раз, цяпер ужо дакладна, прыняў рашэнне:

— Як вырасту — буду Ходасам!..

Хацеў, як Ходас, кіраваць дастоеўцамі ды выправіць усе яго прамашкі. Ён бы найперш уславіў сваіх бацькоў, якія мардаваліся ад рання да змяркання і дзецям не давалі спачыну.

У той год, калі Алёша Скакун прыйшоў вучыцца ў першы клас, у школе ўпершыню адбыўся выпуск дзясятага класа. У хатах дастоеўцаў загарэліся, як тады казалі, лямпачкі Ільіча. У чырвоных кутках на калгасных фермах паставілі чорна-белыя тэлевізары «Рэкорд». Туды, як на дзіва, бегаў паўзірацца на блакітны экран і Лёшка. Свае тэлевізары мелі толькі адзінаццаць дастоеўцаў. Сярод іх Скакуноў не было. Сярод тых, хто меў «Масквічы», матацыклы Скакуноў таксама не прадбачылася. Затое раёнка, якую выпісваў Сцяпан Скакун, была перапоўнена тагачасным савецкім аптымізмам. Газета сцвярджала, што «полымя Вялікага Кастрычніка, прамяністае сонца самай дэмакратычнай у Свеце Канстытуцыі СССР асвяцілі для працоўнага люду шырокія шляхі». Газета пераконвала, што «дзякуючы клопатам партыі і ўрада, з кожным днём расцвітае, становіцца ўсё болей заможнейшым і прыгажэйшым наша жыццё».

Як доказ, газета паведамляла, што ў дастоеўскім калгасе «Чырвоная звязда» пасеяна 20 гектараў проса, 11 — гароху, 10 — кармавога бобу. На палетках працуюць чатыры трактары, пяць аўтамашын, восемдзесят коней. Гадавы надой на карову — 1353 кілаграмы малака.

На вуліцы дастоеўскія дзеці чулі крыху іншую інфармацыю. Хадзіў такі жарт. Пытаецца журналіст, чаго калгасная карова плача. А яна адказвае: «Старшыня прыгразіў, што не атрымаю кармоў, пакуль не павышу надоі».

І задумаў Лёша Скакун здзівіць усіх сваёй выдумкай. Узяў ды зрабіў сабе фотаапарат. Хацеў паказаць жыццё такім, якім яно было на самай справе. Раздабыў недзе абектыў, які ўмеў нават «пстрыкаць». Змайстраваў з фанеры футарал. Любіў пагуляць у фатографа. Дзеці ды нават і дарослыя слухалі яго займальныя каманды:

— Станьце раўней!.. Усмешку дайце!.. О, птушка зараз выпырхне, увага!..

Рогатам, візгатам, вясёлымі воклічамі заўсёды напаўнялася здымачная пляцоўка Лёшы Скакуна. Ён тут быў і завадатар, і кумір, і галоўны рэжысёр. Перад яго першым фотааб'ектывам перабывалі ўсе аднакласнікі, багата хто з дарослых дастоеўцаў. Урэзаўся ім у памяць Лёша-фатограф.

Сам жа Аляксей Сцяпанавіч усё жыццё шкадуе, што не захаваліся яго раннія здымкі. Прапалі недзе яго рэліквіі, згубіліся, зніклі, як і сціраюцца з памяці гады маленства. Вось толькі засталася любоў да гэтага майстэрства.

На першыя самастойна зробленыя грошы Аляксей Скакун купіў сабе фотаапарат «Змена». З ім ён выйшаў у прызнаныя майстры, друкаваў свае творчыя працы ў газетах, часопісах, кнігах. Ладзіў асабістыя выстаўкі сваіх фотаработ. У яго руках перабывалі розныя фотаапараты. Цяпер ён мае супер-

сучасныя, арыгінальныя і вельмі ж якасныя, з якімі не разлучаецца ў блізкіх і далёкіх вандроўках.

Праз фотааб’ектыў Аляксей Сцяпанавіч умее ўбачыць і ўвекавечыць чалавека і бярозку, каня-скакуна і лятаючага матылька, птушку-шчабятуху і маладую рунь на палетку, вясёлку ў небе і ўсе колеры зямлі. Здаецца, усё гэта ён першасна ўбачыў з бацькоўскага дворышча, на дастоеўскай вуліцы ад Бэрваў да Сяла, якую вымяраў адзінаццаць школьных гадоў.

На адзіным сямейным фотаздымку тых далёкіх ужо вучнёўскіх гадоў засведчаны і сам фатограф. Ён — у асяродку свайго брата Васіля, сясцёр Галі і Марыі. Іх нехта ўвекавечыў каля хатніх прысад. Дзяўчаткі ў квятастых сукенках, з банцікамі. Белабрысы Васілёк у футболачцы, ад нечага нахмурыў лобік. А Лёшка сваімі светлымі, пранікнёнымі вачыма як бы ўпіўся, разглядвае той апарат, які навёў на іх невядомы фатограф. На Лёшку — у шырокую палоску самаробны пінжак, у вузкую палоску штанцы, клятчастая кашуля на тры белыя гузікі. На нагах чаравікі з аблупленымі, сівымі насамі. Але ж найбольш прываблівае яго пранікнёны позірк, натхнёны твар. Не магу наглядзецца на сялянскага мужычка Лёшку Скакуна, які, здаецца, разглядвае вачыма той далёкі, непазнаны свет, што ў загадкавых землях за беларускім Палессем. Дык жа паверым яшчэ раз у мудрую ісціну, якая сцвярджае, што дзіця разам з тым, як вучыцца хадзіць і гаварыць, павінна навучыцца бачыць. Вачыма, веру, пазірае на свет наша душа. Зазірніце чалавеку ў вочы ды адолейце з ім тры пуды солі, тады пазнаеце яго. Божа, дай моцы мне на гэта, дай часу і ўмельства глыбока зазірнуць у душу Алёшы Скакуна з Дастоева.

## 2. Мазольныя працадні

Вокны настаўнічынай хаты нястомна пазіраюць на дворышча Сцяпана і Веры Скакуноў. І яна, Ганна Якаўлеўна Кандратчык, хоча таго ці не, а калі праходзіць па святліцы, абавязкова кіне вокам на вуліцу. За ёй — брама і зялёная сцяжына да хаты, у якой гадаваліся чатыры яе вучні — Марыя, Лёша, Васіль, Галя Скакуны. Шмат чаго бачыла яна і прыкмячала на тым дворышчы. А мне прыгадала вось што:

— Вучыліся яны нічаво, на добрую чацвёрку. А што ўжо працавітыя ўдаліся, як прышытыя да зямлі. Бесперапынна нешта рабілі, гаспадарылі, як таўкач у ступе, як чаўнок пры ткацтве. От, аднойчы бачу, Лёша і Васіль вязуць канём бервяно. Скакуны тады якраз будаваліся. А ніяк не могуць з тым дрэвам развярнуцца ў двор. І так і гэтак паспрабуюць, а не вывернуцца. Узмакрэлі, ледзь не плачуць. Васька кажа: «Ці не адрэзаць нам крыху ад гэтага бервяна?..» Лёшка як сыкне на яго: «Ты што, гэта ж дрэва на падрубы!..» І ўсё-такі далі рады, заехалі ў двор. Во як з дзяцінства ўмелі зарабляць мазалі...

Сапраўды, сялянская праца па тым часе была выключна ручной. Асноўнай і надзейнай сілай у мужыка заставаўся конь, яго верны памагаты. Мне здаецца, канём вымяраўся і ўзровень падрыхтаванасці дзіцяці да жыцця. Вясковы пацан павінен не баяцца ездзіць вярхом на кані, павінен умець запрэгчы і распрэгчы яго, араць канём, вазіць на ім дровы, торф. А яшчэ падлаўчыцца спутаць каня, зацугляць, кіраваць ім у возе, санках, пры акучванні бульбы. Усім гэтым Лёша Скакун валодаў дасканала, амаль з пялёнак.

Вось як прыгадвае пра сваё дастоеўскае маленства Аляксей Сцяпанавіч Скакун:

— З каня не злазіў. Сядзеш на яго шырокую, цёплую спіну, учэпішся рукамі ў грыву і ляціш галопам, аж вецер свішча ў вушах. Раптам наперадзе

канава ці свіння якая-небудзь рабая. Конь-скакун на дыбы, а Скакун-наезнік — вобземлю. Падымаешся, на каня, бывае, ужо і не ўскочыш, боязна, — Аляксей Сцяпанавіч усміхаецца, блішчыць залаты зуб, ды твар зноў суровее ад цяжкіх успамінаў. — Паедзем з бацькам на кані, накапаем у мясцовым радовішчы мелу, наробім з яго «боханаў» і вязём у Іванава на базар. Трэба ж было нейкую капейку зарабіць. Вазілі нават і ў Пінск, за пяцьдзесят кіламетраў. А што ўжо на калгасным полі, дык не было такой працы, каб не ўмеў рабіць. Салому і снапы вазіў, араў і баранаваў, касіў і сена гроб. А рабілі тады ў калгасе, лічы, задарма, за працадзень, які называлі «палачкай». Мардуешся цэлы дзень, а брыгадзір табе за гэта паставіць у сваім сшытку рысачку, падобную на адзінку. Значыць, зарабіў працадзень...

Свае працадні Лёша Скакун прасіў, каб запісвалі на маму. У архівах я адкапаў, што па тым часе за адзін працадзень у калгасе «Чырвоная звязда» дастоеўцам плацілі па аднаму рублю і па паўтара кілаграма збожжа. Плацілі толькі адзін раз, у канцы года, калі падбівалі «бабкі» зробленага. Прыкіньце, калі маці і сын Скакуны зарабілі столькі працадзён, колькі дзён у годзе, то які заробак яны атрымалі? Ці хопіць яго, нават калі дадаць сюды фермерскія працадні бацькі, на ўсю шматдзетную сям'ю да наступнай палучкі?

Вось і прыжылася ў Дастоеве прымаўка: «Калі баба гультай, то дзеці з голымі і пустымі чэравамі ходзяць». А гэта азначала, што ў сялянскай хаце, ва ўсім дворышчы віравала кіпучае жыццё. Удзень — праца ў полі, у хляве, на градах, а вечарам — у хаце за самапрадкай, калаўротам, кроснамі. Ва ўсёй працоўнай кругаверці разам з дарослымі шчыравалі і дзеці. Кожнаму па яго сіле і ўзросце знаходзілася праца. Я сам прайшоў такую вясковую, мазольную акадэмію, таму вельмі разумею прызнанне Аляксея Сцяпанавіча:

— Маё дзяцінства — праца ад «А» да «Я», на ўвесь алфавіт, ад раніцы да позняга вечара. Усё рабілі сумленна. Так во і прызвычаіўся да зямлі…

У дастоеўскіх дзяцей нават гульні складваліся адмысловыя. За аснову браліся рытмы, мелодыя, рухі, характар сялянскай, як бы цяпер сказалі, шматвектарнай працы.

Аднойчы Лёша Скакун і Андрэй Бурак арганізавалі на вуліцы «малацьбу». Зрабілі сабе цапы. Да доўгіх палак, якія называліся цапільнамі, навязалі вяроўчынамі кароткія палкі — бічы. Вось і атрымалася прылада, якой уручную малацілі збажыну.

Малацьба — работа цяжкая. Патрабуе моцы, вытрымкі, цярпення. І сябры задумалі праверыць сябе ў гэткім спрыце. Давай вулічны пыл уздымаць гульнёвымі цапамі. Дамовіліся: той прайграе, хто першы стоміцца, хто перастане махаць цэпам.

І раптам біч ад Лёшавага цэпа адарваўся і паляцеў проста ў Андрэеў лоб. Вось такой трагедыяй закончылася вясёлая малацьба. Андрэй пажыццёва застаўся з Лёшавым «аўтографам» на лбе.

Праз шмат гадоў Андрэй Фёдаравіч Бурак, які цяпер жыве на Піншчыне, у пасёлку Лагішын, скажа мне:

— З Аляксеем Скакуном у нас дружба бескарысная, верная, моцная. Жылі па суседстве. Мой бацька сталярнічаў, і нас прылаўчаў да гэтага рамяства. Мы з Лёшам нават умелі рабіць табурэткі з сасны, лыжы з бярозы. Неяк трапілі на цагельню, пабачылі там, як робяць цэглу, і задумалі дома наладзіць свой завод. Прывезлі гліны, змайстравалі формы, давай «пекчы» цагліны. А як я дарослым стаў, пайшоў качагарам рабіць на цагельны завод. Во ў што выліваліся дзіцячыя забавы...

Андрэй Фёдаравіч збаіў яшчэ пра тое, як яны крыгай лавілі рыбу, як хадзілі выручаць машыну, якая забуксавала ў Бэрвах. Рабілі набегі на хутарскія яблы-

ні, калядавалі па хатах, дровы разам калолі. Усё дазвалялася рабіць. Бацькі не супынялі іх, не забаранялі ім любую гульню, любую працу. Толькі, бывала, мама Лёшы Скакуна гаварыла: «Няможна, хлопцы». І гэтыя мяккія словы станавіліся для іх загадам, дырэктывай, якіх не паслухацца і не выканаць — не дай Бог.

Мяне вельмі пацешыла прызнанне сяброў пра тое, як яны адным вольным часам задумалі лавіць пчол і шукаць у іх мёд. Падумалі так, у лузе няма чаго сцерагчы пчалу, там яна толькі збірае мёд з кветак. А вось на падлёце да вулля яе ўжо можна браць з салодкім грузам. Прыладкаваліся «пчаляры» ў засадзе і давай нападаць на пчол. Адну, другую абсмакталі. Слодычы ў іх не знайшлі, а дадому вярнуліся пакусаныя, апухлыя. Нікому не раілі болей такім чынам здабываць мёд.

А пра тое, як яны ганялі на пашу кароў, засталася свая легенда.

Калі хто думае, што пасвіць каровы, а па-дастоеўску «каравы», — гэта прагулка на прыродзе, то спытайце лепш у Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, і вы пачуеце чыстасардэчнае прызнанне. Праўда, не такое, як адзін мінскі школьнік напісаў у сачыненні:

«Летам быў у вёсцы. Пасвіў некалькі дзён кароў. Якія ж яны неслухі! Хай бы падохлі ўсе да адной...»

Лёша Скакун так пра кароў не скажа. Ён змалку ведае: карова — карміліца сям'і. Але ж яна патрабуе догляду. Ёй сена мурожнага накасі на ўсю зіму. Яе выганяй на пашу ад майскага Юр'я ажно да лістападаўскіх замаразкаў. А пасвілі тады па лесе, па балотах, па кустоўю. Глядзі, не спускай вачэй з кожнай буронкі, бо возьме ды залезе ў чый-небудзь агарод, а то раптам зазыкуе дадому. Гаспадар выкажа ўсё, што думае пра пастуха.

Лёша часцей за усё адпасваў чэргі са сваім меншым братам Васілём, з сябрамі Андрэем Бураком, Лёнем Кухарчуком, Лёнем Шумаком. Стараліся, каб каровы вярнуліся ў свае двары наетымі, удойнымі.

Але аднаго разу статак вярнуўся ў вёску, а пастушкоў няма. Пайшлі шукаць. І знайшлі Лёшу Скакуна і Андрэя Бурака на зялёнай палянцы. Спалі, як асалавелыя ад нейкага зелля. Высветлілася, што ад табакі. Свіснулі хлопцы ў дзеда Васіля самасаду і вырашылі «пагуляць» у дарослых. Прыгналі ў лес кароў, а самі парабілі самакруткі ды давай смактаць іх узацяжку. Пачалі кашляць, галовы затуманіліся, а пасля яны і зусім страцілі прытомнасць.

З таго дня Лёша Скакун не курыць усё сваё свядомае жыццё.

Селянін-мужык, так павялося здаўна, павінен умець рабіць літаральна ўсё: і пабудавацца, і ўтрымліваць агарод, жыўнасць, і накарміць, і апрануць сям'ю. Да гэтага змалку прывучалі і дзяцей.

Лёша Скакун не цураўся аніякай работы, з ахвотаю браўся за ўсё, што даручалі, davяралі, прасілі зрабіць бацькі. Асабліва яму падабалася касьба. Рамантыка была ўжо ў тым, што раным-раненька з двароў выходзілі касцы. На роўных яны бралі з сабой і Лёшу Скакуна.

Росная трава пад нагамі. Сонца ўзыходзіць на нябесны трон. Каля крыніцы птушкі вышчабечваюць вясёлы канцэрт. Мужыкі здымаюць з плеч косы, мянташаць іх. Становяцца адзін за адным. Важак гэтай арцелі, самы вопытны касец узмахвае касой, яна ўпіваецца ў траву. Чуецца першы акорд: шых-шах.

За вядучым касцом, займае пракос другі, трэці… дваццаты. Недзе ў тым ланцугу зачынае свой пракос Лёша Скакун. Трэба ісці нага ў нагу, трэба трымаць адзіны рытм з усімі, нельга адстаць, супыніцца. Над усім лугам гучыць мелодыя вострых кос: шых-шах, удых-выдых, узмах касой перад сабой і маленькі крок наперад.

Прайшлі пракос, азірнуліся — Божа, якая асалода! На збрытай лугавіне ляжыць мурожная трава. Пахнуць зёлкі. Гаючы водар напаўняе паветра.

Лёгка дыхаецца. Але ж трэба спяшацца: касі каса пакуль раса. І дастоеўскія касцы адмяраюць новыя пракосы.

Тая касьба запомнілася не толькі Лёшу Скакуну. Пра яе прыгадала і яго настаўніца Вольга Пятроўна Талкачова:

— Мы жылі па суседстве, і я сведка, як Сцяпан і Вера Скакуны прывівалі сваім дзецям працалюбства. Помню, ездзілі ў Мініцкае балота на касавіцу. Гэта ж за трыццаць кіламетраў ад Дастоева. А там яшчэ пяць кіламетраў пехатою. І Лёша з дарослымі касіў, як раўня мужыкам. Там жа і начавалі ў буданах. Сушылі, грэблі, стагавалі сена. Здаецца, Лёша з дзяцінства быў дарослым. Ён па-сур'ёзнаму ставіўся і да вучобы. Яна давалася яму не прынукай, не надакучлівым абавязкам, а была патрэбай жыцця...

Цяпер, ужо вядомы і сталы, Аляксей Сцяпанавіч часта паўтарае дзедавы словы: «Хочаш быць багатым — бяры больш, кідай далей». Ад сябе дадае:

— Я не стамляюся паўтараць сучасным дзецям: хочаце быць багатымі — вучыцеся!..

## 3. Школьны вальс

Вучні Дастоеўскай школы вырашылі на сваёй сцэне разыграць рускую народную казку «Церамок». Пачалі падбіраць артыстаў.

Мышкай-нарушкай, гаспадыняй церамка, пагадзілася быць Марыя Скакун, аднакласніца Алёшы Скакуна.

Лёгка адшукалі артыстаў на ролю Жабкі-квакухі, Зайчыка-пабягайчыка, Лісічкі-сястрычкі. На Ваўчка-шэрага бачка ўтварылася цэлая чарга трэцякласнікаў. А вось Мядзведзем касалапым хлопчыкі не хацелі быць. Трэба страшна раўці, хадзіць крываногa, моцна тупацець. Ды пры тым і шкоду вялікую ўтварыць — узяць і разбурыць церамок. Каму спадабаецца такі няўклюда?

Алёша Скакун дачытаў казку да апошняй кропкі, задумаўся. Можа, і добра, што церамок разваліўся? Ён жа быў маленькі, цесны. Усе яго жыхары ледзь умяшчаліся ў ім. А з прыходам Мядзведзя і зусім стала немагчымай сумесная жытка.

Пастаноўка мацней з'яднала, зрабіла сябрамі ўсіх церамкоўцаў. Яны ўзяліся дружным гуртам, талакой будаваць для сябе новы маёнтак. Вось тут і спатрэбілася мядзведзева сіла — бярвенні насіць, дошкі пілаваць. Хіба ж з гэтай працай справяцца жабка, мышка, зайчык, лісічка, ваўчаня?

Назаўтра Лёшка Скакун падступіўся да настаўніка, які кіраваў драмгуртком і папрасіў:

— Можна, я буду мядзведем?

— А здолееш церамок збудаваць?

— Мы з братам бярвенне на будоўлю вазілі. Я табурэтку сам зрабіў...

Настаўнік ласкава ўсміхнуўся:

— Вось і добра, Лёша. Пабудзь Мядзведзем касалапым, пакажы, як трэба ўзводзіць церам, каб у ім было ўсім утульна.

Пастаноўка «Церамка» запомнілася многім вучням і настаўнікам. Спектакль згуртаваў дзяцей. У новым цераме, які яны збудавалі, добра сядзелася, смачна пілося і елася ды весела спявалася. А самым надзейным, завадным, добрым і спагадлівым аказаўся мядзведзь. Такім шчыра-сяброўскім быў у жыцці і Лёшка Скакун.

Аднойчы ў класе здарылася бяда. Тая ж «Мышка-нарушка» Марыя Скакун на перапынку штурханула класную дошку, якая стаяла каля акна. А можа,

яе нехта таўхануў да той дошкі? Але вынік быў трагічны — разбіліся аконныя шкліны. Прыйшоў настаўнік, завітаў сам дырэктар. Пачаліся разборкі:

— Што здарылася, як усё было?

— Ды во, Маруся Скакун шыбіну дошкай выбіла, — пачалі дакладваць «ліскі» ды «мышкі».

— Я не выбівала, — румзала дзяўчынка.

Тады да настаўніка падступіўся Лёша Скакун і заявіў:

— Гэта не Маруся вінавата, а я. Гэта я выпадкова дошку падсунуў, яна і ўрэзалася ў акно...

Праз усё жыццё пранесла Марыя Аляксееўна Скакун высакародны ўчынак свайго аднафамільца. Пазней, будучы прызнанай журналісткай, не адзін раз згадвала той выпадак, калі пісала нарысы пра вядомага сяльгасніка Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Яна прызнаецца, што адкрыла свайго земляка яшчэ ў пачатковай школе. А галоўнае адкрыццё адбылося пазней. Архівы ды ўспаміны старых Скакуноў засведчылі, што Марыя і Аляксей — на адной радаводнай галіне. Іх бацькі — стрыечныя браты.

— Мы жылі ў розных канцах Дастоева. Ён — у Бэрвах, я — у Сэрэдыцы, у сярэдзіне. Але ж прозвішчы мелі аднолькавыя. Вучыліся ў адным класе. І, здаецца, сябравалі не толькі мы, але і нашы бацькі. Пазней задумалася: ці не радня мы, бо чаму ж мае бацькі, калі ў нашай сям'і намячалася вяселле, прасілі занесці і Лёшавым бацькам жытнёвыя маленькія піражкі? Гэтыя «запрашэнні» ўручалі толькі блізкім людзям. Дык, выходзіць, мы — радня? Так яно і атрымалася...

Клас, у якім вучыўся Лёша Скакун, быў сабраны як бы з адных родзічаў. Лёня Шумак і Ксеня Бурак — жылі па суседстве, лічы, з адной баразны елі бульбу, у адной лужыне правяралі ці працякаюць гумавікі, на адным выгане, каля канавы, пасвілі гусей.

Былі ў класе вучні з суседніх вёсак — з Вулькі, Моладава, Красіеўкі, Застружжа, Пясчанкі. Але ніхто нікога чужаком не лічыў. Усе як бы з адной сям'і: Віця Базан, Іван Санько, Вася Вакульчык, Валодзя Шык, Толя Катляр, Ліда Брыгадзіна...

Вучнёўскай сям'ёй у школе прадаўжалі тыя ўрокі, якія атрымлівалі дома, ад бацькоў. Гэта былі ў асноўным два ўрокі: працоўны і выхаваўчы. Іх прыгадвае Аляксей Сцяпанавіч Скакун:

— Рабілі ўсё навылет, што трэба было. Маці скажа: «Ідзі карове сечкі нарэж». Тут жа ляціш у пуню. А там — самаробная сячкарня. Бацька прыладкаваў касу да станіны. Кладзеш пук саломы і шахаеш касой уверх-уніз. Пад гэту музыку можаш сам спяваць, можаш думаць, як рашыць школьную задачку...

Аляксей Сцяпанавіч па даўняй звычцы папраўляе пяцярнёй сваю пасечаную сівізной чупрыну, твар яго высвечвае дзіцяча-прастадушную ўсмешку:

— От як вучыліся: у школе — тэорыя, дома — практыка. Праходзілі па арыфметыцы лічбы. Настаўнік задае задачкі, вучыць як іх рашаць. А дома свае задачы: «Сынок, збегай палічы куранят. Колькі іх каля нясушкі, ці не ўхапіў якое каршун?..» Ляціш у агарод, а кураняты па бульбе рассыпаліся, трэба выманіць іх. А як пералічваць, калі яны бегаюць, як кроплі ртуці, ды ўсе ў аднолькавых жоўценькіх кафтанчыках?

Як жа я разумею Аляксея Сцяпанавіча, бо сам прайшоў такія ўніверсітэты. Вясковая дзятва змалку ўспрымала працоўныя ўрокі. Яны падмацоўваліся выхаваўчымі павучаннямі бацькоў: ніколі не крадзі і не бяры чужога, не лянуйся і не лежабочнічай, любі ўсё сваё, паважай старых, перад імі здымі шапку, павітайся.

Алёшка Скакун вельмі хораша ўпісаўся ў школьны расклад, бо ён быў сугучны дамашняму рытму. Яго вучылі настаўнікі, падобныя на бацькоў, добрыя і строгія, уважлівыя і патрабавальныя, таму іх урокі ўспрымаліся як праца, як патрэбная неабходнасць жыцця, як пэўная стартавая пляцоўка да жаданай мэты. Пра дарогу да яе, пра пачуцці сваіх аднагодкаў удала склаў верш Васіль Туркевіч з Моладава:

Хай шлях мой не будзе
І роўны і гладкі,
Сустрэнуцца, пэўна,
Няроўнасці ў працы,
А хочацца, хочацца,
Без перасадкі
Да станцыі важнай
У тэрмін дабрацца.

І ў Алёшы Скакуна адзін з лепшых здымкаў, які ён абнародаваў у раённай газеце «Чырвоная звязда», так і называўся «Дарога». На ім — заасфальтаваны ўчастак шляху, роўны і зіхатлівы ад сонца, з рэзкім паваротам управа. Паабапал дарогі — гонкія дрэвы з кучаравымі кронамі, а пад імі — зялёныя дываны маладой травы.

Бачыць вакол сябе прыгажосць і цаніць яе — гэтаму вучыла дзяцей настаўніца біялогіі Дастоеўскай сярэдняй школы Наталля Пятроўна Маеўская. Яе фотапартрэт я нечакана сустрэў у збуцвелых падшыўках раённай газеты за 1954 год. Доўга не мог адарваць позірк ад прывабнага твару, з крыху прытомленымі, чароўнымі вачыма.

Газета паведамляла, што настаўніца з Дастоева Наталля Пятроўна Маеўская вылучана кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. Па тым часе — гэта касмічнае ўзвышэнне. Паездкі ў Маскву, пасяджэнні ў Крамлі, сустрэчы з кіраўнікамі-багамі.

Далейшыя «раскопкі» біяграфіі Маеўскай пацвердзілі маю цікаўнасць да сельскай настаўніцы. Аказваецца, яна мая зямлячка, з вёскі Роўнае Рэчыцкага раёна. Перад вайной закончыла школу. Іх сям’ю эвакуіравалі ў Сталінградскую вобласць, і там Наталля працавала даяркай у саўгасе. Дзяўчыне з Палесся даверылі 25 кароў. Каб іх накарміць, напаіць, падаіць, даводзілася працаваць амаль круглыя суткі. Гэта быў яе ваенны подзвіг.

Пасля вызвалення Беларусі Наталля вярнулася ў Рэчыцу, закончыла педвучылішча. І ўжо Наталляй Пятроўнай, дыпламаванай настаўніцай прыехала ў Дастоева. У адным з класаў драўлянай школы мая зямлячка вучыла разумець прыроду, зямлю і ўсё жывое на свеце хлопчыка Лёшу Скакуна. Божа, як жа ўсё пераплецена, знітавана, пароднена ў чалавечых лёсах!

У класе, дзе вучыўся Лёша Скакун, было дваццаць восем вучняў. Усе яны надзейна пайшлі ў жыццё. У кожнага свой лёс, свая біяграфія. І усё-такі яны маюць нешта агульнае, стрыжнявое, чым мацуюцца трывалая жыццёвая пазіцыя, аптымізм, высакароднасць. Аснову гэтага трыадзінства заклалі бацькі і настаўнікі Дастоева. Яны, асабліва не дамаўляючыся, дзейнічалі ў адзіным правільным накірунку: падрыхтоўвалі дзяцей да самастойнага жыцця, загартоўвалі іх у працы. Эфект атрымаўся высокі.

— Мы ўсе ў класе былі моцнымі харашыстамі, — сцвярджае Іван Іванавіч Санько, які доўгі час узначальваў адзін з лепшых калгасаў на Навагрудчыне. — Менавіта з надзейных вучняў-харашыстаў атрымліваюцца добрыя кіраўнікі. Яны і справу сваю трымаюць на высокую адзнаку і самі растуць, удасканальваюцца, бо ўзнятую планку ведаў нельга апускаць...

Я прызнаўся Івану Іванавічу, што пішу кнігу пра яго аднакласніка Скакуна, дык ён вельмі парадаваўся гэтаму, але для пачатку пажартаваў:

— Разумны піша для забавы, а дурань чытае, бо цікава, — пасмяяліся разам і мой субяседнік сур'ёзна дадаў. — Я неяк адпачываў са Скакуновым калгаснікам, распытваю ў яго пра Аляксея, не прызнаюся, што мы аднакласнікі, дык ён мне і кажа: «Наш Скакун такі — няма чалавека, якога б ён не ўгаварыў, і няма такой справы, якую б ён не вырашыў».

Іван Іванавіч, на жаль, страціў ногі з-за хваробы, але яго жыццялюбству можа пазайздросціць багата хто з дужымі нагамі. Ён весела, з жартамі прыгадвае школьныя годы. І засяроджваецца на танцах:

— Валодзя Шык і Вася Вакульчык ігралі на баяне. Я крыху — на скрыпцы. Умелі адпачываць нармальныя харашысты! Асабліва любілі танцаваць вальс...

Уяўляю, гучыць школьны вальс. Пад яго плаўную мелодыю кружацца маладзенькія пары. Лёша Скакун узбівае пяцярнёй сваю густую чупрыну, як бы сам сабе надае смеласці, адважна падыходзіць да купкі дзяўчат, рашуча працягвае руку сваёй прывабнай суседцы Валі. І рамантычная пара паляцела ў прастору чароўнага вальса. Можна павольна кружыцца, можна падабраць іншы рытм для свайго настрою. Можна слухаць мелодыю музыкі і спеў свайго сэрца, адчуваць подых і позірк партнёршы. Божа, ты — малады, а наперадзе — вечнасць! Вырываецца з душы паэзія, як у Скакуновай зямлячкі Жэні Янішчыц:

Мне сягоння — сямнаццаць,
Ахмялеўшай бягу за ваколіцу,
А ў вялікіх вачах — сінеча...
Ах, а вецер сустрэчны колецца
І на вуха аб нечым шэпча.
Сэрца радасцю нейкай поўніцца
І, здаецца, парве вось грудзі...

### 4. Раманавы дзеці

Рыба клюе ў таго, хто цярпліва чакае яе. Суладдзе ў лёсе спаткае той, хто вельмі жадае яго.

Каб такое адбылося, лічыць Аляксей Скакун, трэба адчуць смак поту, настырнасці і веры. Трэба набыць разуменне таго, як дбаем, так і маем, хто добра робіць, таму Бог не шкодзіць.

А дырэктар дастоеўскай школы Макалай Паўлавіч Раманаў нястомна любіў паўтараць вучням усіх класаў:

— Цяжэнная гэта ношка — нарадзіцца і навучыцца жыць. Але ж яе мусім узваліць на свае плечы. Рызыкуйце! Што-небудзь ды збудзецца, кім-небудзь ды станеце!..

Па наводцы Скакуна шукаю ў Мінску кватэру, дзе цяпер жыве былы кіраўнік дастоеўскіх школьнікаў Мікалай Раманаў. Так і хочацца вымаўляць яго імя Мікалай Першы, бо сярод дырэктараў школы з дынастыі Раманавых ён быў першы і адзіны.

З дастоеўцамі Мікалай Паўлавіч пражыў трыццаць сем гадоў. Прыехаў выпускніком Магілёўскага педінстытута. У школе быў географам, завучам і дваццаць восем гадоў дырэктарам. Тут ажаніўся з настаўніцай рускай мовы і літаратуры Людмілай Леанідаўнай, тут з ёй займелі дачок Таццяну і Надзею.

З хваляваннем націскаю на гузік званка ў кватэру № 123 па вуліцы Бурдзейнага. Як сустрэне дастоеўскі пенсіянер? Што новага раскажа пра вёску,

школу, людзей? Якіх фарбаў дадасць да партрэта майго героя Аляксея Сцяпанавіча Скакуна?

На парозе — высакаваты, падцягнуты мужчына. З лагодна-ласкавым, настаўніцкім тварам, з застылай усмешкай на вуснах. Прыветліва запрашае ў кватэру, відаць, чакаў сустрэчы, жадаў яе і яму ёсць што сказаць.

Калі прыселі на канапу, каля якой ужо стаялі на століку фрукты, пячэнне, чай, Мікалай Паўлавіч як бы для прадстаўлення сябе прыгадаў верш Аляксандра Твардоўскага:

Я вырос в захолустной стороне,
Где мужики невесело шутили,
Что ехало к ним счастье на коне,
Да богачи его перехватили...

Макалай Паўлавіч з першай хвіліны, па-свойску даверліва павёў гаворку:

— Я ў нашай сям'і — замыкаючы, пятае дзіцё. З беднай, але багатай на людзей хаты. Бацька служыў землякопам, дома рэдка бываў. А як вернецца з заробкаў, усё расказваў пра рэкі, рэчачкі Беларусі, на якіх ён бываў. Веру, яго аповеды падштурхнулі і мяне стаць географам. А выхоўвала ўсіх нас мама — разумная, патрабавальная, справядлівая. Яе навука простая і мудрая: не бяры нічога і не бойся нікога, не ганьбі роду свайго.

Пагаджаюся з маім субяседнікам, што такія мамы былі амаль ва ўсіх вясковых дзяцей. Такая мама, маўклівая і гарушчая, выхоўвала і Аляксея Скакуна.

— Я рана прыкмеціў гэтага хлапца, — прызнаецца Мікалай Паўлавіч. — У ім змалку ўжылася пэўная мужчынская надзейнасць. Ён быў паслухмяным, але просьбы выконваў абдумана, з сялянскай развагай. Адчувалася, у ім фарміруецца мужык, верны зямлі і свайму радаводу.

Мікалай Паўлавіч быццам узлятае з канапы, вокамгненна адчыняе кніжную паліцу, дастае адтуль жаданую кнігу і не можа прыхаваць бурную радасць:

— Во кніжка Аляксеева!.. Слухайце, што ён напісаў мне на ёй: «Паважаны Мікалай Паўлавіч, я вельмі ўдзячны за выхаванне, вучобу і падрыхтоўку аграрніка Скакуна. Усё жыццё мяне вучылі і вучаць людзі маёй вёскі. За гэта нізкі паклон ім!..»

Раманаў кладзе кнігу на калені, як бы яе аўтар, яго былы вучань павінен прысутнічаць тут і слухаць далейшыя развагі свайго настаўніка.

— Канешне, нашы дзеці, як і ўсе, раслі рамантыкамі. Яны марылі стаць лётчыкамі і касманаўтамі, вучонымі і дыпламатамі, але ж, паверце, існавала тады такая палітыка, каб сельскія дзеці засталіся на зямлі і слугавалі ёй. Агітка была простая: мілы той куток, дзе павязаны пупок. А яшчэ быў запушчаны на дзяржаўным узроўні камуністычны лозунг: «Дагнаць і перагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва!» — Мікалай Паўлавіч хітравата ўсміхаецца і дадае: — А што вы думаеце, і дагналі б, але дастоеўскія каровы чамусьці мала давалі малака, а ў гаспадарцы было ўсяго пяць аўтамашын, два дызельныя рухавікі, якія прыводзілі ў рух млын і пілараму...

Я ўжо ведаў, што ў Дастоева толькі пасля вайны прыйшоў у хаты электраток. Атрымліваецца, што чатыры класы Лёша Скакун вучыў урокі, чытаў падручнікі і пісаў пры газоўцы. І толькі будучы ў чацвёртым класе пачуў перадачы беларускага радыё. А бацька ўрэшце купіў яму веласіпед.

Як бы там ні было, але ж вёска ажывала, падымалася з каленяў, на якія яе паставіла разбуральная вайна. Патрэбна была маладая кроў у сельскія

жылы. І галоўным донарам у гэтай высакароднай справе выступіла сельская школа. У выпускных класах з'явіліся прадметы земляробства, жывёлагадоўля. На лета вучням выдавалі працоўныя кніжкі калгасніка. У верасні іх трэба было прад'явіць класнаму кіраўніку. Па рэспубліцы пракаціліся шумныя пачыны школьнікаў: «Усім класам — на ферму!», «Жывеш на сяле — любі зямлю!»

— Адным словам, школа ўзяла на сябе абавязак — выхоўваць у дзяцей пачуцці мужыка, гаспадара вёскі і свайго лёсу, — падсумоўвае нашу гаворку Мікалай Паўлавіч і прыгадвае некаторыя ўрокі таго часу. — Помню, ва ўсіх класах правялі літаратурна-мастацкія вечары па вершах Янкі Купалы і Якуба Коласа «Мужык». Дзеці чыталі на памяць гэтыя шэдэўры, разыгрывалі цэлыя спектаклі, уступалі ў дыскусію: хто ёсць сапраўдны мужык на сяле, як ім стаць, што для гэтага трэба рабіць?

Макалай Паўлавіч, можа, нечакана для самога сябе пачаў цытаваць Янку Купалу:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык...

Тагачасны мужык не ўмеў чытаць, пісаць, толькі вечна араў, сеяў, касіў, малаціў. Чаму такі цярплівы беларускі мужык, чаму моўчкі глытаў салёныя слёзы? Бо яму трэба было здабываць хлеб для вялікай сям'і, здабываць, лічы, уручную, пад лапату, плужок, касу. Але гэты мазольны працаўнік меў галоўнае — чалавечы гонар.

Неадукаваныя дастоеўскія мужыкі вечна потам здабывалі хлеб, але ж паводзілі сябе і жылі дастойна. Хіба гэта не бачылі іх дзеці? Хіба не ганарыліся імі? Хіба не спачувалі бацькам і хіба не снілася ім лепшая доля?

— Помню, быў я ў класе трэцім, — расказваў мне Аляксей Сцяпанавіч, — прыходзіць з фермы бацька і свеціцца ўвесь, як сонейка на Вялікдзень. Кажа, яму даручаюць везці калгаснага бычка ў Маскву, на Усесаюзную выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі. Як жа мы зайздросцілі яму і ганарыліся ім! І павезлі таго бычка на машыне ў сталіцу ўсіх сталіц. Назад бацька вярнуўся з медалём выстаўкі. Даў усім нам, дзецям, патрымаць яго ў руках.

Аляксей Сцяпанавіч Скакун, які цяпер сам мае медалёў і ордэнаў на ўсе грудзі, прыгадвае той бацькаў медалёк, як нешта самае важнае ў сваім жыцці. Можа, тады ён прыняў сваё самае знакавае рашэнне — працаваць на зямлі? Можа, тады ўстанавіў для сябе рэкордную планку сялянскай вышыні? Можа, тады, незалежна ад яго самога, на сподзе душы асела жаданне вырасці зусім новым, адукаваным мужыком, які стане чалавекам звацца?

Гэта дзіўнае жаданне, як вуглі пад попелам, умела раздзімалі ў зыркае полымя настаўнікі школы. На прышкольным участку яны прывучалі дзяцей да правільнай аграноміі. Трэба было ўмець кіраваць школьным трактарам. За яго рычагі садзіліся і хлопчыкі, і дзяўчынкі. Усе павінны былі ўмець пасадзіць яблыню, адгабляваць дошку, змайстраваць шпакоўню.

Аднойчы Лёша Скакун, будучы яшчэ падлеткам, пад'ехаў да хаты на гусенічным трактары ДТ-54, прытармазіў, вытырнуўся з кабіны:

— Мама, глядзі!.. Сам прыехаў!..

— Сыночак, хто ж табе даў гэтага каня? — узрушылася Вера Пракопаўна.

— Дзядзька Міша. Прыехаў на запраўчную да таты, а я круціўся там, папрасіў пракатацца... Даверыў!

— Божа-Божа, ні ў салдаты, ні ў матросы, адно змазваць калёсы...

Лёша не пачуў маміну прыказку, націснуў на газ і павёў сталёвую машыну да яе гаспадара. У такія імгненні, відаць, і загартоўваліся пачуцці гонару, як у Купалавага мужыка:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

Мой субяседнік Мікалай Паўлавіч Раманаў, як найвопытнейшы педагог, скіроўвае нашу гаворку яшчэ на адну важную тэму. Ён хутка знаходзіць сярод сваіх архіўных папер жоўты трактат і давярае яго мне:

— Во, пры бяссонні пісаў!.. Тут і пра школу, і пра вучняў, і крыху пра сябе...

Трымаю ў руках аповед бацькі пра ўсіх дастоеўскіх вучняў. Уборыстым, ахайным почыркам спісаны дзясяткі аркушаў паперы. На кожнай старонцы — пяцьдзясят пяць радкоў. Так во эканомна засяваў белае поле дастоеўскі летапісец. Ён падказаў мне, на што звярнуць асаблівую ўвагу:

— Разумееце, мы, настаўнікі геаграфіі, узварушылі гісторыю вёскі і даказалі, што радаводныя і духоўныя карані славутага Фёдара Дастаеўскага знаходзяцца тут, у нашым Дастоеве. Нам удалося разам з дзецьмі сабраць унікальныя экспанаты для школьнага гісторыка-краязнаўчага музея. Мы выйшлі на ліставанне з унукам пісьменніка Андрэем Фёдаравічам Дастаеўскім. Урэшце, нашай школе прысвоілі імя Дастаеўскага. І ўсю выхаваўчую працу скіравалі на яго неўміручыя творы, на яго філасофію жыцця...

Мікалай Паўлавіч прыгадвае, як аднойчы на школьным вечары, ён «узяў на вока» вучня Лёшу Скакуна. Той быў нечым заклапочаны, сядзеў задуменны і невясёлы. Дырэктар і вучань тады шмат пра што пагаманілі. І Раманаў даў Лёшу Скакуну прачытаць кнігу Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага «Бедныя людзі».

Быць дастойнымі Дастаеўскага — вось якую высокую планку ўзялі па тым часе настаўнікі дастоеўскай школы. Тут давалі зразумець кожнаму вучню, што Дастаеўскі — акіян ведаў і для іх пазнання патрэбна цэлае жыццё. Тут умелі вакол адной фразы пісьменніка правесці ўрок, дыскусію, субяседаванне. Мікалай Паўлавіч Раманаў у свае 82 гады напружыў памяць і выдаў некалькі афарызмаў Дастаеўскага, якія ён умела растлумачваў, даводзіў вучням. Дарэчы, пазней я праверыў тую мудрасць па кнігах пісьменніка. Сышлося слова ў слова. Дык вось на якіх жыццёвых высновах Фёдара Дастаеўскага-пісьменніка выхоўвалі дастоеўскіх вучняў:

«Не сильные лучше, а честные. Честь и собственное достоинство — сильнее всего»;

«Тот, кто не понимает своего назначения, всего чаще лишен чувства собственного достоинства»;

«Кто не любит природы, тот не любит человека, тот не гражданин»;

«Свобода не в том, чтобы сдерживать себя, а в том, чтобы владеть собой»;

«Богатство, грубость наслаждений порождают лень, а лень порождает рабов»;

«Надо любить жизнь больше, чем смысл жизни. Чтобы любить друг друга, нужно бороться с собой».

Раманаў, адчувалася, кожным разам, калі прыгадвае школу і вучняў, а гэта, веру, бывае штодня, заўсёды адчувае свята душы. І тая наша сустрэча ў яго мінскай кватэры стала святочнай. Падчас зацікаўленай гамонкі ён выдаў і свае афарызмы, якія нарадзіліся ў дастоеўскай школе:

— Дзяцей павінен абудзіць званочак ведаў... А педагог павінен заўсёды захоўваць тактоўнасць, чуласць да дзіцяці, падтрымліваць яго карысныя ініцыятывы, быць гатовым у любы міг прыйсці яму на падмогу. Выхаванне душы вучня — галоўны клопат кожнага, хто пераступае парог класа. Аптымізм чалавека, які ідзе ў жыццё, павінен будавацца не на веры, што ўсё будзе добра, а на перакананні, што не ўсё будзе дрэнна...

У свой час, на 150-гадовы юбілей Фёдара Дастаеўскага, у дастоеўскай школе пабывалі вядомыя беларускія пісьменнікі Аляксей Зарыцкі, Анатоль Астрэйка, Рыгор Няхай, Міхась Рудкоўскі, Яўгенія Янішчыц. Тую сустрэчу помніць і Аляксей Скакун. Ён нават помніць заключныя радкі верша Анатоля Астрэйкі:

Дастоева! Паклон табе наш нізкі,
Праз паўтараста год цябе вітае свет,
Ты класіка сусветнага калыска,
Якога на зямлі не знікне след.

Не знікае «след» Дастаеўскага ў дзяцей Раманава. І ў тым іх сіла і краса, што яны праносяць па жыцці памяць пра свой чароўны край, які даваў і дае ім вялікае права людзьмі звацца.

### 5. Атэстат даросласці

Была субота. Стаяў спакойны ліпеньскі дзень. Сонца, здаецца, застыла, прыпынілася над дастоеўскай школай. Медным голасам зазвінелі званы царквы-суседкі. Павесялеў твар бронзавага Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага, якому прывольна сядзіцца каля школьных елак-свечак.

Ажыла, абудзілася канікульная школа. Тут сабраліся вучні, якія сорак шэсць гадоў назад атрымалі атэстат сталасці. Ды не проста былыя выпускнікі, а аднакласнікі, менавіта таго класа, у якім вучыўся і Аляксей Скакун.

Вучнёўская сталоўка ператварылася ў залу для высокіх прыёмаў. Сталы выцягнуліся ў клічнік. На іх — не кісельна-кампотныя забавы, а сур’ёзныя закускі, напоі. Убачылі ўсё гэта былыя вучні, і пасыпаліся, пакаціліся ўспаміны:

— Ой, помніце, як на выпускным елі кісель, перадавалі міску і аблілі маё святочнае плацце, — прыгадала Марыя Скакун.

— А я, дзяўчаты, была тады ў белай сукенцы-капрон з ружовымі рамонкамі, Алёша ў чорным касцюмчыку, пры гальштуку, — запомніла Валя Замойская.

— Узыход сонца пайшлі сустракаць ва ўрочышча Бэбкава. Здаецца, у той раз сонца ўзыходзіла толькі для нас, — задумліва сказала Ксеня Кухарчук.

Ніхто пакуль не жадаў садзіцца за накрытыя сталы. Прыселі на крэслах паўкругам і палілася гамонка пра ўсе пражытыя гады. На сустрэчу сабраліся людзі, якія пасля школы прайшлі і станаўленне, і ўзвышэнне, і прызнанне. І кожны, як сказаў былы ветурач Пётр Калядзіч, размножыўся ў сваіх дзецях, унуках.

У рапартах адзін аднаму ўсе пацвердзілі: пражылі прыстойна, чэсна зарабілі пенсію і сумленне сваё нідзе не разгубілі.

Віктар Базан крутнуў заснежанай галавой, на чырванашчокі твар ускочыла ўсмешка:

— Прэтэнзій да жыцця не маю. І да маёй фірмы ў Кобрыне рэвізоры не чапляюцца. Слава Богу!..

Ліда Брыгадзіна, доктар навук, аўтар падручнікаў па беларускай мове, выкладчыца БДУ нагадала:

— У той год, калі мы пступалі вучыцца, быў конкурс па пятнаццаць чалавек на месца. Мы паступілі! Настаўнікі далі нам трывалыя веды, а бацькі загартавалі ў працы.

Лідзія Іванаўна Брыгадзіна як вопытны педагог адчула, што яе хочуць слухаць, і словы споведзі паліліся з яе вуснаў:

— Цяпер я ведаю, ёсць на свеце ўсяго толькі дзве катэгорыі людзей. Адны хочуць *быць*, другія хочуць *мець*. Мы, дастоеўцы, з катэгорыі быць. Таму і некім сталі ў жыцці. Вось побач з намі сядзіць Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Пры ўсёй сваёй занятасці, ён сёння з намі, больш таго, ён адзін з завадатараў гэтай сустрэчы. Лёша сядзеў у класе ад мяне па дыяганалі. У яго была заўсёды прывабная чупрына. Сціплы. Стрыманы, крыху як бы замкнуты, але ж во якая энергія бруілася ў ім. Ён стаў адным з вядомейшых мужыкоў у Беларусі. Ён зрабіў сябе сам. Адкуль такая сіла ў яго? Можа, ад таго, што ўмее адчуваць прыгажосць, умее бачыць кветачку, яблыневую квецень, гаманлівую бярозку?

— Ай, хваліце ды не перахвальвайце, — не ўстрымаўся Аляксей Сцяпанавіч. — Ён дастаў з кішэні паперку, якую прыхапіў з сабой на ранішняй нарадзе і адрапартаваў сваім аднакласнікам: учора за адзін дзень у нашым «Астрамечава» намалацілі сто пяць тон зерня, нарыхтавалі чатырыста дваццаць восем тон сенажу, з пяцідзесяці гектараў звезлі салому і надаілі пяцьдзясят адну тону малака. Так што, сябры, можна гуляць!..

— Пара за стол, — падхапіў прапанову свайго сябра Іван Іванавіч Санько і першым падняўся з крэсла. На пратэзах, без усялякіх мук, ліха прайшоўся па зале да накрытых сталоў. Пры гэтым паспеў выдаць свой жартоўна-паэтычны экспромт:

Если не будем пить,
Застынет ум.
И ты его ничем не отогреешь,
И наберется столько дум,
Что ты под старость одуреешь.

Весела, як пчолы квецень, абляпілі застолле. Загулі, загаманілі ўсе разам. Але Іван Санько зычным, камандзірскім голасам супыніў усіх:

— Сябры, нас у класе было дваццаць восем чалавек. Дванаццаць сёння ў школе. На нашы сустрэчы ўжо ніколі не прыедуць Таня Замойская, Насця Куцко, Лёня Шумак, Валодзя Шык. Памянём іх...

Усе ўсталі, і было чуваць, як на акне зумкае муха. У вокнах віднелася неба з высокімі белымі аблачынкамі, як бы то былі душы іх аднакласнікаў. Расчуліліся дарослыя дзеці. І ў гэты міг, як было і даўней, выручыла іх былая настаўніца Вольга Фёдараўна Бандарук:

— Сярод вас, дзеці, я заўсёды была свая. Хачу застацца такой і на сённяшняй сустрэчы. Яна, веру, дапоўніць маё жыццё новым аптымізмам. Хачу дажыць да прэзентацыі кнігі пра Алёшу, Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, хачу пабываць у яго казачным Астрамечаве. А пад тост хачу расказаць адну байку. Прыходзіць анёл да настаўніка, які толькі што прыбыў у Царства Нябеснае і аб'яўляе: «Ты крычаў на вучняў, ты муштраваў іх урокамі, ты трымаў іх у дысцыпліне, ты прымушаў іх перажываць і хвалявацца. За ўсё гэта — цябе ў пекла!» І толькі праз колькі гадоў анёл прызнаў сваю памылку, рэабілітаваў настаўніка і перавёў яго ў рай. Сябры мае, не адчайвайцеся і не бойцеся выносіць свае памылкі на запознены суд. Дабрыня — залатая валюта, нашых душ залаты запас. Вы з такой валютай прайшлі па жыцці. За вас — такіх! Вы — мая самая высокая ўзнагарода!..

Усе зноў усталі з крэслаў. Зазвінелі бакалы і чаркі.

Словы ўдзячнасці настаўнікам гаварылі Аляксей Скакун, Іван Санько, Ліда Брыгадзіна, Леанід Састраўчук, Віктар Базан, Галіна Шумак, Пётр Калядзіч, Марыя Скакун, Аня Санько, Ксеня Кухарчук, Валя Замойская.

А ў адказ ім выступіла былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Вольга Пятроўна Талкачова:

— Дарагія мае вучні, я рада за вас. Здаецца, на ўроках усё сказала, але зараз хачу прачытаць вам малітву: «Госпадзі, дай мне сілы змяніць у маім жыцці тое, чаго не магу змяніць.

Госпадзі, дай мне мужнасці і цярпення прыняць тое, чаго ў сваім жыцці я змяніць не магу.

Госпадзі, дай мне мудрасці на ўсё!»

Вольга Пятроўна міла ўсміхнулася, ёй было прыемна, што былыя яе вучні такія цямлівыя, сціпла-важныя. Яна звярнулася да Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, які сядзеў побач, з прызнаннем і нечаканай просьбай:

— Дарагі Аляксей, даруй, што я пакарысталася тваім імем. Званю ў сельсавет: скасіце траву ў двары, бо як іду — чапляюся. Адгаворваюцца: бензіну няма, не можам заправіць касілку. Цяпер жа касой мала хто ўмее махаць. Ага, дак я тых сельсаветчыкаў прыпужнула. Кажу, да мяне сенатар Скакун днямі завітае ў госці. Што ж ты думаеш, Лёша, знайшоўся ў іх бензін. Во як ты падмог настаўніцы!..

У зале прагучалі апладысменты, а Вольга Пятроўна вырашыла сарваць яшчэ адны, і выдала навіну, пра якую ведала і помніла:

— Сябры, сёння ў вернай спадарожніцы Аляксея Скакуна, былой нашай вучаніцы Валянціны — дзень нараджэння. Аляксей Сцяпанавіч у гэты дзень павінен быць дома, а ён — з намі. Звані, Аляксей, сваёй вернай спадарожніцы жыцця Валянціне Іванаўне!

Скакун набірае хатні нумар, і ўсе мы чуем голас шчаслівай бабулі:

— Я душой і сэрцам з вамі, але на руках — маленькі чалавечак. Гэта ўжо чацвёрты наш унучак. Добра, што сабраліся! Віншую, вы цяпер на незвычаным уроку ў школе!..

Вольга Пятроўна Талкачова зноў перахоплівае ініцыятыву, кліча да тэлефона Анатоля Бурака, дырэктара школьнага музея, і яго сябра-гарманіста. У зале, як з радыёрупкі, гучыць у далёкі эфір музычнае прывітанне Скакуновай жонцы Валянціне:

За твои руки нежные
И за ласки безбрежные,
За тебя, моя женщина,
Поднимаем бокал!..

Толькі закончылі спяваць, Аляксей Сцяпанавіч аб’яўляе:

— Слухайце, дык сёння спраўляе свой дзень нараджэння і мой сябар — касманаўт Пётр Клімук. Давайце павіншуем яго!

Скакун набірае маскоўскі нумар героя космасу Пятра Ільіча, віншуе яго, перадае прывітанне ад сваіх аднакласнікаў. Пераключае сотавік на гучную сувязь. Мы чуем голас касманаўта:

— Я рады, што вы сёння ўсе разам. Вернае сяброўства, якое вы мацуеце дзесяцігоддзямі, — добрая прыкмета вашай прыстойнасці, велічы. Дзякуй, што вы прынялі мяне ў свой клас!..

У гэты міг і мне хацелася дзякаваць лёсу, што я апынуўся разам з аднакласнікамі Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Было такое ўражанне, што прысутнічаю не на сустрэчы ветэранаў, а на іх выпускным вечары. Быццам яны во

толькі атрымалі свае першыя ў жыцці атэстаты, якія сведчаць пра іх дарослась і сталасць.

Позна вечарам, калі сонца памахала ўсім развітальнай каронай, неўтаймоўны Алёша Скакун (так усе яго называлі тым днём) запрасіў сваіх аднакласнікаў у бацькоўскую хату. Яго сёстры Марыя і Галя падрыхтавалі на зялёным дворышчы гасцінны стол. І зноў паліліся ў космас бясконцыя ўспаміны-напаміны: «А помніш?..» І зноў на ўсё наваколле гучалі песні і бясконцыя, дасціпныя жарты.

Раптам Аляксей Сцяпанавіч вынес вялізнае белае яйцо. Усе ахнулі. А ён патлумачыў:

— Наша астрамечаўская страусіха, са згоды свайго страуса, зрабіла нам во гэты падарунак. Мы павінны яго з’есці, каб яшчэ раз змацаваць і наша сяброўства, і наша адзінства, і займець жаданне на новую сустрэчу. Хай яна адбудзецца ў нашым Астрамечаве!

Прапанову Скакунову ўхвалілі, але ўзнікла праблема, як здабыць з яйца бялок і жаўток. Атрымлівалася, як у казцы пра курачку рабу. І дзед біў залатое яйка, і баба біла, і ўнучка біла. А Саша Радкавец, які прывёз свайго шэфа на радзіму ў Дастоева, адкрыў «ларчык» вельмі проста. З двух бакоў яйка прабуравіў дзірачкі і выдзьмуў з яго яешню ажно на тры патэльні. Усяму застоллю хапіла страусінага ласунку. Пад яго прысмакі хораша было ўсім ажно да поўначы.

Начавалі ў Скакуновай хаце. Аляксей Сцяпанавіч у пакоі, дзе спаў у дзяцінстве. Галя, яго сястра, заняла маміна месца — за печчу. А мне паслалі ў святліцы, на канапе. З покуці пазіралі на мяне Маці Божая з Ісусікам і Мікола Чудатворац. З рамак на сценах віталі гаспадары хаты — Вера Пракопаўна і Сцяпан Васільевіч. Усё тут нагадвала пра іх былую жытку. І мне ўсю ноч не спалася. Думаў пра вялікага Сейбіта, Аратага, Гаспадара на зямлі Аляксея Скакуна, які вырас, узгадаваўся во ў гэтай хаце.

Як толькі пасвятлелі вокны, як толькі ў іх пастукаўся досвітак новага дня, я мячыкам падскочыў з канапы, выйшаў на вуліцу. За Скакуновым дворышчам, там, дзе быў хлеў з каровай, дзе стаіць і цяпер пустая пуня, — узыходзіла сонца. Вераб’і жвава «малацілі» загончык пшаніцы. Са старых яблынь час ад часу шлопалі ў траву маладыя яблыкі. З градак весела пазіралі ў неба цыбуля і часнок, кусты клубніц, раскошныя карчы гарбузіння, гуркоў. Малайцы Скакуновы дзеці, падтрымліваюць жыццё ў хаце, у двары, у агародзе. Як жа гэта ўсцешна і прыстойна, што яны з адыходам бацькоў у Царства Нябеснае, не даюць загінуць іх хаце.

Пакуль хадзіў па Скакуновым дворышчы, сонца ўзбралася ўжо на яблыню. Ціўкалі вераб’і. Цішыню разарваў клёкат буслоў. Па вуліцы праехала на белым кані малаказборшчыца. Вёска Дастоева абуджалася.

Прачнуўся і Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Новы дзень пачаў са званка ў дыспетчарскую Астрамечава. Яму даклалі пра здабыткі мінулага дня. Твар старшыні пасвятлеў. Ён ухапіў мамін саматканы ручнік і пакіраваў да калодзежа з халоднай вадой. Пры гэтым, не быў бы Скакун, кінуў мне жартаўлівую рэпліку:

— Гразь не сала — пацёр і адстала...

## 6. Гродзенскія вёрсты

Сам Іосіф Сталін падпісаў у Крамлі пастанову Савета Міністраў СССР № 145 «Аб арганізацыі сельскагаспадарчага інстытута ў г. Гродна Беларускай ССР».

Здзейснілася гэта падзея 17 студзеня 1951 года.

Лёшу Скакуну было тады амаль пяць гадоў.

Праз трынаццаць гадоў Аляксей Скакун, выпускнік Дастоеўскай сярэдняй школы, прывёз дакументы ў Гродна. Гэта была самая далёкая і самая адказная паездка з дому.

Куды ж яшчэ мог кінуць вуду лёсу сын селяніна, як не ў вучэльню, дзе рыхтуюць спецыялістаў для працы на зямлі. Жаданне стаць «Ходасам», пасеянае ў маленстве, узмацнілася і ўзрасло ў юнацтве. Так што ў Гродна ехаў не проста Лёша з Дастоева, у ВНУ прабіваўся падрыхтаваны ўжо абітурыент. І не дзіўна, што яго там прыкмецілі, прынялі ўступныя экзамены і залічылі ў студэнты.

Вось тут і адбылася першая сур'ёзная сустрэча былога старшыні калгаса Ходаса і студэнта Аляксея Скакуна.

Здаецца, не цягніком, а на крылах самога Пегаса прыляцеў Аляксей у Дастоева з Гродна. Паступіў вучыцца! Радаваліся бацькі, настаўнікі, усе дастоеўцы. Пайшоў натхнёны студэнт у сельсавет, дзе ў той час працаваў Ходас, просіць:

— Мікалай Якаўлевіч, дайце даведку, я пашпарт павінен атрымаць.

— Не дам, у калгасе патрэбны работнікі. Уздумалі з'язджаць з дому, — буркнуў старшыня.

— Мікалай Якаўлевіч, я паступіў у інстытут!..

— Я і без інстытута кіраваў калгасам, — не здаваўся Мікалай Якаўлевіч.

Выйшаў Аляксей з сельсавета з настроем, нікуды не вартым. Ходас нават не павіншаваў яго, па-дурному ставіць палкі ў калёсы. Не, не такім Ходасам трэба вярнуцца ў калгас. Стаіць у роздуме Аляксей, а тут да яго падыходзіць Мікола, сакратар сельсавета, дый кажа:

— Я ўсё чуў. Ходас абавязаны даць табе даведку. Едзь да раённага начальства!..

Лёша ўскочыў у маршрутны аўтобус і пакаціў у Іванава.

Вяртаецца адтуль, а Ходас сустракае яго на прыпынку:

— Ідзема ў сельсавет, даведка ўжо гатова.

Ходас вінавата працягнуў Аляксею патрэбную паперу і грошы за праезд:

— Сказалі з райвона, каб я аплаціў табе дарогу.

Аляксей асмялеў, расхрабрыўся і сказаў тое, што сядзела ў душы:

— Дзякуй, дзядзька Ходас, і за даведку, і за грошы. Дык мо і за дровы разлічыцеся, што я вам прывозіў?..

Ходас дастаў з кішэні яшчэ два рублі:

— На!.. Толькі вучыся добра!..

З пашпартам, як паўнацэнны грамадзянін, паехаў Аляксей Скакун у Гродна, у горад старажытных храмаў, замкаў, сярод якіх нястомна бруіцца задумлівы Нёман.

Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут знаходзіўся амаль у цэнтры горада. На Акадэмічнай вуліцы. Гэта быў адзін з уцалелых пасля вайны старых будынкаў, у якім напачатку дваццатага стагоддзя працавала рэальнае вучылішча, а пасля ў ім сядзелі партыйныя чыноўнікі абласнога звання.

Па тым часе ў інстытуце існавалі два факультэты, на іх рыхтавалі аграномаў і заатэхнікаў. Аляксей адчуў, што прафесія заатэхніка яму бліжэй. Бацька доўгі час рабіў загадчыкам фермы і ён, лічы, быў яго баявым намеснікам. А ў старэйшых класах, са згоды старшыні нават замяняў бацьку, калі той некуды адлучаўся. Яму давяралі ферму на 180 кароў.

У інстытуце на выкладчыцкія пасады былі сабраны практыкі і вучоныя амаль з усяго Савецкага Саюза. Паважаныя і аўтарытэтныя людзі, многія з іх прайшлі вайну і добра ведалі кошт хлебу, волі, уцалелым дзецям. Сам рэк-

тар Цімашынін Валянцін Дзмітрыевіч насіў ордэнскія калодачкі ў тры рады. Юрый Рыгоравіч Ягораў прыходзіў на лекцыі ў пінжаку, на якім паціньквалі, як званочкі, пяць баявых ордэнаў, мноства медалёў. З ветурача пачаў свой шлях у навуку Аляксей Васільевіч Бугакаў. Ён не мог ацаніць веды студэнтаў на «нездавальняюча», але гэта не азначала, што яны карысталіся яго незвычайнай павагай да іх. Дабрыня і прынцыповасць вельмі хораша спалучаліся ў ім. І Аляксей Скакун пераняў менавіта ад яго такую якасць сваіх зносін з людзьмі.

Першы выпуск гродзенскіх сяльгаснікаў вітаў сваім узнёслым вершам вядомы паэт Беларусі Міхась Васілёк:

У пульхную глебу
Вам кідаць зярняты,
Размову весці
З залацістым калоссем.
Каб потым дзівіцца
Ураджаем багатым
Штогод магла наша
Калгасная восень.

Выпускнікоў гродзенскага інстытута віталі не толькі творчыя людзі. Іх чакала ўся краіна, яны, як паветра, патрэбны былі калгасам і саўгасам, перад якімі ўжо стаяла новая задача: не дагнаць і перагнаць Амерыку па мясе і малаку, а проста ўдосталь накарміць сваіх людзей, каб перасталі зайздросціць закардоннай заможнасці.

Студэнтам-сяльгаснікам у Гродне ўдзялялі самую пільную ўвагу. Яны праходзілі практыку ў былой летняй рэзідэнцыі караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, на базе якой арганізавана вучэбная гаспадарка «Станіслававa». Тут жа пазней збудавалі галоўны корпус інстытута, будынкі кафедры механізацыі і электрафікацыі, інтэрната, сталовай.

І трэба прызнаць, што выкладчыкі і студэнты апраўдалі давер улады. У сённяшнім музеі гісторыі інстытута расказваюць пра высокі ўзлёт сваіх выпускнікоў. Сярод іх вядомыя людзі: міністры і акадэмікі, старшыні калгасаў — Героі Сацыялістычнай Працы і дыпламаты, дзяржаўныя дзеячы Беларусі. У іх пераліку абавязкова згадваюць і Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, праслаўленага калгасніка з Астрамечава.

Тыя пяць гадоў (1964—1969), праведзеныя ў Гродне, сталіся для Аляксея Скакуна своеасаблівым трамплінам да вядомасці. Як пчолка старанна з раніцы да вечара збірае нектар на кветачках, так і Аляксей шчыраваў усе гады студэнцтва.

Ён найперш абагачаў сябе сучаснымі ведамі па земляробстве, жывёлагадоўлі. Усё хацелася ведаць, да ўсяго дайсці самому і зразумець. Адчуваў, душа, як колас зернем, наліваецца любоўю да зямлі, да свайго поля. Да гарадскога жыцця, як і да магазіннай яды, так і не прывык за пяць гадоў. Аляксееву прымаўку ведалі многія ў інстытуце: «Хлопцы, хто бульбы і сала не з’еў, той галодны чалавек».

А «гімн селяніну» нямецкага паэта Ганса Грымельсхаўзена ведаў на памяць і часта паўтараў сябрам у інтэрнаце:

На всей земле,
Во все века,
Клянут и давят мужика,
Но всё, что пьём мы и едим,
Добыто не тобой, а им.

Пакой, у якім жыў Аляксей Скакун, славіўся ці не на ўвесь інстытут. Цудоўную пяцёрку складалі апантаныя рамантыкі, неўтаймоўныя актывісты, сяляне ад сівых радаводных каранёў да юнацкіх, заліхвацкіх чупрын. Той студэнцкі здымак з сябрамі ўпрыгожвае цяпер Скакуноў кабінет і бацькоўскую хату. На ім — Уладзімір Хамутоўскі, які напрыканцы жыцця напісаў выдатныя кнігі пра сваю радню, адвечных мужыкоў; Іосіф Вількашынскі, Аляксей Лушчыц, Іван Рытус, якія бязмежна цанілі жыццё і ведалі, што зямля не любіць, калі з ёй гуляюць у любоў.

Хлопцы разам выходзілі на студэнцкую лыжню. Разам наведвалі вечары адпачынку, зацікаўлена вывучалі старажытны Гродна. Любілі бываць на крутым беразе Нёмана, на якім з 1180 года стаіць Каложская царква. Уздымаліся на Замкавую гару, на якой некалі ў сваіх палацах бавілі час вялікія князі Аляксандр, Вітаўт, слынныя каралі, цары, палкаводцы.

Аляксей з сябрамі дакапаліся нават да тайнаў гарадскога герба, на якім ушанаваны высакародны алень. Залаты, сонечны крыж увенчвае хутканогага звера, які быццам ляціць у блакітнай прасторы. Элегантны і мускулісты, ён лёгка пераадольвае плеценую срэбную агароджу. Што гэта ўсё азначае? Аказваецца, асноўным заняткам гараджан некалі было паляванне. Лавілі дзікіх звяроў з дапамогай агароджаў, лоўчых ям, засад. Калі алень перасягаў цераз тыя перашкоды, то станавіўся вольным. Такімі ж вольналюбівымі хацелі заўсёды быць і гарадзенцы. Іх жаданне ўвасоблена ў гербе.

Гродзенскія вёрсты ўзвышалі, натхнялі, напаўнялі розум Аляксея Скакуна новым зместам. А душа яго заўсёды рвалася ў Дастоева, у родны кут, дзе бацькоўская хата, а праз двор — хата чароўнай дзяўчыны Валі.

Кажуць, найперш ад бацькі і маці дзеці адчуваюць пачуццё сваёй Радзімы. І ўсё залежыць ад таго, якія пачуцці пераняты ад іх. Здаецца, бацькі Аляксея не вельмі актыўна і навязліва выхоўвалі гэту любоў. Але ж чаму тады не толькі падчас канікулаў, а на ўсе святы, амаль на ўсе выхадныя Аляксею хацелася ўздымаць ветразі сваёй душы і ляцець у Дастоева? Праўдзіва кажуць землякі: няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Ён і на практыку папрасіўся на бацькаву ферму. Ведаў, яму даверацць усю гаспадарку, ён будзе там не дылетантам-тэарэтыкам, а гаспадаром.

І ўсюды Аляксей не разлучаўся са сваім фотаапаратам. Цяпер, дзякуючы тым, ужо далёкім, архіўным здымкам, можна ацаніць, убачыць, адчуць крыху задумлівага, строгага, не па гадах сур'ёзнага юнака Аляксея Скакуна. З-пад яго шырокіх, смалістых броваў пазіралі пранікнёныя, глыбокія вочы. Яны, адчувалася, хацелі разгадаць заўтрашні дзень, і з дапамогай фотааб'ектыва прыпынялі прыгожыя імгненні навакольнай явы.

У Аляксея па тым часе з'явіўся першы пляменнік Сашка, сынок яго сястры Марыі. Ён стварыў пра яго цэлы лірычны фотарэпартаж і надрукаваў у раённай газеце «Чырвоная звязда». Да здымкаў, на якіх Сашка ў камбінезончыку бяжыць па шырокай дарозе, вясёлы Сашка ў мамы на руках і Сашка з дубальтоўкай, Аляксей зрабіў такія подпісы:

«Якая сонечная раніца. Па шырокай дарозе бяжыць Сашка, хоча дагнаць машыну, хоча сам стаць шафёрам. У яго нават ужо ёсць камбінезон».

І вось Сашка на маміных руках: «Ах ты, мой свавольнік. Ніяк не злаўлю цябе, каб пакарміць». Яны радасна смяюцца.

Нарэшце Сашка заступае на варту «пагранічніка». У яго руках — стрэльба. Трэба «несці службу па дому».

Лірычныя здымкі Аляксея Скакуна расказваюць пра свет яго захапленняў, пра стан яго творчай душы. Вось увекавечаны маладыя шышкі-свечкі на сасне, Сашка ў высокім жыце, прысада з беластволых бяроз, «лясная цішыня», возера і хмара над ім, раскошныя цюльпаны ў агародчыку…

Так і хочацца пад гэтыя Аляксеевы здымкі перапісаць верш яго земляка Міколы Федзюковіча, які па тым часе часта друкаваў свае творы ў іванаўскай раёнцы:

У вёсцы, ведама,
пішу — як дыхаю,
пад зумкат пчол,
пад клёкат буслянят…
Ні балбатні пустой,
ні смеху дзікага —
у вёсцы кожны справаю занят.
У вёсцы, не сакрэт,
мы без прынукі
арэм,
стагуем,
і гарэлку п’ем.
А вечарам —
гармонікі ў рукі
і песні задумённыя пяем.
У вёсцы, не сакрэт,
бывае горасна, бывае зябка
таму, хто,
раз паснедаўшы ў горадзе
гаворку родную забыць паспеў.
У вёсцы, не сакрэт,
жыве каханая…
Мне з ёю
летняй ноччу не да сноў…
Прачнецца маці,
будзе да святла яна
ўздыхаць шчасліва:
«Ах, сынок, сынок…»

У вёсцы Аляксей Скакун вучыўся цярплівасці ў зямлі. У інстытуце загартоўваў нецярплівасць, рыхтаваў сябе не да імгненных поспехаў. Зразумеў адну ісціну: жыццё пражыць — не поле перайсці, пражыць жыццё — не разлучацца з полем.

Я меў асалоду пабываць у гродзенскім інстытуце, у якім вучыўся Аляксей Скакун. Цяпер ён называецца Дзяржаўным аграрным універсітэтам. Багата чаго змянілася з той пары, калі тут вучыўся Алёша з Дастоева. Ёсць новыя факультэты, кафедры, на ўзбраенні студэнтаў — камп’ютарная тэхніка, лепшы сусветны вопыт земляробства. А дух вучэльні, патрабаванні да студэнтаў адны і тыя ж: любі зямлю, знайдзі сваё месца на ёй, вырасці свой колас!

Прыклад ва ўсім паказвае рэктар універсітэта Песціс Вітольд Казіміравіч. Ён — слынны вучоны, які мае сваю навуковую школу, высока ацаніў выпускніка Скакуна:

— Мы з Аляксеем Сцяпанавічам разам засядаем у Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу. Як члены-карэспандэнты Нацыянальнай акдэміі навук удзельнічаем у агульных пасяджэннях. Магу цвёрда заявіць, што ён — прыроджаны хлебароб. Умее радавацца і не ўмее зазнавацца. Гаворыць, як калёсы коцяцца па брукаванцы, словы звонка перакочваюцца, далёка чуваць. Любіць жартаваць і ўмее маўчаць, а вось і дрэнна і мала рабіць — не ўмее. Адным словам, гуляць, дык гуляць, страляць, дык страляць — гэта пра Скакуна. Даражу нашым сяброўствам. Ганаруся, што ў нашым ВНУ адточваў свае алмазныя грані такі чалавечы самародак як Аляксей Сцяпанавіч Скакун!..

## 7. Армейскія пагоны

Аўтобус, у якім ехаў са звальнення армеец Скакун, запоўнілі сельскія жанчыны. Аляксей з цікавасцю разглядваў іх, параўноўваў, чым жа яны, прыбалтыйскія сялянкі, адрозніваюцца ад яго, дастоеўскіх. Канешне, адметнасць прыкмячалася і ў строях, і ў мове. Вось толькі клопаты, здаецца, заставаліся агульнымі. Яны сваімі каранямі чапляліся за далёкіх продкаў.

— Ці купіла свайму пану штаны?

— Вой, у мяне гэткія паны, па тры — на адны штаны.

— А я ж, дзеўкі, паехала і хату забылася замкнуць.

— Ага, у нас адзін валоў краў і то хлявы зачыняў.

— Рута, ці ўмееш кросны ставіць ды палатно ткаць?

— А ты ўмей пытанне задаць.

— Ці зрабіла грады, суседка?

— Вырабіла зямельку так, што пальцамі ўсю перамацала.

Маладзіца, бы брусніца, шчыра свяцілася чырванню і выдала ці не сваю фамільную мудрасць:

— Хлеб на стале — і стол прастол. А хлеба ні куска — і стол даска...

Раптам на ўвесь аўтобус адна бабця выгукнула сваю просьбу:

— Шафёр, прыпыні каля ракетнай базы!

Аляксей Скакун скалануўся, быццам мурашы прабеглі пад кіцелем. Яму ж таксама тут выходзіць. У яго на пагонах — адзнакі лётчыка. Маскіроўка ва ўсім. Ракеты ў гэтым лесе — строгі сакрэт. А бабка ўсяму аўтобусу абвясціла вялікую ваенную тайну.

Сам вайсковец Скакун за ўвесь год службы бачыў тую ракету ў падзямеллі толькі адзін раз. І то пад парушальным даверам сваіх начальнікаў. Ён іх вазіў на матацыкле.

Атрымалася так, што ў першы дзень па прыбыцці ў часць, Аляксей прызнаўся: умее вадзіць машыну і мае правы матацыкліста. Яму прапанавалі ваенны матацыкл з каляскай і даверылі абслугоўваць на ім двух службістаў асобага аддзела. Навабранец пагадзіўся. Сазваніўся з Дастоевам, папрасіў, каб тэрмінова выслалі яго вадзіцельскія правы.

Так пачалася армейская служба Аляксея Скакуна. Ён ведаў, што вайсковая кар'ера яму не свеціць. Проста існаваў закон, што выпускнік інстытута павінен прыняць прысягу байца, панюхаць, як кажуць, сухога пораху, прайсці атэстацыю на званне лейтэнанта і стаць у рэзерв мясцовага ваенкамата.

Узіраюся ў здымак, на якім Аляксей Скакун у вайсковай форме, і як бы бачу, адчуваю таго дастоеўца, які жыў па казарменным рэжыме. Твар строгі, вочы пільныя, постаць стройная. Чыста паголены, раскошная чупрына ўтаймавана амаль пад «вожыка». Ва ўсім — адбітак армейскай дысцыпліны.

Аляксей блізка да сэрца прыняў павучанне свайго камандзіра:

— Чалавек, які служыць іншаму, абавязаны валодаць якасцямі, адпавядаючымі гэтай задачы. Ён павінен умець падпарадкоўвацца, разумець начальніка і быць паслухмяным.

Так і паводзіў сябе Аляксей Скакун у арміі. Пасля «пасады» матацыкліста яго павысілі па службе і даверылі быць загадчыкам прадуктовага склада. Тут ён і даслужыў свой тэрмін.

У Аляксея былі ўжо свае падначаленыя. На іх ён правяраў павучанне камандзіра. І яшчэ раз пераканаўся, што яно — эфектыўны сродак выпрабавання людзей.

Будучы начальнікам над салдацкімі прадуктамі, Аляксей Скакун спаўна праявіў і свае сялянскія якасці. Амаль усё, што стаяла на паліцах яго прадук-

товага склада, апроч рыбы, выраблялася, вырошчвалася на сельскіх нівах, на фермах. У тым ліку і яго землякамі з калгаса «Чырвоная звязда». З дыпломам інстытута Аляксей папрацаваў тут тры месяцы галоўным заатэхнікам. І ведаў сапраўдны кошт хлебу, малаку, мясу. Ён яго зведаў, лічы, з маленства.

Вось як апісвала ў раёнцы свой рабочы дзень даярка з Дастоева Еўдакія Голуб:

«На ферму прыходжу ў шэсць раніцы. Даю кароў. Потым кармлю іх — выдаю сена, змельчаную салому. Прыпраўляю ўсё гэта макухай. У дзесяць гадзін выганяю кароў на вадапой, а сама прыбіраю кароўнік. Кармлю кароў яшчэ ў гадзіну дня і ў сем вечара. У гэты ж час праводжу іх дойку. Узяла абавязак надаіць ад каровы па 1600 літраў малака ў год. А іх у маім статку — дванаццаць...»

Так і хочацца выгукнуць: «Божа мой! Гэта ж якую атамную сілу павінна мець даярка, каб справіцца са сваімі абавязкамі! Якое цярпенне трэба мець, каб кожны дзень пачынаць досвіткам, заканчваць поначы і мець пры гэтым бурлацкія нагрузкі! Гэта ж якім паслухмянствам трэба валодаць, каб пры такой пякельнай працы штогод браць абавязкі надаіць паболей малака!»

Цяпер, працуючы на прадуктовым складзе ракетнай часці, учарашні галоўны заатэхнік калгаса Аляксей Скакун па-новаму ацэньваў дары палеткаў і фермаў. Вось яны роўнымі радамі ляжаць на паліцах склада, здабытыя потам, бяссоннем, мазалямі. Земляроб сам мог застацца галодным, са смагаю ў роце, а даведзеныя яму абавязковыя нормы здаваў у свіраны дзяржавы. Адтуль яны ішлі ў тым ліку і абаронцам Радзімы, у такія прадуктовыя склады, за які нёс армейскую адказнасць і Аляксей Скакун.

Сядзе бывала на пянёк каля свайго аб’екта, зірне на верхавіны гонкіх сосен, на высокія аблокі над імі, і панесліся думкі ў Дастоева. Усіх перабярэ ў памяці: бацькоў, радню, сяброў. Быццам зазірне на фермы, за якія нёс персанальную адказнасць. І міжволі пачнуць прыгадвацца кадры фотаплёнкі. Некаторыя з іх абнародаваны ў іванаўскай райгазеце.

Вось яны сельскія мадонны — Вольга Давыдзюк, Марыя Ляхавец, Надзея Казінская, Таццяна Калбасюк, Ніна Куліч. Упрасіў свінарак красіеўскай фермы прыадзецца ў лепшыя сукенкі, узбіць прычоскі і абавязкова ўсміхнуцца. Такі юнацкі задор і засведчыў Скакуноў фотааб’ектыў. Здымак упрыгожыў газету, якую прыносіў паштальён ці не ў кожную хату калгасных вёсак.

Сваімі здымкамі ў «Чырвонай звяздзе» Аляксей уславіў цялятніцу Соф’ю Скакун, якая трынаццаць гадоў з дня ў дзень даглядала па 35 гадаванцаў. Напісаў хвалебны артыкул «Імі ганарыцца калектыў фермы» — пра цялятніц Ганну Молчан і Ксеню Кухарчук. Узнёслым, з позіркам у светлую далячынь атрымаўся здымак трактарыста Антона Куркача. Засведчыў і радаснага шафёра на малакавозе Міхаіла Кандратчыка, які быў першым вадзіцелем у дастоеўскім калгасе, калі ўсяго й запасу было, што між зубоў.

Гэтая праца ніяк не ўваходзіла ў абавязкі галоўнага заатэхніка «Чырвонай звязды» Аляксея Скакуна. Але тым самым ён як бы аддзячваў людзям, якія падпарадкоўваліся яму, якія шчыравалі на калгасным двары, як у сваім асабістым падвор’і.

Цяпер, на службе ў арміі, ён раздаваў вайскоўцам сакрэтнай часці зусім не сакрэтныя прадукты, здабытыя ў тым ліку і яго мазольнымі дастоеўцамі. Ганарыўся гэтым і цешыўся, што і яго праца заатэхніка ўкладзена ў тушонку і згушчонку для салдат і камандзіраў самай магутнай арміі ў свеце.

Я настойліва дапытваў Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, ці пісаў ён камунебудзь лісты з арміі, ці не захаваліся яны выпадкова.

Кожны раз ён адмахваўся ад маіх пытанняў адной і той жа адгаворкай: «Не любіцель я пісаць лісты». Хай сабе і так, але ніколі не паверу, што ён у думках не адбіваў тэлеграмы сваёй каханай Валі Ткачук. Хаця б у дзень Савецкай Арміі, у які ён першы раз асмеліўся праводзіць сваю сімпатыю з сельскага клуба. Хаця б 10 ліпеня, калі нарадзілася яго магнітная суседка. Хаця б у той майскі дзень, калі раніцай і ўдзень яшчэ хадзіў правяраць калгасныя фермы, а вечарам моладзь Дастоева сабралася ў іх хаце на яго провады ў армію.

Тым вечарам, пад зорным, зыркім небам Аляксей прапанаваў Валянціне:

— Будзь маёй жонкай!.. Давай сёння аб'явім усім пра гэта.

— Не, Лёша, адслужыш, тады і падумаем.

— Будзеш чакаць?

— Абавязкова!.. «Вы служите, мы вас подождем...» — само сабой заспявалася вядомая песня.

Аляксею Скакуну лёгка служылася.

Яго чакала любімая дзяўчына.

Ён быў жаданы ў сэрцах мамы і бацькі, брата Васіля, сясцёр Марыі і Галі.

Ён меў пасаду галоўнага заатэхніка дастоеўскага калгаса «Чырвоная звязда».

Што яшчэ хацець?

А чалавечыя жаданні заўсёды неўтаймоўныя. На дужыя плечы і светлую галаву прасіўся новы цяжар, новыя клопаты. Аляксей Скакун усё часцей задумваўся пра гэта. Ён да канца яшчэ не ведаў, што рабіць, як шукаць сябе ў жыцці. Верыў у адно, трэба найперш знайсці сябе самога, бо будзе, як у даўнейшай дзедавай байцы пра цвік для падковы каня. Не было цвіка — падкова прапала. Падкова прапала — конь закульгаў. Конь закульгаў — камандзір забіты. Конніца разбіта — армія прайграла бой. Вораг уварваўся ў горад — палонных не шкадаваў. А ўсё таму, што ў каваля не было цвіка для падковы каня-скакуна.

Аляксей нясцерпна чакаў заканчэння службы. Верыў, пачнецца новае жыццё. Не ведаў якое, але дакладна рашыў: Алёшам з Дастоева ён болей не хоча быць. Алёшам яго клікаў старшыня Гурыновіч. Сваім, вясковым, дамашнім хлопцам ён быў для спецыялістаў калгаса, для ўсіх дастоеўцаў. Нават для даярак, цялятніц, свінарак, пастухоў, над якімі камандзірыў. Не, не хацеў Аляксей заставацца і далей Алёшам з Дастоева. А калі так, давядзецца шукаць працу ў іншым месцы, дзе павінен стаць Аляксеем Сцяпанавічам. З такім настроем вяртаўся дамоў афіцэр Скакун.

***Працяг будзе.***



## Лявон ВАЛАСЮК

### СНЕЖАНЬ

Белы-белы,
Асляпляльна белы
Ранішні снег...
І сонца па-зімоваму
Бела-жоўтае...

Гляджу ў акно
Праз невялічкую праталінку:
Белае наваколле
Кліча да сябе.

Там — снежань,
Мой месяц нараджэння...

Снежань віруе
Белымі снягамі,
Белымі маразамі...
Але мне цёпла
У бацькоўскай хаце:
Я зноў нарадзіўся.

---

***Валасюк Леанід Фёдаравіч*** *нарадзіўся 13 снежня 1955 года ў вёсцы Песцянькі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Працаваў на заводзе, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута (1981). Працуе мастаком-дызайнерам.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Леаніды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Познія сны» (2006), «Знакі на валуне» (2010), кнігі прозы «Сцежкі да сядзібы (2008).*

## ВЕЖА

Вежа — мая жывая памяць.
Памяць жыве навокал мяне...

Вежкі — непарыўная памяць —
Вёска бабулі маёй...

Вежа — кропка адліку,
Вежа — адзнака лёсу...

Я пільна ўзіраюся ў вежу:
Бачу дзядоў маіх, прадзедаў...
Бачу вояў у шаломах, з дзідамі,
Чую тупат баявых коней...

Вежа напоўнена
Паветрам радзімы...

Вежа — увасабленне памяці.

## АБЯРЭГ

Крыж моцна збіты,
Фарбаваны
Блакітам неба і вады,
Праменнем сонечным абліты,
Вартуе хаты і сады.

У час апошняе адлігі
Час пакаяння за грахі
Пад гэтым знакам настае...

А думкі кволыя мае
Плывуць, чапляюцца, бы крыгі,
За веснавыя берагі...

Ці абярэг мне дапаможа
У цьме вірлівае ракі,
Магутны Божа?!

## КОЛА

Рыпіць, адлічвае
Пясчаныя вёрсты дарогі
Драўляна-металічнае кола
Дзедавага вазка...

Яго даўно ніхто не змазваў,
Даўно не аглядалі кола...
Таму яно незадаволена і рыпіць,
Да чаго прывыкнуць немагчыма.

Мінае палі, балоты і вёскі.
Кола сцішана рыпіць...
Адлічвае вёрсты
Светлага майго дзяцінства...

## ЛОТАЦЬ

Жоўтыя кветкі маленства,
Жоўтыя мары вясны...

Грэла сонца, цяплела паветра,
Прыляталі кнігаўкі.

Зацвітала лотаць
Маленькімі жоўтымі сонейкамі
У атачэнні халоднага хрумсткага лісця.

Кветкі ў дзіцячых руках вялі на сонцы,
Але дома ў вадзе ажывалі —
Цешылі вочы нашых бабуль і матуль...

Лотаці маленькія сонейкі
Незгасальныя,
Як і сонца вялікае.

## КАЛОССЕ

Калоссе казыча рукі і твар,
Радуе сваёй жыццёвай сілай.
Пад калоссем унізе —
Блакіт валошак,
Белізна рамонкаў,
Сонечны колер маргарытак…

Збоку ляжыць шэра-сіні камень.
Яго не палохае ні вецер, ні дождж.
Камень не баіцца ні маразоў, ні маланак...

Камень — напамін лёсу,
Камень — вартаўнік поля,
Камень — вартаўнік жыта,
Камень — суразмоўца калосся.

Калоссе нахіляецца долу
Да цёплага каменя,
Да вясёлкавых кветак...

Калоссе
Чакае зажынак.

## САМОТНІК

Самотнік вяз
Над роднаю сядзібай
Раскінуў шаты
Памяці маёй...

Пад ім сваволіў я,
Бавіў час
У летнюю спякоту,
Хаваўся
Ад дажджу, вятроў...

Самотнік вяз
Здалёк сваёй лістотай
Кліча, вабіць...
Чакае —
Сваімі шатамі
Захіліць мяне ад бяды.

Чакае мяне,
А я спяшаюся да яго:
Абодва мы — самотнікі.

## СЯРЭБРАНЫ ГРОШ

Сярэбраны грош
Знайшоў неяк я
На былым
Дзедавым полі...
У чорнай зямлі
Маіх продкаў
Бліснуў ён нечакана
Бокам бялёсым,
Хваляй даўняга ветру
Прабег па душы...

Скарб гэты
Не ўзбагаціў мяне
Ні на грош:

Ён толькі ўзмацніў
Памяць
Майго радаводу.

## ДАБРАНАЧ

У светлым настроі
Жадаю вам сну
Без клопату, страху,
Кашмараў і боляў...

Дабранач табе,
Вераснёвая птушка,
Дзявочы пагляд,
Цёплых вуснаў адчай...

Дабранач табе,
Белавежская пушча,
І вежа каменная,
І ўвесь родны край.

Дабранач...

Міхаіл НІКІЦІН



# ЧУЮ ГОЛАС...

*Апавяданне*

*Светлай памяці дзеда М. М. Міхайлава,*
*які загінуў у баях за Радзіму*

Дызель-цягнік Смаленск — Спаск-Дземенск, раўнамерна тахкаючы коламі па стыках рэек, адмерваў кіламетры, нетаропка набліжаючыся да Ельні. У гэты гарадок на Смаленшчыне ў паўпустым вагоне і ехаў маўклівы пасажыр, на выгляд якому можна было даць гадоў пяцьдзясят — пяцьдзясят пяць. Ён сядзеў ля акна і ўважліва ўглядаўся ў краявіды, што праплывалі міма. Была ранняя восень. Малюнкі наваколля павольна змяняліся адзін за адным. А былі яны такія: і неабкошаная, парыжэлая, палеглая трава ў лагчынах, што часам падступала амаль да самай чыгункі; і старое, цёмнае лісце лясоў, якія раптам выбягалі з-за пагоркаў; і шэрыя, скасабочаныя хацінкі «неперспектыўных» вёсак, што былі раскіданы сярод яшчэ неўзараных палёў, якія месцамі расціланіся амаль да самага далягляду; і свінцовыя стужкі і стужачкі рэк і рачулак ля мастоў, што траплялiся на шляху.

Пасажыр ехаў у Ельню, каб наведаць магілу бацькі. У пахавальнай, якая мелася ў сына (сям'я салдата атрымала яе ў канцы вайны), было напісана, што камандзір мінамётнага разліку гвардыі чырвонаармеец Мікіта Міхайлаў загінуў 6 жніўня 1943 года «…у баі за Сацыялістычную Радзіму, адданы воінскай прысязе, праявіўшы мужнасць і гераізм». Таксама паведамлялася, што ён пахаваны ў вёсцы Шыміна Ельнінскага раёна Смаленскай вобласці.

«Камандзір мінамётнага разліку, — думаў сын. — А ў мірным даваенным жыцці бацька быў зусім цывільны чалавек, звычайны настаўнік адной з тысяч сельскіх сямігодак вялікай краіны. Тады, як кажуць людзі, што шмат пражылі на свеце, было, па іх меркаванні, сапраўднае брацтва».

Так, яго бацька да вайны працаваў настаўнікам у Паволжы. Адтуль у канцы зімы сорак другога года ён і пайшоў на фронт, пакінуўшы сваю вясковую хату, а ў ёй напаўсляпую маці, ціхую, сціплую жонку і чатырох

---

*__Нікіцін Міхаіл Генадзьевіч__ нарадзіўся 25 мая 1962 года ў горадзе Шчучынск Паўночна-Казахстанскай вобласці Рэспублікі Казахстан. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1989). Працаваў у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, цяпер — загадчык рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі».*

сыноў — адзін пад адным. Развітаўся з маці, жонкай, малымі і пайшоў, як аказалася, назаўсёды…

У вагоне было ціха, і ніхто і нішто не перашкаджала мужчыну думаць пра сваё… Але доўга, занадта доўга, так выпала, збіраўся Генадзь Мікітавіч наведаць тыя мясціны, дзе загінуў бацька, каб знайсці там яго магілу і пакланіцца ёй.

Спачатку, як бацька пайшоў на фронт, сям'і без яго было вельмі цяжка. Старэйшы Генадзеў брат Васіль, ледзь скончыўшы сямігодку, стаў працаваць у калгасе, каб дапамагчы маці гадаваць малых. І сам Гена, праўда, пасля вайны ўжо, як толькі атрымаў атэстат сталасці — таксама пайшоў на свой хлеб: вучыўся, а вечарамі працаваў, разгружаў вагоны.

Увогуле з самых малых гадоў, як ён сябе помніць, Генадзь марыў стаць лётчыкам, але ж… (Над іх вёскай да вайны праходзіла паветраная траса, кожны дзень над хатамі праляталі самалёты і нават дырыжаблі. Лялалі яны і ў вайну, і пасля.) Неба тых часоў не было «пустым», як пісалі злосныя публіцысты канца васьмідзесятых, яно вабіла і цягнула да сябе многіх юнакоў і дзяўчат, абуджала ў іх самыя светлыя мары на будучае.

Марачы пра неба, хлапчук Гена зрабіў з вучнёўскага сшытка альбомчык, у які перапісваў вершы і песні пра лётчыкаў. Любімыя творы ён аздабляў уласнымі малюнкамі. А адкрываўся той альбомчык знакамітым вершам Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык», якім некалі зачытваліся дзеці і ў яго, Генадзевай, школе ў далёкім Паволжы. Аднак яго марам не наканавана было спраўдзіцца: медыцынская камісія ў раённым ваенкамаце выявіла, што па стане здароўя Генадзь не можа вучыцца на лётчыка: павышаны артэрыяльны ціск. Яго нават у армію па гэтай прычыне не ўзялі. Гэта было, як крах усяго: як жа так?.. Няўжо я наогул ні да чаго не здатны?..

Упарты хлопец не здаваўся. Ён паступіў у Кіеўскі геолагаразведачны тэхнікум. Чаму менавіта туды? Хацелася як можна бліжэй быць да мары: з кніжак і газет Генадзь ведаў, што геолагам даводзіцца шмат лятаць на самалётах і верталётах. Вучыцца давялося не на геолага, а на геафізіка. Каб стаць геолагам, трэба дасканала адрозніваць адценні колеру — тады не зблытаеш горныя пароды: аказалася, што хлопец не так добра як трэба, успрымае колеры.

Геафізіка, як вызначыў для сябе Генадзь, справа таксама вельмі важная ў геолагаразведцы. Геафізікі з дапамогай спецыяльных пераносных прыбораў-гравіметраў выяўляюць карысныя для людзей падземныя анамаліі і разломы. Тут колер не мае значэння — трэба ўмець назіраць і лічыць…

Пасля тэхнікума яго размеркавалі ў Паўночны Казахстан. Там працаваў гадоў з пятнаццаць, ажаніўся з дзяўчынай-смалянкай і, як кажуць, уладкаваўся на сталае жыццё: атрымалі ў адным рабочым пасёлку якую-ніякую кватэру, нарадзіўся сын. Але потым Генадзя перавялі шукаць нафту ў Беларусь. Пасялілі пад Мінскам, у базавым пасёлку мясцовай геафізічнай экспедыцыі.

Увогуле гэты пераезд з аднаго канца Саюза ў другі для сям'і быў неабавязковым. Генадзю толькі прапанавалі ехаць працаваць у Беларусь (можна было адмовіцца), але параіўшыся з жонкай, вырашыў, што едуць. Беларусаў усюды любілі. У Казахстане — таксама. Яны дапамагалі там падымаць цалінныя і залежныя землі, добра працавалі, вызначаліся зычлівасцю. Да ўсяго, Беларусь — бліжэй да Смаленшчыны, дзе загінуў і пахаваны бацька. Так што…

Маці і браты засталіся жыць у Паволжы (маці памерла незадоўга да Генадзевага пераезду ў Беларусь, пахавана там, дзе жылі). Сям'я шмат гадоў не ведала, дзе бацькава магіла. Урэшце Генадзь вырашыў: пераеду ў Беларусь, абавязкова адшукаю бацькаву магілу...

І яшчэ: чуў, што ў Беларусі геолагам шмат даводзілася лятаць, асабліва геафізікам. Часцей за ўсё верталётам. Чуў таксама, што верталёты садзіліся там на невялічкія сухія астраўкі сярод палескіх балот, пакідалі на тых астраўках геафізікаў, якія потым пехатой ішлі ад выспы да выспы, часам па амаль непраходных балотах, па пояс у мешаніне з лёду, вады і гразі — рамантыка!..

Так яно ўсё аказалася і на самай справе.

Дзе толькі не пабываў Генадзь за гады працы ў Беларусі: Азарычы, Столін, Брагін, Нароўля, Лельчыцы, Давыд-Гарадок… Палюбіў гэтую зямлю, яе людзей. Жыццё ладзілася, атрымаў у Мінску добраўпарадкаваную трохпакаёвую кватэру, нарадзілася дачка. І на працы ўсё ішло ладам.

Блукаючы з гравіметрам сярод беларускіх балот і лясоў, Генадзь Мікітавіч часцяком натыкаўся на сляды мінулай вайны і прывозіў дамоў сыну знойдзеныя паржавелыя і амаль цэлыя гільзы ад вінтовачных патронаў, абрыўкі кулямётных стужак і нават асколкі снарадаў і гранат, тлумачыў, што гэта такое, які жах яны неслі ў вайну людзям. Расказваў і пра тое, колькі мірных людзей тут загінула. Таксама казаў, што на вайне загінуў дзядуля, і што некалі яны павінны адшукаць яго магілу.

Амаль у кожнай беларускай вёсцы, дзе даводзілася бываць, Генадзь Мікітавіч бачыў брацкія магілы са сціплымі помнікамі. Часцей за ўсё гэта былі цагляныя, атынкаваныя і пабеленыя абеліскі з чырвонымі зоркамі наверсе, або гіпсавыя, пафарбаваныя серабранкай фігуры смуткуючых воінаў, часам жанчын і дзяцей. На некаторых помніках былі мармуровыя, металічныя ці гіпсавыя дошкі з прозвішчамі пахаваных, на іншых — толькі надпіс: «Вечная памяць героям, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы!» Там, дзе былі прозвішчы, часам сустракаліся прымацаваныя да тынкоўкі помнікаў керамічныя медальёны з фотаздымкамі, якія, напэўна, прывозілі сваякі загінуўшых воінаў.

Адзін з фотаздымкаў асабліва крануў сэрца Генадзя Мікітавіча. На фота быў адлюстраваны даверлівы, з радаснай усмешкай твар хлопчыка гадоў васьмі-дзесяці, а пад ім подпіс: «Лейтэнант М. С. Пятроў (1923—1944)». Мусіць, ніякага іншага здымка гэтага воіна ў яго сваякоў не было…

Кожны раз, калі Генадзь Мікітавіч бачыў гэтыя брацкія магілы, ён успамінаў бацьку і са скрухай думаў: мабыць, ляжыць недзе ў невядомай мне смаленскай вёсачцы пад такім жа абеліскам-пірамідкай, чакае, калі наведаю яго. А я — не іду…

Чаму да гэтага часу Генадзь Мікітавіч не адшукаў, не наведаў бацькаву магілу? За працай, клопатамі часу неставала?.. Далёка Смаленшчына?.. Не ведаў, дзе канкрэтна пахаваны?.. Усё гэта так, але не трэба апраўдваць сябе. У пахавальнай жа дакладна сказана, каля якой вёскі знайшоў апошні прытулак бацька.

Хаця, зрэшты, прычыны былі. Першая — пахавальную давялося адразу, як яе атрымалі, аддаць у райсабес, каб маці за бацьку налічылі пенсію. Калі аддавалі, то не здагадаліся тады запісаць, у якім месцы пахаваны бацька: запомнілі толькі, што недзе на нейкай невядомай, далёкай Смаленшчыне.

Толькі праз шмат гадоў пазней, калі Генадзь ужо жыў у Беларусі, ён папрасіў брата Васіля, што застаўся жыць у роднай вёсцы, наведаць ваенкамат, куды з сабесу перадалі пахавальную, і даведацца дакладна, у якім раёне і якой вёсцы Смаленскай вобласці бацькава магіла.

Але здарылася нешта незразумелае: ці брат памыліўся, ці работнікі ваенкамата, у лісце Васіль пісаў, што згодна з афіцыйнымі звесткамі іх бацька пахаваны нібыта ў раённым цэнтры Шумячы Смаленскай вобласці. Шмат

часу пайшло ў Генадзя Мікітавіча на перапіску з Шумяцкім ваенкаматам, адкуль яму ўпарта адказвалі, што сярод воінаў Чырвонай Арміі, пахаваных у раёне, яго бацька не лічыцца.

Неяк, уважліва разгледзеўшы карту Смаленскай ваеннай аперацыі 1943 года, сын зразумеў, што бацька, які загінуў 6 жніўня, не мог быць пахаваны ў Шумячах, — райцэнтр вызвалілі ў канцы верасня. Тады Генадзь Мікітавіч напісаў у ваенкамат на радзіму, папрасіў, каб усё ж удакладнілі, дзе загінуў і дзе яго магіла. Праз нейкі час ён атрымаў адказ, у якім паведамлялася, што згодна з архіўнымі звесткамі бацька забіты ў баі і пахаваны каля вёскі Шыміно Ельнінскага раёна.

Здаецца, цяпер усё было вядома і можна было б ехаць. Але Генадзь Мікітавач ведаў, што ў 1947—1951 гадах адбывалася масавае перазахаванне астанкаў загінуўшых воінаў з розных аддаленых месцаў у брацкія магілы больш-менш буйных населеных пунктаў. Таму ён не вельмі спадзяваўся, што магіла яго бацькі каля вёскі Шыміно захавалася. Ды і самой вёскі магло ўжо не быць — пасля вайны многія з іх не адрадзіліся, а некаторыя зніклі ўжо ў мірны час, як неперспектыўныя — жыхары перасяляліся ў больш буйныя.

Генадзь Мікітавіч, не марудзячы час, напісаў у Ельнінскі райваенкамат, папрасіў, каб удакладнілі, ці былі перазахаваны астанкі Мікіты Міхайлава, а калі былі, то куды?

Адказ прыйшоў нечаканы: «У спісе тых, хто загінуў на тэрыторыі Ельнінскага раёна Ваш бацька Міхайлаў Мікіта Міхайлавіч не лічыцца. Для ўвекавечвання яго памяці дашліце, калі ласка, копію паведамлення аб яго гібелі…»

Засмучаны і ўжо амаль страціўшы надзею, Генадзь Мікітавіч зноў напісаў у ваенкамат на радзіму, каб прыслалі копію той пахавальнай. Неўзабаве атрымаў тую копію і неадкладна накіраваў яе ў Ельнінскі ваенкамат. Адтуль прыйшоў ліст, у якім паведамлялася: «Ваш бацька… перазахаваны на воінскія могілкі № 1, якія размешчаны ў гарадскім скверы гор. Ельні. Імя бацькі ўвекавечана ў памятным альбоме за № 8268…»

Цяпер можна было ехаць. Але яшчэ з год нешта перашкаджала: то тэрміновая работа не адпускала, то хатнія справы… І раптам сталася так, што адкладаць паездку ўжо не было куды…

У тыя вясну і лета Генадзь Мікітавіч адчуваў, што яму ўсё цяжэй і цяжэй хадзіць з важкім гравіметрам у руцэ па балотах, лугах, хмызняках, палях. Адчувалася, што сілы паступова пакідалі яго. І справа, здаецца, была не толькі ва ўзросце. Яго ўсё часцей адольвалі хваробы: то прастуда даймае, то галава баліць, то ціск, то… Але найбольш стаў назаляць кашаль, ды нярэдка амаль нясцерпны боль сціскаў сэрца.

Вельмі не любіў Генадзь Мікітавіч бываць у дактароў. Раней, калі што балела, лячыўся народнымі сродкамі. Калі дапамагала, калі само праходзіла. Спрабаваў самаходзь лячыцца і зараз. Але чамусьці ніякія адвары траў не дапамагалі. Урэшце адчуў — трэба ісці ў паліклініку. Якраз сталася так, што як заўсёды пасля шматдзённай працы без выхадных, як казалі, «в поле» выпала некалькі дзён адгулаў.

Прыйшоўшы ў паліклініку, Генадзь Мікітавіч спадзяваўся, што пажылая жанчына ўчастковы ўрач Наталля Іванаўна, да якой наведваўся гады ў рады, агледзеўшы яго, як і раней, скажа, што ў яго прастуда, або звычайная ангіна, прапіша якія лекі. Але агледзеўшы ягонае горла, заўсёды лагодная Наталля Іванаўна нечакана спахмурнела. Узяўшы Генадзя Мікітавіча за руку, нібы малое дзіця, моўчкі павяла ў кабінет да галоўнага ўрача — маладога яшчэ хударлявага чалавека ў акулярах. Той толькі глянуў у горла хворага і таксама

спахмурнеў… На стол лягла паперка-бланк, ручка галоўнага ўрача хутка забегала па ёй. Крыху памарудзіўшы, доктар працягнуў паперку Генадзю Мікітавічу, спрабуючы вымавіць спакойна (але адчувалася, што словы даюцца яму вельмі цяжка):

— Генадзь Мікітавіч, гэта накіраванне на абследаванне ў анкалагічны дыспансер. Нічога страшнага няма, але хай вас на ўсялякі выпадак праверагь. Нешта мне не падабаецца ваша горла…

«Анкалогія!» — гэтае жудаснае слова нібы маланкай працяло ўсю істоту Генадзя Мікітавіча. Ён ціха падзякаваў галоўнаму ўрачу і пайшоў з паліклінікі. Пакуль ішоў і ехаў дадому, шмат пра што перадумаў. Успомніліся некаторыя знаёмыя, якія памерлі ад гэтай страшнай хваробы: быў чалавек і няма… Шукаў прычыны сваёй хваробе, калі яна сапраўды ў яго ёсць. Чарнобыльская трагедыя?.. У той час ён працаваў у адным раёне, недалёка ад станцыі… Дык жа і раней паўсюль паміралі людзі ад анкалогіі… Але што б там ні было — трэба змагацца за жыццё..

Падыходзячы да дому пачаў супакойваць сябе думкамі, што не трэба панікаваць: ніхто пакуль не ведае, якая ў яго хвароба, зрэшты, ўрачы проста страхуюцца. І яшчэ: ад анкалагічных захворванняў цяпер не ўсе паміраюць — медыцына развіваецца.

Перад дзвярамі кватэры Генадзь Мікітавіч, рэзка ўзмахнуўшы рукой, нібы адагнаў прэч кепскія думкі, сказаў сам сабе: «Усё будзе добра». Але разам з гэтым прамільгнула: «Трэба неадкладна ехаць да бацькі, бо можа здарыцца...»

Згодна з накіраваннем, ён павінен быў з’явіцца ў анкадыспансер праз два дні, на трэці. Значыць, трэба ехаць заўтра ўвечары, каб паслязаўтра быць у Ельні, а затым наступнай раніцай вярнуцца ў Мінск.

Генадзь Мікітавіч жонцы пра магчыма страшны дыягназ не сказаў. Калі спытала, што ў яго, нібы абыякава кінуў: «Ат, звычайная прастуда». Але сказаў, што паколькі ў яго ёсць адгулы, выкарыстае іх зараз, пакуль яшчэ не наступілі халады — паедзе на магілу да бацькі.

Жонка насцярожылася, сказала, што ўсё ж трэба падлячыцца, а потым яны паедуць разам. Але, хоць нялёгка было пераканаць яе, што ехаць трэба яму аднаму менавіта цяпер, а потым, калі адшукае магілу бацькі, калі з’явяцца чарговыя адгулы, лепш вясною, паедуць разам і возьмуць сына — хлопец хоча ведаць, дзе магіла дзядулі (пра накіраванне ў анкадыспансер ён, вядома, нічога ёй не казаў).

І вось ён едзе на магілу да бацькі… Перад самай Ельняй пачаўся моцны лівень. Па аконным шкле цяклі ручаі вады, за некалькі метраў нічога нельга было ўбачыць. Генадзь Мікітавіч зябка пацiснуў плячыма, успомніўшы, што ў яго няма з сабой парасона, а з верхняга адзення — толькі лёгкі восеньскі плашч і на галаве — кепка.

Але яму пашанцавала. Калі цягнік спыніўся насупраць аднапавярховага будынка вакзала ў Ельні, лівень аціх, перайшоўшы ў звычайны, спорны дождж. Разам з іншымі нешматлікімі пасажырамі Генадзь Мікітавіч прабег ад вагона да адчыненых дзвярэй вакзала, увайшоў у залу чакання. Тут ён перачакаў непагадзь, пацікавіўся раскладам цягнікоў на Беларусь. Але трэба спяшацца: за суткі два дызель-цягнікі ў адзін накірунак і два ў другі. Так што сёння яму абавязкова трэба вярнуцца ў Смаленск. З раскладу вынікала, што на ўсё яму да зваротнага цягніка адводзіцца нейкіх чатыры гадзіны. Што ж, відаць, хопіць і гэтага.

Дождж скончыўся, хто ведае, ці надоўга… Нізкае, шэрае неба цяжка навісала над зямлёй.

Ад вакзала да цэнтра горада трэба было ісці пехатой, мусіць, з кіламетр. Але Генадзю Мікітавічу не прывыкаць: мабыць, за гады працы зямны шар абышоў… Да таго ж, хваляванне, якое ахапіла яго з таго моманту як ступіў на ельнінскую зямлю, здаецца, надало яму сіл, забыўся пра хваробу…

Ён ішоў і думаў пра тое, што вось па гэтых вуліцах некалі, у маладосці, хадзіў яго любімы рускі паэт Міхаіл Ісакоўскі, чые вершы Генадзь Мікітавіч можа гадзінамі чытаць на памяць, спяваць яго песні… Тут, на гэтай зямлі, недзе на подступах да Ельні апошні раз бачыў свет яго бацька… На гэтай зямлі ён і знайшоў вечны спачын…

Сын таксама думаў пра тое, што, відаць, не кожнаму, далёка не кожнаму з сірот загінуўшых салдат наканавана ведаць, дзе і як загінулі іх бацькі, дзе пахаваныя. А ён, Генадзь Мікітавіч, пра свайго, урэшце, тое-сёе даведаўся…

Сталася так, што побач з яго бацькам ваяваў адзін знаёмы мужчына з суседняй вёскі. Таму чалавеку пашчасціла вярнуцца дадому жывым. Неяк, адразу пасля вайны ён расказваў жонцы і дзецям свайго баявога таварыша, як усё было…

«Наша пяхота ішла ў атаку, а я быў у пяхоце, — казаў той чалавек. — Мінамётчыкі, як заўсёды, цягнулі за намі мінамёты, каб, калі мы пойдзем у атаку, падтрымаць нас сваім агнём».

А далей у памяці Генадзя застаўся такі ўяўны малюнак: немцы страляюць, але пакуль непрыцэльна, бо адлегласць між нашымі і імі яшчэ досыць вялікая. Той чалавек, пехацінец, з вінтоўкай у руках, ідзе ў атаку, абганяе мінамётчыкаў і раптам заўважае свайго земляка. Імкнецца да яго… «Мы нават не паспелі перамовіцца словам, — казаў былы пехацінец, — як Мікіта ўпаў, схапіўшыся рукой за грудзі!» Мабыць, гэта была куля, бо пра выбух сведка нічога не казаў…

Ельня — гарадок невялікі, у большасці сваёй драўляны, аднапавярховы. Толькі ў цэнтры стаяць старыя двухпавярховыя камяніцы. Генадзь Мікітавіч яшчэ здалёк прыкмеціў высокі абеліск, які ўздымаўся над гарадскім скверам. Хутчэй, хутчэй туды!..

Так, так, гэта той гарадскі сквер, які яму патрэбны. І гэта тут! Праўда, абеліск з чатырма сімвалічнымі скульптурамі воінаў пад ім, стаіць не на вайсковых могілках, а побач з імі. Самі ж могілкі — гэта два строгіх, як салдацкія шарэнгі, рады брацкіх магіл з аднолькавымі шэрымі бетоннымі надмагіллямі, на якіх — белыя мармуровыя дошкі з прозвішчамі пахаваных. І скульптура салдата з непакрытай галавой, з каскай на згібе левай рукі… Салдат нібыта прыйшоў сюды наведаць палеглых у баях таварышаў…

Колькі іх тут? Ніхто дакладна не ведае. Адны кажуць, што дваццаць тысяч, іншыя — што сорак. Двойчы, у 1941 і 1943 гадах, на гэтай зямлі ішлі жорсткія і ўпартыя баі.

Уражаны помнікам, Генадзь Мікітавіч, сціснуўшы ў руцэ шапку, доўга стаяў перад ім, то ўглядаючыся ў мужны, задуменны твар скульптуры воіна, быццам хацеў убачыць у ім напаўзабытыя абрысы бацькавага твару, якога запомніў маладым, то чытаючы на пастаменце надпіс, то зноў уздымаючы вочы на скульптуру…

Тут, ля абеліска, ён быў адзін. Недзе ў небе нізка праплывалі і пагрозліва закручваліся шэрыя аблокі, але тут, на зямлі, ветру не было, ні адзін лісток на дрэвах, якія абступілі помнік, не варушыўся. Было ціха-ціха… І раптам гэтую цішыню ўскалыхнуў нейкі пранізлівы, жалобны звон…

Генадзь Мікітавіч здрыгануўся, паглядзеў навокал: нідзе нічога такога, што б так звінела, няма. Але звон паўтарыўся, падалося, ускалыхнуў душу, працяў усю істоту незразумелымі дасюль сумам і болем, і, было такое пачуц-

цё, што гэты яго трывожны гук, нібы нябачная ніць, раптам з'яднаў сына воіна з помнікам… І чалавек убачыў поле бою, салдат-пехацінцаў, бацьку-мінамётчыка, маладога, жывога. І гэта было, як успышка, як нейкае прасвятленне. З'явілася — і знікла…

Генадзь Мікітавіч, калі стала ціха, нібы вярнуўся ў рэальнасць. Ён агледзеўся, убачыў металічны вянок ля пастамента помніка, зразумеў адкуль гэты звон: з галінак дрэва зрываюцца кроплі вады, ударяюць па жалезным лісці, і яно звініць…

Генадзь Мікітавіч успомніў, што ў яго мала часу, нібы апамятаўшыся, павярнуўся і рушыў уздоўж шэрагу магіл. Зрабіўшы крок, ён спыняўся каля кожнага чарговага надмагілля і ўважліва чытаў прозвішчы, шукаючы прозвішча свайго бацькі. І сэрца яго білася часта-часта: дзе ж яно, дзе ж…

Генадзь Мікітавіч ведаў, што тут ляжаць тысячы воінаў, а прозвішчаў на мармуры ўсіх надмагілляў набярэцца якіх-небудзь некалькі соцень. І раптам ён ажно скалануўся, прачытаўшы на адным з надмагілляў: «старшына Міхайлаў». Без імя і без імя па бацьку — проста «старшына Міхайлаў». Але гэтая самотная радасць, якая на імгненне ўспыхнула ў душы, адразу ж і згасла, яе нібы выціснуў той тужлівы звон, які, калі прыслухацца, даносіўся і сюды. Звон часам сціхаў, адкатваўся, нібы рэха, потым зноў вяртаўся, кранаў душу…

Мікіта Міхайлаў быў не старшыной, а радавым чырвонаармейцам. Канечне, маглі памыліцца, калі рабілі надпіс, ды і надта ж пашыранае прозвішча — Міхайлаў. Хто ён быў, гэты старшына, бацькаў цёзка? З якіх мясцін? Як загінуў?..

Генадзь Мікітавіч абышоў усе магілы, але прозвішча Міхайлаў больш не сустракалася.

— Дзе ж ты, тата?! — урэшце, вырвалася бяссільнае з яго грудзей.

У адказ адно — той жа трывожны звон. Ён то накочваўся, то адкочваўся. Пранікаў у душу, звінеў там, і нібы трымаў яго, сына салдата, тут, на тым месцы, дзе павінен быць пахаваны бацька. І калі сынава душа ўжо спакутавалася ад роспачы і невядомасці, раптам падалося, што бацька заве яго. Падалося нават, што ён, сын, чуе яго словы: «Я тут, Гена, сынок!..»

Ізноў успышка ў памяці, але іншая: бацька ідзе на вайну, пакідае родную хату… Вось ён, малады, дужы, строгі… Але настаўнік Мікіта Міхайлаў, які ніколі не дазваляў сабе не тое што руку ўздымаць на жонку і дзяцей, які ніколі нават голасу на іх не павысіў, які не любіў і не прызнаваў «цялячых», як ён казаў, пяшчот, і цяпер, у развітальны час, не пацалаваў малых сыноў, жонку, але глядзеў на іх доўга, нібы яму трэба было запомніць родныя вобразы раз і назаўсёды.

— Ну, Генадзь, — сказаў ён тады, падаючы хлопчыку як даросламу руку і лёгка паціскаючы яе, — застаяцеся адны. Слухайцеся матулю і бабулю. Будзе шчасце — вярнуся, — тут бацькаў голас ледзь прыкметна задрыжаў, — а пакуль — бывайце…

— Хто ў вас тут? — раптам пачуў ён побач з сабой ціхі голас.

Генадзь Мікітавіч азірнуўся: каля яго стаяла невысокая, паўнаватая жанчына, на выгляд гадоў шасцідзесяці. У руках яна трымала венік — перад гэтым, як ён здагадаўся, падмятала апалае лісце.

— Бацька, — адказаў Генадзь Мікітавіч і дадаў: — Ведаю, што пахаваны ён недзе тут. Адчуваю, што прайшоў побач з ім, але ў якім месцы? Няма яго прозвішча.

— Не адзін вы такі, — сумна сказала жанчына. — Наўрад ці падкажуць вам што надпісы на плітах. Іх праз шмат гадоў ставілі, зусім не там, дзе тыя людзі ляжаць. Тут жа — адна суцэльная брацкая магіла. Тысячы нашых

салдацікаў паляглі — і ўсе яны тут. Кажаце, і бацька ваш тут. І цяпер амаль кожны год зноў і зноў хаваюць. Нядаўна ў лесе танкістаў знайшлі. Тут яны цяпер таксама. А па прозвішчах на плітах, зноў кажу вам, хто дзе ляжыць вызначыць цяжка. Ведаю адну жанчыну, яна кожны год ажно з Украіны прыязджае. Дык пры ёй астанкі яе мужа-маёра перазахавалі сюды, з адной вёскі перанеслі. Вось той жанчыне пашанцавала, яна месца запомніла. А прозвішча таго маёра потым выбілі зусім на іншай пліце, не там, дзе яго паклалі… Я вось што думаю: калі ўжо так сталася, то ўсе яны, хто тут ляжыць — нашы… А ляжаць тут — рускія, украінцы, беларусы, казахі… Усіх нацый — і не злічыць.

Жанчына перахрысцілася, цяжка ўздыхнула.

Падзякаваўшы прыбіральшчыцы, Генадзь Мікітавіч пайшоў спачатку на мясцовы рынак, купіў там кветкі. Потым завітаў у фотаатэлье, наважыўся папрасіць фатографа, каб той зрабіў некалькі здымкаў брацкай магілы. Фатограф, бялявы, вясёлы юнак, ахвотна пагадзіўся. Разам прыйшлі на могілкі. Хлопец сфатаграфаваў абеліск з фігурамі мужных воінаў, скульптуру смуткуючага салдата з каскай у згібе рукі, адзін рад брацкіх магіл. Узяўшы ў Генадзя Мікітавіча адрас, абяцаў хутка выслаць фотакарткі.

Развітаўшыся з ім, Генадзь Мікітавіч усклаў кветкі на надмагілле, на якім было выбіта прозвішча невядомага яму старшыны Міхайлава, мусіць, аднаго з многіх Міхайлавых, пахаваных тут, сярод якіх — і яго бацька. Потым асцярожна згроб з гэтай магілы жменьку зямлі, каб пакласці яе на магілу маці. «Падумаў, адолею хваробу, з’езджу на радзіму». Затым ужо дрыготкай рукой згроб яшчэ жменьку, паклаў у мяшэчак: «Папрашу сына, калі што са мной здарыцца… Каб на маю…» Адагнаў гэтую думку: «А раптам…» Потым ціха сказаў: «Я не развітваюся з табой, тата. Я, калі лёс, буду ездзіць да цябе кожны год, яшчэ многа разоў…»

Генадзь Мікітавіч пакланіўся могілкам, усім тым, хто тут ляжаў, і пайшоў нібыта ўжо даўно знаёмымі вуліцамі гарадка ў кірунку вакзала. Ён ішоў, а ў галаве звінеў і звінеў усё той жа сумны звон, і не адставаў ні на імгненне. Не пакідаў ён яго ні на вакзале, калі Генадзь Мікітавіч чакаў дызель-поезд, ні ў вагоне, калі цягнік крануўся. Часам, калі стомлены доўгай дарогай, знясілены хваробай пачынаў засынаць, гэты звон здаваўся своеасаблівым рэхам бацькавага голасу. Таго журботнага голасу, калі развітваючыся з сям’ёй, ідучы на фронт, ён казаў: «…Будзе шчасце — вярнуся…»

Здаецца, і задрамаў Генадзь Мікітавіч пад рэха гэтага голасу. Прачнуўся праз некаторы час ад нейкага ўнутранага штуршка. Расплюшчыў на імгненне вочы і праз сетку дажджу ўбачыў за акном вагона вузенькую платформу нейкага прыпыначнага пункта. Ізноў, аднекуль здалёк, пачуўся той самы пранізліва-самотны звон, адразу ж нібы з векавечнай цемры перад вачамі раптам выявіўся чорна-белы партрэт бацькі, пачаў набліжацца да яго. Той партрэт, які некалькі гадоў таму па заказе сына зрабілі ў адным з мінскіх фотаатэлье. Там з фотаздымка, зробленага ў 1938 годзе, перафатаграфавалі бацькаў твар. На даваенным здымку бацька стаяў апрануты ў кашулю-касаваротку, глядзеў у аб’ектыў задуменна і строга. У сям’і не было ніводнай бацькавай фотакарткі ў ваеннай форме, і сын папрасіў фатографа «апрануць» яго ў форму гвардыі чырвонаармейца-мінамётчыка ўзору 1943 года. Атрымалася вельмі добра: бацька на партрэце быў у гімнасцёрцы з двума дробнымі гузікамі на каўняры. На невялікіх, акантаваных пагонах — артылерыйскія эмблемы ў выглядзе скрыжаваных гарматак, на грудзях — чырванасцяжны гвардзейскі значок, на пілотцы — пяціканцовая зорка з сярпом і молатам.

Гэты партрэт Генадзь Мікітавіч з сабой не браў, ён стаяў у мінскай кватэры на яго рабочым стале. Сын меркаваў, што некалі, як адшукае бацькаву магілу, зробіць з яго барэльеф.

І вось цяпер гэты партрэт пад трывожны і сумны мелодычны звон, здаецца, выплыўшы з цемры, засвяціўся нейкім ледзь улоўным белым святлом, пачаў набліжацца, павялічваючыся ў памерах.

Генадзь Мікітавіч памкнуўся крыкнуць: «Бацька!», але перахапіла дыханне. Партрэт… не, гэта быў ужо не партрэт, а, здаецца, сам бацька. Вось ён ужо наблізіўся да яго амаль ушчыльную, здаецца паглядзеў сыну ў вочы строга і задуменна, паклаў, як некалі ў дзяцінстве, на яго плячо руку, паварушыў вуснамі: «Не плач, Гена. Ты ж — сын салдата. Усё будзе добра». І знік… знік і звон.

Генадзь Мікітавіч адкрыў вочы. За вокнамі вагона ўсё яшчэ ішоў дождж, праплывалі станцыйныя будынкі, жылыя дамы вялікага горада. Нешматлікія пасажыры прабіраліся да выхаду. Адзін з іх, заўважыўшы, што Генадзь Мікітавіч нібыта не зусім прачнуўся, громка сказаў яму:

— Смаленск!

— Дзякуй.

Трэба было спяшацца на вакзал, купіць білет на аршанскую электрычку, якая адыходзіла меней як праз паўгадзіны.

…Генадзь Мікітавіч думаў, што гэтым шляхам на магілу да бацькі ён будзе ездзіць шмат гадоў. Не адзін, а разам з жонай, сынам і дачкой…



## АБАЙ
**(1845—1904)**

* * *

Верш — правадыр між слоў, іх найдарожшы ўбор.
Адораны паэт радкі тчэ, як узор,
Дзе пахкасць свежых слоў, дзе сэнсу гушчыня,
Дзе цесна вязі слоў, а ўзлёту дум — прастор.

Бывае, што радок зіхціць, як пустацвет.
І слоў не беражэ няўдачлівы паэт.
З тых, хто вяшчуе ўслых, ці слухае, — ён той,
Каму суладдзе слоў не скажа свой сакрэт.

Спярша Карана верш, а прымаўкі пасля,
І плынь няхітрых слоў віруе спакваля.
Не варта б іх было да Бога прамаўляць,
Бо сутнасць гэтых слоў нікчэмная, як тля.

Хай будзе верш жывым, без слоўнай пустаты,
Хай радуе душу радкоў настой густы.
Ды рэдка здатны хтось свой скласці звонкі верш,
Дзе свежасць трапных слоў, як россып залаты.

Калі згадаць, якім быў верш сівых дзядоў,
То прымавак зашмат ты знойдзеш там між слоў.
Паэты той пары ўсе невукі былі,
Іх думкі вольны лёт нікчэмнасць брала ў схоў.

Пад гукі домбры верш спявалі гучна свой,
Узносілі яго мізэрнаю хвалой.
І згасла ззянне слоў, і страціў верш вагу,
Зрабіўся жабраком з мізэрнаю душой.

І слова, і душа імкнулі да шчадрот —
І нёсся хваласпеў, як звон узнагарод.
Так беднякі заўжды сярод плямён чужых,
Старцуючы ў жыцці, хвалілі ўласны род.

Багаты сябелюб стаў кожнаму, як брат.
Паэт яшчэ не бай, хоць і сабраў зашмат.
Здаюцца і цяпер пустымі вершы іх,
Бо страцілі свой сэнс у шуме хмельных свят.

І не крануты мной іх чэзласці запас,
Паэт, я з-за атар не стану пець, — не час,
Бо іншы у мяне і слоў, і мар узлёт,
І той, хто чуе іх, мне дасць цяпер адказ.

Калі б я пеў аб тых, хто п'е з народа кроў,
Або красе дзяўчат аддаў хвалу радкоў,
Мяне б пачулі ўсе з прытоенай хвалой,
Не бачачы цаны тых легкаважных слоў.

Да розуму дароў не цягнецца народ,
Ён грэбліва глухі да ўсіх яго шчадрот,
Бо лодараў між нас так многа — не злічыць,
Да гэтых слоў маіх — у сэрцах крыўды лёд.

Другія там і тут — без ліку хадакоў —
Да цёпленькіх пасад паўзуць з усіх бакоў.
Ды што ім зразумець, калі з іх хоць адзін
Цямрэчы і маны не збавіцца акоў?

Сумленне, сціпласць, чэсць — усё ў душы маўчыць,
Патрэбнымі ніхто не хоча іх лічыць,
Не прагне ведаў люд і розуму праяў,
Хлусню спрабуе зноў, нібыта воўну, ўзбіць.

***1887***

* * *

Блізкі памірае — сэрца цісне сум,
Смутна наплывае хмара горкіх дум,
Дыаднойчы ў песню перальецца боль,
І маркота сэрца не аддасць на глум.

Жаніха сустрэнуць, правяць шлюбны той,
Ці па юртах зранку ходзяць з маладой, —
Кнамендзе спяваюць, бет-ашар, жар-жар.
Не квітнець без песні радасці зямной!

Нарадзіўся хтосьці — баль, шыльдзехана,
І ў начы не моўкне тостаў гамана.
Нават прамаўляе словы верша бій, —
Ў песні мудрасць продкаў гучная чутна!

Дзверы адчыніла песня ў свет табе.
І праводзіць песня прах твой у журбе.

Песня — спадарожнік радасці зямной.
Будзь ёй сэрцам верны, не забі ў сабе!

Калі песня словам сэрца не кране,
Калі не спазнаеш — вольны спеў ці не? —
Песні не прапетай заставацца век.
Ды не знікнуць песні ў чэзлай даўніне!

Верш — карункаў ззянне, скарб душы майстроў,
Ў ім сабраны шчыльна спеў суладны слоў,
Калі ў ім дакладны трапнай думкі ўзлёт, —
Не памерці песні, стрэць зашмат сяброў!

Слова не ўсхвалюе сытага скупца,
Сэнс у песні знойдзе сэрца мудраца,
Толькі тым, хто цэніць слова, ты спявай
Ў час, калі адкрыты душы для Тварца.

Не прасі за песню ад людзей зашмат —
Праспяваўшы песню, не панёс жа страт!
Хто гандлюе песняй — тых ты абмінай,
Тым спявай ты песню, хто ёй сэрцам рад.

У натоўпе знойдзеш ты не шмат такіх,
Хто умее песню ўзяць душой на слых.
Люд зававабіць хутка іншы чарадзей —
Мала хто пачуе мудрасць слоў тваіх.

Шортамбай, Бухар-Жырау і Дулат, —
Колькі ў іхніх творах плямінаў і лат!
О, калі б знайшоўся знаўца хоць адзін, —
Мігам тыя хібы адшукаў пагляд!

Мужнай і праўдзівай песню сатварыць,
Каб не толькі вочы — сэрцы ёй адкрыць,
Невуку навуку, юным прыклад даць,
Каб змаглі на свеце па-другому жыць!

***1888***

## ВОСЕНЬ

Хмар паспела вязьмо нагадаць аб сабе,
Гэта восень з дажджамі шыбуе ў журбе.
І астылыя долы, скалеўшы ад сцюж,
Капытамі кабыла дарэмна шкрабе.

Траў не стрэнеш на ўлонні празяблых далін,
Ні дзіцячае радасці ўзлётных хвілін!
Нават дрэвы, што ўсохлі, нібыта дзяды,
Ў неба цягнуць бязлістыя рукі галін.

Ўжо дыміцца з авечымі шкурамі чан —
Патрапалася вопратка, ў дзірках чапан.
Правяць-латаюць юрту жанчыны гурмой,
І бабулі сівыя ткуць зыркі дыван.

Клінам шугкім у вырай ляцяць журавы,
Галадаюць вярблюды — не ўзняць галавы.
У маркоце аулы — куды ні ступі,
Не пачуеш вясёлага смеху дзятвы.

Ля астылых цяпельцаў паніклі дзяды,
Моўчкі слухаюць вецер — прадвесце бяды.
Дзесь сабакі блукаюць — палююць мышэй,
Дома костку не кінуць — бяжы хоць куды!

Травы зжухлыя ў стэпе пыл шэры прыб’е,
Зноў дарогі схавае, тугою спаўе.
Будзь пракляты ты, звычай сівой даўніны,
Што раскласці у юртах агонь не дае!

***1888***

* * *

Зімы прадвесце — лістапад, пара ў аул, сябры!
На летняй пашы зноў грымяць халодныя вятры.
І, каб вакольныя лугі да снегу не таптаць,
Трымае ў стэпе коней бай, а не ў сваім двары.

У бая многа пастухоў і юрта — проста цуд!
А бедны мерзне дзень пры дні — на холадзе паўсюд.
Ён квасіць шкуры, дубіць іх у чане ледзяным,
І жонка тчэ яму чакмень, змарнеўшы ад прастуд.

І для дзяцей няма агню, і ў юрце дух сыры.
Цяпло апошняе сышло, астыла без пары.
Ну а старым — зусім бяда, кладзіся — памірай,
Няма ні ежы, ні цяпла, адно гудуць вятры.

Калі ўжо рэжа быдла бай найгоршае няўзнак,
Дык дзе ж сумее адшукаць цяпло і харч бядняк?
Як дасць багаты паўмяшка сухога кізяку —
Удзячным будзь усёй радні яго за той кізяк!

Няхай над стэпам снегавы буран грыміць-мяце,
Ды байскі сын у цеплыні, як горны мак, цвіце,
А батрачок малы пры ім павінен быць штодня
І са слязамі на вачах гібець у галаце.

Нясмела потым, быццам цень, ён зойдзе ў байскі дом
І спінай зноўку падапрэ гару мяшкоў з дабром,
Украдкай падбярэ кусок, што кінуў байскі сын.
У ціхім лежачы кутку, забудзецца ўміг сном.

А бай нахабнікам сынком давольны, будзь здароў!
На радасць баю той расце сабакам — бацькі кроў!
Сваіх пагодкаў беднякоў саромеецца ён,
Бо сквапнасць злодзея пры ім і хіжасць ад звяроў.

Бай не пасобіць бедаку. Спагада — як мана.
А дасць калі — як сцебане ударам бізуна.
Працуй, бядняк, пазыку ты павернеш з каптуром,
Каб баю жыць і багацець, ну а табе — хана!

Самоты поўнае жыццё галодных бедакоў!
Атар бязлікіх уладар, вярблюдаў і быкоў,
Бай, хіжым сквапнікам не будзь, забойцаю не стань,
Зіму хоць гэту пракармі нямоглых беднякоў.

***1888***

## ЗІМА

У апрацінах белых, з сівой барадой,
Ад нямоты сляпы, з ледзяною душой,
Зледзянелы увесь і суровы на від,
Дзе ні ступіць — пасее страх спудлівы свой.
Подых — стылы мароз, сібер люты і снег,
Сват стары, цэлы свет забярэ ў непакой.

Шапка — воблака белае — збіта набок.
Ад марозу гарыць чырвань свежая шчок.
Бровы — чорныя хмары — над стынню вачэй.
Галавой трасяне — снегам засціцца зрок.
А калі раззлуецца і чмыхне, як вар, —
Шасцікрылае юрты хітнецца шасток.

Безліч з раніцы спраў у цікаўнай дзятвы,
Твар мароз апячэ, схоў рукам — рукавы,
І пастух на халат апранае кажух,
І ад ветру, што ў твар, крочыць ледзьве жывы,
Нават коні, што шляхам памчалі наўскач,
Могуць ледзьве адужаць напор снегавы.

Між раз’ятраных сцюж нема выюць ваўкі,
Аж праймае наскрозь чуты страх трапяткі.
Пастухі сцерагуць пільна статкі свае.
Праганяючы сон неадчэпна-гняткі,
Усё ж лепей, як воўк, Кандыбай і Канай.*
Кляты дзед панясе снег і лёд ў дзве рукі.

***1888***

* Назвы суседніх бедных аулаў.

* * *

Дзве дарогі — каханне і страсць — прада мной.
Пожадзь плоццю ўладарыць маёй зямной.
Ды цябе я кахаю, шчаслівай будзь,
Хай загіну я, згіну ў смузе начной.

Ты — мой розум! Я тое даўно спасціг.
Без цябе змрочна ў сэрцы і думках маіх.
Людзі — многіх кахаюць, на ўласны густ,
Для мяне ты — адна, і мілей другіх.

Я — твой раб, о каханне! Трызню і сню…
Ёй адзінай аддам душы дабрыню.
Адлятае надзея — і стыне душа,
Прыляціць — і ў сэрцы патокі агню.

***1889***

* * *

Вітаю ўзлёт танюткіх броў.
Ты ўся — пяшчота і любоў!

Калі сумую па табе —
За цэлы свет ісці гатоў.

Ты лепш за ўсіх, бо шмат гадоў
Ратуеш свет ад халадоў;

Табе я сэрца аддаю —
У вершы вобраз твой прыйшоў.

Няхай сустрэну сто вятроў, —
Мне не абраць другіх шляхоў;

Жывеш у сэрцы ты маім,
Знайшоўшы ў снах таемны схоў.

Ні ворагаў, ні плеткароў
Шаптанне ў цішы вечароў

Ва мне не можа астудзіць
Красы тваёй, што — дар багоў.

На цесным ложы хоць на міг
К агню прыпасці губ тваіх.

Кос удыхаць зноў пах п’янкі,
Грудзей маленькіх і тугіх.

У глыбіні вачэй сухіх
Убачыць страсць, глядзецца ў іх

І разумець, што ты адна,
Што больш няма такіх другіх.

Табой насыціцца б спаўна!
Я, захмялелы без віна,

Зноў заміраю — гэта сон!
Твая краса багам відна.

Мы разам… Юрты мала нам…
Ды ты не тут, а недзе там…

Усё ж я — сокал, і цябе
Насцігну ўміг, на злом вятрам.

Хоць сквапнасці не маю сам,
Ды ў рукі іншых — не аддам.

Ты мне бліжэй і даражэй,
Душы маёй — жывы бальзам!

Прыйдзі, каханая, хутчэй, —
Святлынь зямных маіх начэй,

Мне б прыхінуцца, зазірнуць
Ў гарачы змрок тваіх вачэй!

***1889***

* * *

Кос чарнеча ляжыць уздоўж гнуткай спіны,
І парыўныя крокі, як вецер, чутны.
Позірк карых вачэй як хвалюе мяне!
Прыгажосці такой свет не мае цаны!

Прыгажосцю такой упіваецца зрок,
Льецца ў сэрца яна, як праменны паток.
Што за голас! Усмешка! Плячэй белата!
Хто зраўняецца з ёй? Ўсе саступяць убок.

Ножкі лёгкае спрыт, вусны — гроны калін.
Ты другой не шукай між паўднёвых краін.
І здаецца мне: бачыў аднойчы ужо
Гэты яблык даспелы з казахскіх далін.

Калі пальцы крануць яе локаць знарок,
Сэрца ўчуе крыві найсалодшы штуршок,
Схіліш твар да яе — і гарачая страсць
Разальецца ў грудзях, узнясе да аблок.

***1889***

## ВЯСНА

Як таполі шумяць светлай весняй парой!
Вецер вее з далін прахалодай жывой.
Сонцам стэпавым грэты абсягі зямлі.
Як пярэсты дыван, зацвіце травастой.

Зноў смяюцца, спяваюць паўсюд юнакі,
Дый старэчым у юртах сядзець не з рукі:
Са смяротнага ложа змаглі б іх падняць
Песні, сонца, і вецер, і птушак званкі.

На качэўі вясновым сышлася радня,
Радасць гучна бруіць, шум наўкруг, таўкатня,
А знаёмыя звычна, у жартах сваіх,
Скрозь гаворкі вядуць аж да заходу дня.

Промні сонца блішчаць у вярблюджых вачах,
Коней ржанне вакол, грай птушыны ў кустах,
Над травой і ў галінках трымцяць матылькі, —
Крыльцы граюць страката на цёплых вятрах.

Безліч птушак над плёсам азёрным снуе —
Лебедзь з лопаннем крылы ускінуў свае.
Скачаш — бачыш, як пушчаны сокал ручны
З вышы небнае лебедзя з лёту саб'е.

А вяртаешся — толькі пытанні адны —
«Што здабыў?» — і дзявочыя ўздыхі чутны.
Апранулі дзяўчаты свой лепшы убор,
У далінах цюльпаны, як водбліскі зор,
У прырэччы адкрытым грымяць салаўі,
Ім зязюлі куванне даносіцца з гор.

На вярблюдах тавары прывозяць купцы,
У атарах — прыплод; мкнуць наўскач жарабцы.
Цяжкай працы сялянскай паўсюд віраток,
Часта зводзяць па юртах з канцамі канцы.

Дабрадатнаю радасцю поўніцца свет,
Упрыгожаны слаўна — Тварца запавет!
Ускарміла, як маці, грудзямі зямля
Маладога жыцця агнявы раснацвет.

Як не верыць Тварцу? — не пачуеш нязгод! —
Калі ў свеце вясновым без ліку шчадрот,
Калі цешыць скаціна і ежы спаўна,
Калі радасці скрозь найсардэчны узлёт?

Ператорыць цябе ў малайца дух вясны.
Сталі шчодрымі ўсе. Хлус і сквапнік, яны
Разам дзівяцца дужасці весняй зямной,
Разам сняць аб багацці таемныя сны.

І старыя, што белага снегу сівей,
Ўцешна грэюцца, бачачы гульні дзяцей.
У блакіце нябёс — пеўчых птушак галас,
На азёрах — спаўна іх гарачых страсцей.

Ноччу — яркія зоркі і месяца рог.
Як жа ім не гарэць, калі морак залёг?
Ды пагаснуць яны, як успыхне зара,
Пазалоціць наўкол і лісцё, і мурог.

Зоркі гоніць з нябёсаў нявестка-зямля,
Бо жаніх яе — сонца — шыбуе здаля:
Ноч чакаў ён — спаткання надарыцца міг.
І цяплынню ягонай сагрэта ралля.

Толькі вецер з абсяжных прастораў зямных
Даляціць праз аблокі да зор залатых
І паведае — стрэўся з нявестай жаніх,
Цэлы свет упіваецца радасцю іх.

Бо зіму ўсю зямля — быць далей граху —
Толькі марай жыла аб сваім жаніху,
І цяпер, маладая і светлая ўся,
Заспявала, смяецца — спачыне крыху.

Глянуць прама на сонца — здабыць слепаты.
Я, хто ў сэрцы нясе ўзлёт яго зіхаты,
Толькі вечарам бачыў: сыходзіць яно
У спавіты заходам шацёр залаты.

***1890***

* * *

Ты — вачэй маіх зрок,
Што працяў золь і змрок.
Сэрцу мук не пазбыць,
Не адпрэчыць на крок.

І мудрэц, сам не свой,
Ўсмак кіўне галавой,
Скажа: «Не, між жывых
Не страчаў я такой!»

Я блукаю ў журбе,
Сам не рады сабе,
Россып слоў залатых
Прыбярог для цябе.

Ад душы ў цішыні
Гавару — не спыні.

Бо самой жа няўцям,
Дзе цудоўныя дні.

Зразумееш наўрад
Пачуцця дзіўны лад.
Выгляд скромны ў цябе,
Ды гарачы пагляд.

Холад твой ахіне
І другіх, і мяне.
Боль хаваю, слязу
Па тваёй лью віне.

Косы цемрай начной
Над зарой, над ракой.
У вачах — глыбіня.
Твар — для ўцехі людской.

Зыркі рот — хмельны мёд.
Зубы ззяюць — як лёд.
Пазабыў я спакой, —
Колькі іх, насалод!

Гнуткі стан — трапяткі,
Вабны колер шчакі.
Цнота белых плячэй,
Воч святло — плынь ракі.

Не пачую я ног,
Як ступлю на парог.
Страсці раб, я аслаб,
Ад кахання знямог.

Ты ў самоце — паўзмрок.
Яснасць — сонечны зрок.
Смех твой — трэль салаўя —
Сэрцу чутны здалёк.

Ты — пяшчота сама.
Спадзяюся — дарма?
У журбе без цябе
Мне жыцця ўжо няма.

Грае фарбаю зор
Твой чароўны убор.
На цябе пазірну —
Голас сэрца замёр.

Не стаміся ў хадзе
Ад хвалы, што гудзе.
Слоў патрэбных знайсці
Не змагу я нідзе.

Знаюць бедны і цар:
Прыгажосць — Божы дар.
Наказаў нам прарок
Мець сіло гэтых чар.

Зыркіх слоў дываны…
Ці патрэбны яны?
Сэрцу ты, толькі ты
Мары шлеш, дорыш сны.

Мне ў самоце спяваць,
Мне — цябе забываць.
Сэрца стогн так гучыць,
Што і слоў не чуваць.

Колькі нас ноч не спіць.
Ды з табой нам ці быць?
Блісне дзіўны твой смех —
Страсць мацней закіпіць.

Многа страсці ахвяр
Міг чакае, як дар.
Ці наступіць той дзень,
Што спатоліць мой жар?

***1891***

* * *

Да цемрашалаў быў пагардлівым здаўна,
Лічыў заўжды іх род адной пагарды варты.
Мне свет перарабіць жадалася спаўна,
Ды ўсё ж пераацаніў я сілы ў час пагарды.

Я адбіваўся сам, падтрымкі не займеў,
Калі бязглузды хлус са мной спрачаўся хціва.
Разумнік не адзін стаяў, схаваўшы гнеў,
І вочы апускаў, сыходзячы маўкліва.

І страшна мне на іх свой супыніць пагляд:
Як утрапёныя, яны праходзяць міма.
Пярэчаць, адступаюцца назад,
Ды азіраюцца няўцямнымі вачыма.

Згаджаюцца падчас, хаваюцца у цень,
Зноў з'едліва шыпяць пыхліваю гурбою.
Няма ў мяне больш сіл, за днём сыходзіць дзень,
І хочацца душы астатняга спакою.

Як мул, стаміўся я. Я госць дзяцей сваіх
І жонкі ўласнай. Мне чужымі сталі сцены.

Вядомы добра мне суровы нораў іх,
Ды і ў народзе я не прадчуваю змены.

Зусім я не бядняк, але ў тузе жыву
І горычна аб тым, бывае, разважаю.
Калі даводзіцца, сваімі вас заву,
Хоць сам перад людзьмі ад сораму згараю.

Разлад з-за цёплых месц, насілле, і паклёп,
І хваравіты зуд да кожнай новай справы…
Бадзягі, невукі, адроддзе недацёп,
Усё вы аддалі ў жыцці для таннай славы!

Здаўна сяброўства дар і свет душы жывой
Вам у цяжар былі, і вартыя дакору,
Бо толькі хцівы зман для вас жаданы, свой,
У ім адзіным вы знайшлі душы апору.

Падалей будзь ад іх, сумленны чалавек,
Стаміўся я, і ты агорнешся самотай.
Я розум іх будзіў, ды мной пражыты век,
Яны не ўчулі спеў, спавітыя дрымотай.

***1891***

***Пераклад з казахскай Міколы Мятліцкага.***

## Слоўнік да публікацыі

**Б а й** — феадал, багацей.

**Б е т-а ш а р** — літаральна: адкрыццё твару; абрадная, вясельная песня, якую спяваюць, калі здымаюць з твару нявесты покрыў, знаёмячы яе з родзічамі мужа.

**Б і й** — правіцель і старэйшына роду, родавы суддзя.

**К н а м е н д з е** — абрадная, вясельная песня.

**Т о й** — баль, свята.

**Ч а п а н** — мужчынскае верхняе адзенне, разнавіднасць халата.

**Ш ы л ь д з е х а н а** — свята, прысвечанае нараджэнню дзіцяці, радзіны.



Ніна РЫБІК

# ПАМІЖ ДНЁМ І НОЧЧУ

***Аповесць***

## Дзень…

Надзея, здаецца, рыхтавалася да сустрэчы гэтага Новага года, як ніколі. Не таму, што хацелася свята, як некалі, калі была зусім маладой. Усё гэта даўно мінула, і цяпер адчувалася толькі стомленасць і лёгкі сум: ну вось, і яшчэ адзін год прайшоў, і ты крыху пастарэла…

Але гэтая перадсвяточная мітусня з ёлкамі, клопатамі пра святочны стол, падарункамі зацягвала ў свой вір, і яна, як і ўсе, хадзіла па магазінах, выбірала нейкія сувеніры, купляла прысмакі, а дома прыбірала штучнымі бліскаўкамі штучную, як і гэтае свята, ёлку — ад натуральнай даўно адмовілася, як толькі выраслі дзеці. Ці, хаця, адмовілася яшчэ раней — як не стала каму прыносіць у дом разам з марозным водарам свежасці і свята сапраўдную лясную ёлку, устанаўліваць ва ўсеагульнай радаснай сумяціцы, затым, як пачнуць асыпацца іголкі, прыбіраць, выносіць…

Настрою не было ніякага. Гэта ў дзяцінстве верыш у Дзеда Мароза, у маладосці — у цуды, у шчаслівае каханне на ўсё жыццё. А яна, Надзея, свой ліміт цудаў, падобна, выбрала. «Дый ці былі яны калі?» — спытала сама сябе з горкай усмешкай. І тут жа схамянулася: а як жа, былі! Сустрэча з Віцем — хіба не цуд?

…Яна да таго часу была развядзёнкай з двума дзецьмі на руках. За плячыма — кароткае замужжа: калі б не штамп у пашпарце ды не жэўжыкі-блізняты, Надзея б сама, пэўна, засумнявалася, ці было яно? Ці Паўлік ёй толькі прысніўся?

…Пазнаёміліся яны на танцах, калі ён прыехаў пасля тэхнікума працаваць брыгадзірам да іх у вёску. Яна, не дабраўшы аднаго бала пры паступлен-

---

***Рыбік Ніна Аляксееўна** нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (пасля аварыі — у зоне адчужэння). Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1980) і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1990). Працавала ў хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг». З 1989 года жыве ў Астраўцы, працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда», з 1992 года — галоўным рэдактарам газеты.*

*Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Маладосць», у калектыўных зборніках. Выйшла дзве кнігі яе апавяданняў — «Права на адсяленне» (2001 год) і «Свае і Чужыя» (2008 год).*

ні ў інстытут, каб не губляць год, уладкавалася ў школу важатай і рыхтавалася штурмаваць свой запаветны наргас.

Каханне ўварвалася ў яе жыццё, як навальніца, калі свету белага не відаць, не чуваць нічога навокал, калі ўсё перастае існаваць, акрамя яркай бліскавіцы — яго, адзінага, каханага…

Сустракаліся яны, можа, з месяц. А потым — яна зацяжарыла, а яго ў армію забралі. Божа, якая ганьба — яна ж у школе, з дзецьмі працуе, які прыклад падае сваім піянерам і камсамольцам!

Ён усё зразумеў, прыехаў у кароткатэрміновы водпуск, яны спехам распісаліся ў сельсавеце, бацькі зладзілі сякую-такую вечарыну для самых блізкіх: якое ўжо там вяселле, калі ў маладой жывот на нос лезе, а жаніх назаўтра назад у войска ад’язджае?

Яна нарадзіла двайнят, двух бялявых хлопчыкаў — віхурыстых, сінявокіх, маленькіх таткавых копій. Пісала Паўліку пяшчотныя лісты, абводзіла алоўкам ручкі малышоў: татка, мы цябе чакаем! Ён таксама пісаў — коратка, суха, расказваў, што цяжка, што стамляецца і не мае часу… І чым менш заставалася да заканчэння службы, тым радзей прыходзілі ад яго весткі. А затым і зусім зніклі. Яна не магла зразумець, чаму, хвалявалася — мо з ім што здарылася, ужо ж даўно павінен прыехаць? Пісала на Паўлікаў хатні адрас, расказвала пра дзяцей, пытала, чаму ён не едзе, у чым справа? А аднойчы замест адказу прыйшла позва ў суд: Паўлік падаў на развод.

Яна была ў шоку: як так? Чаму? Не хацеў вяртацца да яе з дзецьмі — дык ніхто ж і не прымушаў, на вяроўцы не цягнуў. Але ж вось каб так, як заяц у кусты — не магла зразумець! Калі разлюбіў — ці не любіў увогуле, ну, сустрэў іншую — дык чаму нельга было ўсё сказаць? Няўжо яна не заслужыла шчырай размовы ці хоць бы звычайнага пісьма, калі ў вочы глядзець сорамна? А дзеці — што ім сказаць, як растлумачыць, калі падрастуць, хто іх татка і дзе ён?

Ад сораму і горычы яна з’ехала з дзецьмі ў горад — дзякуй богу, тады яшчэ жыла маміна сястра, сардэчная адзінокая цётка Таня, якая дапамагла Надзеі паступіць у інстытут на завочнае і закончыць яго, уладкавацца на працу вядучым эканамістам ў адной перспектыўнай арганізацыі. Пакуль цётачка жыла, яна была для Надзеі як анёл-ахоўнік: забірала малых з садка, калі ёй трэба было затрымацца на рабоце, варыла ім абед, калі ў мамы была сесія ці тэрміновая камандзіроўка, вадзіла хлопчыкаў у парк і кіно, чытала ім казкі. І нават кватэру сваю пасля смерці завяшчала ім — дзякуючы гэтаму Надзі не давялося з дзецьмі бадзяцца па прыватных. За ўсё гэта яна была бязмежна ўдзячна цётцы Тані.

Надзея паступова звыклася са сваім лёсам, здаецца, нават пераканала сябе, што ў яе ўсё добра: цікавая работа, цудоўныя дзеці…

Паўліка яна амаль зусім забыла, і яму даўно даравала — толькі зразумець, чаму ён так зрабіў, да гэтага часу не магла. Таму да ўсіх мужчын ставілася вельмі насцярожана, за што ў калектыве, у якім працавала, атрымала мянушку «дзікарка». Не, у звычайным будзённым жыцці мужчыны былі для яе добрымі таварышамі. З імі ёй было лёгка працаваць, яны дапамагалі, калі Надзея нешта не разумела — і яна плаціла ім тым жа: калі трэба было каго «падстрахаваць» — «падстрахоўвала», зрабіць нейкую руцінную работу, якую мужчыны чамусьці больш за ўсё не любілі, рабіла за іх. На карпаратыўных вечарынках яна разам з усімі весялілася, танцавала, жартавала.

Але варта было каму-небудзь з мужчын пачаць аказваць ёй хоць нейкія асаблівыя знакі ўвагі, Надзя адразу рабілася калючай, як вожык, маўклівай, і адразу збягала дамоў. Ніхто не мог зразумець, чаму яна так сябе паводзіць —

а яна і не спрабавала нікому нічога тлумачыць. Ну, сапраўды, не расказваць жа, што як толькі бачыць хаця які пробліск зацікаўленасці ў вачах мужчыны да сябе, ёй адразу ўзгадваюцца пяшчотныя Паўлікавы вочы, яго дужыя рукі, яна чуе пранікнёныя словы кахання, якія ён шаптаў ёй тымі незабыўнымі майскімі начамі, калі марылі пра сумеснае жыццё… І ўсё, што было потым.

Гэтак жа яна ўспрыняла і Віцю. Дакладней, спачатку яна яго ўвогуле ніяк не ўспрымала: ну з'явіўся чарговы малады спецыяліст у аддзеле, і што? Ізноў — сустракай, вучы яго…

Вучыла яна старанна, умела. І таму ўсіх новенькіх, як правіла, замацоўвалі за ёй. Яна недакучліва тлумачыла тое, што маладым было незразумела, вучыла іх таму, што ўмела сама, падштурхоўвала да творчасці, хваліла за поспехі і далікатна ўказвала на памылкі, адначасова падказваючы, як іх можна было пазбегнуць.

Трэба сказаць, што Віктар вучнем аказаўся здольным — адразу схопліваў усё, што яна тлумачыла. І вельмі хутка стаў падаваць цікавыя ідэі: яны разам раіліся, часам спрачаліся, як лепш зрабіць той ці іншы праект. Пры гэтым літрамі знішчалі каву, да якой ён з суседняй кафэшкі заўсёды прыносіў штонебудзь смачненькае. Часам Віктар запрашаў яе на абед, вечарам, калі яны затрымліваліся над чарговай справаздачай, падвозіў да дому — жыла Надзея на ўскраіне горада, і транспарт туды хадзіў дрэнна, а ў маладога спецыяліста быў у поўным распараджэнні бацькаў пашарпаны «Масквічок».

Яна ўспрымала ўсё гэта не больш, чым сяброўскія знакі ўвагі і прымала іх лёгка, з удзячнасцю і ўсмешкай. Нішто яе ў гэтым не насцярожвала — Віця быў нашмат маладзейшы, яна ўспрымала яго, як добрага сябра, як малодшага брата, а ні ў якім разе не як мужчыну, у якога можна закахацца ці які можа закахацца ў яе.

Так было да таго часу, пакуль пра іх адносіны, нібыта не зусім таварыскія, па ўстанове не папаўзлі чуткі. Здаецца, спачатку ёй, Надзеі, пра гэта больш чым празрыста намякнула Вераніка Анатольеўна, першая пляткарка ў іх аддзеле, яна ўзлавалася і нават нагрубіла жанчыне:

— Вы што ўжо, зусім звар'яцелі? Ён жа — дзіця горкае, з-за інстытуцкай лаўкі толькі выйшаў. А ў мяне — нагадаю, калі вы забыліся — двое сыноў у школу ходзяць. Ці вам ужо няма пра што гаварыць, што вы рашылі за мяне ўзяцца?

— Ну, узрост — гэта не перашкода, — хіхікнула Вераніка Анатольеўна. — Цяпер модна — каб муж быў маладзейшы…

Надзея сярдзіта бліснула вачыма і дэманстратыўна раскрыла папку: што тут гаварыць, чым больш будзеш даказваць, што ўсё гэта — глупства і бабскія плёткі, тым менш табе павераць. А ў душы ўсё кіпела — яна не ведала, як сябе паводзіць у гэтай сітуацыі. Апраўдвацца? Навошта, калі яна ні ў чым не вінаватая? Пагаварыць з Віцем? Пра што?

…Пасля бяссоннай ночы Надзея вырашыла, што найлепшае выйсце — зараз трымацца ад Віктара як мага далей. Ды і не было больш нагоды для цесных стасункаў: «школу маладога байца» ён прайшоў паспяхова, усе яе ўрокі засвоіў выдатна, ведаў і ўмеў цяпер усё тое ж, што і яна, а мо нават больш. Але ён ўсё адно да яе стала падыходзіў па некалькі разоў на дзень — то з адным, то з другім пытаннем. Вось толькі цяпер яна, калі што пытаў, адказвала суха, дзелавіта, ад прапаноў папіць разам кавы наадрэз адмаўлялася, з работы ішла «па званку». Словам, паводзіла сябе так, нібы і не было паміж імі той іскрынкі, што праскочыла некалі, калі яны разам, смеючыся, пілі чай з аднаго кубка — у Віктара тады яшчэ не было свайго — адхлёбваючы па чарзе і гэтак жа па чарзе кусалі прынесеную ім шакаладку.

Але чым больш яна пазбягала сустрэч з Віктарам, тым больш настойліва шукаў іх ён: прыдумваў нейкія неіснуючыя праблемы, прасіў, каб яна дапамагла іх вырашыць, кожны дзень чакаў пасля работы і прапаноўваў падвезці — яна рашуча адмаўлялася, а назаўтра ён зноў спыняў яе на ганку з той жа прапановай.

Урэшце Надзея вырашыла, што з Віктарам усё ж трэба сур'ёзна пагаварыць — хай не марнуе свой час і не псуе яе рэпутацыю, у яе ж дзеці, і яна не можа сабе дазволіць, каб пра іх маці распускалі брудныя плёткі. А плёткі тыя ён, Віктар, правакуе сваімі паводзінамі.

Размовы не атрымалася. Дакладней, яна атрымалася зусім не такой, як яна думала.

...Калі суботнім вечарам ён напрасіўся да іх у госці, яна вырашыла, што хай прыходзіць — будзе магчымасць спакойна, без чужых вачэй і вушэй, пагаварыць, сказаць яму ўсё, як ёсць. Віктар заявіўся з кветкамі і торцікам — яна прыняла іх гэтак жа суха, як і ўсе яго знакі ўвагі ў апошні час. Калі яны папілі чай, яна адправіла дзяцей спаць і не хаваючы раздражнення, прама спытала ў яго:

— Віктар, не ведаю, знарок ці не, але ты мяне кампраметуеш. І сябе таксама. Ты ведаеш, якія плёткі пра нас з табой распускаюць?

Здаецца, ён не заўважаў яе настрою, падкрэсленай халоднасці і ўсміхнуўся:

— Канечне — хто ж пра іх не ведае! І мяне ў іх не задавальняе толькі адно: тое, што яны беспадстаўныя. Мне здаецца, гэтую недарэчнасць даўно трэба выправіць.

Яна аслупянела ад такога нахабства. І раззлавалася: для яго гэта, аказваецца, нагода для жартаў!

— Слухай, хлопчык, ты хоць ведаеш, колькі мне гадоў? — завялася яна: трэба ўрэшце паставіць гэтага малакасоса на месца.

— А як жа! Я ўсё ведаю: колькі табе гадоў, колькі мне, колькі ў цябе дзяцей і колькі мы яшчэ народзім.

— Слухай, хто даў табе права «тыкаць» мне?! — здавалася, што ва ўсім, што ён сказаў, яна пачула толькі гэтае «ты» — і яно яе найбольш абурыла. — Ты проста нахабнік!

— Ну хто ж спрачаецца? — Віктар рашуча падышоў да яе, прыцягнуў да сябе і моцна абняў. — Хіба ж можна наблізіцца да такой дзікаркі, а тым больш пацалаваць яе, не маючы ні кроплі нахабства?

Ён не даў ёй больш сказаць ні слова: паралізаваў вусны, розум, усю яе істоту доўгім пяшчотным пацалункам. Яна не мела больш ні сіл, ні жадання супраціўляцца, і на рэштках беззваротна пераможанага цвярозага разуму, як белы сцяг своеасаблівай капітуляцыі, аднекуль узнікла, нібы прыйшла з іншага Сусвету, думка: «Я зусім забылася, якая гэта асалода... Ці мо і не ведала?»

...У тую ноч Віктар застаўся ў яе — і Надзея са здзіўленнем адчула, што яшчэ не забылася, што гэта такое — быць жаданай і страснай жанчынай, раставарацца ў мужчынскай пяшчоце — ёй здавалася, што разам з успамінамі пра Паўліка яна выкінула з душы і тыя адчуванні, якія ці то былі, ці то прымроіліся ёй у далёкім вясновым сне і растварыліся разам з воблікам бацькі яе сыноў, які быццам прапаў без вестак.

Ранкам яна хацела выправіць Віктара зацемна — каб, крый божа, дзеці не ўбачылі, каб не трэба было ім нічога тлумачыць. Віктар жа, нягледзячы на яе настойлівасць, не пайшоў — усё прыдумваў сабе нейкую работу па кватэры: то пракладку трэба было ў кране замяніць, то разетку, якая сто год не працавала, адрамантаваць. А калі яшчэ заспаныя Сеня з Сярожкам выйшлі на кухню

і здзіўлена застылі, убачыўшы дзядзю Віцю, які прымайстроўваў даўно зляцеўшую з хліпкага мацавання палічку, ён весела падміргнуў ім:

— Прывітанне, байцы! Доўга спіце. Снедаць будзеце?

— Будзем, — нічога яшчэ не разумеючы, адказалі яны.

А калі хлопцы ўміналі амлет, гэтак жа дзелавіта, нібы між іншым, спытаў:

— Вы не супраць, калі я ў вас жыць буду? З вамі і з вашай мамкай? Харошая яна ў вас, мне падабаецца. І вы — таксама.

Надзея счырванелася, гнеўна бліснула на Віктара вачыма і адвярнулася да пліты: ну што ты будзеш рабіць з гэтым нахабнікам! У яе хоць бы дзеля прыліку спытаў — згодна яна на гэта ці не?..

Хлапчукі пераглянуліся, паціснулі плячыма і ўнурылі галовы. Відаць было, што яны насцярожыліся: ім і з мамкай было добра, а тут нейкі чужы дзядзька ў кватэры з'явіцца… А з іншага боку: ва ўсіх ёсць бацькі, яны з імі нешта майструюць, у паходы ходзяць, на футбол, а ў іх — толькі мама. Яна, канечне, добрая і прыгожая, але ж веласіпед рамантаваць не ўмее і Кольку з суседняга двара, які заўсёды стараецца пакрыўдзіць малечу, ёю не напалохаеш, толькі дражніцца потым будзе: «Мамчыны сынкі». А гэты дзядзька Віця — ён, здаецца, нічога сабе…

— Ладна, жывіце, — першым выціснуў з сябе Сеня — за ім, на пяць хвілін старэйшым, заўсёды заставалася права рашаючага голасу. З братам згадзіўся Саша:

— Жывіце.

Яны сталі жыць разам. Тыдзень ці два на працы ўсе актыўна абмяркоўвалі гэтую навіну, а шчаслівыя Надзея і Віктар зацята маўчалі.

У першы ж вечар, калі Віктар перанёс да іх свае рэчы, ён прапанаваў ёй распісацца і, калі яна хоча, павянчацца. Яна адмахнулася і пажартавала:

— Пачакай, давай хоць прывыкнем адно да аднаго. Можа, цераз месяц будзеш уцякаць адсюль, як шведы з-пад Палтавы.

Ён пасмяяўся:

— Нават не разлічвай, што ад мяне так лёгка пазбавіцца. Я настырны…

Недзе з паўгода ён даў ёй «на прывыканне». А затым ледзь не штодня нагадваў пра загс. І кожны раз яна знаходзіла нейкую прычыну, каб адкласці гэтую падзею — на месяц, два, паўгода.

…Ёй было хораша з Віктарам, яна была шчаслівая, што ён тут, побач, заўсёды, кожны дзень і кожную гадзіну. У доме нарэшце з'явілася мужчынская рука, і ўсё, што трэба, было прыбіта, краны не цяклі, лямпы гарэлі роўным спакойным святлом, чатыры пары начышчаных да бляску чаравікаў і боцікаў стаялі кожную раніцу ў прыхожай. А галоўнае, што яна ўпершыню ў жыцці адчула сябе «за мужам»: было з кім пагаварыць вечарам пра ўсё, параіцца, было каму прыняць рашэнне, узяць на сябе адказнасць. Яна толькі цяпер зразумела, як стамілася ад неабходнасці рабіць усё гэта самой і якая гэта асалода, нязведаная ёй раней — быць проста жанчынай: слабай, часам наіўнай, нават дурненькай…

Але ў яе душы падспудна жыў страх: гэта ненадоўга. Проста немагчыма быць такой шчаслівай увесь час. Хутка Віктару ўсё надакучыць — яна, яе непаседлівыя хлапчукі, якія вечна ўлазілі ў нейкую гісторыю, з якой іх трэба было выручаць, бясконцыя хатнія клопаты. І яму захочацца кінуць усё. Захочацца разам са сваімі нежанатымі інстытуцкімі сябрамі, якія адкрыта іранізавалі з Віктаравага так званага сямейнага становішча, рвануць у кампаніі даўганогіх дзяўчат куды-небудзь далей ад усяго гэтага… І ён знікне, як некалі знік Паўлік… Дык з Паўлікам яны былі аднагодкамі, а тут такая розніца ва ўзросце, і не на яе карысць… А калі так, то навошта пэцкаць пашпарт?

Аднойчы — яны жылі разам ужо тры гады — ён у чарговы раз прапанаваў ёй пабрацца шлюбам — і ў чарговы раз пачуў адгаворку, маўляў, давай крыху пачакаем, хоць бы да лета… Дзіўна, але на гэты раз ён не ўздыхнуў пакорліва, як звычайна, а ўзарваўся:

— Ну, даволі! Спачатку — да зімы, потым — да лета, потым — калі мама паправіцца, потым — калі праверка закончыцца…. Колькі можна? Ад каго ці ад чаго ты хаваешся? Зразумей: я так больш не магу, я хачу мець сапраўдную сям'ю, а не жыць з табой, як сужыцель! Колькі можна табе даказваць, што я — усур'ёз і назаўжды? Я разумею, у цябе быў негатыўны вопыт, але ж гэта не азначае, што ўсе мужчыны такія, як бацька тваіх дзяцей. Калі ты так і не зразумела, што я люблю цябе і хлапчукоў і хачу пражыць з вамі ўсё жыццё, то я, напэўна, не змагу цябе пераканаць — аргументаў больш не маю! Раз ты не хочаш стаць маёй жонкай, то значыць, ты мяне проста не любіш. А калі так, то няма чаго ваду ў ступе таўчы, трэба разбягацца.

Сказаў — і пайшоў у спальню, шчыльна зачыніўшы за сабой дзверы. А яна, прыгаломшаная, сядзела ў кухні за сталом, цярэбячы напаўраскрытыя бутоны гваздзікоў, якія ён прынёс з нагоды ўрачыстасці моманту. І Надзея раптам зразумела, што ўжо не ўяўляе свайго жыцця без яго. І самае страшнае, што сёння можа здарыцца — гэта калі ён і сапраўды пакіне яе. Яна ўжо аднойчы зведала гэты боль, у другі раз такога не вытрымае. Пайсці зараз да яго і сказаць: «Я цябе кахаю і згодна стаць тваёй жонкай»? Сорамна… А раптам ён падумае, што яна проста спалохалася? Не, лепей заўтра — ранак мудрэйшы, чым вечар…

А на світанні Віктара забрала «хуткая» — перадінфарктны стан. Надзея пакутавала ад пачуцця віны — гэта іх вячэрняя размова справакавала стрэс. І чаму было не сказаць адразу, навошта трэба было Віктара да такога даводзіць? Ну і што з таго, што яна — старэйшая? Сапраўды, не яны першыя, не яны апошнія… І ў тым, што Паўлік не вярнуўся да яе, не Віцева віна — чаму ён павінен за яе адказваць?

Як толькі яму дазволілі падымацца, яна падчас прагулкі па асеннім бальнічным скверы сказала, хаваючы вочы — не вельмі прыемна было ўспамінаць тую апошнюю размову:

— Помніш, ты нешта ў мяне пытаўся перад тым, як трапіць сюды?

— Ты пра што?— не зразумеў ён спачатку — ці зрабіў выгляд, што не зразумеў.

— Ты прапаноўваў мне выйсці за цябе замуж....

Ён маўчаў.

Яна прадоўжыла пасля паўзы:

— Дык вось, я згодна.

— Вось як? — усміхнуўся ён. — Пашкадавала, значыць? Не хвалюйся, я яшчэ не паміраю…

— Дурненькі… Не ў шкадаванні справа. Хоць я не бачу нічога дрэннага ў тым, што шкадуеш чалавека, які табе дарагі — і чаму ўсе лічаць, што гэта прыніжае? Мне, напрыклад, вельмі прыемна, калі ты мяне шкадуеш, калі я захварэю… Але гэта іншае… Проста я зразумела, што не магу без цябе. Што, акрамя дзяцей, ты — самы дарагі ў маім жыцці чалавек! Што я цябе люблю. І хачу нарадзіць ад цябе дзіця — хлопчыка ці дзяўчынку…

Ён глядзеў на яе з недаверам: няўжо гэта праўда і яна сказала яму гэтыя словы, якія ён так прагнуў пачуць усе гэтыя гады?

А затым, шчаслівы, не здольны сказаць ні слова, моўчкі прыхінуў Надзейку да сябе.

— Ты толькі не крыўдзі мяне, добра? — прашаптала яна некуды яму пад паху. — Я баюся, што больш не змагу вытрываць той боль…

— Добра. Толькі і ты мяне — таксама…

…Божа, якія яны тады былі шчаслівыя! Тады, як яна зацяжарыла, калі нарадзілася Танюшка. Надзя нарэшце паверыла, што і яна мае права на шчасце. Яна забылася пра свой узрост — і ад гэтага, ці ад цяжарнасці і родаў, якія робяць маладзейшай і прыгажэйшай кожную жанчыну, і сапраўды расцвіла. Віця кожную вольную хвіліну стараўся быць з імі, хлапчукі насіліся з сястрычкай, як з лялькай…

…І куды ўсё падзелася? Калі ўзнікла сцяна паміж імі? І хто яе пабудаваў? Яе ўзрост?.. Так, сапраўды, калі ёй было трыццаць пяць, а яму — дваццаць пяць, розніца не асабліва заўважалася. Калі ёй — сорак, а яму — трыццаць — таксама не надта. А цяпер, калі яе ўзрост набліжаецца да пенсійнага, а ён, як кажуць, мужчына у самым саку… Як яна ні старалася сачыць за сабой, усё роўна талія пакруглела, паходка пацяжэла, а маршчынкі-здрадніцы гусінымі лапкамі наслядзілі ля вачэй, на руках, шыі… І скура ўжо не тая, і сівыя валасы, як іх ні зафарбоўвай, праглядваюць. Гэта мужчын сівізна ўпрыгожвае, а жанчын… Некалі ён любіў паўтараць, што яе прыгажосць — не талія, не ногі, не валасы, а вочы і душа, а яны не старэюць. Ды вось, пэўна, пастарэлі…

Прыйшоў момант, калі Віктар перастаў расказваць ёй пра свае справы, пытаць парады. Надзея спачатку спытала чаму, але хутка ўбачыла, што яго гэта толькі раздражняе, і перастала. Холад нейкі ў душу забраўся… Ён стаў затрымлівацца дапазна на рабоце — яна пасля дэкрэтнага перайшла працаваць у іншую арганізацыю, бліжэй да дома, каб зручней было забіраць Танечку з садка. Вечарам Віктар усё часцей спасылаўся на стомленасць і засынаў на канапе… Нават з Таняй размаўляў нібы між іншым: «Як справы? Нармальна». Хлопцы, якія цяпер вучыліся ў іншым горадзе і дахаты прыязджалі толькі на выхадныя, ды і то не на кожныя, увогуле Віктара мала бачылі: з-за цяперашняй загружанасці на рабоце ён вымушаны быў хадзіць ва ўстанову амаль кожную суботу і нядзелю.

…А потым Надзеі сказалі, што ў Віктара ёсць іншая жанчына. Працуе з ім у адным аддзеле. Прыгажуня, бландзінка. Агонь-баба, з-пад змяі яйкі выграбе. Свайго нідзе і ні ў чым не ўпусціць.

Недзе ў сонечным спляценні — мо там і знаходзіцца душа? — нешта варухнулася, зашчымела, запякло… Надзя не проста паверыла, што гэта праўда — зразумела, што даўно пра гэта ведае. Толькі верыць баялася. Яна нават ведае, што яе завуць Аня — успомніла, як аднойчы ён расказваў пра тое, што ў іх з'явілася новая супрацоўніца, і якія пры гэтым у яго былі вочы. Аднойчы ён нават знаёміў іх — яны выпадкова сустрэліся ў магазіне. Шыкоўная бландзінка міла ёй усміхнулася і сказала камплімент:

— Віктар Аляксеевіч, ваша мама цудоўна выглядае…

А потым доўга выбачалася — а ў вачах пры тым скакалі чарцяняты.

Пасля таго і стала ўзрастаць паміж імі сцяна…

…Яна не хадзіла да саперніцы высвятляць адносін — навошта? Не разыгрывала сцэн рэўнасці і ні пра што не пыталася — старалася паводзіць сябе, як звычайна. Але Віктар, здаецца, зразумеў, што Надзея ўсё ведае і таму ўсяляк пазбягаў заставацца з ёю сам-насам — баяўся, як яна разумела, той самай галоўнай размовы, якая павінна адбыцца між імі.

Але аднойчы, калі Віктар у чарговы раз вярнуўся дамоў далёка за поўнач, яна сустрэла яго ў прыхожай:

— Віця, я так больш не магу. Выбірай, з кім ты хочаш жыць. Я разумею, што гэта няпроста. Але ты ўсё ж зрабі выбар.

Ён вінавата глянуў на яе і моўчкі пайшоў у спальню.

Прайшло яшчэ колькі часу. Часам ёй здавалася, што ўсё стала, як раней: Віктар вяртаўся дахаты рана, быў вясёлы, пяшчотны, прыносіў ёй кветкі, падоўгу распытваў Таню пра яе справы, запрашаў іх у кіно.

А затым зноў сыходзіў…

Калі праз месяц яна спытала, што ён вырашыў, Віктар, хаваючы вочы, сказаў, што нічога. Што не можа пакінуць ні яе, ні тую.

— Ну, тады я табе дапамагу. Усё ж я старэйшая, павінна быць мудрэйшай, — горка ўздыхнула Надзя — і моўчкі стала збіраць яго рэчы.

Яна была ўпэўнена, што зараз ён спыніць яе, суцешыць, пацалуе — і вернецца да іх назаўсёды. А ён, здаецца, узрадаваўся, што нехта дапамог яму зрабіць выбар, прыняў за яго рашэнне… Хоць зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся. Нават паспрабаваў яе абвінавачваць: маўляў, ты мяне ніколі не любіла, таму і замуж ісці не хацела, толькі пра Паўліка свайго і думала ўсё жыццё… Гэтыя яго абвінавачванні былі настолькі бязглуздымі, недарэчнымі, несправядлівымі, што яна толькі горка ўсміхнулася. І заплакала — тады, як за ім зачыніліся дзверы.

Пазней, калі было невыносна балюча, калі ночы доўжыліся, нібы гады, здавалася, бяссонніца разрывала на шматкі душу, яна часам шкадавала пра сваю паспешлівасць, думала, можа, каб паводзіла сябе інакш: скандаліла, высвятляла адносіны з разлучніцай, усё закончылася б добра? Ці наадварот, калі б і далей рабіла б выгляд, што нічога не ведае… Можа, ён і перагарэў бы, здаволіўся, нацешыўся з той маладухай і вярнуўся да іх — усё ж тут сям'я, дачка, якую ён бязмежна любіць. А так, лічы, сама падштурхнула да расстання — такая мудрая і справядлівая… «Каму яна трэба, твая мудрасць? — дакарала Надзея сябе ў такія хвіліны. — А цяпер вось зноў адна…»

Хаця, разважаючы так, у глыбіні душы разумела, што нічога б гэта не змяніла — толькі б падоўжыла агонію. Можа, ён і застаўся б з імі — з-за пачуцця абавязку. Але вочы яго былі б такімі ж чужымі, затраўленымі, як увесь апошні час. І пры кожным зручным выпадку ён рваўся б да яе, той бландзінкі, — моцна, відаць, запала яна яму ў душу. Хіба ад гэтага яе і Надзіна душа балела менш?..

…І вось сёння, калі яна вярнулася з рынка, са свайго пакоя выглянула Танюшка, сцягнула плэерную слухаўку з аднаго вуха:

— Мам, ты прыйшла? Калі будзем рыхтаваць святочны стол? Што табе дапамагчы? Паклічаш, як дапамога спатрэбіцца, добра?

І дадала між іншым, як пра нешта будзённае:

— Сёння бацька тэлефанаваў, пытаўся, ці можна яму з намі Новы год сустракаць. Я дазволіла — ты не супраць? — і схавалася назад.

А Надзя ў роспачы прысела на зэдлік: чаму Віктар вырашыў прыйсці? Увесь гэты год ён размаўляў толькі з Таняй, ёй жа, Надзеі, пры сустрэчы толькі злёгку ківаў галавой у знак прывітання. Дык навошта яму прыходзіць? Цяпер, калі ёй амаль адбалела, калі яна ў чарговы раз пераканалася, што шчасце — гэта не для яе, што свой ліміт цудаў яна выбрала...

## Ноч…

Аня загадзя заказала на навагоднюю ноч столік у рэстаране. Стаяць ля пліты яна не любіла і не ўмела, нават у будні — а што ўжо казаць пра такое свята, як Новы год? Ды і не мела часу на ўсялякія там піражкі-катлеткі. Куды лепш у яе атрымлівалася рабіць праводкі і балансы — бухгалтар яна была класны. І, акрамя асноўнай работы, якая патрэбна была ёй для стажу, вопы-

ту, саліднасці — такімі фірмамі, куды яе ўладкаваў бацька, не раскідваюцца — падпрацоўвала яшчэ ў дзвюх драбнейшых. Дзе тым не менш за яе згоду і ўменне весці двайную бухгалтэрыю — ды такую, што ніводная праверка не падкапаецца! — салідна плацілі. І яна лічыла, што за той час, што яна патраціць на баршчы-кампоты, лепш зарабіць грошы, за якія затым можна апрануць шыкоўную сукенку, надзець дарагія ўпрыгожанні і пайсці ў рэстаран, дзе пад добрую музыку і захопленыя позіркі мужчын не толькі смачна паесці, але і прыгожа адпачыць.

…Столік яна заказала на дваіх. Але сядзела за ім пакуль адна. На яе азіраліся, і Аня адчувала сябе ніякавата — усе былі пераважна з кампаніямі, у крайнім выпадку — парамі... І мужчыны, што звычайна, як кажуць, з'ядалі яе позіркамі, цяпер паглядвалі неўразумела.

Аня чакала Віктара. І ўпершыню за апошні год іх сумеснага жыцця не была ўпэўнена, што ён прыйдзе. Учора, калі Аня прашаптала яму на вушка, што ў яе для яго сюрпрыз: Новы год яны будуць сустракаць удваіх — толькі ён і яна, Віктар не ўзрадаваўся, не засвяціўся ад шчасця, а неяк вельмі будзённа адхіліўся і сказаў:

— Ты прабач, але я паабяцаў Тані, што прыйду на Новы год да яе. Дачка вельмі прасіла. Сумуе…

Аня закаціла яму такі грандыёзны скандал, на які толькі была здатная. Сапраўды, пра што ён блюзніць — ужо заказаны столік у рэстаране і аванс заплачаны. А калі Тані так хочацца яго бачыць ці ёй спатрэбіліся бацькавы грошы, то ён можа схадзіць да яе і першага студзеня. І, мусіць, тут, не ў Тані справа, а ў Танінай мамачцы — напэўна, Віктара зноў пацягнула на старызну, на сэканд-хэнд…

…Яна перастаралася — мусіць, таму, што скандал быў не адрэпеціраваны, а сапраўдны. Нагаварыла лішняга — раней сябе старанна кантралявала, не дазваляла такога, дакладна разлічвала, што можна сказаць, якія стрункі душы крануць. Пэўна, расслабілася, паверыла, што Віктар — ужо канчаткова яе, і больш нічый. І «пракалолася». Калі раней яе слёзы дзейнічалі на яго безадказна: ён падаў перад ёй на калені, выпрошваў прабачэння, асыпаў ласкамі, кляўся ў каханні, то цяпер нешта не спрацавала. Дакладней, спачатку нібы і спрацавала: усю ноч ён яе суцяшаў і быў казачна пяшчотным. Яна ўжо было вырашыла, што ўсё ў парадку. А ранкам, адводзячы позірк, Віктар нагадаў, каб сёння яна яго не чакала — ён пойдзе да дачкі. Ён абяцаў, і не можа падмануць дзіцячыя спадзяванні.

Аня тупнула нагой:

— Я чакаю цябе ў рэстаране! Калі ты не прыйдзеш да дванаццаці гадзін, то можаш не з'яўляцца ўвогуле. Дзякаваць богу, я яшчэ не такая старая і брыдкая, каб не знайсці сабе спадарожніка — на гэтую ноч і на ўсё астатняе жыццё.

«Старой» яна знарок укалола Віктара — у чарговы раз хацела нагадаць пра ўзрост яго былой жонкі, да якой ён сабраўся ў гэтую навагоднюю ноч — і хто паверыць гэтым казкам пра дачку?

Перад ёй, яго першай жонкай, а тым больш перад яе дзецьмі, і нават перад Таняй Аня сябе вінаватай не лічыла. Ну, сапраўды, у чым яе віна? Яна такая ж, як і ўсе. І марыць пра тое ж, што і ўсе: пра сваё жаночае шчасце. Хіба яна вінаватая, што ўсе прыстойныя мужыкі ўжо разабраныя? І кім, божа мілы? Тая ж Віктарава жонка — была б якая супермадэль, а то — старая кашолка, дзе толькі яго вочы былі, як ён на ёй ажаніўся?! З такой жа — ні ў пір, ні ў мір, ні ў добрыя людзі. І якія ж яна знайшла сродкі, дзе адшукала знахароў, каб ахамутаць маладзёна? Навошта ёй, кабеце перадпенсійнага ўзросту, якой ужо час унукаў няньчыць і пра вечнае думаць, такі мужык — прыгожы, разумны, добры, забяспечаны? За якія такія заслугі? Гэта несправядліва!

«І гэтую несправядлівасць трэба ліквідаваць! — пераконвала сабе Аня, калі ад ахвочых да падрабязнасцей чужога жыцця каляжанак даведалася ўсё пра свайго новага начальніка. — Праверым, ці сапраўды ён такі прыкладны сем'янін, як пра яго расказваюць. Не можа быць, каб мае чары не спрацавалі, не было яшчэ такога. Тым больш, што жонка яго мне не саперніца. Бачыла я яе тады на рынку: бабулька, што «косіць» пад маладуху. Правільна я ёй тады «камплімент» пра мамачку адважыла — хай ведае, хто яна побач з ім. А я — не з'ем, то хоць надкушу. Паспрабаваць жа можна, што я губляю? А там, глядзіш, жонцы хто-небудзь даложыць, ахвочых жа хапае. А калі раптам не знойдзецца, то і самой няцяжка тэлефонную трубку зняць, карона не зваліцца. Пераможцаў не судзяць… А калі і судзяць, то не караюць. А перамога тут вельмі нават можа быць! Вунь як яго вочы загараюцца, калі на яе глядзіць, як усміхаецца. А то! Дарэмна, ці што, тройчы на тыдзень — фітнес, салярый, басейн, касметолаг…»

…Нарадзілася яна не зоркай, далёка не прыгажуняй, але ж пастаўленая мэта, цярпенне і праца над сабой вылепілі з брыдкага качаняці царэўнулебедзь — хто б паверыў, што такое магчыма? У дзяцінстве яна заўсёды зайздросціла прыгожым сяброўкам, якіх усе любілі — ні за што, толькі за тое, што ў іх мілая ўсмешка і сімпатычны тварык. Такім усё давалася лёгка — з імі хацелі сябраваць, іх запрашалі ў самадзейнасць і нават адзнакі завышалі. А ёй, каб дабіцца ўсяго гэтага, трэба было працаваць і працаваць. І яшчэ тады, у дзяцінстве, яна вырашыла, што абавязкова стане прыгожай. Як? Ну стала ж агульнапрызнанай прыгажуняй прынцэса Дзіяна — хаця, калі прыгледзецца, нічога ў ёй асабліва прыгожага, а тым больш дасканалага, не было.

Недзе яна вычытала, што непрыгожых жанчын не бывае. І што галоўнае — сачыць за сабой. Вось яна і сачыла — купляла жаночыя часопісы, вучылася рабіць макіяж, займалася спецыяльнай гімнастыкай, старанна падбірала адзенне, знайшла адмысловага цырульніка, які зрабіў з яе колішніх «мышыных хвастоў» сапраўдную карону. Яе не пазнавалі былыя аднакласнікі і суседзі. Гэта цешыла самалюбства, але адчування дасканаласці не давала.

Яго прынесла першая сур'ёзная перамога, калі яна адбіла ў сяброўкі жаніха. Ёй той Жэнька сто гадоў быў не патрэбны! А Верачка, былая аднакласніца, лепшая яе сяброўка, у яго па-сапраўднаму закахалася. Верачку было шкада — усё ж яна адзіная, з кім Аня магла пагаварыць пра ўсё, хто яе стараўся зразумець і не нудзеў на вуха «Як ты можаш? Гэтак нельга…» Цяпер ужо ў яе такіх сяброўак, верных і адданых, няма… Але ж трэба было праверыць сваю тэорыю і дасягненні практыкі, пераканацца, што яна — на правільным шляху… І яна ўключыла ўсе свае чары. Спачатку набівалася да Жэні з Верай у кампанію, куды б яны ні ішлі: у кіно, на пікнік ці проста сядзелі і слухалі музыку. Сяброўка не магла ёй адмовіць: Анечка ж такая адзінокая, няшчасная, у яе пакутлівыя душэўныя пошукі сябе. Потым усё часцей, пакуль Вера займалася кухняй, верная сяброўка — ах, я нічога ў гэтым не разумею! — ішла з Жэнькам у магазін ці выгульваць сабаку…

Жэнечка трымаўся нядоўга — вельмі хутка і незаўважна для самога сябе ён апынуўся ў яе пасцелі. І пасля таго, здаецца, страціў розум, пра Веру забыўся, хадзіў за Аняй, як бычок на вяровачцы. Яе гэта нават раздражняла, але выгляду не паказвала. Вера ўся ўчарнела, нікога не хацела бачыць. А пасля таго, як бацькі вечарам выпадкова знайшлі ў яе тумбачцы дзясятак ўпаковак валідолу, яе ні на хвіліну не пакідалі адну. Аня і сама спалохалася і, каб не падумалі, што лепшую сяброўку яна давяла да суіцыду дзеля забавы, нават схадзіла замуж за Жэньку. Ненадоўга, на годзік. Потым кінула яго гэтак жа лёгка, як і атрымала.

Праўда, і ў яго гэты шал да таго часу, здаецца, прайшоў. Ніякіх сцэн не было. І жыцця — таксама. Адно толькі ён паўтараў уночы, скрыгочучы зубамі, калі думаў, што Аня спіць: «Дурань, які ж я дурань… І нягоднік. Не, яна мне ніколі не даруе».

— Даруе, даруе, — не вытрымала неяк Аня, якой гэтае яго самабічаванне надакучыла, да таго ж закранала яе самалюбства. — Папросіш добра — і даруе.

…З Віталем усё было па-іншаму На яго яна мела сур'ёзныя планы. У яго была прыстойная работа, добры заробак, кватэра, якая засталася яму пасля бацькоў, якія рана памерлі. Спакойны,ураўнаважаны, тактоўны, галантны. І галоўнае, яе любіў без памяці — любы яе капрыз гатовы быў выканаць. А яна? А навошта ёй было любіць? Некалі, яшчэ ў школе, Аня, тады няскладная, цыбатая, закахалася ў першага прыгажуна класа Валерку, які толькі пасмейваўся з яе і паддражніваўся. Тады яна сяк-так, пасля мора пралітых слёз, балючых абраз і насмешак прадмета свайго захаплення, яго сябрукоў і больш шчаслівых саперніц, пры падтрымцы вернай сяброўкі Верачкі вызвалілася ад пакутлівай прывязанасці да Валеркі. І вырашыла: кахаць — гэта занадта балюча. Гэта не для яе. Куды больш прыемна адчуваць, што цябе кахаюць. І вырашаць, што з ім, Віталікам, рабіць: пасмяяцца, адштурхнуць — ці прыняць. Хай лепш яе любяць! А цвярозая галава, не затуманеная ніякімі там «асясяй» — куды важней. Аня вырашыла, што любіць цяпер будзе выключна галавой, бо сэрца ў гэтай справе — дрэнны дарадчык.

Віталік ідэальна падыходзіў на ролю мужа: менавіта такім яна ўяўляла свайго «суджанага-ражанага». Але сякія-такія якасці яго характару ёй не падабаліся. І яна актыўна занялася яго перавыхаваннем. Ён быў занадта прыстойны — як у сённяшні час можна быць такім? Залішне шчодрым — калі гэта праяўлялася ў адносінах да яе, то такую шчодрасць можна было толькі вітаць, а калі ён пачынаў адорваць дарагімі падарункамі пляменнікаў ці ўвогуле суседскіх дзяцей, у якіх бацькі-п'янтосы, то гэта ўжо ні ў якія вароты не лезла. «Мы што, самыя багатыя? Ты не сонца, ўсіх не абагрэеш», — даводзіла яна Віталіку. А той не згаджаўся: «Але ж хоць каго-небудзь сагрэць можна…»

І з упартасцю, вартай лепшага прымянення, марыў пра дзіця. А дзіця ў яе планы пакуль не ўваходзіла…

…Аня самакрытычна прызнавала, што ў перавыхаванні Віталіка яна, як кажуць, крыху перагнула палку. Да ідэалу заставалася нейкая драбяза: трэба было падкінуць у адпаведныя інстанцыі кампрамат на начальніка — і заняць яго месца. Тым больш, што і выдумляць нічога не патрабавалася: начальнік любіў яшчэ зрання кульнуць кілішак, а к абеду — і другі-трэці. Ну што гэта за кіраўнік? Хіба Віталь — разумны, таленавіты, малады, перспектыўны — менш заслугоўвае гэтай пасады, горш будзе весці справу, чым гэты без пяці хвілін алкаголік перадпенсійнага ўзросту? «А тады ўжо, з надзейнымі тыламі, можна і пра спадчыннікаў падумаць…» — яна спрабавала сыграць на яго марах і спадзяваннях.

Але гэты яе дэталёва распрацаваны план чамусьці Віталіка не захапіў. Ён паглядзеў на яе неяк дзіўна, чужым, незнаёмым позіркам, без захаплення і закаханасці… Нічога не стаў тлумачыць — і праз нейкі час знік. Слабак!

Пасля яго, праўда, у Ані засталася кватэра — яны паспелі распісацца, і Віталь, як сапраўдны джэнтльмен (хутчэй дурань — хмыкала пры гэтым сама сабе Аня) пакінуў ёй, жонцы.

Пазней яна шкадавала, што не нарадзіла ад яго дзіця, калі ён хацеў і прасіў. Вось тады б ужо ён, галубок, нікуды не дзеўся! І зрабіў бы ўсё, што яна казала. Калі не дзеля яе, то дзеля дзіцяці — абавязкова! Але што пра тое гаварыць…

Затое, распрацоўваючы план па ахмурэнні Віктара Аляксеевіча, яна адразу ўключыла ў гэты план цяжарнасць. Па-першае, пара ўжо, некалі ж і сапраўды трэба дзіця нарадзіць — шклянка вады на старасць гадоў і ўсё такое. А па-другое, гэта вельмі надзейная прывязка — вунь як ён дзяцей любіць, пра тое, як яго Танюшка была малая, як шчабятала, як гуляла з ім, гатовы гадзінамі расказваць — заснуць можна…

Але на гэты раз у яе атрымаўся пракол: зацяжарыць не змагла, як яна ні старалася. Імітаваць цяжарнасць яна пабаялася — а раптам нічога не атрымаецца? І потым і гэты, даведаўшыся праўду, ўцячэ?

Ён быў яе — беззваротна, адназначна. І вось сёння на табе — пайду туды, да дачкі… Не дапамаглі ні начныя ласкі, ні ранішнія слёзы… Небяспечна… А раптам не вернецца? Можа, яна рэзка з ім так — калі не прыйдзе да дванаццаці ў рэстаран, то… Можа, трэба было даць нейкі «люфт»?

Хоць, зрэшты, чаму рэзка? Усё правільна! Нечага ім волю даваць. І хай толькі паспрабуе сёння не прыйсці да дванаццаці!

## Паміж…

Віктар сядзеў на лаўцы ў заснежаным скверы. Час блізіўся да поўначы, але на вуліцы было светла, як днём — ад рознакаляровых гірляндаў, якія свяціліся на кожным кроку — на вуліцы, на дрэвах, у вокнах, па-змоўніцку падміргвалі — маўляў, не гаруй, чалавеча, свята набліжаецца, ідзі, сустракай, дары падарункі, весяліся! Бачыш, апошнія прахожыя спяшаюцца да сваіх родных, каханых, сяброў, заціскаючы ў руках ці пад пахай хто бутэльку шампанскага, хто шыкоўны букет, хто — ладны пакунак з гасцінцамі ці падарункамі.

У Віктара таксама былі падрыхтаваны падарункі: за пазухай ратавалася ад марозу пунсовая ружа, а ва ўнутранай кішэні ляжала каробачка з дарагімі французскімі духамі. Але, хоць міналі апошнія хвіліны старога года, ён ніяк не мог вызначыцца, куды яму ісці, каму падарыць гэтую ружу: у дарагі рэстаран, дзе яго чакае Аня, ці ва ўтульную кватэру за квартал ад гэтага сквера — там, пэўна, Надзя і Танюшка ўжо накрываюць святочны стол.

Цікава, а яны яго чакаюць? Дачка то напэўна — ён заўсёды здзіўляўся, адкуль у гэтага дзіцяці столькі жыццёвай мудрасці? Яна ж пасля таго, як ён сышоў не стала яго ні ў чым папракаць, высвятляць, хто з бацькоў вінаваты ў гэтым, і паводзіла сябе так, нібы ён паехаў у далёкую камандзіроўку і час ад часу праведвае яе. Праўда, у кожны свой прыход ён бачыў, як Тані хочацца, каб затрымаўся як мага даўжэй ці ўвогуле застаўся. Напэўна, такія Таніны паводзіны — найперш Надзіна заслуга, знайшла яна нейкія словы, каб растлумачыць, чаму ён пайшоў жыць да іншай жанчыны — і пры гэтым не выказаць свае крыўду і боль. А можа, Надзя ні пры чым, дзеці і без таго сёння «прасунутыя», у серыялах і не такія страсці назіраюць.

А вось сама Надзя, пэўна ж, не чакае яго. І мае на тое права. Паклаўшы руку на сэрца: калі б з ім так абышліся, ён бы дараваў? Наўрад ці… А ёй жа было яшчэ цяжэй, бо гэтая здрада ёй — не першая ў яе жыцці… Так, ён моцна вінаваты перад Надзяй, сваёй самай добрай, разумнай, тактоўнай, далікатнай жонкай. Некалі абяцаў не крыўдзіць яе, ды вось пакрыўдзіў, ды яшчэ як…

Але праўда і тое, што ён даўно не любіць яе. Калі скончылася каханне — ён і сам не ведае. І з-за чаго…

Ды, зрэшты, ні з-за чаго. Проста аднойчы ён прачнуўся на світанні, паглядзеў на сонную Надзю — і не паверыў, што гэтая старэючая распаўнелая кабета, у якой праз пафарбаваныя валасы прабіваецца сівізна, а глыбокія

маршчынкі на твары, не замаскіраваныя касметыкай, выглядаюць зусім ужо па-старэчы, і ёсць тая самая жанчына, якую ён некалі так дамагаўся, якая ўяўлялася яму ўзорам дасканаласці і прыгажосці, а магчымасць валодаць ёю — жывым увасабленнем шчасця…

Напэўна, можна жыць разам і без кахання — павага там, узаемаразуменне, дзеці зноў жа… Колькі такіх сямейных пар сярод яго знаёмых — знешне добрапрыстойных, паважаных, у вачах якіх свеціцца непраходзячая туга, ці яшчэ горш — дрэнна схаваная нянавісць. Пэўна, і ён так жыў бы, і быў бы прыкладным сем’янінам: хадзіў бы з Надзяй вечарамі на прагулкі ў гэты сквер і зрэдчас — на канцэрты заезджых зорак, неўзабаве стаў бы прагульвацца з унукамі, паглядваючы, як язвеннік на шашлык, на юных прыгожых дзяўчат.

…Калі б не з’явілася ў яго жыцці Аня. Яна была, як ураган, як тарнада — закруціла яго, завіхурыла. Спачатку здавалася — глупства, гульня, жарт для казытання нерваў. А потым і сам не ўсвядоміў, калі і як гэта засланіла для яго ўсе астатнія падзеі ў жыцці, і хацелася толькі аднаго: зноў апынуцца з ёй у ложку. Менавіта там зразумеў, чаго яму не хапае ў сённяшніх адносінах з Надзяй. Ён зноў адчуў сябе мужчынам — каханым, жаданым, дужым, здольным даваць жанчыне імгненні невыказнага шчасця — і ад таго самому ўзлятаць на неспазнаныя датуль вяршыні асалоды.

Добраахвотна адмовіцца да гэтага ён не мог. Можа, каб Надзя яму дапамагла ў той момант, перацярпела, перачакала, калі гэтае вар’яцтва скончыцца… Хай бы нават скандаліць пачала, папракаць яго — ён бы, пэўна, адчуваючы сваю віну, не рашыўся кінуць іх з Таняй. А то — сам зрабі выбар! А не можаш, то я табе дапамагу! Добранькая якая… Нібы ён мог зрабіць выбар у той момант, калі мазгі затуманены адным жаданнем: як бы хутчэй зноў застацца з Аняй удваіх!

Ці, можа, і ў яе каханне мінула? Ды не… Ён жа не сляпы, бачыць, як свяцяцца ў яе вочы ў тыя рэдкія моманты, калі яны сустракаюцца, не глухі — чуе яе голас, калі тэлефануе Тані, а яна бярэ трубку… І не дурны… Хоць і прамаўляе яна пры гэтым дзяжурныя, нічога не вартыя словы, але ж вочы, голас крычаць аб адным: мне так дрэнна без цябе, Віця!

Хоць услых яна гэтага ніколі не скажа, ганарліўка такая… І яшчэ вялікае пытанне, ці даруе, ці прыме, нават калі сёння ён пераступіць цераз сябе і свой гонар, прыйдзе да іх і папросіцца назад…

Дык што, ісці ў рэстаран, пакуль не позна, пакуль не скончыўся час заяўленага Аняй ультыматуму? І сёння зноў будзе чароўная ноч кахання…

А заўтра? Ён даўно зразумеў, што Аня ўмела маніпуліруе яго мужчынскім жаданнем. Што ён патрэбен ёй, пакуль мае сілу, работу, пасаду, прыносіць ёй грошы і адорвае дарагімі падарункамі. А што будзе, калі ўсяго гэтага не стане? Старэе ж не толькі Надзя, але і ён. І тут ужо ўзрост іграе не на яго карысць: Аня маладзейшая за яго роўна на столькі, наколькі старэйшая Надзя. І ён бачыць, якімі позіркамі праводзяць яе мужчыны. І разумее, што ёй тыя позіркі падабаюцца, лашчаць яе самалюбства. Як гэта яна сёння сказала? «Я не настолькі старая, каб не знайсці сабе спадарожніка». Пэўна ж… І каму ён будзе патрэбен, калі падкрадзецца старасць, немачы? Дзякуй Надзі за такую цудоўную дачку, яна — яго радасць і спадзяванне, але ж у яе — сваё жыццё, і было б наіўным думаць, што дачка стане яго ламаць дзеля некалі пакінуўшага іх бацькі. Ды і не трэба гэта яму.

Дык куды ж ісці?

З аднаго боку — пастарэлая, пакрыўджаная ім Надзя, у якой перахоплівае дыханне, калі яна чуе яго голас.

З другога — маладая, яркая, самаўпэўненая Аня, якой усяго заўсёды мала — кахання, грошай, увагі…

Сонца і Месяц… Дзень і ноч...

І паміж імі — ён…

…Пачуўся бой курантаў, і адразу ж у неба ўзвіліся шматлікія феерверкі, салюты, на пустынную яшчэ пяць хвілін назад вуліцу высыпаў, здаецца, увесь горад. Усе радаваліся, крычалі, віншавалі адзін аднаго, цалаваліся.

…І на фоне гэтага ўсеагульнага свята — адзінокая постаць мужчыны на лавачцы ў заснежаным скверы…

## Раніца

Віктар доўга сядзеў у заснежаным скверы, так і не вырашыўшы, куды ж яму ісці. Сядзеў так доўга, што ісці куды б то ні было стала позна. Навагодняя ноч заканчвалася. Адгулялі, адстралялі феерверкамі і шампанскім, адшумелі на вуліцах падвыпіўшыя кампаніі — і пацягнуліся па дамах. Людзі, накрычаўшыся, насмяяўшыся, наскакаўшыся, навесяліўшыся, разыходзіліся па цёплых кватэрах.

«Цікава, што там, за гэтымі шторамі? — падумаў Віктар, назіраючы, як адно за адным сталі гаснуць вокны ў дамах. — Ці шмат за імі засынае пасапраўднаму шчаслівых людзей? Нехта з іх, як і я нядаўна, толькі робіць выгляд, што шчаслівы. Нехта топіць сваю тугу ў гарэлцы, ператвараючы ў пекла жыццё тых, хто побач. Нехта шукае ідэал, мяняючы мужчын ці жанчын — гэта таксама крыху пра мяне… Нехта чакае, калі ж з’явіцца гэты ідэал, сумуючы, што гады сыходзяць, а сям’і — няма, і навагодняя ноч зноў не прынесла абяцанага ўсімі тэлеканаламі цуду… Нехта ў шумнай кампаніі хаваецца ад адзіноты, якая прыйдзе заўтра, разам з пахмеллем… Але ж, пэўна, ёсць і шчаслівыя — хто засынае зараз на плячы каханага, каго заўтра разбудзіць тупат дзіцячых ножак ці пяшчотны пацалунак, каму пададуць у ложак кубак гарбаты ці бакал шампанскага… І чаму гэты шчаслівы — не я? Чаму я ў гэтую ноч адзін, і мне няма куды ісці?»

Хоць чаму ж няма? Можна пайсці да Ані — яго і зараз цягне да яе, як магнітам… І быць шчаслівым — дзень, тыдзень, год — колькі атрымаецца, наколькі ўдасца аглухнуць і аслепнуць, нічога не чуць і не бачыць. Але Аня — гэта, як нешта штучнае, што дае адчуванне ўяўнага шчасця — бязмернага, невыказнага, невыноснага — на некалькі імгненняў. А затым, ён ведаў, ужо гэта адчуваў, — прачнецца розум і пачнуцца душэўныя пакуты… Ён разумеў, што ад уяўнага трэба адмаўляцца, і чым хутчэй і больш рашуча, тым лепш — дзеля ўласнага ж самазахавання. І ганарыўся, што сёння ноччу змог сябе перасіліць і не пайсці ў рэстаран. Трэба перацярпець — заўтра стане лягчэй…

Да Надзі ўсю ноч яго гнала пачуццё віны і абавязку. Ды яшчэ прывязанасць да дачкі. І тое ж самае пачуццё самазахавання — ён разумеў, што ніхто і ніколі не стане пра яго так клапаціцца, як Надзя.

Але не пускала сумленне. І элементарнае нежаданне. Ну не хацелася яму туды ісці, хоць плач! Ён прыдумваў сабе апраўданне: разбіты кубак не склеіць, нават калі яна ўсё даруе і прыме. А на самай справе — у яго не было ніякага жадання вяртацца да жонкі. Не хацелася бачыць яе добрыя спагадлівыя вочы — і ўсё астатняе жыццё адчуваць сваю вінаватасць перад ёй за тое, што ён ужо ніколі не зможа глядзець на Надзю з тым каханнем і захапленнем, як тады, у юнацтве. І яго добрая, разумная, далікатная жонка будзе ўсё гэта бачыць, разумець — і моўчкі пакутаваць.

Урэшце ён замерз. Ісці трэба было — хоць куды. І ён падняўся і пайшоў па ярка асветленай, пустыннай у гэты перадранішні час вуліцы…

Ён не ведаў куды ідзе і навошта. Проста ішоў — і ўсё…

«Бач ты, не ўсе спяць у цёплых пасцелях у гэты позні час. Ці наадварот — ранні… І не ўсе святкуюць Новы год у вясёлых і шумных кампаніях», — зазначыў ён сам сабе, заўважыўшы такую ж адзінокую постаць, што паволі брыла насустрач.

Падышоўшы бліжэй, Віктар зразумеў, што постаць жаночая — доўгая дублёнка, закручаны шалік… «Колькі ж у свеце адзінокіх людзей», — падумаў ён са спачуваннем. Яму раптам захацелася зрабіць для гэтай самотнай жанчыны нешта прыемнае — слова добрае сказаць ці ўсміхнуцца...

І тут Віктар успомніў пра ружу, што злёгку паколвала яго пад дублёнкай.

— З Новым годам! — гукнуў Віктар, калі яны параўняліся — Гэта вам Дзед Мароз прасіў перадаць! — дастаў з-за пазухі крыху прымятую ярка-пунсовую ружу, пялёсткі якой, здаецца, затрымцелі ад холаду.

Жанчына недаўменна спынілася і некалькі імгненняў глядзела на яго сплаканымі вачыма, не разумеючы, хто гэта і чаго ад яе хоча. Віктар ужо пашкадаваў пра сваё высакароднае памкненне зрабіць нешта добрае для адзінокай жанчыны: адкуль ён ведае, хто яна такая і чаму выйшла ў гэтую ноч на вуліцу? І ці патрэбны ёй яго добрыя словы…

Паступова праз слёзы і заслону непраходнай тугі ў яе вачах стала праглядваць асэнсаванасць — да жанчыны, здаецца, стала даходзіць, што незнаёмы мужчына — цвярозы, прыстойна апрануты — звяртаецца менавіта да яе: больш на вуліцы нікога не было. І не проста звяртаецца — ён віншуе яе са святам і дорыць кветкі…

— Што, прабачце? Дзед Мароз? Мне? А-а… А вы ў яго, значыць, па начах пасыльным падпрацоўваеце? Ну, перадайце Дзеду Марозу маю ўдзячнасць…

Яна ўзяла кветку, міжволі залюбавалася яе свежасцю і вытанчанасцю. Уздыхнула:

— Толькі ружу шкада — мне яе паставіць няма куды… Мо вы так каму яе падорыце? У каго ёсць дом, а ў доме — ваза, якая падыходзіць для гэтай прыгажуні. А то шкада — замерзне каралева…

— Ды я б з радасцю… Але Дзед Мароз сказаў, каб вам...

— Які ён уважлівы, ваш Дзед Мароз. Ну што ж, — жанчына, як і хвіліну да таго ён, таксама засунула ружу за пазуху. — Спадзяюся, ты, прыгажуня, да вечара не памрэш…

— А вы што, збіраецеся да вечара хадзіць па вуліцах?

— Так атрымліваецца, — паціснула плячыма жанчына. — Мой цягнік адпраўляецца толькі ў пяць гадзін вечара. А дахаты я прыеду ўвогуле пасля поўначы. Так што давядзецца вашаму з Дзедам Марозам падарунку памучыцца.

— І што ж такое пільнае прымусіла вас пакінуць дом у навагоднюю ноч, каб потым правесці яе на вуліцы ў чужым горадзе?

— Надзея на цуд, — сумна ўсміхнулася жанчына. — Ведаеце, перад Новым годам нават самыя разважлівыя рэалісты часам пачынаюць верыць у тое,чаго ніколі не будзе. А яшчэ — безвыходнасць…

— Але выхад ёсць заўсёды!

— Сапраўды? І я так думала да сённяшняга дня… Дарэчы, калі вы такі аптыміст, то чаму ж таксама ў гэтую ноч блукаеце ў адзіноце па вуліцах?

У адказ на яе пытанне ён бездапаможна развёў рукамі:

— Ну, я проста пакуль не знайшоў выйсця са сваёй сітуацыі…

— Ну вось і я не знайшла. Ва ўсякім выпадку там, дзе шукала… Выходзіць, мы з вамі калегі? Па пошуках выйсця з безвыходных сітуацый, — прамовіла яна прымірэнча.

— І не толькі! Здаецца, у гэтым сонным горадзе мы адны ў такі час гуляем па вуліцы, — чамусьці яму падалося смешным тое, што яшчэ нядаўна выклікала шкадаванне да сябе і гэтай адзінокай жанчыны. — А ведаеце што? — нечакана для самога сябе прапанаваў Віктар. — Давайце пасядзім дзе-небудзь… Усё роўна часу ў вас — вагон. У мяне таксама дзень выхадны… То прапаную адсвяткаваць Новы год — наколькі я зразумеў, ні ў вас, ні ў мяне гэта пакуль не атрымалася.

— Барані бог! Мы з вамі нават не знаёмы, спадар пасыльны Дзеда Мароза…

— Ну, калі гэты стары чараўнік вас ведае, то чаму б і мне не пазнаёміцца? Мяне Віктарам завуць. А вас?

— Увогуле Валянцінай. Але я ўсё роўна не ўпэўнена, што гэта добрая ідэя.

— У вас ёсць лепшая? Я слухаю…

— У мяне ўвогуле нічога не засталося — ні ідэй, ні надзей…— паціснула яна плячыма. — Дарэчы, грошай таксама — толькі на білет. Так што майце на ўвазе…

— Вы лічыце, што я збіраюся вас напаіць і абрабаваць? — весела рассмяяўся Віктар.

— А хто вас ведае? Можа, гэта ў вас такі метад работы з адзінокімі жанчынамі — дарыць ружы ад Дзеда Мароза, а потым…

— Ага, а потым я забяру вашы грошы, дублёнку і нават шалік. І высмакчу з вас усю кроў. І…

— Ну хопіць, хопіць, мне ўжо сорамна, — зноў засмяялася Валянціна.

А праз хвіліну спытала насмешліва:

— А вы не задумваліся, спадар пасыльны, які па сумяшчальніцтве грабежнік і вампір, запрашаючы даму, дзе можна з ёй пасядзець у навагоднюю ноч, якая да таго ж ужо заканчваецца? Хіба што на вакзале — калі лаўкі свабодныя будуць і кава ў буфеце не скончылася.

— На вакзале яшчэ, між іншым, рэстаран ёсць. Там цёпла. І шампанскае быць павінна… — апошняе ён прамовіў без асаблівай упэўненасці.

— Я б лепш выпіла каньяку — з улікам умоў надвор'я і ўсяго іншага не вельмі цёплага і прыемнага, што сёння адбылося… Калі, вядома, у спадара вампіра грошай хопіць, — запознена спахапілася Валянціна.

— Крыўдзіце, спадарыня. Едзем. Алё, таксі! — тармазнуў Віктар невядома адкуль вельмі дарэчы ўзнікшую машыну з зялёным вочкам.

* * *

У рэстаране Валянціна перш за ўсё папрасіла вазу, каб паставіць у ваду ружу. Афіцыянтка, маладзенькая дзяўчына, праз некалькі хвілін прынесла бляшанку з-пад маслін.

Валянціна звярнулася да Віктара:

— І каму ж, калі не сакрэт, прызначалася гэтая пунсовая прыгажуня?

— Я ж ужо гаварыў — вам.

— Ну, мне яе Дзед Мароз, як вы сказалі, загадаў падарыць. А вы каму збіраліся?

Віктар уздыхнуў. Аджартавацца не атрымалася — занадта пранізлівыя вочы ў гэтай выпадковай знаёмай.

— У тым уся і справа, што так і не вырашыў, каму, — нарэшце прамовіў ён. — Заблудзіўся я ў сваім жыцці… І нават не ў трох соснах, а ўсяго ў дзвюх.

— І што, так безнадзейна, што выхаду не знайшлі? У такіх выпадках у нас у вёсцы казалі «Чорт зблытаў». Мо трэба было вочы працерці?

— Наконт чорта — гэта дакладна. А вочы працерці… Спрабаваў — не дапамагае. Туды, куды сэрца цягне, розум не пускае. А куды розум гоніць, туды ногі не ідуць…

— Цяжкі выпадак. Не ведаю, што і сказаць…

— Нічога. Давайце лепш вып'ем. З Новым годам вас, Валянціна!

— І вас! Каб вы знайшлі тое, што страцілі, і больш ніколі не гублялі.

— Дзякуй! Наўрад ці атрымаецца, але за пажаданне — дзякуй.

Ён залпам перакуліў чарку.

Валянціна таксама адпіла крыху, «паклявала» салацік — больш нічога ў рэстаране не было. Заружавелася — стала адтаваць ад марозу і холаду, што сціскаў душу… Віктар заўважыў гэта.

— Вы лепш пра сябе раскажыце, раз ужо ў нас такая ноч выдалася. Як апынуліся ў навагоднюю ноч на вуліцы ў чужым горадзе і адна?

— Ну, увогуле сустракаць Новы год на вуліцы і ў адзіноце я не збіралася. У мяне былі іншыя, нашмат больш прыемныя планы: правесці гэтую ноч са сваім каханым чалавекам. Ну і параіцца з ім па вельмі хвалюючым мяне пытанні. А яшчэ я саманадзейна спадзявалася атрымаць ад яго дапамогу і падтрымку — гэта мне цяпер вельмі патрэбна.

— І што ж сталася?

— Ды ўвогуле банальна ўсё… Я не падзялілася сваімі планамі з гэтым самым чалавекам — часу не мела і магчымасці, яны ўзніклі ў мяне зусім нечакана, можна сказаць, вымушана. Гэткі форс-мажор мясцовага, я б нават сказала — індывідуальнага маштабу. А ў яго, як аказалася, на гэтую ноч былі зусім іншыя планы. У якія я са сваімі раптоўна ўзнікшымі жыццёвымі праблемамі ніяк не ўпісвалася. Вось і давялося мне сустракаць Новы год на вуліцы. Вось і ўсё, калі коратка… — яна задуменна круціла ў пальцах кілішак з каньяком.

— А калі падрабязней?

— А вы ўпэўнены, што хочаце падрабязней? — Валянціна горка ўсміхнулася. — Не самы прыемны занятак для навагодняй ночы — выслухоўваць чужыя праблемы і выціраць слёзы і соплі выпадковай знаёмай… Запрасілі ў рэстаран — дзякуй, ружу падарылі — вялікі дзякуй, а момант шчырасці — гэта ж душэўнай працы вымагае… Гэта вам трэба? Вось пагрэемся крыху — і разыдземся. Вы — шукаць выхад з дзвюх соснаў, а я — грошы, каб заплаціць сыну за вучобу…

— Ну гаварыць жа пра нешта трэба, пакуль грэемся. Не моўчкі ж піць каньяк, пагадзіцеся. Дарэчы, за вас!

— Неяк у мяне не заладзіўся гэты год — чорная паласа зацягнулася. Хоць кажуць, што ўсё ў жыцці адносна: магчыма, заўтра яна будзе ўяўляцца белай… — пачала Валянціна ў сваім прывычным іранічным тоне, за які, Віктар гэта ўжо зразумеў, яна хавалася, як за шырму. Але паступова, з кожным словам шырма спадала, і з-за яе з'яўлялася збалелая жаночая душа. — Усё расказваць не буду — доўга і нудна. Галоўнае, што перад самым Новым годам я засталася без работы. Да таго ўсё было добра: працавала галоўным бухгалтарам у адной прыватнай фірме, вельмі прыстойнай. Работа была цікавая, грошы — вартыя, я нават узяла крэдыт і купіла кватэру. Сын паступіў вучыцца не туды, куды праходзіў са сваімі адзнакамі, а куды марыў — я са сваёй зарплатай магла плаціць за яго вучобу. Словам, усё было, як сёння кажуць, «о'кей».

І раптам майму начальніку без дай прычыны ўздумалася палажыць на мяне вока! Да гэтага часу не магу ўцяміць: навошта я яму, калі навокал столькі маладых, прыгожых, на ўсё згодных? Сустракаюцца ж пры ўсім пры тым і з мазгамі, калі такі эстэт… А яму нешта стрэліла, у яго, бачыце, узніклі «сур'ёзныя намеры» наконт мяне! Мае намеры пры гэтым нікога не цікавілі. Усім здаецца, што ў маім узросце і становішчы я павінна кінуцца на шыю першаму, хто раскрые абдымкі. А тут раскрывае — і не абы-хто! Са сваім бізнесам, грашыма, ды яшчэ з пачуццём гумару і прывабнай знешнасцю. Мара, а не мужчына! Пра гэта мараць усе незамужнія жанчыны нашага горадка, ад шаснаццаці да пяцідзесяці, і ён рэгулярна праводзіць сярод іх кастынгі. Праўда, пакуль што ніводная яго не прайшла, не затрымалася ў яго сяброўках даўжэй, чым на тры месяцы, але ж затое ва ўсіх астатніх застаецца шанс. Ну, падумаеш, не па душы ён мне — а каго мая душа цікавіць? Ну, падумаеш, я іншага кахаю — кахай, хто ж забараняе? Палова свету так жыве: любяць адных, замуж выходзяць за другіх, а спяць з трэцімі.

Цэлы год мне неяк удавалася ўвільваць ад яго недвухсэнсоўных намёкаў і прапаноў, усё спадзявалася, што ён пераключыцца на каго іншага. А ён толькі яшчэ больш «заводзіўся», пераклініла яго… Словам, на апошняй карпаратыўнай вечарынцы, «зліняць» з якой у мяне пры ўсім старанні не атрымалася, шэф выказаў мне вельмі канкрэтнае запрашэнне неадкладна «прайсці кастынг» у яго на дачы. А я гэтак жа канкрэтна яму адмовіла. І таму ў апошні дзень адыходзячага года даведалася, што фірма ў маіх паслугах больш не мае патрэбы і атрымала канчатковы разлік — за мінусам прэміі і ўсіх надбавак, якія складалі большую частку маёй зарплаты і якіх я па рашэнні кіраўніцтва была пазбаўлена. Такім чынам я, учарашняя паспяховая бізнес-вумен, апынулася на вуліцы, практычна без капейкі, з нявыплачаным крэдытам і сынам-студэнтам, якому праз месяц трэба плаціць за вучобу.

Не доўга думаючы, я ўзяла білет і рванула да свайго каханага чалавека. З ім мы ўжо два гады разам, столькі ўсяго перажылі… Ён таксама быў страціў работу, не меў грошай, жыў у мяне. Я дапамагла яму перабрацца ў сталіцу, уладкавацца на прэстыжную работу — пасадзейнічала мая аднакурсніца, пазычыла грошай на першы час — тады я магла сабе гэта дазволіць. Я ж кажу, што паводзіла сябе вельмі саманадзейна: палічыла, што цяпер, калі цяжкасці ўзніклі ў мяне, а ў яго — усё ў парадку, я таксама магу разлічваць на яго падтрымку.

Цягнік прыйшоў позна ўвечары, я на таксі — і да яго: каб паспець стол накрыць, да сустрэчы Новага года падрыхтавацца. А ў яго, аказваецца, ужо ўсё падрыхтавана: стол накрыты на дваіх, кветкі — амаль такія ж ружы, толькі шмат больш, шампанскае, садавіна, свечкі… Я ледзь не самлела ад шчасця: гэта ж, думаю, мяне так сустракае, адкуль толькі даведаўся, што прыеду. А мо здагадаўся — сэрца падказала… Мы ж, жанчыны, любім гэткія рамантычныя абгорткі… Я да яго — з распрасцёртымі абдымкамі, а ён усё неяк муляецца і на гадзіннік паглядвае раз-пораз. І тут званок у дзверы — тая самая мая аднакурсніца, Галачка, якая па маёй просьбе яго на работу ўзяла, з'яўляецца — уся расфуфыраная, як тэлезорка… Да мяне нарэшце дайшло, для каго падрыхтаваны стол і ўсё астатняе… Ну, я павіншавала іх з Новым годам — і за дзверы…

— Такая вось ўвогуле банальная гісторыя. Але ад гэтага не менш балючая. Прабачце, што прымусіла вас усё гэта выслухоўваць. І дзякуй за тое, што выслухалі — мне стала лягчэй…

Яна моўчкі выпіла каньяк. Заплюшчыла вочы і адкінулася на спінку крэсла.

«Напэўна, гэтак жа балела Надзі, калі яна даведалася пра існаванне Ані, — міжволі падумаў Віктар. — Тады, як я ішоў да яе начаваць, а ранкам вяртаўся дахаты, хаваючы вочы, маніў ёй пра нейкія справы. Чаму ж мне да глыбіні душы шкада гэтую незнаёмую жанчыну і хочацца дапамагчы ёй хоць нечым, а Надзіны пакуты выклікалі толькі раздражненне? Толькі таму, што ў іх быў вінаваты я, і хацелася сябе апраўдаць? А гэтаму мужыку, з-за якога Валянціна сустракала Новы год на вуліцы, хочацца набіць морду. Хоць я, па вялікім рахунку, нічым ад яго не адрозніваюся. Але мне морду ўжо набіла жыццё, і не толькі морду. І ён сваё атрымае… А жанчыне гэтай трэба нечым дапамагчы. Работу ёй прапанаваць, ці што? Усё роўна пасля сённяшняй ночы нам з Аняй у адным калектыве не працаваць, гэта зразумела і мне, ды, думаецца, і ёй — не дурная ж. Парэкамендую яе Мікалаю, у таго якраз бухгалтарка ў дэкрэтны пайшла, пытаў, ці не ведаю каго талковага. А спецыяліст Аня класны, няма чаго казаць. Вось толькі ці пагодзіцца Валянціна — пераязджаць усё ж давядзецца. Але ў любым выпадку — гэта не сённяшняга дня размова, яна ўжо ледзь на нагах трымаецца».

— Валянціна, вам трэба адпачыць, — Віктар злёгку крануў яе за руку — і яна ўздрыгнула ад гэтага дотыку. — Гэта перш за ўсё. Нездарма кажуць, што ранак мудрэйшы за вечар — заўтра будзе новы дзень, пачнецца новы год, нешта прыдумаецца, знойдзецца нейкае выйсце.

Жанчына паглядзела на яго затуманенымі вачыма:

— Напэўна, вы маеце рацыю… Я так стамілася, так стамілася… Нібы не ноч прайшла, а ўсё жыццё… А да цягніка — яшчэ цэлая вечнасць… Але ў мяне грошай — толькі на білет, у гасцініцу ісці не выпадае. Застаецца толькі бясплатная лаўка ў зале чакання, калі бамжы яшчэ не ўсе занялі.

— Ёсць іншая прапанова, — задуменна прамовіў Віктар. — Наша фірма здымае кватэру ў цэнтры — партнёры, здараецца, нечакана прыязджаюць, не хочацца залежаць ад гатэляў, ды і сервіс там часта пакідае жадаць лепшага. Гэткая карпаратыўная гасцініца. Цяпер яна пустая. У мяне ёсць ключы. Калі вы не супраць, я вас там уладкую — паспіце колькі гадзін.

— А вы куды? — спытала яна і сумелася ад двухсэнсоўнасці свайго пытання.

— Я? — ён таксама сумеўся. — Калі вы не супраць, я б таксама хацеў крыху адпачыць… І ісці мне, як і вам, няма куды… Вы не хвалюйцеся, кватэра двухпакаёвая, я не буду вам перашкаджаць…

— Ну што ж, выбіраць мне ўсё роўна не даводзіцца, — хвіліну падумаўшы, махнула яна рукой. — Тым больш, што я ўжо зразумела: вы — не грабежнік і не вампір. У любым выпадку ў кватэры на канапе будзе зручней, чым на лаўцы ў зале чакання. Паедзем хутчэй! А то, па-першае, у мяне такое адчуванне, што я зараз засну, проста тут і цяпер. А па-другое, баюся: а раптам вы перадумаеце?

Віктар засмяяўся і стаў набіраць нумар таксі.

**Анатоль МЯСНІКОЎ**

# «Я НАГЛЯДАЮ З УВАГАЮ ЗА ФАКТАМІ ЖЫЦЦЯ...»

*Іван Мележ — публіцыст*

Літаратурная спадчына Івана Мележа трывала і надзейна заняла сваё пачэснае і ганаровае месца ў залатым фондзе беларускай нацыянальнай літаратуры і культуры. І, на нашу думку, не толькі літаратурная, а і публіцыстычная спадчына. І не толькі ў беларускай, але і ў еўрапейскай літаратуры і культуры.

Біяграфія і літаратурная творчасць Івана Паўлавіча Мележа даследавана і вывучана ў прынцыпе глыбока, грунтоўна і аб'ектыўна. Вядома, адным накірункам яго творчай, грамадскай і палітычнай дзейнасці аддадзена больш увагі, іншым — менш. «Белай плямай», гэта значыць, менш разглежданай і прааналізаванай, застаецца пакуль што дзейнасць народнага пісьменніка Беларусі як публіцыста. Пралік, як нам падаецца, значны, бо ў яго творчай спадчыне засталіся шматлікія публіцыстычныя творы: нарысы, артыкулы і эсэ ў самых розных сродках масавай інфармацыі; інтэрв'ю многім перыядычным і літаратурным выданням — як айчынным, так і замежным; адказы на анкеты і апытанні, што праводзілі ў той час газеты і часопісы; выступленні на самых розных літаратурных, грамадска-палітычных, партыйных і іншых форумах, з'ездах, канферэнцыях, сустрэчах… У дзесяцітомным выданні твораў Івана Мележа, што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» на працягу першай паловы 1980-х гадоў, восьмы, 685-старонкавы том пад назвай «Жыццёвыя клопаты», цалкам аддадзены пад артыкулы, эсэ і інтэрв'ю пісьменніка. Скажам без перабольшання: практычна ўсе гэтыя публіцыстычныя творы, напісаныя ў перыяд з 1947 па 1974 гады, і сёння чытаюцца з цікавасцю і захапленнем: найперш таму, што адпавядаюць і нашым цяперашнім запатрабаванням, клопатам, турботам.

Пад той жа назвай «Жыццёвыя клопаты» асобная кніга Івана Мележа выйшла некалькі раней — у 1975 годзе. У невялікай па памерах прадмове да яе Іван Паўлавіч напісаў: «…Кніга гэта, па майму перакананню, мае сваё адзінства. Думаю, што кожны ўважлівы чытач гэта адчуе. Як і тое, што, сабраныя разам, творы гэтыя па сутнасці становяцца своеасаблівым дзённікам. І пэўным чынам справаздачай пісьменніка перад чытачом» [1, с. 5]. Творы, пададзеныя ў асноўным у храналагічнай паслядоўнасці, і павінны былі, на думку пісьменніка, захаваць «непасрэднасць жывога жыцця».

Так тое і атрымалася: «жывое жыццё» мележаўскага часу ў цэлым, мележаўскай дзейнасці ў прыватнасці ў гэтых публіцыстычных творах прасочваецца спаўна, аб'ектыўна і досыць глыбока.

Асобны зборнік публіцыстыкі быў задуманы Мележам яшчэ ў самым пачатку 1960-х гадоў. Так, у артыкуле «Трохі згадак і думак», што быў змешчаны ў адзінаццатым нумары часопіса «Полымя» за 1962 год, Іван Паўлавіч выказаў жаданне «падзяліцца з чытачом думкамі аб літаратуры, аб жыцці, няспынным, неўціханым, цудоўным» [2, с. 153]. Аднак занятасць непасрэдна літаратурнай творчасцю, плюс вялікая грамадска-палітычная дзейнасць тады не дазволілі ажыццявіць гэты намер. Ды і сам пісьменнік хутчэй за ўсё не спяшаўся: вірлівае жыццё і багатая на падзеі праца захаплялі і запаўнялі яго ўсё новымі і новымі набыткамі як непасрэдна ў мастацкай літаратуры, так і ў публіцыстыцы. І толькі

больш чым праз дзесяць гадоў — у верасні 1972-га, ён зноў вярнуўся да сваёй задумы, сказаўшы карэспандэнту папулярнай усесаюзнай газеты «Известия»: «У планах і накідах — кніга пра літаратуру…» [3]. Як пераканаецца чытач праз тры гады, з-пад пяра Івана Паўлавіча выйдзе кніга не толькі пра літаратуру, а наогул пра ўсё тагачаснае жыццё…

Агульнавядома: у тэорыі літаратуры і журналістыкі «чыста» літаратурна-публіцыстычнымі жанрамі лічацца нарыс, эсэ, фельетон і памфлет. І сапраўды: у гэтых жанрах аналіз спалучаецца з вобразам, праяўляецца праз эмацыянальна-вобразную сістэму. Аднак і большасці аналітычных жанраў — артыкулу, рэцэнзіі, карэспандэнцыі, агляду, каментарыю, і нават асобным інфармацыйным жанрам — інтэрв'ю, рэпартажу, замалёўцы, у якіх усё больш і больш прысутнічаюць аналітычныя структуры, уласцівыя аўтарскі роздум, ацэнкі, высновы і абагульненні. Ім таксама ўласцівыя калі і непарыўнае адзінства, дык сінтэз лагічнага і вобразнага, рацыянальнага і эмацыянальнага пачаткаў, што з'яўляюцца, так бы мовіць, абавязковымі для жанраў літаратурна-публіцыстычных. Узаемапранікненне элементаў адных жанраў у другія, сплаў і з'яднанне іх кампанентаў стала ў журналістыцы самай звычайнай з'явай. І зусім не выпадкова даследчыкі даўно ўжо засведчылі так званае двайное падпарадкаванне мастацка-публіцыстычных жанраў: з аднаго боку — публіцыстыцы, з другога — мастацкай літаратуры. Ды і многія літаратары, і найперш — найбольш аўтарытэтныя і таленавітыя — практычна ніколі не праводзяць межаў паміж асобнымі жанрамі публіцыстыкі, не задумваючыся над тым, чаму аддаць перавагу ў тым ці іншым канкрэтным выпадку: напісаць нарыс ці замалёўку, эсэ ці артыкул, папрацаваць над уласным аглядам ці даць звычайнае інтэрв'ю такому ж, як і сам, таленавітаму і дасведчанаму літаратурнаму крытыку ці журналісту-практыку…

Мележаўская публіцыстыка багатая як па жанравай разнастайнасці і тэматыцы, так і па надзённасці, моўных і выяўленчых сродках, скіраванасці на пэўную аўдыторыю. Яго літаратурная праца адразу ж набыла шматгранны характар, уключыла ў сябе самыя розныя кампаненты творчай дзейнасці. А на першы план адразу ж выйшлі прыродны дар і асабістае непараўнальнае майстэрства, здольнасць па-свойму, па-мележаўску, бачыць, асэнсоўваць і адлюстроўваць рэчаіснасць, рэаліі такога складанага тады, як, дарэчы, і заўсёды, Жыцця.

Працуючы на працягу ўсяго свайго творчага шляху над пэўнай жанравай публікацыяй, Мележ пастаянна шукаў і нязменна знаходзіў і свае адметныя прыёмы, і свае сюжэтныя хады, што, натуральна, надавала яго публіцыстычным творам непаўторнасць і навізну. Прынамсі, гэта — адзін з галоўных законаў сапраўднай літаратурнай і мастацка-публіцыстычнай творчасці. А каб не быць галаслоўнымі, звернемся непасрэдна да публіцыстычнай дзейнасці Івана Паўлавіча.

Пачаўшы працу ў публіцыстыцы з рэцэнзіі на першы зборнік апавяданняў такога ж маладога, як і сам Мележ, творцы Міколы Лупсякова «Першая атака», ён адразу ж засведчыў сваю неўтаймоўную цікавасць і захопленасць той жа, што і Лупсякоў, тэмай — вайна… Заняты ў той жа час працай над «Мінскім напрамкам», Іван Паўлавіч пільна і нават прыдзірліва сачыў за набыткамі сваіх калег па пяры — перш за ўсё прыхільнікаў ваеннай тэматыкі ў літаратуры. У рэцэнзіі ж на зборнік Лупсякова ён адзначыў не толькі праўдзівасць адлюстравання падзей Вялікай Айчыннай, але і засведчыў яго «добрыя здольнасці да псіхалагічнага аналізу» [4, с. 167—170]. Зрабіць і першую, і другую высновы Мележ меў поўнае маральнае права: за плячыма ў яго таксама, як і ў Лупсякова, была вайна, а ў творчым набытку — і першыя ўласныя мастацкія рэчы.

Уласна кажучы, яшчэ раней, чым і публіцыстычныя, і мастацкія творы ў літаратурным набытку маладога літаратара з'явіліся творы іншага жанру — дзённікавыя запісы. Паводле прызнання самога Мележа, дзённік ён пачаў весці з 22 чэрвеня 1941 года — з самага першага дня вялікай бітвы з фашызмам, непасрэдна з перадавой. Але апублікуе іх Іван Паўлавіч толькі напрыканцы 1960-х —

у сярэдзіне 1970-х гадоў: частку — у першым томе збору сваіх твораў, а ў больш поўным аб'ёме — у № 3 за 1975-ы і № 5—6 за 1976-ы гады часопіса «Маладосць». У 1977 годзе ўбачыць свет зборнік пад назвай «Першая кніга: Дзённікі, сшыткі, з запісных кніжак». Аднак паколькі і дзённікавыя запісы, і нататкі са сшыткаў і з запісных кніжак уяўляюць сабой асобную, надзвычай спецыфічную форму творчасці, разглядаць, аналізаваць і ацэньваць іх трэба асобна, з іншымі падыходамі і крытэрыямі. Мы ж тут адзначым толькі адзін з дзённікавых запісаў пісьменніка, датаваны 1945 годам: «Я наглядаю з увагаю за фактамі жыцця і менш за характарамі. Трэба — перш за ўсё — сачыць за чалавечымі душамі, іх своеасаблівасцямі, іх дыялектыкай. Тып, характар — раней за ўсё» [5, с. 138]. Гэтых арыенціраў Мележ прытрымліваўся потым ва ўсёй сваёй творчасці, вызначыўшы галоўным для сябе даследаванне характараў герояў, іх асоб, і імкнуўся даваць іх «буйным планам, у сукупнасці ўстойлівых душэўных і эмацыянальна-псіхалагічных асаблівасцей» [6, с. 27].

За сапраўдны арыенцір сваёй творчай дзейнасці прыняў Іван Мележ і сяброўскую параду Кузьмы Чорнага, які, пазнаёміўшыся з першымі апавяданнямі маладога пісьменніка яшчэ ў 1944 годзе, напісаў яму: «Сачыце за чыстатой свае мовы… Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай. Ведайце, што мова — гэта аснова літаратуры» [7, с. 112].

…Час, у які Іван Мележ уступаў у літаратуру, быў надзвычай нялёгкі, складаны і неадназначны. Беларускі народ вяртаўся да мірнага жыцця, залечваў раны Вялікай Айчыннай вайны, ды і сталінізм яшчэ «тварыў» свае гнюсныя справы. Няпроста было вызначыцца як з жыццёвымі пазіцыямі ўвогуле, так і з літаратурнымі — у прыватнасці. Аднак маладое пакаленне беларускіх літаратараў — і перш за ўсё Іван Мележ, Іван Шамякін, Анатоль Астрэйка, Кастусь Кірэенка, Аляксей Кулакоўскі, Анатоль Вялюгін, Павел Кавалёў, Пятро Прыходзька, Іван Грамовіч — літаральна адразу ж, у першых пасляваенных творах, знайшлі сябе, свае нішы ў літаратурна-мастацкім і грамадска-палітычным працэсах. Яны, як зазначаў пазней сам Іван Паўлавіч, «сталі ствараць літаратуру, у якой адбіліся думы і спадзяванні беларускага народа ў самы драматычны і гістарычны перыяд яго гісторыі» [8]. Побач з мастацкай літаратурай практычна ўсе вышэй пералічаныя літаратары пачалі надаваць пільную ўвагу і публіцыстыцы.

Тэм, праблем і пытанняў для выступлення ў перыядычным друку для кожнага творцы было больш чым дастаткова. Па-першае, за плячамі ўсіх іх, няхай і маладых, быў ужо вялікі і багаты жыццёвы вопыт, які патрабаваў асэнсавання, аналізу і роздуму. Па-другое, у вобласці і рэгіёны рэспублікі пастаянна выязджалі брыгады пісьменнікаў, якія на шматлікіх і людных сустрэчах з насельніцтвам знаёміліся з людзьмі, іх лёсамі, справамі і набыткамі, умовамі іх нялёгкага пасляваеннага жыцця. Віравала жыццё і ў стольным Мінску… Усё гэта давала таленавітым і прагным да творчасці літаратарам «ежу» для напісання твораў — і перш за ўсё дакументальных аповесцей, нарысаў, артыкулаў, эсэ.

Малады празаік Іван Мележ разумеў карысць і патрэбнасць гэтай высакароднай працы. Адчуўшы неабходнасць як мага больш глыбокага ведання штодзённага жыцця беларуса, вартасць і цану мастацкай падрабязнасці і дэталі ў будучых вялікіх, панарамных творах, ён пільна і штохвілінна ўзіраўся ў нашы будні, імкнуўся як мага дакладней зразумець кожнага свайго новага суразмоўцу, кожнага героя будучага публіцыстычнага твора. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць артыкулы Мележа «Нашы заходнія браты», «Паэзія індустрыі», «Агні над руінамі», «Быць у першым эшалоне» і іншыя, што былі апублікаваны на старонках газет «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Советская Белоруссия» ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе — на працягу 1945—1955 гадоў. Той факт, што Іван Паўлавіч выступаў на старонках розных перыядычных рэспубліканскіх выданняў таксама сведчыць аб тым, што яго публіцыстыка была, калі можна так сказаць, запатрабавана як рознымі рэдакцыямі, так і шырокай чытацкай аўдыторыяй.

Выступаючы на старонках перыядычнага друку, Іван Паўлавіч выпрацоўваў найперш свой уласны пісьменніцкі стыль, гартаваў сваё пісьменніцкае слова, вызначаў свае асабістыя падыходы і да літаратурных герояў, і да герояў нарысаў, эсэ, артыкулаў. Гэта дазваляла яму праўдзіва адлюстроўваць рэаліі часу, выражаць самога сябе: свае грамадзянскія пазіцыі, маральныя і эстэтычныя погляды, свае сімпатыі і антыпатыі да з'яў, падзей, асобных людзей… У артыкуле «Знайсці сябе», апублікаваным спачатку на рускай мове ў часопісе «Вопросы литературы» № 10 за 1970 год, а потым — у зборніку мележаўскай публіцыстыкі «Жыццёвыя клопаты», згадваючы пачатак сваёй творчай дарогі, ён зазначыў: «Тады адкрылася мне тая простая ісціна, што калі «стыль — гэта чалавек», то каб стыль мастака праявіўся больш выразна, своеасаблва, трэба, каб выразна праявілася асоба чалавека, яго светаадчуванне, яго погляды, яго матэрыяльны і духоўны вопыт. Чалавек не толькі не павінен хаваць сябе, а, наадварот, адкрывацца ва ўсёй шырыні, глыбіні, шчырасці. Не трэба здавацца ні горшым, ні лепшым, чым ты ёсць, трэба быць самім сабою. Усякая штучнасць будзе ў шкоду. Ніякі фальш не пройдзе без следу» [9, с. 416]. Гэтыя словы — маральныя крытэрыі ўсяго жыццёвага шляху Мележа-грамадзяніна, усёй без выключэння літаратурнай дзейнасці Мележа-творцы.

Гартуючы і шліфуючы свой стыль літаратара, шукаючы ў літаратуры сваё слова, яшчэ ў 1947 годзе Мележ напісаў адну са сваіх лепшых публіцыстычных рэчаў — нарыс «Дарогі на ўсход і захад», прысвечаны нашаму земляку двойчы Герою Савецкага Саюза, слыннаму камандзіру танкавай брыгады Сцяпану Шутаву. І тут, відавочна, варта адзначыць, што нарысу як літаратурна-публіцыстычнаму жанру Іван Паўлавіч надаваў надзвычай важнае значэнне. Праз год пасля напісання нарыса «Дарогі на ўсход і захад» у артыкуле з характэрнай назвай «Індустрыяльная тэма ў пасляваеннай беларускай прозе» ён адзначыць: «Нарыс — вельмі важны як жанр, які дае магчымасці пісьменніку хутка, аператыўна адгукнуцца на самыя новыя падзеі. Ён карысны і для пісьменніка, бо вядзе ў гушчыню турботнага жыцця, абвастрае ўвагу, назіральнасць… Нарыс, я лічу, трэба ўсяляк падтрымліваць. …Напісаць добры нарыс не лягчэй, чым добрае апавяданне» [10]. Тое ж, чым «карысны» нарыс для літаратара, сам пісьменнік і прадэманстраваў у гэтым творы. Глыбокае веданне аўтарам ваеннага жыцця, тонкія назіранні, зробленыя падчас неаднаразовага наведвання ім танкавых часцей, як і параўнанні, выкарыстаныя пры апісанні індывідуальных асаблівасцей героя, дазволілі стварыць каларытны і непаўторны вобраз Шутава. Вось вытрымка з твора, што пераканаўча сведчыць аб гэтым:

«Гітлераўцы аб'яўлялі, што яны ўжо каля Масквы, бяруць Маскву. Мабыць, у танкістаў Шутава ніколі не было такіх цяжкіх дзён, як гэтыя. Хто-ніхто гатоў быў паддацца адчаю.

І тут, — працягвае далей пісьменнік, — капітан Шутаў як бы вырас у вачах сваіх падначаленых і таварышаў. Там, на мірных занятках пад гарачым азіяцкім сонцам, нічым асаблівым не вылучаўся ён, гэты капітан. Быў, праўда, старанны, працавіты, але гэта, бадай, усё, што маглі б сказаць пра яго як камандзіра тады, да вайны… Марудлівы ён, флегматычны на ўсё жыццё, проста дзіўна, як можна было застацца такім, не змяніцца за доўгія гады службы ў імклівай кавалерыі, у танкавых войсках. Дзіўна, як можна было, пасля стольніх гадоў ваеннай службы, застацца, шчыра кажучы, цывільным чалавекам, захаваць разам са сваёй беларускай гаворкай, з вельмі ж ужо лагоднай усмешкай столькі былога, сялянскага…

Такім Шутаў быў і ў гэтыя горкія дні. Але ні флегматычнасці, ні сялянскай праставатасці яго ніхто цяпер не заўважаў. Заўважалі іншае, што, як бы ні даводзілася цяжка, Шутаў не губляўся, нават часам, здавалася, і не заўважаў бяды. Людзі дзівіліся яго цягавітасці і цярплівасці, яго нейкай дзіўнай, нібы зусім абыякавай да смяротнай небяспекі, смеласці» [11, с. 181].

Вобраз будучага двойчы Героя Савецкага Саюза намаляваны Мележам, як бачым, без прыхарошвання, на першы погляд — звычайнымі, «людскімі» словамі. Але ж у нарысе — адметны, на самай справе народны герой, Чалавек з вялікай літары, з глыбокім духоўным светам, разумны і памяркоўны, таленавіты камандзір і старэйшы таварыш для байцоў…

Актыўнічаў Іван Паўлавіч як публіцыст і ў іншых накірунках, праблемах і пытаннях паўсядзённага жыцця, і найперш тых, якія таксама былі яму блізкія, добра вядомыя, у якіх і грамадскасць рэспублікі, і калегі па творчасці адчувалі патрэбу ў яго, Мележавым, слове. Ды і сам ён лічыў: «Што б ні рабіў, пісьменнік павінен адчуваць грамадскае значэнне сваёй справы. Адчуваць, што яго справа — не дробязная, што яна патрэбна людзям, грамадству, Радзіме» [9, с. 322]. Гэтае ўсведамленне, рабіў Мележ выснову са свайго ўласнага творчага і жыццёвага вопыту, «узнімае і ўмацоўвае дух пісьменніка, дае яму мужнасць».

Вялікую ўвагу надаваў Мележ-публіцыст літаратурнаму працэсу ў Беларусі, пытанням і праблемам, што паўставалі і непакоілі ўсю літаратурную (і не толькі літаратурную) грамадскасць. Слушна адзначыў у свой час вядомы літаратуразнаўца Уладзімір Гніламёдаў, што некаторыя з тых артыкулаў «успрымаюцца як дакумент той эпохі, але пераважная большасць не ўстарэла, актыўна ўплывае і на сучасны літаратурны працэс» [6, с. 120]. Перш за ўсё гэта адносіцца да такіх публіцыстычна вострых і таленавіта напісаных артыкулаў, як «Раман і яго праблемы», «Наш саюз пісьменнікаў», «На вышыні жыцця», «Пакаленне за пакаленнем», «Настаўнік — жыццё», «Развагі пра нашу крытыку», «Чорныя сілуэты»… У іх адчуваецца глыбіня мележаўскай думкі, уменне ўбачыць і пранікнуць у сутнасць тых заканамернасцей, паводле якіх развівалася тагачаснае літаратурнае жыццё і дзейнасць. Даследаванне гэтых твораў дазваляе больш выразна бачыць той час, калі жыў, тварыў і дзейнічаў не толькі сам Іван Паўлавіч, але і цэлае пакаленне іншых таленавітых, неардынарных творцаў, якія пакінулі ў беларускай нацыянальнай літаратуры не адзін дзясятак высокамастацкіх твораў.

Гэтыя творы Івана Мележа — лаканічныя і сціслыя, у іх, як кажуць, цесна думкам і высновам. Своеасаблівым мележаўскім рытмам вызначаецца кожны сказ, адметнасцю — кампазіцыйная пабудова, дакладнасцю — лексіка. Факт ці прыклад у публіцыстычных творах Мележа цікавыя не столькі самі па сабе, колькі з’яўляюцца асновай для абагульненняў, падставай для асэнсавання той ці іншай літаратурнай з’явы. Скарыстоўваючы іх, Іван Паўлавіч камбінаваў тыя факты ці прыклады на карысць справы, у імя выяўлення канкрэтнага накірунку развіцця айчыннай літаратуры — незалежна ад таго, станоўчая ці адмоўная гэта сітуацыя. Яго мэтай была перш за ўсё выразнасць ідэйнай і сацыяльнай скіраванасці і завостранасці твора, а асноўным прынцыпам публіцыстычнай манеры — рух думкі ад канкрэтнага да агульнага.

Вось, напрыклад, што пісаў Мележ у артыкуле «Раман і яго праблемы»:

«Як чалавек, які спрабаваў пісаць пра мінулае, магу сказаць, грунтуючыся на асабістым вопыце: чаму лёгка пісаць пра беларускую вёску 20-х гадоў пасля Чорнага, Зарэцкага, Коласа, дзе ты самой доляй вымушан як бы ўздымацца на іх вышыню, каб дадаць вартае слова да таго, што яны сказалі, каб, магчыма, нават у чым-небудзь паспрачацца з імі ў імя ісціны? Літаратура — рэч бязлітасная: яна дае права на жыццё толькі таму, хто дакажа права на жыццё ў адкрытай, годнай спрэчцы. Да таго ж: прыклад тых, хто прайшоў першы, не толькі памагае, але і шкодзіць, бо збівае наступнага з самастойнага шляху. А ў літаратуры маюць значэнне толькі свае дарогі.

З другога боку, — працягваў пісьменнік, — той, хто піша пра новае першы, мае бясспрэчную перавагу. Яму не трэба цягнуцца асабліва ўгару, каб давесці сваё права, перад ім шырокае поле. І след, які ён пракладвае, — сам па сабе першы» [9, с. 262].

Артыкул «Чорныя сілуэты» — ці не адзіны ў публіцыстычнай спадчыне Івана Паўлавіча мае, так бы мовіць, выкрывальны і асуджальны характар. Ён быў апублікаваны 28 студзеня 1956 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў адказ на эпіграмы, змешчаныя ў першым нумары часопіса «Беларусь» за той жа год. Пад назвамі «Мастацкія сілуэты» і «Літаратурныя сілуэты» вядомыя ўжо ў той час пісьменнікі Антон Бялевіч, Эдуард Валасевіч і Анатоль Вялюгін апублікавалі эпіграмы на сваіх калег па мастацтве і літаратуры Лідзію Ржэцкую, Канстанціна Саннікава, Веру Пола, Яўгена Цікоцкага, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Эдзі Агняцвет і Андрэя Макаёнка. У выбары слоў — зняважлівых, а часам проста гнюсных — «сатырыкі» перагнулі палку. З артыкула «можна даведацца, — піша І. Мележ, — што народны артыст Савецкага Саюза кампазітар Яўген Цікоцкі зусім і не кампазітар — бо які ж ён кампазітар, калі ён, па словах аўтараў, «гняце сваю ліру»? З гэтага ж аддзела, — працягвае Іван Паўлавіч, — я даведаўся, што раман «Мінскі напрамак» горшы за апавяданне «У завіруху»… Нагадаўшы аўтарам «сілуэтаў» аб тым, што ў свой час часопіс «Беларусь» даў раману добрую ацэнку, Мележ дадае: «Зусім не да твару часопісу ўсе гэтыя «паэтычныя забавы» размнажаць у многіх тысячах экзэмпляраў».

Асобны раздзел мележаўскай публіцыстыкі — выступленні на партыйных з’ездах і пленумах, сесіях Вярхоўнага Савета Беларусі (Іван Паўлавіч шмат гадоў быў дэпутатам вышэйшага заканадаўчага органа ўлады рэспублікі), пісьменніцкіх і літаратурных форумах… Сярод іх звычайнай для пісьменніка страснасцю, публіцыстычным зместам і напалам вылучаюцца такія рэчы, як «Датычыць усіх нас», «Слова пра Якуба Коласа», «Слава паэту», «І сёння, і заўтра, і заўсёды!», «Пра правы і пра абавязкі», «Заўвагі ў спрэчках», «Берагчы вялікія скарбы», «На вышыні жыцця» і іншыя.

Мележаўскія інтэрв’ю, адказы на анкеты — таксама вялікае поле дзейнасці для даследчыкаў яго публіцыстычнай творчасці. Найбольш глыбокія і змястоўныя сярод іх, на нашу думку — «Бачыць глыбока і шырока», «Спадзяванні і надзеі», «Частка майго жыцця», «Шчаслівы дар лёсу», «Пра карысць сустрэч», «Наказ паражытага». Многія назвы гэтых твораў сведчаць пра шырыню поглядаў і пазіцый Івана Паўлавіча, яго неўтаймоўную зацікаўленасць шматгранным жыццём краіны і рэспублікі.

Працуючы ў галіне публіцыстыкі, Мележ пастаянна заўважаў, адзначаў і ашчаджаў пошукі, набыткі і дасягненні ў ёй іншых творцаў — сваіх братоў па літаратурным цэху. У прыватнасці, у артыкуле «Раманы, аповесці, апавяданні», змешчаным у згаданым вышэй 8-м томе ягонага дзесяцітомнага збору твораў (першапачаткова гэта быў напісаны Іванам Паўлавічам адзін з раздзелаў справаздачнага даклада праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі VI з’езду СП, які адбыўся напрыканцы красавіка 1971 года), ён высока ацаніў «прыкметныя поспехі і ў развіцці публіцыстыкі» Янкі Брыля і Кастуся Кірэенкі, Алеся Бажко і Аляксея Карпюка, Веры Палтаран і Янкі Сіпакова, Ігната Дуброўскага і Валянціна Панамарова…

Публіцыстыка Івана Мележа ўяўляе сабой значны скарб для вывучэння і даследавання, бо ў большасці яго артыкулаў, нарысаў, эсэ, інтэрв’ю спаўна і выразна перадаецца рытм жыцця краіны і нашай рэспублікі саракавых — сямідзясятых гадоў XX стагоддзя. Сам Іван Паўлавіч нязменна знаходзіўся ў эпіцэнтры таго жыцця і імкнуўся перадаць змест і характар тых падзей у сваіх публіцыстычных творах, захаваць той змест і той характар для нас, ягоных нашчадкаў і спадкаемцаў. Паслядоўна, мужна і апантана ён змагаўся за праўдзівасць твораў, іх значнасць думак і глыбіню пачуццяў. Змагаўся за тое, што і называецца сапраўднай творчасцю і такой жа сапраўднай літаратурай і публіцыстыкай.

**Літаратура:**

1. Мележ, І. Жыццёвыя клопаты: артыкулы, эсэ, інтэрв'ю. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1975.
2. Полымя. — 1962. — № 11.
3. Известия. — 1972. — 5 сентября.
4. Полымя. — 1946. — № 5.
5. Маладосць. — 1981. — № 1.
6. Гніламёдаў, У. Іван Мележ. — Мн.: Народная асвета, 1984.
7. Мележ І. Збор твораў у 6 тамах. Т. 4. — Мн.: Беларусь, 1971.
8. Литературная газета. — 1975. — 30 апреля.
9. Мележ, І. Збор твораў у 10 тамах. Т. 8. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1983.
10. Літаратура і мастацтва. — 1948. — 27 лістапада.
11. Мележ, І. Збор твораў у 6 тамах. Т. 1. — Мн.: Беларусь, 1969.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 15 снежня 2010 года.*

**Анатоль Мяснікоў**
**«Я наглядаю з увагаю за фактамі жыцця…»**
**Іван Мележ — публіцыст**

**Рэзюмэ**

У артыкуле разглядаецца публіцыстычная творчасць народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа. Вызначаны галоўныя тэмы, асаблівасці творчай манеры, аналізуюцца асобныя нарысы і артыкулы публіцыста Мележа.

**Anatol Miasnikou**
**«I closely study the facts of life…»**
**Ivan Melezh — publicist**

**The Summary**

The social and political essays of the People's writer of Belarus Ivan Melezh are analyzed in the article. The author gives also consideration to the features of his creating style, takes up specific character of his essays and articles, which makes up the main samples of his journalism.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ПАЭМА ПРА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА



*Аркадзь Куляшоў.*

Гэтую тэму беларуская літаратура кранала не адзін раз. Быў кінафільм пра Кастуся Каліноўскага з ленінградскім акцёрам М. Сіманавым у галоўнай ролі. У 30-я гады М. Танк па даручэнні кіраўніка камсамола Заходняй Беларусі М. Дворнікава (загінуў пазней у Іспаніі) напісаў паэму «Кастусь Каліноўскі». Паэма вызначалася гераічным гучаннем і агітацыйным пафасам, але вялікага розгаласу сярод чытачоў магчыма і не мела. П. Броўка ўспомніў Каліноўскага ў сваёй паэме перыяду Вялікай Айчыннай вайны «Беларусь» і вершы «Кастусь Каліноўскі». Згадвалі пра палымянага рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, паэта, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гадоў у Польшчы, Беларусі і Літве М. Машара, В. Таўлай, П. Панчанка, пісалі У. Караткевіч, С. Яновіч (цікавая аповесць «Сярэбраны яздок») ды іншыя паэты і празаікі. Я назваў толькі некаторых. Сказаў тут сваё важкае слова і выдатны наш паэт Аркадзь Куляшоў, творчая спадчына якога і сёння заслугоўвае вялікай увагі і пашаны. Да вобраза Кастуся Каліноўскага ён звяртаўся на завяршэнні свайго жыццёвага і творчага шляху, падсумоўваючы свае духоўныя і мастацкія пошукі і досвед. Паэма «Хамуціус» убачыла свет у 1975 годзе. У канцы гэтага года маскоўская «Литературная газета» разаслала анкету з просьбай назваць лепшы твор года. Я спыніўся на «Хамуціусе» Куляшова. Аркадзь Аляксандравіч патэлефанаваў, прачытаўшы ў газеце мой адказ на анкету, выказаў падзяку за падтрымку. У кароткім дыялогу ён сказаў:

— Мяне, ведаеце, захапіла веліч гэтай постаці, гераізм і самаахвярнасць Хамуціуса, маштаб гэтай асобы. А потым яго каханне да Марысі! «Марыська чарнаброва, галубка мая…» Гэта па-першае. Па-другое, я хацеў сказаць, што паўстанне 1863—1864 гадоў — звяно ў чарадзе еўрапейскіх рэвалюцый XIX стагоддзя. Марыся шукае свайго каханага Хамуціуса на барыкадах Парыжскай камуны…

Аркадзь Аляксандравіч расказаў, што, рыхтуючыся да рэалізацыі сваёй задумы, пазнаёміўся з многімі матэрыяламі, літаратурай як навуковай, так і мастацкай, белетрыстыкай. Прачытаў, напрыклад, зразумела, з крытычным поглядам, дылогію У. Крастоўскага «Крывавы пуф», напісаную адразу пасля падаўлення паўстання на матэрыяле яго падзей. У. Крастоўскі — жандарскі ротмістр, службовец у адміністрацыі генерала Мураўёва, сваю дылогію ён назваў «Хроникой о новом смутном времени государства Российского». Потым я і сам прачытаў гэтую дылогію, цікавую ў пазнавальным сэнсе.

Аўтар «Хамуціуса» свядома адносіў сябе да паэтаў ангажаваных, моцна звязаных са сваёй эпохай і яе праблемамі. Ён жыў, рос разам з часам, мяняўся разам з ім, пільна ўзіраўся ў будучыню і шукаў падтрымкі ў мінулым, імкнуўся засвоіць яго ўрокі, зберагаў памяць аб ім. Гэтая асаблівасць паэта глыбока адлюстравалася ў яго творчасці — лірыцы і паэмах, у постацях і духоўным вобліку яго

героях. Герой Куляшова — змагар за чалавечнасць, за будучыню, за жыццё, асоба гераічная, самаадданая. Такім ён бачыцца на ўсіх этапах творчага шляху паэта, у вершах і ў паэтычным эпасе. Дастаткова ўспомніць такія творы, як «Сцяг брыгады» (1943), «Прыгоды цымбал» (1945), «Толькі ўперад» (1950), «Грозная пушча» (1956), «Маналог» (1965), «Цунамі» (1968), «Варшаўскі шлях» (1973) і іншыя. У гэтым радзе і драматычная паэма «Хамуціус», у якой увагу паэта, як ужо гаварылася, прывабіла фенаменальная постаць Кастуся Каліноўскага — героя рэвалюцыйнай барацьбы беларускага народа ў XIX стагоддзі. Кажуць, гаворыць той, хто гаворыць «я». Якраз такім быў і Кастусь Каліноўскі — свядомы рэвалюцыянер-дэмакрат, які шчыра дбаў пра лепшую долю роднага народа. Менавіта такім ён паўстае ў паэме «Хамуціус», у якой шмат надзвычай уражальных момантаў. Пазіцыя Каліноўскага глыбока выявілася ў яго маналогу — прамове на сустрэчы прадстаўнікоў «белых» і «чырвоных» у віленскім касцёле.

Уваскрасай, народзе мой сярмяжны,
З маўклівых курганоў і дамавін.
Паўстань для новай бітвы, дух адважны,
Як з каменю агонь…

«Дзе ўладары — там і рабы», — сцвярджае паэт вуснамі свайго героя, узнімаючыся да праніклівых сацыяльна-філасофскіх абагульненняў. Ствараючы паэму, ён імкнуўся мысліць агульначалавечымі катэгорыямі і, як мастак, звяртаўся да Шэкспіра, маючы намер «шэкспірызаваць» свае ідэі і вобразы, зразумець духоўную прыроду чалавечай істоты. Наша крытыка, пачынаючы з В. Каваленкі, Р. Бярозкіна, М. Арочкі, не раз гаварыла пра шэкспіраўскі «прыцэл» А. Куляшова ў гэтым творы. Паэт імкнецца да глыбокага раскрыцця характараў сваіх герояў, аналізуе змест іх грамадскіх узаемаадносін, сувязь з гістарычна канкрэтнымі ўмовамі жыцця. Хамуціус (адзін з псеўданімаў Кастуся Каліноўскага) — моцны характар з неадольнай страсцю пазнання, мужнасцю глядзець праўдзе ў вочы, вострым адчуваннем сваёй адказнасці перад гісторыяй, прызвання змагацца з несправядлівасцю і прымусам.

Азіраючыся на Шэкспіра, Куляшоў ставіць пытанне аб лёсе народа: быць ці не быць яму на зямлі, якая ўжо стала па сутнасці не яго. Падзеі ў паэме разгортваюцца з пазіцый асобы, якая імкнецца сцвердзіць сваё месца ў гістарычным працэсе, спасцігнуць яго супярэчнасці і канфліктнасць. Паэт ставіць свайго героя ў такія абставіны, якія ўзвышаюць яго над узроўнем паўсядзённасці і патрабуюць незвычайнага напружання фізічных і духоўных сіл. Кастусь Каліноўскі жыве ўсёй паўнатой чалавечага быцця, ён добра бачыць сацыяльную абумоўленасць дабра і зла і ў сваіх паводзінах апіраецца на гуманістычныя патрабаванні да чалавечай маралі. Ён змагаецца за ачалавечванне свету, за ўсеагульнае шчасце.

Каліноўскі цалкам аддадзены справе супраціву, змаганню, але ў паэме паказаны таксама яго інтымныя перажыванні, ён моцна кахае. Яго нарачоная — Марыся, але каханне іх трагічнае. Правакатар, як вядома, выдаў Каліноўскага і адначасова Марысю. Кажуць, стоячы на эшафоце, Кастусь угледаўся ў вокны былога кляштара місіянераў, дзе знаходзілася пад следствам Марыся, з надзеяй убачыць хоць нейкі знак ад яе…

Кастусю Каліноўскаму прысвечана нямала літаратуры, у тым ліку і мастацкай, але паэма Куляшова стаіць асобна як тварэнне выдатнага майстра.

Не сакрэт, што гэта быў час, калі існаваў сацрэалізм са сваімі ідэалагічнымі патрабаваннямі і рэгламентацыямі: тое — можна, а тое нельга. Таму паэту даводзілася нялёгка, часам трэба было ісці на кампраміс, рабіць саступкі. К. Каліноўскі, як вядома, быў прыхільнікам ідэі самастойнай дзяржаўнасці для Беларусі. У «Хамуціусе» гэты матыў, на маю думку, не мае дастаткова выразнага гучання, хаця мастацкая і філасофская логіка твора вядзе да гэтага.

Паэма «Хамуціус» — паэма-запавет, які разам з іншымі сваімі творамі аўтар пакінуў сваім нашчадкам.

# ПА СТАРОНКАХ «ХАМУЦІУСА»



**Пра тое, як ствараласяпаэма «Хамуціус», якія падзеі падштурхнулі Аркадзя Куляшова да яе напісання, мы папрасілі расказаць дачку пісьменніка Валянціну Аркадзьеўну Куляшову.**

*Валянціна Аркадзьеўна Куляшова.*

***— Паважаная Валянціна Аркадзьеўна, паэма «Хамуціус» — адзін з самых значных твораў Аркадзя Куляшова. Чаму ж так сталася, што ёй не нададзена належнай увагі?***

— Да «Хамуціуса», як і да асобы Каліноўскага, ёсць стаўленне дзвюх узаемавыключальных груповак, пазіцый. Калі для Расіі ён здраднік, чым і тлумачыцца яго лёс, то для Беларусі ён герой. І ў дачыненні да паэмы майго бацькі гэтыя розныя стаўленні існавалі заўсёды, і імі тлумачыцца ўсё, што адбывалася з творам. Пасля напісання «Хамуціуса», розныя адносіны пачалі назірацца і да асобы Аркадзя Куляшова ўвогуле. Гэта была апошняя вялікая паэма, твор, які можна ставіць на сцэнах беларускіх тэатраў, твор глыбока патрыятычны і дасканалы ў плане майстэрства.

***— Я родам з Нарачы, і мне заўсёды было цікава, што ж адбывалася за агароджамі пісьменніцкіх лецішчаў Танка, Лынькова, Куляшова. Раскажыце, калі ласка, як Аркадзь Куляшоў пісаў «Хамуціус»?***

— Я назірала, як ствараласяпаэма «Хамуціус» і пэўным чынам удзельнічала ў яе напісанні: гатавала бацьку каву, праветрывала памяшканне, якое было проста шызым ад цыгарэтнага дыму. Паэма пісалася не толькі на Нарачы, але і ў Мінску. Апошнія радкі Аркадзь Куляшоў дапісваў у Нясвіжы ў Радзівілаўскім замку. Мы пачалі туды ездзіць у адпачынак спачатку сям’ёй у 1946 годзе. Потым бацька прызвычаіўся да тых мясцін. Дарэчы, ён вельмі любіў там з мастка лавіць рыбу. І ўвогуле, каб яму добра пісалася, ён павінен быць у даўно знаёмых абставінах, тых, якія выклікаюць у яго станоўчыя эмоцыі. Толькі на хвалі любові творчы чалавек можа працаваць. І не важна, аб чым ён пры гэтым піша. Яно можа быць і трагічным, і драматычным, але хваля, на якой працуе творчы чалавек — хваля Боскае любові. Таму Аркадзь Куляшоў пісаў у асноўным на Нарачы, дзе, па сутнасці, працаваў амаль 25 гадоў. Навакольнае асяроддзе вельмі ўплывала. Ён любіў возера, да лясоў быў прызвычаены з дзяцінства, любіў збіраць грыбы, лавіць рыбу. Не скажу, што яму добра пісалася ў горадзе.

Куляшоў заўсёды працаваў, адасобіўшыся ад астатніх, зачыніўшыся ў адным з пакояў, у сваім свеце. Клікаць яго на вячэру было не варта, бо ён жыў па законах творчасці. Вось калі ў яго скончыцца пэўны кавалак працы, напрыклад, глава, калі ён закончыць тое, што пачаў пісаць раніцай, сыдзе хваля натхнення, тады яму была неабходна паўза, у першую чаргу духоўная. І тады ён успамінаў пра зямныя патрэбы. У час працы над творам ён мог толькі паліць цыгарэты. Таму ў пакоі было дужа накурана. Што, канечне ж, выклікала спазмы сасудаў і скарачала жыццё ў рэшце рэшт. Пісаў Аркадзь Куляшоў тады, калі прыходзіла думка, незалежна ад часу сутак. Бо сапраўдная паэзія не падпарадкоўваецца нашаму жыццю. Мы — гэта толькі інструмент Вялікага Сусветнага Таленту. Лічу, што сапраўдны таленавіты чалавек далучаны да нейкага энергетычнага Боскага канала. Пісаў рэгулярна, без вялікіх перапынкаў.

Алкаголь бацька ўжываў вельмі ўмерана. Яшчэ ў вайну ён свае баявыя сто грам аддаваў галоўнаму рэдактару баявога лістка, каб той дазволіў працаваць над «Сцягам брыгады» па начах, бо ўдзень ён пісаў матэрыялы на рускай мове ў газету. А па начах пісаў па-беларуску, і многія яго папікалі, што ён адцягвае сілы ад галоўнай працы. Але амаль усе вядомыя балады ваеннага часу былі напісаны спачатку на рускай мове для баявога лістка. Я на гэтым спачатку не засяроджвала ўвагу, аднак прачытала ў артыкуле яго галоўнага рэдактара Фарберава, які прыехаў да нас у госці ў 1946 годзе, што журналісты баявога лістка знаходзіліся на перадавой фронту. Яны ўвесь час наведваліся ў акопы і так збіралі матэрыял сярод тых, хто ішоў у бой. І ён пісаў: «Памятаю, як прыехаў Аркадзь Куляшоў і выступаў перад байцамі, якія чакалі загаду ісці ў атаку. Ён прачытаў верш «Ліст з палону», які быў успрыняты байцамі так, што пачалі патрабаваць, каб хутчэй аддалі загад ісці ў бой». Я не разумела, чаму беларускамоўны верш аказаўся такім блізкім і зразумелым усім байцам (нібы напісаны на іх роднай мове), і толькі пасля, вывучаючы творчасць Куляшова, сутыкнулася з тым, што амаль усе балады пісаліся спачатку па-руску, як і «Ліст з палону». І здзівілася, наколькі дасканала бацька пераклаў гэты твор на родную мову, што нават не прыходзіць думка аб магчымасці напісання арыгінала на іншай мове.

***— А ці бываў Аркадзь Куляшоў на Нарачы ўзімку?***

— Зімой на нашым нарачанскім лецішчы бываць немагчыма, бо вельмі холадна, няма ўцепленай падлогі. Гэта менавіта летняя пабудова. Узімку толькі дзеці зрэдку там адпачывалі, але праводзілі больш часу на двары, у лесе, чым у хаце. Аркадзь Куляшоў мог бы там пісаць, калі б трохі ўцяпліць падлогу і сцены, і каб хтосьці мог паехаць разам з ім, хто дапамагаў бы насіць дровы, паліць у печы.

***— Скажыце, калі ласка, дзе Аркадзь Куляшоў браў матэрыял для напісання «Хамуціуса», і што падштурхнула яго ўзяцца за працу над гэтай паэмай?***

— Асобай Каліноўскага Аркадзь Куляшоў цікавіўся вельмі даўно. Я лічу, што прачытаўшы ўпершыню, здаецца, у 1956 годзе пра яго ў артыкуле Генадзя Кісялёва, Куляшоў сутыкнуўся з цікавым гістарычным матэрыялам і пачаў шукаць усё, што калі-небудзь было напісана пра Кастуся Каліноўскага. Ён нават звяртаўся да гісторыка І. Лушчыцкага, і той яму раіў што пачытаць і дзе. Аркадзь Куляшоў пачаў дасканала вывучаць гістарычныя звесткі, але гэта яшчэ не падстава для творчасці. Павінен яшчэ быць эмацыйны штуршок, які б актывізаваў назапашаны матэрыял. Штуршок гэты адбыўся, калі памёр мой муж Хрыста Бербераў (1932—1967). Мой бацька высока цаніў яго як творчую асобу і як чалавека, таму вельмі цяжка перажыў гэтую падзею, і тады яго паэтычны геній нарадзіў апошнія радкі «Хамуціуса»:

Там, за акном, — абрыс пятлі мае...
Жыцця, што праўдзе я аддаў дазвання,
Не шкода... Шкода толькі ў час расстання
Мне волі ў полі, як народ пяе,
На небе сонца, на зямлі кахання.

Гэтыя радкі ён адклаў, бо далей не тое што не пісалася, а насоўваліся наступныя страты. Сярод пісьменнікаў усяго Савецкага Саюза для Аркадзя Куляшова быў вельмі дарагім чалавекам Аляксандр Твардоўскі. Па сутнасці, гэта быў блізкі яму чалавек і біяграфічна-геаграфічна (месцы іх нараджэнняў былі на адлегласці каля 10 км). Твардоўскі цудоўна ведаў беларускую мову. Ён быў першым, хто заўважыў куляшоўскі талент. У 1930 годзе быў з’езд паэтаў Смаленшчыны, дзе прысутнічалі Карнілаў, Твардоўскі, Ісакоўскі. Была дэлегацыя і з Беларусі, у якую ўваходзіў Аркадзь Куляшоў. Калі ён закончыў чытаць з трыбуны ўрыўкі з паэмы «Крыўда», якая напісана ім у 16 год і вельмі актульная да нашага часу, Карнілаў выкрыкнуў: «Слухайце гэтага юнака. Расце вялікі паэт». Пасля, калі ад плеяды рускіх паэтаў адышлі самыя таленавітыя і застаўся адзін Твардоўскі, які, дарэчы, быў выдатным арганізатарам, што мы ведаем па часопісе «Новый мир». Усяму таленавітаму, нягледзячы на біяграфіі аўтараў, ён даваў трыбуну. Так ён заўважыў і Аркадзя Куляшова. І калі хтосьці з Беларусі прыязджаў і пачынаў гаварыць пра якога-небудзь беларускага паэта, Твардоўскі слухаў і казаў: «Чытайце Куляшова. Не разменьвайцеся на другарадных асобаў».

У 1968 годзе мы даведаліся, што Твардоўскі хворы на рак. А я ў той час ведала людзей у Балгарыі, якія эксперыментальна, па ўласнай методыцы лячылі гэтую хваробу. Вядома, што той, хто хварэе на рак, не хварэе на туберкулёз. І яны ўводзілі вакцыну ад сухотаў, рабілі здымкі і назіралі, як ракавая пухліна знікае. Мы так паспрабавалі лячыць жонку Кузьмы Чорнага, і яе жыццё значна падоўжылася. Ін’екцыю зрабілі і Твардоўскаму, але праз некаторы час умяшалася афіцыйная медыцына. Пісьменніка забралі «не пытаючыся», рабілі апраменьванне, і Аляксандр Твардоўскі памёр у снежні 1971 года. Гэтую страту Аркадзь Куляшоў перажываў вельмі цяжка і на хвалях усіх перажыванняў за дваццаць дзён ён напісаў «Варшаўскі шлях». Моцная эмоцыя з завяршэннем паэмы не згасала. Тут пачалася барацьба з «Варшаўскім шляхам», бо афіцыйна асобу Твардоўскага было забаронена нават успамінаць, а тым больш рабіць героем твора. Барацьба за гэты твор вялася, як я разумею, з тымі ж самымі грамадскімі сіламі, што і пазнейшая барацьба за «Хамуціус». Гэтыя падзеі трымалі Аркадзя Куляшова ў эмацыйным напружанні. У такіх умовах у 1974 годзе ён змог пераарыентаваць свой творчы стан на «Хамуціус». У 1973 годзе паэт проста трымаў сябе ў форме, пішучы асобныя вершы, бо пасля смерці Твардоўскага знаходзіўся ў глыбокай дэпрэсіі. Куляшоў лічыў, што яго пакаленне адышло разам з Твардоўскім.

«Зайздрошчу я мастам, не іх канструктарам...», «Адзіны серп на сённяшнім жніве» — гэта лепшыя вершы апошняга перыяду жыцця Аркадзя Куляшова. Пасля ўсяго перажытага ён зноў набыў паэтычную форму і пачаў працу над «Хамуціусам». Пачаў там, дзе ў гэты час знаходзіўся. А знаходзіўся ўсё ж такі спачатку ў Мінску.

***— А ці не пісаў Аркадзь Куляшоў вершы паралельна з працай над «Хамуціусам»?***

— Аркадзь Куляшоў засяродзіўся толькі на паэме. Ён меў не толькі талент, але і ўменне ўсё падпарадкаваць галоўнаму. Гэта ў яго было гадоў з чатырнаццаці, калі паступіў у педтэхнікум у Мсціславе. Куляшоў уліўся там у літаратурную

філію «Маладняка», дзе сустрэў двух вельмі таленавітых паэтаў: Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку. Яны былі старэйшыя за Куляшова гады на чатыры і вельмі добра выпрацавалі методыку працы ў літаратуры. Яны вывучалі мовы, перакладалі, пісалі ўласныя вершы і ўбачыўшы ў Куляшове сапраўдны талент, далучылі яго да свайго гуртка.

Дзякаючы гэтаму сяброўству, Куляшоў нібыта набыў штуршок да паскоранага развіцця ўласнай творчасці. Першы верш надрукаваў у дванаццаць год, а пісаць пачаў з шасці. Калі ён нешта перажываў, штосьці побытавае, пісаў верш на гэтую тэму і заносіў яго ў сшытак, які называўся «Збор твораў Куляшова няшчаснага». Чаму няшчаснага? Бо пісаў пра тое, што яго засмучала. У 1928 годзе гэта быў верш «Бывай». Старэйшая за яго Алеся, першае каханне Куляшова, ад'язджала ў Ленінград вучыцца. І незалежна ад таго, кахала яна яго ці не, лёс прымусіў іх раз'ехацца. Яе лёс, наколькі я ведаю, склаўся даволі ўдала. Імя Алеся прысутнічае ў многіх творах Аркадзя Куляшова.

***— Наколькі «Хамуціус» гістарычна дакладны твор?***

— Паэма «Хамуціус» — твор даволі праўдзівы. Бо Аркадзь Куляшоў дасканала ведаў факты з жыцця Кастуся Каліноўскага. Была і Марыся, і іх каханне з Кастусём. Магчыма, выдуманы некаторыя сітуацыі, бо ні Каліноўскі, ні Марыся не вялі дзённік. Таму аб стопрацэнтнай жыццёвай дакладнасці гаварыць не даводзіцца.

Чытаючы паэму, задумваешся аб наступным факце. Беларусь павінна была стаць еўрапейскай краінай, але не магла, бо з'яўлялася краінай сялянскай. А сяляне не разумелі, у імя чаго паны іх прымушаюць ваяваць. Таму, паміраючы, Кастусь Каліноўскі напісаў, што першае, што трэба рабіць — гэта даць народу адукацыю.

***— Якія праблемы ўзніклі пасля напісання «Хамуціуса»?***

— Пакуль грамадства дойдзе да ўспрыняцця наступнага твора праходзіць гадоў дваццаць, у нашым выпадку каля сарака. Гэта звязана яшчэ і з тым, што мы перажылі час перабудовы грамадства і адпаведна ўсіх, звязаных з гэтым, культурных з'яў. Аднойчы, выступаючы ў Шчучыне, я даведалася, што рыхтуецца змена школьнай праграмы, што з яе будзе выкінута паэма «Сцяг брыгады». Яе ў той час многія настаўнікі і вучні ведалі на памяць. Бо, па сутнасці, гэта самая таленавітая паэма ваеннага часу. Калі бацька яе скончыў у лістападзе 1942 года, ён даслаў ліст Міхасю Лынькову (сакратару Саюза пісьменнікаў), што напісаў паэму памерам 2000 радкоў — паэму пра Беларусь і вайну. А назва «Сцяг брыгады» была звязана з фактам вайны.

«Хамуціус» увогуле не ўваходзіў у школьную праграму. У 1980 годзе рыхтавалася кніга ў выдавецтве «Советский писатель». Выбранае Аркадзя Куляшова. Тады я была вельмі занятая і папрасіла знаўцу паэзіі Куляшова, крытыка Варлена Бечыка скласці гэты том. Ён са мной параіўся, і мы вырашылі, што трэба змясціць «Хамуціус». Раптам ён мне тэлефануе і кажа, што званілі з выдавецтва і сказалі, што «Хамуціус» трэба зняць. Я тэлефаную бацькавым сябрам, ведаючы, што хутка будзе сесія Вярхоўнага Савета ў Маскве, дзе збяруцца Кайсын Куліеў, Міхаіл Дудзін, Расул Гамзатаў. Яны пагадзіліся са мной сустрэцца. Я растлумачыла, што мяне прывяло і запытала, што рабіць. Канкрэтнага адказу я не пачула. Мы абедалі ў гасцініцы «Масква» за бацькавым столікам і ў канцы трапезы, як бы між іншым, Куліеў мне кажа: «Ведаеш, калі Марыя Іларыёнаўна пачала змагацца за тое, каб у адпаведнай кніжцы Твардоўскага не здымалі «Васіля Цёркіна на тым свеце», дык кніжка ўвогуле не выйшла. І толькі прыехаўшы дадому, недзе праз тыдзень, я зразумела, што гэта быў адказ на маё пытанне. Калі «Хамуціус» не будзе зняты — кніжка не

выйдзе. Я пазваніла Бечыку і кажу: «Здымаем». Ён быў вельмі здзіўлены. «Не маю часу табе тлумачыць. Здымай!» — даводзіла я. Ён зняў, і кніжка выйшла ў 1980 годзе.

***— Што для вас значыць быць дачкой Аркадзя Куляшова?***

— Напачатку майго жыцця, гадоў да чатырнаццаці я ставілася да Аркадзя Куляшова як звычайнае дзіця ставіцца да свайго бацькі. Пры тым, бацькам ён быў вельмі добрым. Ён мяне проста песціў. Успамінаю, калі клалася спаць, ён любіў мне чытаць вершы з рускай, украінскай і беларускай класікі, спяваў песні. Калі ў старэйшым узросце я ўжо магла асэнсоўваць творчасць бацькі, то стала ім ганарыцца. Ганарылася, што ён — сапраўдны паэт. А зараз — гэта адказнасць. Бо ў часы перабудовы знаходзіліся пэўныя сілы, дагэтуль не ведаю якія, што імкнуліся нашкодзіць, сцерці памяць пра Аркадзя Куляшова. Як вынік, напрыклад, спаленая родная хата на радзіме паэта. І мне давялося з гэтым сутыкнуцца. Усё, што я рабіла, што лічыла сваім абавязкам, гэта не даць выкінуць са свядомасці беларуса яго вялікага паэта.

***— Якое месца ў творчасці народнага паэта займае паэма «Хамуціус»?***

— Аркадзь Куляшоў не быў паэтам купалаўска-коласаўскай плеяды, бо быў значна маладзейшы. Ён не быў у акружэнні гэтых людзей і, па сутнасці, гартаваўся ў савецкай сістэме адукацыі і выхавання. Яны ведалі тую Расію і Беларусь, якія былі разбураны, ведалі тое, што ў ранейшы час было важным для Беларусі і за што трэба было змагацца. Таму яны апынуліся ў адмоўнай для сябе сітуацыі перад Савецкай уладай. А Аркадзь Куляшоў пачынаў як тая плеяда моладзі, што пераважна ўся загінула ў вайне. Куляшоў рухаўся ад пракамуністычнага савецкага юнака да таго, ад чаго пачыналі Купала і Колас. Ён рухаўся да іх. І паэма «Хамуціус» сведчыць пра гэта. Аркадзь Куляшоў рухаўся да беларускага патрыёта, і ён стаў ім. Бо, сталеючы, ён зразумеў, што кожны народ павінен мець сваю дзяржаву, як чалавек — сваё жыллё. Толькі так ён можа быць гаспадаром і максімальна рэалізавацца. Гэты рух робіць Аркадзю Куляшову вялікі гонар. Бо ён прайшоў шлях ад абстракцыі да канкрэтыкі, ад савецкага патрыёта да патрыёта беларускага.

Паэма «Хамуціус» — вяршыня і вянец творчасці Аркадзя Куляшова. Яна, між іншым, сведчанне таго, што ў сваёй творчасці пісьменнік не толькі ішоў упоравень з часам, але і апярэджваў яго. Гэты апошні яе віток яшчэ чакае свайго асэнсавання...

***Гутарыў Рагнед Малахоўскі.***

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# ДУША ГЕРОЯ ПАВОДЛЕ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

*Спакойнага шчасця*
*не зычу нікому:*
*Навошта грымотам*
*маланка без грому,*
*Навошта ручай*
*без пякучае смагі,*
*Халодная ўвага,*
*не вартая ўвагі,*
*Жаданні, што прагныя*
*крылы згарнулі,*
*Зязюля без лесу*
*і лес без зязюлі?*

Аркадзь Куляшоў

Гэтыя радкі са школьных гадоў засталіся ў маёй памяці. Спецыяльна я іх не вучыў, не «зазубрываў», выконваючы хатняе заданне. Яны самі па сабе, пасля таго як я іх упершыню прачытаў у школьным падручніку, пасяліліся ў маіх думках. Сапраўды, паэтычныя словы, шчырыя дакладныя і адпаведныя ўласнае натуры, адбіваюцца ў памяці, спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця. У гэтым невялікім вершы сфармулявана квінтэсенцыя імкненняў чалавека і праграма яго быцця, безумоўна, для высакароднай і дзейснай асобы.

Яшчэ адна нечаканая, скажам, непрагназаваная сустрэча з паэзіяй Куляшова адбылася напрыканцы 1990-х. Я пазнаёміўся з таленавітым грузінскім мастаком Кахаберам Гагохіа (нядаўна яго выстаўка прайшла ў мінскім Траецкім прадмесці). Ён, як выявілася, быў заўзятым меламанам — збіраў найлепшыя ўзоры музычнага мастацтва з усіх куткоў свету. Чаго толькі ён не меў у сваёй калекцыі — спевы індзейцаў і «шчоўкаючыя» песні пігмеяў. Былі і беларускія фальклорныя запісы.

— Я магу, калі хочаш, праспяваць разам з табой беларускую песню, — аднойчы прапанаваў Кахабер.

— Калі я яе ведаю, давай паспрабуем, — асцярожна пагадзіўся я.

— Яе ўся Грузія ведае і нават вучылася па ёй спяваць.

— І што гэта за песня, якая нават грузінаў — прыроджаных вакальных майстроў — можа навучыць спевам? — здзівіўся я.

Кахабер на беларускай мове, безумоўна, з грузінскім акцэнтам, пачаў спяваць, і трэба прызнацца вельмі прыгожа, каларытна, сакавітым густым голасам песняроўскую «Алесю».

Прызнаюся — гэта адна з маіх улюбёных песняў, аднак падцягнуць я не змог, бо не маю патрэбных вакальных дадзеных, аднак мне было вельмі прыемна, я адчуваў гонар за беларускую культуру, за Беларусь.

— Між іншым, Аркадзь Куляшоў — паэт, якому належаць словы песні, напісаў іх у чатырнаццаць гадоў.

— О, — здзівіўся Кахабер і пасля дадаў, — і ў чатырнаццаць можна перажыць такое пачуццё!

— Так, — пагадзіўся я, — але выявіць гэтае пачуццё ў словах у такім узросце можа толькі вельмі таленавіты чалавек…

Значна пазней я прачытаў у Рыгора Бярозкіна, што Аркадзь Куляшоў, будучы ўжо вядомым паэтам, перарабіў гэты верш.

У часопісе «Полымя» за 1928 год першая страфа твора была надрукавана ў наступным варыянце:

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Бывай, пялёсткамі развеяная квець, —
Тваё, чарнявае, юнацтва дагарае
І слоў заранкавая сонечная медзь…

У песні ж гучыць:

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Рыгор Бярозкін пісаў: «Што тут зменена? Зняты характэрныя для тагачаснай паэтычнай моладзі квяцістасць і штучныя неалагізмы (квець, развеяная пялёсткамі)».

Магчыма з пазіцый 70-х гадоў XX стагоддзя, калі свае назіранні занатоўваў Рыгор Бярозкін, паэтычныя інавацыі маладога Куляшова можна назваць «штучнымі» і «квяцістымі», але для 20-х гадоў гэта было натуральна: такая была тагачасная паэтычная мова, «па-ясенінская», «па-хлебнікаўская», «па-маякоўская», з пошукам прыгажосці і глыбінных сэнсаў не толькі ў лексемах, але і ў асобных слоўных фармантах. Пераўтваральны імпэт ахапіў сацыяльныя сферы грамадства, і паэзія не заставалася ў баку. Адбывалася дэкананізацыя рыфмы, меў месца прарыў «бастыёнаў» сінтаксісу, вынаходзілася неверагодная рытміка. Паэтычная мова стала вольным бурлівым струменем. І беларуская паэзія зусім не была на ўскраіне гэтага працэсу. Дастаткова ўзгадаць вершы Тодара Кляшторнага, Валянціна Таўлая, а таксама паплечнікаў і сяброў Аркадзя Куляшова — Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенкі.

Маладосць —
Гэта дзіўная казка,
Непаўторная ў нашым жыцці…
…Ападаюць
Чароўныя краскі,
Ападаюць,
Каб больш не цвісці…

Хай сягоння ў туманнай дуброве
Захлынаюцца шчасцем вятры.
Мабыць, заўтра
Не мне, а другому
Будзеш дзіўную ружу дарыць…

*Тодар Кляшторны*

Аднак, часткова можна пагадзіцца з Рыгорам Бярозкіным, што ў апошнім пасляваенным варыянце куляшоўскай «Алесі» «пераадолена няпэўнасць, хісткасць зместу, і замест «заранкавай сонечнай медзі» слоў, якая чамусьці «дагарае» разам з юнацтвам дзяўчыны, аўтар піша проста, ясна і адначасова вельмі паэтычна «Шкада заранкі мне, што ў неба дагарае»[1]. І ўсё ж такі добра, што захаваўся і стары варыянт, што чытачы і даследчыкі могуць прасачыць і прааналізаваць шлях творчай эвалюцыі выдатнага паэта. Мы бачым, як на этапе «крышталізацыі» майстэрства мяняюцца паэтычныя прэферэнцыі мастака: рамантычны

[1] Бярозкін, Р. Аркадзь Куляшоў: нарыс жыцця і творчасці / Р. Бярозкін. — Мінск: Народная асвета, 1978. — 192 с.

запал дае месца ўдумлівасці і развагам, павялічваецца філасофская напружанасць вершаў, надаецца большая ўвага культуры радка, яго адточанасці, трапнасці. Выдатнай школай для Аркадзя Куляшова стаў паэтычны пераклад. У 1936 годзе, калі паэту было толькі 22 гады, выйшаў яго пераклад паэмы Пушкіна «Цыганы». Працу станоўча ацаніў Якуб Колас: «Радасна чытаць і чуць, як дасканала перадаюцца нашай мовай натхнёныя пушкінскія радкі». Пасля гэтага паэтычны пераклад стаў адной з галін дзейнасці Аркадзя Куляшова. Варта пагадзіцца з перакладазнаўцам М. Кенькам, які пісаў, што «судакрананне з вопытам рускіх і ўкраінскіх паэтаў класікаў з разнастайнай у сваіх праявах сучаснай паэзіяй пашырала творчы дыяпазон А. Куляшова. Вядома, што не толькі пераклад, але і непасрэднае ўздзеянне прачытанага аказвалі ўплыў на паэта, але роля перакладу выяўлялася ўсё ж па-асабліваму. Пераклад таго ці іншага твора часта быў не толькі адкрыццём нязведаных шляхоў, па-новаму асвятляў папярэдні вопыт, даваў правільны накірунак думкам. Але і служыў практычным інструментам шліфоўкі мовы, стылю, узбагачэння лексікі, паказваў багатыя магчымасці паэтычнага слова. Асабліва плённым было гэта ўздзеянне тады, калі Куляшоў перакладаў тое, што суадносілася з яго ўласнымі пошукамі, было блізкім да яго намераў, замыслаў»[1]. Неабходна дадаць, што класіка, якую перакладаў паэт, адбівалася на яго чалавечых якасцях, сілкавала натуру ўзорамі высакароднасці. А перакладаў Аркадзь Куляшоў з Лангфела, Пушкіна, Лермантава, Шаўчэнкі… Самае складанае, а гэта пацвердзіць любы перакладчык, перакладаць з блізкароднасных моў. І гэта Аркадзю Куляшову ўдавалася. Вяршыняй яго перакладу стала беларускае перастварэнне «Яўгенія Анегіна».

Мікола Грынчык у сваёй кнізе «Аркадзь Куляшоў» (Мінск, 1964 год) прыводзіць словы мастака: «Работа над перакладам «Яўгенія Анегіна» бясспрэчна ўзбагаціла мяне як паэта. Я ўпэўнены, што пераклады класічных твораў, а ў асаблівасці твораў Пушкіна, для кожнага паэта з’яўляюцца школай паэтычнага майстэрства. Па-сапраўднаму, творча перакладаць Пушкіна — гэта значыць у некаторай меры ўступаць з ім у адзінаборства… Такі пераклад для паэта адначасова з’яўляецца вучобай, а павучыцца ў Пушкіна ёсць чаму. Гэта, у першую чаргу, — прастаце, народнасці, натуральнасці. Асабліва здзіўляе ў Пушкіна ўласцівасць яго таленту, якая заключаецца ў тым, каб рабіць паэзіяй з’явы, на першы погляд празаічныя. Пад пяром Пушкіна ўсё навакольнае, усё будзённае ператвараецца ў небудзённае, паэтычнае. У гэтай якасці — веліч яго таленту»[2]. Чытаючы біяграфію Аркадзя Куляшова, пераконваешся, што пісьменнік ніколі не спыняўся на дасягнутым, шліфаваў паэтычную мову і таксама без паблажак самому сабе загартоўваў характар. А часам жорны гісторыі пагражалі змалоць яго асобу, маральна і фізічна. Так было ў чорныя 30-я гады XX стагоддзя.

Дачка паэта Валянціна Аркадзьеўна Куляшова ўспамінае: «Пачалося ўсё з майго дзядзькі, мужа мамінай сястры Платона Галавача. Буйны празаік, намеснік наркама асветы БССР і адзін з кіраўнікоў літаб’яднанняў «Маладняк» і БелАПП, ён быў, бадай, адзіным, хто не пабаяўся заступіцца за Купалу падчас шальмавання, імкнуўся вярнуць песняра да жыцця пасля спробы самазабойства ў 1930-м. У 1937-м яго арыштавалі, судзілі як «арганізатара тэрарыстычнай групоўкі» і за «правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці» ды расстралялі. У камеры Платон Раманавіч пакінуў цыдулку: «Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас. Платон». Пасля арышту Галавача ўвесь 1937 год А. Куляшова адмаўляліся друкаваць. Мы перабіваліся з хлеба на ваду. Апроч таго, бацьку выклікалі ў Саюз пісьменнікаў і пад пагрозай выключэння

[1] Кенька, М. Майстэрства Аркадзя Куляшова-перакладчыка / М. Кенька. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983. — 128 с.

[2] Грынчык, М. Аркадзь Куляшоў: крытыка-біяграфічны нарыс / М. Грынчык. — Мінск: Беларусь, 1964 — 158 с.

прапанавалі разысціся з жонкай — сваячкай «ворага народа». Тады маці спыталася ў бацькі, які лічыў паэзію важней за ўсё на зямлі, што ён збіраецца рабіць. «Усё застанецца, як ёсць. Грош цана паэту, здольнаму на здраду».

У вёсцы каля хаты бацькоў, дзе мы адпачывалі, дзень пры дні пачалі з'яўляцца нейкія людзі. «Давай развітвацца, Ксаня», — сказаў бацька маці. Ды раптам невядомыя зніклі».

І далей: «Потым першы сакратар ЦК партыі Панцеляймон Панамарэнка распавядаў, што ў 1938-м яму з НКВД прынеслі на подпіс ордэр на арышт. Спіс адкрываўся імёнамі Купалы і Коласа, а апошнім, 13-м, у ім ішоў Куляшоў. Панцеляймон Кандратавіч тады адмовіўся падпісваць паперы ды паехаў у Маскву на прыём да Сталіна. У выніку Коласа і Купалу ўзнагародзілі ордэнамі Леніна, а Куляшова пакінулі ў спакоі.

У малох рэпрэсій трапілі сябры бацькавага юнацтва паэты-мсціслаўцы Змітрок Астапенка і Юлі Таўбін. Трагічную разлуку з ім ён ніколі не мог забыць і ў 1965 годзе надрукаваў цыкл «Маналог», прысвечаны таварышам. Гэта было першае слова ў беларускай паэзіі пра ахвяраў рэпрэсій». Радкі Тодара Кляшторнага, што прыведзены вышэй, сталіся сумным прароцтвам. Яго і Юлія Таўбіна, чыю творчасць высока цаніў Аркадзь Куляшоў, таксама агарнула чорная хваля рэпрэсій.

Пасля жахлівых 30-х гадоў, прыйшло не менш жахлівае выпрабаванне — вайна. Аркадзь Куляшоў добраахвотна ўступае ў Чырвоную Армію. Яго зброя — слова. Паэт служыў у прыфрантавой газеце 11-й арміі «Знамя Советов», не толькі артыкулы і нарысы, напісаныя ў змроку зямлянак на перадавой, «працавалі» на перамогу, але і паэзія. Пра гэта сведчаць яго творы «Балада аб чатырох заложніках», «Камсамольскі білет», «Ліст з палону», «Над брацкай магілай», знакамітая паэма «Сцяг брыгады» і інш.

Вобраз змагара прываблівае Аркадзя Куляшова, бо формула «грош цана паэту, здольнаму на здраду» была светапоглядным базісам творцы. Таму натуральна, што кульмінацыяй творчасці паэта стала паэма «Хамуціус» (напісана ў 1975 годзе), прысвечаная Кастусю Каліноўскаму. Менавіта раскрыццё псіхалогіі чалавека, здольнага на гераічныя ўчынкі і самаахвярнасць дзеля сваіх перакананняў, і ёсць галоўная задача паэмы. Пра гэта сведчыць эпіграф, узяты з румынскай паэткі Марыі Бануш:

Ствараючы аблічча свету новага,
Ствараем мы і новае аблічча
Тым, хто загінуў.

Існуе дыялектычная сувязь: павевы новага часу адкрываюць новыя грані ў вобразах нацыянальных герояў, і ў той жа час пераасэнсаванне матывацый учынкаў гэтых герояў і набліжае станаўленне новага. Паэты паводле іх псіхадухоўнай арганізацыі першымі прыступаюць да такога пераасэнсавання і сутыкаюцца з неразуменнем і непрыняццем сучаснікамі.

І хаця афіцыйна прынятая характарыстыка паэмы ў 70—80 гадах зводзілася да ідэалагічна вытрыманай фразы: «Паэма «Хамуціус» (такім быў адзін з псеўданімаў К. Каліноўскага — **С. М.**) прысвечана гераічнай барацьбе К. Каліноўскага за мужыцкую долю», паэму ў 1980 годзе, праз два гады пасля смерці аўтара, знялі з друку ў томе паэзіі Аркадзя Куляшова ў вялікай серыі «Бібліятэка паэта», што выходзіла на рускай мове ў выдавецтве «Советский писатель». Безумоўна, праблемы, узнятыя ў гэтым творы глыбейшыя, як слушна заўважыў Віктар Патапенка, «па сутнасці, у паэме «Хамуціус» Аркадзь Куляшоў сцвердзіў высокадухоўныя правы беларусаў на гістарычнае паўнакроўнае жыццё, на Адраджэнне. Гэта было сказана паэтам у той час, калі савецкае грамадства цалкам паглынуў застольна-застойны перыяд развіцця...»

Прыкладна за дзесяць гадоў да з'яўлення «Хамуціуса» Уладзімір Караткевіч прапанаваў чытачам п'есу «Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць». Кастусь у гэтым творы выяўлены бясстрашным народным правадыром — ваяводам Літвы і Беларусі, знаўцам беларускага сялянства, які можа запаленчымі словамі перацягнуць на свой бок малапісьменных яго прадстаўнікоў, а таксама здольным да авантурна-прыгодніцкіх дзеянняў. Напрыклад, для таго каб выкрасці палкоўніка царскага войска Цапліна, ён пад імем князя Мсціслаўскага пранікае на баль да самога графа Мураўёва і нават дазваляе сабе дзёрзка з ім размаўляць. Кастусь Каліноўскі Караткевіча супастаўны з іншым народным правадыром — Спартаком, а дакладней, з персанажам знакамітага рамана Рафаэла Джаваньёлі. І арыштоўваюць няўлоўнага беларускага правадыра, які мае некалькі імёнаў — Макарэвіч, Вітажэнец, князь Мсціслаўскі і інш., толькі пасля таго, як яго з-за рэўнасці (раптоўна забыўшыся на сваю высакароднасць) выкрывае Марыя Грэгатовіч. Такім чынам, як і ў рамане «Спартак», спрацоўвае формула cherchez la femme[1]. Перад смерцю Кастусь бясстрашна кідае ў вочы Мураўёву абразлівыя словы — «Рэнегат… граф-вешальнік», чым прымушае апошняга разгневацца, аддацца помсце і замяніць расстрэл на шыбеніцу. Відавочна, Караткевіч стварыў ідэалізаваны вобраз змагара за свабоду народа, у чымсьці зборны, у якім спалучаюцца найлепшыя рысы таго ж Спартака і, магчыма, Робіна Гуда. Пісьменнік прапанаваў своеасаблівы ўзор нацыянальнага героя, словы якога павінны дасягнуць сэрца кожнага беларуса:

— Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця… на вышыню нашых магіл. З крывёю, са зрывамі на дно прорвы яно, задыхаючыся, паўзе да праўды.

Кастуся Каліноўскага — героя паэмы Аркадзя Куляшова — Рыгор Бярозкін характарызуе наступным чынам: «Ён жыве паўстаннем, рыхтуе яго і горка перажывае яго няўдачы. Паўстанне — адзіная страсць Каліноўскага, змест яго пачуццяў і думак, апраўданне і сэнс усяго яго быцця»[2]. Сапраўды, аўтару «Хамуціуса» было важна раскрыць унутраны свет чалавека, які свядома, рызыкуючы ўласным жыццём, ідзе на змагарны чын. Паэт спрабуе раскрыць матывацыйныя механізмы адданай высакароднай справе асобы. Паўстанцы, прадстаўнікі крыла «белых», якія напалоханыя выступленнем народных мас, ідуць на супрацоўніцтва з царскім самадзяржаўем, называюць «верхавода чырвоных» Кастуся Каліноўскага «фанатыкам». Аднак герой паэмы — зусім не фанатык. Ён свядома праз развагі і роздумы вызначае адзіна магчымы — адпаведны яго натуры — шлях, па якім трэба ісці яму, як кіраўніку паўстання, прадбачыць і зразумець яго вынікі як для цяперашняга моманту, так і для гісторыі. Аркадзь Куляшоў выкарыстоўвае адмысловы прыём — відзежы героя. У пэўныя моманты Кастусю Каліноўскаму з'яўляюцца прывіды, якія вядуць з ім размовы, прадказваюць яму лёс. Але пазней праз прызнанне «ўяўнай» цыганкі Стэфы чытачы даведваюцца:

Мы не хімеры,
Не прывіды, а думкі. Ты за дзверы
Нас гоніш, праз акно заходзім мы…

Фактычна Кастусь Каліноўскі вядзе дыялог са сваім сумленнем і памяццю, з людзьмі з мінулага, якія разам з ім шукаюць лепшых шляхоў для паўстання (напрыклад, Юрась Старжыцкі, герой паўстання 1830—1831 гадоў). Аналіз былога паказвае будучыню, але ўласна для Кастуся Каліноўскага — яна змрочная: *«То запрашэнне // У вечны змрок…* — папярэджвае «ўяўная» цыганка Стэфа. Аднак Каліноўскі робіць свой выбар: *О не! На ўваскрашэнне // Жыцця…*

---

[1] Шукайце жанчыну (фр.)

[2] Бярозкін, Р. Аркадзь Куляшоў: нарыс жыцця і творчасці / Р. Бярозкін. — Мінск: Народная асвета, 1978. — 192 с.

Гэтым паглыбленнем у свой мікракосм герой Куляшова тыпалагічна адпаведны героям Шэкспіра (Гамлет), Міцкевіча (Конрад-Густаў з «Дзядоў»). Самааналіз для іх служыць самавыхаваннем душы. Тое самае мы бачым і ў беларускага правадыра, які выступае пад імёнамі Хамуціус, Яська-Гаспадар, Світка, Макарэвіч, Чарноцкі і інш. Аўтар паэмы падае яго думы пра зямлю:

Зямля!.. Людзей спакою пазбаўляе
Яна на гэтым свеце і на тым.
Зямлёю стаўшы, на зямлю жывым
Свае правы нябожчык прад'яўляе.
Вядуць за ўласнасць цёмную вайну
Нашчадкі між сабой на свеце гэтым,
Сумленне, што пярэчыць прагным мэтам,
Шляхетны гонар кладучы ў труну.

Пра лёс селянства і народа:

Мужык і пан. Пан і мужык. Не ў слове
Хаваецца іх сутнасць, а ў аснове,
З якой яны, як з плесені грыбы,
Растуць… Дзе ўладары, там — і рабы…

Пра паўстанне:

Паўстанню цяжка, кружаць крумкачы
Над полем бою, Яська нам з табою
Вядома тое!... У глухой начы
То здрада нас пільнуе, то няўдача.
А час — шалёны конь — нястрымна скача…

Напрыканцы паэмы ў турму да Каліноўскага прыходзіць малады чалавек — відзежа з будучыні. Ён кажа, што ведае пра Кастуся з кніг, і звяртаецца да яго з прарочымі словамі: *«Хадзем ад мёртвых продкаў, да жывых // Патомкаў!»*

Параўноўваючы Кастуся Каліноўскага, апісанага Караткевічам і Куляшовым, можна заўважыць, што ў першага ваявода Літвы і Беларусі прывабны першнаперш сваімі парываннямі, дзейснымі ўчынкамі і знешнасцю, яго кахаюць дзве жанчыны — Караліна Яцына і Марыя Грэгатовіч. Кастусь кахае першую, чым раздзімае полымя рэўнасці ў другой. Гэта ў сваю чаргу прыводзіць да арышту кіраўніка «чырвоных». Герой Аркадзя Куляшова цікавы складаным унутраным светам. І адзінае яго каханне да Марыі Ямант (аўтар «Хамуціуса», відаць, бліжэйшы да гістарычнай праўды, аднак пакінем высвятленне гэтага пытання гісторыкам) служыць у паэме выпрабаваннем яго душы. «Жарсці паўстання» — а яно патрабуе не толькі фізічных і маральных высілкаў, але, можа быць, і смерці — супрацьпастаўлена светлае ўзаемнае каханне, якое сімвалізуе жыццё ў цяперашнім і будучым. Самаахвярнасць выходзіць на спрэчку з сэнсам чалавечага (біялагічнага) існавання, сацыяльнае — з інтымным. Сімптаматычны адказ каханай змагару:

КАЛІНОЎСКІ
Мне без Марысі Ямант свет — магіла.

МАРЫСЬКА
Маўчы. Яе ты ўчора пахаваў,
Як пачуццю адкрытаму не даў
Быць не цнатлівым, грэшным і шчаслівым.
Яе ты зблытаў з полем неўрадлівым,
Яна ж магла б раджаць на зайздрасць нівам,

Калыскі калыхаць, як каласкі.
Чым лепш ты за цара таго, які
Даў ёй зямлю, але пазбавіў долі,
Сялянам волю даў — зямлі не даў?
Ты не яе, сябе пашкадаваў,
Збаяўся, што апынешся ў няволі
Сланечнікаў яе. Не ганарыся
Бязгрэшнасцю, ты не Хрыстос.

У паэме «Хамуціус» прапанаваны для чытацкага аналізу дзве лініі, два паралельныя кірункі развіцця, якія да апошняга спрабуе ўтрымаць у сябе герой твора: адказнасць за народ, Беларусь і яе будучыню (грамадска-сацыяльны аспект); адказнасць за каханую (асабіста-эмацыйны аспект).

Таму ў паэме дзве кульмінацыі. Першая, звязаная з грамадска-сацыяльным аспектам, — гэта сцэна ў касцёле. На сустрэчы з «белымі» выяўляецца, што Кастусь пазбаўляецца падтрымкі кіраўніцтва паўстання і застаецца сам-насам са сваімі ідэямі. Цяпер у яго няма ніякіх спадзяванняў на падтрымку дваранства, яго імкненні скіраваныя на іншае саслоўе — дробную шляхту і сялян, у якіх, як ён верыць, застаўся старажытны змагарны дух:

Уваскрасай, народзе мой сярмяжны,
З маўклівых курганоў і дамавін.
Паўстань для новай бітвы, дух адважны,
Як з каменю агонь...

Цяпер місія Каліноўскага «раздзьмуць» гэты агонь і арганізаваць народнае выступленне. І няхай ён паўстанцкім камітэтам сасланы ў якасці камісара на Гарадзеншчыну, аднак гэта першы яго крок, каб стаць ваяводай Літвы і Беларусі. Праз некалькі месяцаў, калі Каліноўскі зноў наведае Вільню, ён пераканаецца ў сваёй праваце. Шмат хто з дваранства выракацца паўстання. Аркадзь Куляшоў укладзе ў вусны свайго героя афарыстычнае выслоўе:

Яшчэ судно не канула на дно,
А ўжо з яго ўцякаюць спадзяванні,
Як пацукі, трымаючы ў зубах
Паперачкі свае аб пакаянні…

Другая кульмінацыя звязана з асабіста-эмацыйным аспектам. Гэта сцэна ў турме напярэдадні страты. Капітан царскага войска прыходзіць у камеру Каліноўскага з падробленым загадам аб яго вызваленні. Капітан даўно дамагаецца рукі Марысі. І раптам яна пагаджаецца, толькі з адной умовай: калі капітан вызваліць Каліноўскага, яны ўцякуць за мяжу і там Марыся выйдзе за яго замуж. Такім чынам, Кастусю даецца шанц выратаваць жыццё, але ахвяраваць сваім і, галоўнае, каханнем Марысі. Але Каліноўскі, безумоўна, не можа прыняць прапанову. Адказ героя — маналог у духу рамантызму — сведчыць пра яго непахіснае перакананне: свабода вышэй за жыццё:

Зазнаўшы лёс нявольніцы, не будзе
Марыся ўжо Марысяю былой.
А я, аддаўшы глуму і пакуце
Усё, што сэрца лічыць дарагім,
Хіба не стану для яе чужым?
Не!.. Хай даруе мне высакародны
Злачынец, толькі ў час перадсмяротны
Я за сваю свабоду не прадам
Яе свабоду!

Паэма «Хамуціус» заканчваецца так: «1871 год. Вясна. Парыж. Сярод федэратаў, байцоў Парыжскай камуны, манахіня Марыська шукае… свайго Кастуся. Няма яго, але ёсць генерал камуны Валерый Урублеўскі, у час паўстання на Беларусі і Літве баявы ваявода Гродзенскай губерні. І першае яго пытанне да Марыські: «Ну як там Нёман наш?..» Барацьба, распачатая на Нёмане, доўжыцца на Сене. Нібыта дзіўны паварот сюжэта. Марыська — манахіня. На самай справе, што вядома з гісторыі, Валеры Урублеўскі быў палкаводцам Парыжскай камуны, а вось Марыя Ямант за ўдзел у паўстанні была выслана ў Сібір, у Табольск, дзе правяла 10 гадоў. Аднак паводле рамантычнай традыцыі, якой прытрымліваўся Кастусь Каліноўскі, пішучы знакаміты верш да сваёй нявесты, каханне да дзяўчыны з радзімай стараны суадносіцца з любоўю да Айчыны. Верш пачынаецца словамі да Марыські:

Марыська чарнабровая мая,
Дзе шчасце, доля ясная твая?
Усё прайшло і не збылося ў часе,
Адна страшэнна горыч засталася,
І каменем на сэрца смутак лёг.
Калі ўжо нас за нашу праўду бог
Пачаў караць і, з вісельняй у згодзе,
Нам прападаць прызначыў пры ўваходзе
У вечны сад, то мы хутчэй загінем,
Чым скардзіцца пачнем на марны лёс,
Хутчэй ад шчасця і саміх нябёс
Адмовімся, а праўды не пакінем.

Вобраз Марысі Ямант у паэме Аркадзя Куляшова, безумоўна, трансфармуецца ў вобраз Айчыны-Беларусі. Менавіта так трэба ўспрымаць маналог-адказ Кастуся Каліноўскага капітану царскага войска ў сцэне перад стратай. А манахіня на барыкадах — алегорыя Беларусі, не аддадзенай ні жандарам-капітанам, ні іншаземным захопнікам, якая захоўвае вернасць сваім нацыянальным героям, свята беражэ іх памяць, моліцца за іх светлыя душы і гатовая выступіць на палях новых бітваў за Нашу і Вашу Свабоду.

Трыццаць гадоў таму ў 1981 годзе ў Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі загадчыкам літаратурнай часткі Рыгорам Бакіевічам і рэжысёрам-пастаноўшчыкам Сяргеем Яўдошанкам быў падрыхтаваны сцэнічны варыянт драматычнай паэмы Аркадзя Куляшова «Хамуціус». Гэты спектакль быў высока ацэнены рэспубліканскай крытыкай. Класічная паэма народнага паэта Беларусі ў XXI стагоддзі, несумненна, вартая аднаўлення на сучаснай тэатральнай сцэне.

**Казімір КАМЕЙША**

## «ШТОДЗЁННАЙ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЮ СВАЁЙ...»

Аркадзь Куляшоў — не толькі з’ява ў нашай паэзіі, але яшчэ і вялікая яе загадка. Ды і кожны вялікі паэт — заўсёды загадка. Мне здаецца, што і сам Аркадзь Аляксандравіч нейкім чынам ствараў сваю загадку. Можа, таму ён так скептычна глядзеў на пісьменніцкія дзённікі, цярпець не мог мемуараў, бо лічыў, што аўтары іх «пішуць больш пра сябе, чым пра тых, каго ўспамінаюць», паэт рэдка згаджаўся на інтэрв’ю. Невыпадкова ў сталыя свае гады ён напіша так:

А аўтар хто? Дзе рос? Як празываецца?
Ёсць весткі, альбо там яны ляжаць,
Дзе ўжо нічога ўслых не вымаўляецца? —
Знаць важна, але можна і не знаць.

Знаць якраз гэта ўсё сёння важна, ва ўсялякім выпадку — хацелася б. Так думаецца мне з адлегласці часу. Бясспрэчна адно: паэта заўсёды хваляваў наватарскі зачын у яго творчасці. Наватарскімі ўяўляецца нам амаль кожная яго паэма, яго «Новая кніга», наватарскай я лічу і драматычную паэму «Хамуціус», напісаную ўслед за «Варшаўскім шляхам». Яна ўсё яшчэ як след не прачытана нашай крытыкай. У паэме сапраўды шмат нечаканага, нібыта яе пісаў зусім іншы Куляшоў, а не той, звыклы паэт сучаснасці.

Я заўсёды з неахвотай чытаю вершаваную драматургію, разумеючы, што і ў сцэнічным увасабленні яна вельмі складаная і працаёмкая, але тут быў зусім іншы выпадак і чыталася ўсё захоплена, хоць і напружана, з уласным пераходам на роздум, нават дослед.

Да засяроджанага прачытання твора змушаў і сам эпіграф, узяты з радкоў румынскай паэткі М. Бануш: «Ствараючы аблічча свету новага, // Ствараем мы і новае аблічча // Тым, хто загінуў».

Што ж новага ў абліччы нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага прапануе нам аўтар паэмы «Хамуціус»? Відаць, новае трэба шукаць у старым. Бо ўсе гістарычныя факты нам як быццам ужо вядомыя. Але ў самім змесце, ва ўсіх роздумных развагах героя бачыцца яшчэ адно, даўняе, сялянскае, выпакутаванае, а перад гэтым так таленавіта падкрэсленае Якубам Коласам, — гэтая думка пра зямлю. А хіба яна, гэтая думка, не акрэслена ў лісце Юрася Старажыцкага?

Паўстанец пакладзе на твой парог
Мой запавет, а ў ім — зямлю магната:
Тваю, маю… Раздай жа долю брата
Тым, хто яе арэ. На гэта права
Не я табе даю, а наша справа.

І адразу ж робіцца зразумелай тая ідэя, дзеля якой ішлі на смерць мужныя паўстанцы: «Мы гінем ад таго, што абяцалі // Зямлю яму (народу **К. К.**), а не далі ні цалі». Самая галоўная думка, што рухае ўвесь твор, падкрэслена і ў канцоўцы твора, перад эпілогам:

Зямлю асвеціць сонца, што ў засадзе
Таілася да гэтае пары,
Ты ўчуеш песню жаўранка ўгары,
Убачыш мужыка на даляглядзе
З канём і сошкай і шапнеш:
«Ары!»

Шмат у паэме ўнутранай дынамікі, абвостранай думкі і прадчування, роздумнай афарыстычнасці, усяго таго, што і характэрна паэзіі Аркадзя Куляшова. І сам талент паэта «штодзённай прыналежнасцю сваёй» быў прывязаны да роднай зямлі, да гісторыі, што крывёй і потам тварылася на ёй, а ўся творчасць прасякнута любоўю да нашчадкаў, якім і належыць наша будучыня.

**Варлен БЕЧЫК**

# УРОКІ КУЛЯШОВА

Пісаць пра паэзію Аркадзя Куляшова заўсёды было мне лёгка і радасна. Вядома, я адчуваў пры гэтым і вялікую адказнасць, і цяжкасць задачы. Але ўсё роўна — станавілася неяк па-асабліваму светла і панаваў святочны настрой. Хацелася гаварыць незвычайна, нават урачыста. Акрыляла адчуванне вялікіх прастораў, духоўнай сілы і мастацкай велічы куляшоўскай паэзіі.

І заўсёды ўзнікала многа асабістых душэўных імпульсаў. Надта дарагім і блізкім было ледзьве не ўсё сказанае паэтам. Гэта быў той шчаслівы выпадак, калі творчасць паэта мне, чытачу, здаецца сваёй амаль у кожным слове, ва ўсіх галоўных уражаннях, пачуццях, жаданнях.

Асмельваюся гаварыць пра гэта з некаторымі аўтабіяграфічнымі падрабязнасцямі, каб паказаць, як часам прыходзіць да чытача паэтычнае слова і адгукаецца ў сэрцы.

Мабыць, ніхто іншы з паэтаў так не ўзрушыў і не запаланіў мяне ў дзяцінстве, як Аркадзь Куляшоў. Маёй першай прачытанай па-беларуску кнігай была яго паэма «Прыгоды цымбал». І мне ніколі не забыць таго шчасця захопленага чытання, што тады валодала мною.

Хацелася чытаць як хутчэй і ў той жа час зацягваць падарожжа па старонках кнігі, каб яно доўжылася і доўжылася.

Паэтычны свет, падзеі паэмы «Прыгоды цымбал» ускалыхнулі мяне тым, што ахапілі, здавалася, усё маё дзяцінства, мой небагаты жыццёвы вопыт, нават некаторыя абставіны лёсу. Гэта ж сапраўды са мною было ледзьве не так, як у паэме: і маці мая была «ў дуброве», у партызанах, і выратавала мяне чужая жанчына (светлая ёй памяць!), і амаль гэтак жа, як у паэме, пагражалі ёй пакараннем фашысты, і была ў нас нават «рагатая служка», з якой давялося развітацца...

Паэма вярнула мне ўспаміны пра ўсё гэта, дапамагла іх па-новаму прачуць і ўсвядоміць. І яна засталася той любімай, незабыўнай, запаветнай кнігай, якую я бярог і перачытваў усе школьныя гады.

Яшчэ адно незабыўнае ўражанне. Паміж шостым і сёмым класамі мне даверылі на лета школьную бібліятэку. Чытачоў прыходзіла мала. Затое сам я, загарэўшыся жаданнем прачытаць усе кніжкі, зноў дапаў да вершаў Куляшова і прабыў з імі ўсё тое лета. Раптам зноў адкрылася, што вершы — захапляльнае чытанне, і не проста чытанне, а нешта большае. Бо чытаеш — і іначай ужо глядзіш на свет, адкрываецца змест у самым простым, звычайным. Я нават хацеў тады напісаць пра гэта самому паэту, але не ведаў, як гэта зрабіць, ды і саромеўся.

Зноў здавалася, што піша паэт пра мяне і для мяне: пра дзяцінства, школу, усё блізкае наваколле. І так проста, зразумела, шчыра, светла...

Пасля былі іншыя сустрэчы з куляшоўскай паэзіяй, таксама дарагія і незабыўныя. Яна стала маёй пастаяннай і неабходнай спадарожніцай. Пра гэта шмат яшчэ скажацца, магчыма, іншым разам.

Цяпер жа гаварыць і пісаць пра Куляшова яшчэ вельмі цяжка. Балюча ад незваротнай страты. Балюча і ад таго, што раптоўная смерць заспела яго на вялікай паэтычнай вышыні, у поўнай творчай сіле, у новых планах і ў распачатай рабоце.

Паэт пакінуў нам вялікую і багатую спадчыну, якая працягвае актыўна жыць у нашай свядомасці і ўсё больш адкрываецца ў самым галоўным, істотным.

Магчыма, яшчэ рана гаварыць пра ўсе ўрокі, якія нам дае паэзія Куляшова: каб глянуць на яе па-новаму, як на спадчыну, патрэбен яшчэ час і якасна новае

ўспрыманне. Але і сёння мы добра адчуваем, як маштабна, аб'ёмна тварылася куляшоўскае слова і якія выдатныя вартасці яно мела. Яно свабодна, поўна, шматгранна спалучалася са сваім часам, з жыццём народным.

Куляшоўскі талент рос і развіваўся з відавочнай нагляднасцю і ў той жа час — з уласцівай вялікаму мастацтву загадкавасцю. Ужо сярод твораў, напісаных Куляшовым у чатырнаццаці-пятнаццацігадовым узросце, сустракаюцца вершы, адзначаныя вялікай адоранасцю і пранікнёнасцю.

У шаснаццаць год — першая кніга, у васямнаццаць — яшчэ дзве. Ужо адно гэта выклікае цікавасць і здзіўленне. Але яшчэ больш істотным з'яўляецца тое, як настойліва і мэтаскіравана выхоўвае, развівае і ўдасканальвае свой талент зусім яшчэ малады паэт, на якім шырокім прасторы ён вядзе пошукі: успомнім нізкі «Маім аднагодкам» і «Сонечнае заўтра», паэмы «Аманал», «Крыўда», «Гарбун».

Імкліва памнажаліся і ўзбагачаліся яго дачыненні з часам, няўхільна ўзрастала лірычнае «я». Выдатны прыклад творчага самавызначэння для маладых паэтаў.

Куляшову заўсёды было ўласціва памкненне да новага і глыбіннае, па-мастацку свежае адчуванне яго ў жыцці, у часе. Таму так напружана глядзеў ён уперад. Таму рашуча пераменьваў лад сваіх твораў, так прыкметна змяняўся і далёка сягаў.

Перадваенная паэма «Хлопцы апошняй вайны», выдатныя творы ваеннага часу, вершы і паэмы двух апошніх дзесяцігоддзяў — часу вялікай плённасці і духоўнага ўзлёту — зноў і зноў выяўлялі моцнае імкненне паэта да пашырэння духоўнай, грамадскай, гуманістычнай асновы сваёй творчасці.

Раслі маштабы бачання — да ўсегістарычных і касмічных абсягаў. Роздум аб жыцці і часе станавіўся роздумам аб лёсе і будучыні свайго народа і ўсяго чалавецтва.

Паэзія Аркадзя Куляшова з незвычайнай мастацкай паўнатой выяўляла гістарычную складанасць нашага часу, яго сучасны гуманістычны і духоўны змест, яго сённяшнюю ступень сацыяльна-гістарычнай грамадскай спеласці.

У самім адзінстве, з'яднанасці ўсіх лірычных матываў, асабістых і грамадскіх пачаткаў раскрывалася ўласцівая сучаснаму быццю глабальная ўзаемасувязь вялікага і малога, блізкіх і аддаленых жыццёвых сфер, даўно мінулых і будучых часоў, усіх з'яў і фактаў рэчаіснасці.

Адчуванне галоўнага, стрыжнявога ў жыцці, вышыня ідэалаў, мужнасць, вера, непахіснасць грамадскіх перакананняў, сапраўдная — спагадная і патрабавальная — чалавечнасць абумовілі ўнутраную годнасць яго твораў.

Паэзія Куляшова заўсёды ўзвышалася над мітуслівым і дробным, не фальшывіла ў самых складаных, «выпрабавальных» сітуацыях. Яна пазбаўлена кан'юнктуршчыны і пабочных меркаванняў.

Сама мера чалавечай вартасці і каштоўнасцей жыцця ў творах Куляшова абапіралася на ўвесь жыццёвы, духоўны вопыт паэта, не дапускала прыблізнасці і спрашчэнняў, улічвала складанасць і драматызм жыцця.

Паэзія Куляшова вызначаецца надзвычай шырокім дыяпазонам духоўнасці. Багацце перажыванняў, глыбокая паэтычнасць, ідэйная насычанасць, значнасць пачуцця і думкі — адзнакі і якасці духоўнага і творчага аблічча паэта.

Куляшоўская паэзія з вялікай мастацкай сілай і пераконлівасцю даводзіць нам, што духоўнае станаўленне і існаванне чалавека ў свеце немагчыма без неспакою, пошуку, драматычнага пераадолення жыццёвых перашкод, пачуцця вялікай адказнасці за сябе і за свой час, без плённай стваральнай дзейнасці.

Вершы з кнігі «Хуткасць», паэмы «Хамуціус» і «Варшаўскі шлях» сведчылі, што паэт працягваў набіраць вышыню. Яны ўражваюць сканцэнтраванасцю духоўнага матэрыялу, важкасцю і спеласцю думак аб часе, суровым драматызмам, сілай пачуццяў.

* * *

У аснове паэмы «Варшаўскі шлях» — глыбокі роздум аб жыцці і часе, аб сутнасці творчасці і чалавечым дзеянні. Аб тым, што значыць для паэзіі, для паэтаў быць «з векам нараўне» і быць «за ўсё ў адказе». Аб усім гэтым аўтар гаворыць, звяртаючыся да творчага і грамадзянскага подзвігу свайго вялікага друга Аляксандра Твардоўскага. «На ўсіх скрыжаваннях» паэзіі, часу, лёсу паказваецца «прыналежнасць святая» сапраўднага паэта «да спраў людскіх».

Думкі і пачуцці аўтара, увасобленыя ў форме рамантычна ўзнёслага маналога, уводзяцца ў вялікі і складаны свет сучаснасці, яе глабальных сацыяльных, ідэалагічных і маральных канфліктаў.

У цэнтры драматычнай паэмы «Хамуціус», вянчаючай творчы шлях Куляшова, — яркая, высакародная асоба правадыра сялянскага паўстання мінулага стагоддзя Кастуся Каліноўскага. І ў гэтым творы, адзначаным напружанасцю і імклівым рухам верша, Куляшоў зноў звяртаецца да важных для сучаснасці праблем гістарычнай і сацыяльнай адказнасці і маральнай годнасці чалавека, як і ў паэме «Цунамі», толькі ўжо ў канкрэтнай суадноснасці з гістарычнай рэальнасцю, тут зноў даводзіцца думка аб тым, што мера вартасці чалавека — у яго вернасці маральнаму абавязку. Гэта была важная для Куляшова ідэя — жыць, расці і знаходзіць сябе, прысвячаючы ўсе сілы выкананню велізарнейшай грамадскай місіі і знаходзячы сваё шчасце ў дзеянні, накіраваным на дасягненне ўсеагульнага шчасця.

«Хамуціус» і іншыя творы Куляшова, якія ўвайшлі ў яго кнігу «Хуткасць», сведчылі аб тым, што паэт быў у росквіце сваіх творчых сіл і талент яго абяцаў прынесці новы плён.

Але ў лютым 1978 года ў Нясвіжы пад Мінскам, дзе паэт знаходзіўся на лячэнні, раптоўна абарвалася яго жыццё. На стале засталіся накіды новай паэмы...

* * *

У паэзіі Куляшова шматгранна і ярка ўвасобілася народнае жыццё, выявіліся пачуцці і думкі народныя. За тым, што створана паэтам на працягу яго творчага шляху, паўстае яркі вобраз часу вялікіх сацыяльных пераўтварэнняў, адкрываюцца вялікая праўда жыцця, неабдымны свет барацьбы і імкненняў народа, трывожных дум і светлых мар, суровай памяці і трапятлівай любві да людзей.

Хараша сказаў Кайсын Куліеў у вершы «Лицо друга», прысвечаным Куляшову:

Бывали дни и добрые, и злые,
Но зло не лилось с твоего пера.
Что б ни было, во времена любые
Была твоя поэзия добра.

***1978***

*Да 90-годдзя з дня нараджэння Івана Мележа*

Мікола МЯТЛІЦКІ

# МОЙ МЕЛЕЖ



*Іван Паўлавіч Мележ.*

Творчасць Івана Паўлавіча Мележа з'яўляецца адным з вяршынных здабыткаў беларускай прозы другой паловы XX стагоддзя. Класіку айчыннай літаратуры выпала прайсці нялёгкі жыццёвы і творчы шлях, поўны ў маленстве цяжбаў-нястач, у юнацтве — выпрабаваннёў ваеннага ліхалецця, у сталасці — шматлікіх хвароб, выкліканых франтавым раненнем. А ў дадатак — перажываннёў ад неразумення тых, хто імкнуўся спісаць яго геніяльную творчасць у разрад ненадзённых патрэб… Але Мележ годна сцвердзіўся, нягледзячы ні на што, як вялікі самабытны мастак. І яго прысутнасць у духоўным жыцці нашай Бацькаўшчыны — павечная.

На маршруце леташняга Дня пісьменства, якое праходзіла на радзіме Івана Мележа ў родных мне Хойніках, разам з гасцямі свята, пісьменнікамі розных краін, выпала зноў зазірнуць у Глінішча — невялікую палескую вёсачку, якая і дала свету незабыўнага Мележа. Тут, у зале літаратурнага музея, дзе яскрава паўстае ім пройдзены шлях, пазначаны побытавымі рэчамі яго маленства, многімі архіўнымі матэрыяламі, пашчасціла акунуцца ў не такую і далёкую па часе гісторыю мінулага стагоддзя. А яшчэ паглядзець кінахроніку — пачуць зноўку заключнае слова пісьменніка на яго апошнім аўтарскім вечары, які праходзіў 20 красавіка 1976 года ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы. Згадалася тое даўняе студэнцкае хваляванне, варухнулася зноў: тады мы, прысутныя на вечарыне, і не здагадваліся, што з'яўляемся ўдзельнікамі апошняй сустрэчы аўтара знакамітай «Палескай хронікі» са сваімі чытачамі, што чуем яго развітальную мужную споведзь перад Айчынай. Вельмі ж хутка наступілі спякотныя жнівеньскія дні, якія горычна адгукнуліся ў сэрцах яго суайчыннікаў развітальнай жалобай. І вось зноў вяртаецца час. Ужо ў зале свайго літаратурнага музея ў родным Глінішчы Іван Мележ прамаўляе з экрана: дзячыць удзельнікам літаратурнае вечарыны за знойдзены час і асабліва цёпла вітае сваіх землякоў — народны глінішчанскі хор, зямлячак, якім выпала аж за чатырыста вёрст дабірацца, каб падараваць яму, віноўніку гэтай урачыстасці, радасць сустрэчы з матчынай песняй.

Як і тады, у красавіцкі вечар 1976-га, я слухаў зноў Мележа і думаў, колькі б мог яшчэ здзейсніць яго геній на карысць нашай літаратуры, калі б не… Якой яшчэ больш велічна-гожай паўстала б яна перад усім светам — і не толькі нам вядомымі мележаўскімі «Мінскім напрамкам» і «Палескай хронікай»… Сапраўды, адарвала галіну, на якой столькі было завязі… Як горычна аб гэтым сказаў сам Іван Мележ у дзённіку, прадчуваючы скрушлівае развітанне. І ўжо на свяце

пісьменства як яго галоўны герой пісьменнік выйшаў на сцэну ў тэатральным вобразе ў пастаноўцы, створанай па сцэнарыі ўлюбёнца ў ягоную творчасць калегі-наступніка Алеся Бадака, і звярнуўся да сваіх землякоў, суайчыннікаў і гасцей з засяроджаным роздумам пра свой край, пра тое, што б так хацелася яшчэ зрабіць яму, волату айчыннай літаратуры. У Хойніках мы зноў пачулі Мележа, горычна пашкадавалі, што багата ў чым не здзейсніліся многія яго творчыя мары, і ўсё ж парадаваліся, суцешыліся ім зробленым. Не ўсім выпадае здзейсніць і столькі…

Тут, у Хойніках, у далёкім ужо 1938 годзе Іван Мележ закончыў дзесяцігодку. Маленькі правінцыйны палескі пасёлак з адной галоўнай вуліцай, абсаджанай пракаветнымі таполямі, вадзіў юнака роздумнымі сцежкамі — шчасліваму выпускніку вабна адкрываўся ўвесь свет. Ён пісаў свае першыя вершы, перачытваў іх боязка па вечарах і ўрэшце наважыўся пераступіць парог цеснаватага рэдакцыйнага пакойчыка раённай газеты «Ленінскі шлях», дзе неўзабаве і былі яны змешчаны. А таксама ў мазырскай абласной газеце «Бальшавік Палесся». З парыўным юнацкім пачуццём паэт-пачатковец звяртаўся да Радзімы:

Усё табе — прыгожай і багатай, —
Смеласць самалётаў баявых,
Дужасць караблёў Кранштата,
Берагі гранітныя Нявы,
Ў далячынь пралеглыя дарогі,
Спелыя жытнёвыя палі.
І яшчэ — не пералічыш — многа,
Што табе навек мы аддалі.

Адкрытыя абсягі Радзімы паклікалі палескага юнака не да гранітных берагоў Нявы, а ў Маскву — ён надумаўся паступаць у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага. Грукаў коламі развітальна вагон, правяла станцыя Васілевічы, сціслася сэрца ад чутае роднасці — яна як бы адрываецца ад самой істоты, нязрушнай застаецца пад зыркатымі жнівеньскімі зоркамі. У вагонным акне адкрываюцца нязнаныя сэрцу прасторы. Яны пачаргова змяняюцца, абсыпаныя таемным святлом поўнага месяца. І ўжо родныя беларускія паступова замяняюцца расійскімі — ранішнімі краявідамі Браншчыны. І сонца ўставала над лясістаю грываю прыветна-вабнае, не менш светлае за хараство чутых мар, што па-юнацку горача імкнула з душы насустрач гэтаму вабнаму, яшчэ не спякотна яркаму, бачнаму вялізнаму сонцу.

І якім жа было ягонае расчараванне, калі пачуў у прыёмнай камісіі: на жаль, не праходзіце! Ён душою чуў, што з ім, выдатнікам, паступаюць няправільна. Аднак у палескага юнака, правінцыяла, не хапіла смеласці і рашучасці, каб запярэчыць, хоць нейк апратэставаць гэтае несправядлівае рашэнне. Тым больш, што ад яго пастараліся адмахнуцца прытворна-ветліва: прыязджайце на наступны год!

Як бы сам лёс, распарадзіўшыся гэтак, не даў Мележу хуткасна развітацца з родным Палессем — чырыкнуў радаснай птушкай і паляцеў! Мабыць, трэба было, каб ён, працуючы загадчыкам аддзела піянераў у Хойніцкім райкаме камсамола, з’ездзіў і схадзіў свой родны куток і ўдоўж і ўпоперак, каб багата гразкага торфу засталося ўжо не на школьных лапцях, а на набытых з першай зарплаты хромавіках. Каб гэтак паглядна і чэпка запалі ў сэрца краявіды балот, пошум дрымотнага лесу, прымружаная мудрасць пагляду старэйшых субяседнікаў — а яшчэ адкрылася і палюбілася на ўсё жыццё блакітнаводная Прыпяць. І за недалёкімі ад роднага Глінішча Юравічамі, і на чумацкім шляху за Аравічамі… Ён падоўгу стаяў на яе пясчаных берагах, потым пакручастай сцяжынай падымаўся на стромую юравіцкую гару, дзе дваццаць пяць тысяч год таму былі пакінуты сляды бытавання прадалёкіх прашчураў, і яшчэ больш глыбока чуў сваю жывую далучанасць да самой жыццёвай стыхіі. Па вечарах зачытваўся кнігамі класікаў,

жыццёвых мудрацоў, і пачынаў разумець — яму гэтак жа хочацца паведаць свету сваё, сказаць пра гэты край і яго люд. А калі трапіўся ў рукі том шолахаўскага «Ціхага Дона» — творчы сверб-непакой узрос яшчэ з большаю сілай.

Другая спроба паступлення аказалася ўдалай: Мележа залічылі ў той жа інстытут. Хапіла настойлівасці палескаму юнаку! Ён неўзабаве развітаўся з родным Глінішчам і Хойнікамі. Пад тымі ж жнівеньскімі зоркамі рушыў у шлях — і думаць не думаў тады, што развітанне будзе і доўгім, і пакутным…

Яшчэ студэнтам-першакурснікам прызвалі на службу ў Чырвоную Армію. Служыць Айчыне было жаданне кожнага маладога чалавека, і абвыклы ўжо на арбацкім асфальце юнак годна пачуваўся сярод пагодкаў-студэнтаў, марыў пра тое, што неўзабаве пасля вайсковай службы вернецца ў родны інстытут, у віраток жаданага студэнцкага жыцця, прагна акунецца з галавой у навуку. Не пакідала і прага творчасці — пісаліся ўсё новыя вершы, дзе ўспаміналіся-згадваліся як роднае Палессе, так і Масква. Ён вазіў з сабой у салдацкім рэчмяшку два зялёныя томікі любімага «Ціхага Дона», чытаў-перачытваў пры кожнай зручнай нагодзе — у вечаровай цішыні казармы, употайкі на дзяжурстве, на салдацкім прывале.

Служыць выпала спачатку ў Данбасе, у Арцёмаўску, потым у Карпатах, дзе ў 1940 годзе прымаў удзел у вызваленні Паўночнай Букавіны. Горная мясцовасць, багата адрозная ад балоцістых родных прастораў, забірала ў палон і сэрца, і вочы. Аднак усё болей і болей падступала трывога — бо непадалёк, заваяваўшы Польшчу, акапаліся фашысты. Хоць і была значна пасунута на захад савецкая мяжа, былі ўз'яднаны з усходнімі заходнія часткі Украіны і роднай Беларусі, што асабліва радавала, трывога не адступалася: жыло прадчуванне, што фашысты пакажуць сваю драпежнасць, рушаць на Усход. Салдат Мележ, хоць і было забаронена, патайна ўзяўся весці салдацкі дзённік — запісваў у здабытым вучнёўскім сшытку свае назіранні-ўражанні пра армейскую службу, новыя вершы. З гэтым дзённікам, маўклівым армейскім сябрам, хацелася і хацелася гаварыць у кожную прыдатную хвіліну. І ён знаходзіў яе, аддаючыся ўспамінам і марам.

І вось раніца 22 чэрвеня 1941 года. Па ўсёй даўжыні заходняй граніцы Савецкага Саюза пачалося вераломнае фашысцкае наступленне, якое ўвайшло ў гісторыю памлівай левітанаўскай фразай: «Без усялякага аб'яўлення вайны…» Намеснік палітрука, баец 298-га горнаартылерыйскага палка 192-й горнастралковай дывізіі Паўднёва-Заходняга фронту ў адзін з першых дзён вайны непадалёк ад Туркі, гарадка ў Карпатах, закопвае ў падлеску каля граніцы скрутак з даваенным сваім скарбам — запіснымі кніжкамі, канспектамі, вершамі ў спадзяванні, што адступленне будзе нядоўгім, што ён неўзабаве вернецца назад. (Тое надарыцца толькі праз пятнаццаць расстайных год. Але ўжо гаёк не ацалее, памянёны скарб застанецца не адшуканым.)

У першы дзень вялікай крывавай вайны Іван Мележ пачне свой франтавы дзённік, будзе старонку за старонкай весці яго, запісваючы горкія ўражанні ад адступлення, страты сяброў, бачанае і перажытае. А 22 чэрвеня 1941 года ў дзённіку будзе занатавана наступнае: «У 7 гадзін лагер паднялі па трывозе. Хтосьці незадаволена бурчаў: «Зноў раней тэрміну паднялі! Нават у выхадны дзень не дадуць спакою. Мабыць, коней чысціць». Але здарылася нешта большае. У канюшні раздавалі процівагазы, патроны. З парку гарматы спешна перацягнулі да ракі. Нехта сказаў на вуха: «Нямецкія самалёты бамбілі Явора»…

У гэты дзень маладым байцам, якія былі на адлегласці ад першага вераломнага варожага ўдару, не верылася, што пачалася сапраўдная вайна, а не чарговая нямецкая правакацыя. Каля 9 гадзін раніцы над канюшняй праляцеў нямецкі бамбардзіроўшчык, пачуліся першыя стрэлы. Яшчэ ўзіраліся ў неба недаверліва салдацкія вочы. Але ўжо, калі самалёт развярнуўся над гарадскім паркам і скінуў першыя бомбы, — агністыя слупы выбухаў сказалі літаральна ўсё. Горычна пазначана ў дзённіку: «Нарэшце прыходзіць загад. Дывізіён цягнецца па дарозе,

да граніцы, на пазіцыі». 26 чэрвеня — «Акапаліся добра. Падрыхтаваны даныя. Але мы пакуль маўчым і немцы таксама».

Потым 28 чэрвеня Мележ запіша ў дзённіку: «Увечары 26 чэрвеня нас папярэдзілі: «Сёння ўначы чакаецца бой. Глядзець за конькмі, быць гатовымі». Зрабілася чамусьці цяжка і сумна на сэрцы, успомніліся родныя, сябры. Можа, у гэтую ноч… Але ў гэтую ноч бою не было».

З добрымі прыцемкамі дывізія знялася з пазіцый і рушыла ў бок Туркі, так і не дачакаўшыся бою. «Рабілася штосьці незразумелае, — сумна занатоўвае Мележ, — перад горадам дарогі былі забітыя войскамі, машынамі, павозкамі. Нашу калону ўвесь час разрывалі. Сірэны, цокат капыт, лаянка…»

На шляху адступлення калона мінула Явору, Барыслаў і падышла да Драгобыча. Аднак і на новых занятых пазіцыях выпала затрымацца нядоўга. І тут не дачакаліся бою, рушылі дальш. Праз Драгобыч было загадана праскакаць рыссю… Ужо 1 ліпеня на ўскраіне Стрыі будзе запісана ў мележаўскім дзённіку наступнае: «Сэрца ахапіў жах. Упершыню я адчуў з усёй яснасцю, што такое вайна. Горад увесь палаў. Выбухі непадалёк ад нас тузалі паветра — можа, рваліся склады, можа, стралялі». Малады баец задумваецца над тым, што ж адбываецца. Яго сэрца нязгодна і бездапаможна пратэстуе: быццам нейкая неверагодная плынь нясе іх, нішто не здатна перадужаць гэты нежаданы паток, імя якому — адступленне. «Будынак, што мы ўсе гады ўпарта будавалі, бурыцца, штодзень цагліна за цаглінай адпадае ад будынка. Цагліны — гарады. Мы іх пакідаем без бою, цудоўныя, зялёныя ўкраінскія гарады. Кажуць, выходзім з мяшка. Дзясяткі гарадоў і сотні вёсак прамільгнулі, ззаду. Сёння прайшлі Чарткоў. Хутка Заходняя Украіна застанецца ззаду. Вайна такая непадобная на тую, якой мы яе ўяўлялі».

Толькі 5 ліпеня адбылася першая сутычка з ворагам. «Міны рваліся ўсюды, але мы стралялі і стралялі. Матора быў наводчыкам. Толькі па загаду адышлі да лесу. У лагчыне ляжала пакарэжаная наша гармата. Міна ўцэліла ў перадок. Некалькі чалавек забіла…» Колькі іх будзе, новых і новых страт, на скрушнай дарозе адступлення! Мележаў дзённік, ацалелы, бязлітасны сведка падзей, занатуе і данясе да нас ледзь непадзённа ўсю горычную тугу першых трагічна-жорсткіх месяцаў вайны.

Бяру ў рукі «Першую кнігу» Івана Мележа, падрыхтаваную ім з узварушаным даўнім хваляваннем ужо ў апошні год жыцця і выдадзеную пасмяротна ў 1977 годзе, і суперажываю, іду поплечкі з аўтарам шляхам яго нялёгкага лёсавага выпрабавання, чую галасы яшчэ жывых яго франтавых сяброў, а самае галоўнае — за гэтай горычнай, ацяжэлай хадой адступлення бачу роспач і смутак усяго народа, якому яшчэ сціснуцца ў кулак, сабрацца з духам, каб рушыць з баямі на Захад — нялёгкім крывавым шляхам пераможнага наступлення.

Паранены пад Растовам Іван Мележ састу піць са сваёй нялёгкай пуціны вайны. Гэта адбудзецца 20 чэрвеня 1942 года. Цэлы год, самы пакутна цяжкі, застанецца ў біяграфіі пісьменніка яго вайной, франтавой яе часткай. Колькі ён дадасць да фізічнага болю — ранення асколкам бомбы — болю душэўнага: чаму лёс распарадзіўся гэтак? Чаму не там, з сябрамі? Чаму выпала тузацца-мучыцца па шпіталях? Лепей бы ўжо насмерць! Паратункам будзе заключная кніга «Ціхага Дона», што, апублікаваная ў часопісе «Новый мир», там, у Растове, трапілася ў рукі.

Толькі 3 ліпеня, у Есентуках, Мележ горка запіша ў дзённіку аб сваім раненні: «Я ранены. Ранены цяжка, у плячо. Далёка ад фронту. Тады, калі, здавалася, быў зусім у бяспецы. Я ледзь не загінуў. У апошні момант я павярнуўся, і гэта мяне выратавала». І праз два дні, 5 ліпеня, яшчэ з большым болем і расчараваннем пазначыць: «У Растове мне зрабілі аперацыю. Рабіў яе галоўны ўрач шпіталя Антонаў. Спачатку мне збіраліся ампутаваць руку, і я згадзіўся. У мяне было зусім разбіта плячо, і баяліся гангрэны. Але Антонаў забараніў рабіць ампутацыю. Ён сказаў, што рука спатрэбіцца, малады хлопец. Ён сам наглядаў за мной

і сам зрабіў аперацыю». Гэта будзе напісана ў дзённіку левай рукой, правая доўга яшчэ застанецца падвязанай, сагнутай і бяздзейнай. І не толькі Іван Мележ застанецца пажыццёва ўдзячным свайму доктару-выратоўцу, яму, ваеннаму хірургу, застануцца ўдзячнымі цэлыя пакаленні нас, беларусаў, бо гэтая рука паслужыла спраўна нашай айчыннай літаратуры — ёй пісаліся, удасканальваліся ўсе мележаўскія шэдэўры. Ён быў на паўкроку ад смерці, але Неба пажадала, каб ён быў у Беларусі, і не дало яму згубіцца-страціцца на шырокім полі вайны, дало моц выстаяць, адужаць — жыццёвымі і творчымі сцежкамі падысці да «Палескай хронікі».

Калі я перачытваю ў які ўжо раз яго «Першую кнігу» — франтавы яе дзённік, — зноў і зноў згадваю аднаго з любімых ім герояў «Людзей на балоце» — Васіля Дзятла. Як любіць Васіль свайго каня Гуза, колькі дорыць яму ўвагі і пяшчоты! А мне здаецца чамусьці, што гэта самі юначыя Мележавы далоні дакранаюцца да гнедай грывы. Ці ж не гэтак ён сам любіў і шкадаваў свайго франтавога каня, сведку ягоных горычных дзён адступлення? У пекле самай крыважэрнай вайны вырасла, паўстала на ўвесь рост Мележава дабрыня, тое веданне сапраўднай цаны жыцця, той увесь гуманізм, якім так шчодра жывяцца яго творы, робячы нашу айчынную літаратуру адной з самых гуманных і чалавеказаступніцкіх літаратур свету. Мележ і сёння гаворыць нам запаветна: каб палюбілі цябе, перш сам палюбі — палюбі ўсёй глыбінёй сэрца народ свой! Хіба ж можа тварыцца сапраўдная літаратура інакш?

Я цешуся хаця б ужо тым, што мне выпала бачыць жывога Мележа. У першыя гады майго студэнцтва ён неяк трапіўся мне на вочы разам з жонкай Лідзіяй Якаўлеўнай каля Купалаўскага тэатра. Яны ішлі пад руку забарвелым восеньскім скверам, усыпаным жоўтым кляновым лісцем. Мележ — у модным тады лёгкім балоневым плашчы, у сінім звычным берэце. І прыгожая, статная, строга-класічна апранутая яго жонка. Потым, калі я нахадзіўся па літаратурных вечарах і значна ўжо асмялеў, вырашыў падацца ў Саюз пісьменнікаў на вуліцы Энгельса — канешне ж, думалася, сустрэцца там, пабачыць на свае вочы многіх жывых класікаў — і Танка, і Куляшова, і Панчанку, і Шамякіна, і Броўку, і Крапіву… Быццам яны там, сабраўшыся разам, толькі і чакалі майго прыходу! Тым больш для гэтага мелася свая нагода — я напісаў цэлую паэму пра спаленую фашыстамі вёску «Зялёны Гай» у нашым Хойніцкім раёне, адважыўся паказаць яе тагачаснаму літаратурнаму кансультанту Анатолю Вярцінскаму. З захапленнем перачытаў тры выдадзеныя па тым часе зборнікі Анатоля Ільіча — «Песня пра хлеб», «Тры цішыні», «Чалавечы знак» і з вялікай нясмеласцю, прадчуваючы нялёгкую будучую размову, — такі майстар слова спляжыць мой твор ушчэнт — рушыў у Саюз пісьменнікаў. Вярцінскі забраў з тужлівым уздыхам маю паэму і прызначыў дзень і час сустрэчы. І вось мы сядзім на другім паверсе СП у прасторным холе, гутарым, як уваходзіць так нечакана ён, Мележ. Канешне ж, Анатоль Ільіч не прамінуў паведаміць Івану Паўлавічу, што ў літаратуру хоча пралезці ягоны зямляк.

— Адкуль? — пільна зірнуў Мележ.

— З Бабчына! — усхвалявана выдыхнуў я.

— Быў! Там і лес ёсць, здаецца! — Мележ азарыўся лагоднай усмешкай. — А я з Глінішча, мо чуў?

Як тады хацелася адказаць Івану Паўлавічу, што ён даўно ўжо не з Глінішча, а з Куранёў. Але не хапіла смеласці на падобнае ўдакладненне. Пажадаў мне Іван Мележ працаваць у літаратуры сур’ёзна, па-паляшуцку настойліва. Колькі мне дорыць святла і сягоння водгалас гэтай нашай адзінай сапраўднай сустрэчы. Канешне ж, багата разоў бачыў яго і потым — ды ўжо зводдалі, на розных літаратурных мерапрыемствах.

Мне не выпала пабываць на горкім развітанні з Іванам Мележам 10 жніўня 1976 года — праходзіў вайсковыя зборы пад Слонімам у Дзераўной, на палігоне,

дзе мы, універсітэцкія студэнты, здавалі заключныя экзамены па ваеннай падрыхтоўцы на лейтэнанцкае званне. Дый у лясной лагернай глухамані толькі з пісьма аднакурсніцы даведаўся пра яго смерць — прыпіска ў канцы ліста: пачула па радыё — памёр Мележ! Як здрыганулася, зашчымела балесна тады сэрца! Сам блакіт над соснамі, здаецца, пацьмянеў. Вочы памакрэлі ад слёз. Я разумеў, каго страціла беларуская літаратура. Разумеў і тое, што незавершанай застаецца, абарванай на паўслове, «Палеская хроніка». А як мы, студэнты-філолагі, жадалі і чакалі працягу — разгортвання лёсаў яе герояў! Тым болей, што Мележ якраз пачаў друкаваць у часопісе «Полымя» доўгачаканы трэці раман «Завеі. Снежань». Ён, гэты мележаўскі твор, так і застаўся незавершаным. Завяршыла яго ашчадна сабранае Алесем Адамовічам — з раздзелаў-накідаў прыблізна выбудаваная канцоўка.

Працуючы ў «ЛіМе», у 1978 годзе, узяўся напісаць свой першы артыкул пра творчасць Івана Мележа — «Ёсць на Палессі Курані». Памятаю, з нейкай нагоды, каб удакладніць некаторыя звесткі з біяграфіі пісьменніка, патэлефанаваў Лідзіі Якаўлеўне. Жонка Мележа сустрэла мой званок вельмі прыязна. А праз нейкі час, працуючы ўжо ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», упершыню пераступіў парог Мележавай кватэры на вуліцы Янкі Купалы ў доме, на якім месціцца яго мемарыяльная дошка. Лідзія Якаўлеўна, усцешаная маёй сапраўднай зямляцкай цікавасцю да літаратурнай спадчыны Івана Мележа, дазволіла зайсці ў некрануты яшчэ кабінет пісьменніка, пастаяць там у сціснутай адзіноце — здавалася, вось-вось ён сам паявіцца з-за дзвярэй, зробіць заўвагу: што ж ты, зямляк, тут корпаешся ў паперах без мяне! Як і тады, пад дзераўнянскімі соснамі, на вочы нагарнуліся слёзы. Я, помніцца, так і не здолеў дакрануцца ні да адной старонкі рукапісаў, не зняў з паліцы ніводнае кнігі. Няведама колькі моўчкі прастаяў пасярод яго кабінета і, больш-менш супакоены, тузануў ручку дзвярэй.

За чаем мы гаварылі пра Палессе, пра Мележа. Лідзія Якаўлеўна расказвала пра свае першыя вандроўкі на радзіму мужа, пра ўражанні ад палешукоў, якія былі ў яе не вельмі прыемнымі. Ёй здавалася, што Іван Паўлавіч значна падмаляваў іх у раманах фарбамі празмерна неапраўданага захаплення. І тут я бязлітасна не пагадзіўся — параіў ёй пачытаць твор аднаго нашага сучаснага класіка, дзе якраз-такі, на маю думку, паўставалі героі з аўтарскай падачы такімі, як ёй хочацца бачыць палешукоў. Што яна неўзабаве і зрабіла. І ўжо сама патэлефанавала — запрасіла прадоўжыць нашу палескую дыскусію. «Вы мяне цалкам пераканалі! Не хацела б я, каб героі Івана Паўлавіча былі гэткімі ж жорсткімі, бесчалавечнымі!» Я з асцярогай давёў ёй, што сапраўдны пісьменнік, які і ёсць Іван Мележ, творыць прыгажосцю ўласнага сэрца, абараняе і адстойвае ў чалавеку чалавечае, узносіць жыццё простага палескага вяскоўца на вышыні мастацтва, робячы яго сімвалічна значным, духоўна вабным, тым, што люструе цэлую эпоху. Менавіта такія свае Курані выбудаваў у нашай літаратуры Іван Мележ, даўшы ім перш-наперш не толькі геаграфічнае, але і гістарычнае існаванне. Я бываў не раз у Каранеўцы, той вёсачцы за Глінішчам, якая і стала ў Мележа Куранямі, і бачыў на свае вочы: як геаграфічна дакладна ўвайшла яна ў «Палескую хроніку». Там ёсць і тая ж дарога на сенажаць, і тыя ж грушы на былых загуменнях, і тое ж поле каля цагельні. Дый тое ж не меней гразкае ў разводдзе і дажджы ўзбалоцце, дзе куранёўцы будавалі грэблю ў бок Алешнікаў — Алексіч. Дый прозвішчы ў Каранеўцы тыя ж, раманныя — Глушакі, Зайчыкі, Дзятлы…

Папрасіў тады расчуленую Лідзію Якаўлеўну заняцца сур'ёзнаю працай — напісаць толькі ёй вядомае пра свайго Мележа. Раіў штодня занатоўваць згадкі — і пра тое, як пісаліся творы, што гаварыў, выходзячы з рабочага кабінета, якімі думкамі дзяліўся. І тое, што, наогул, было памятнага ў сямейным жыцці. Яна не адразу пагадзілася, сказала, што паспрабуе.

Мы сустракаліся цяпер ужо рэгулярна. Я пасябраваў з малодшымі Мележамі-Сямілетавымі — дачкой Ларысай, яе мужам Барысам і сямігадовым тады

Ванечкам Сямілетавым, унукам Івана Паўлавіча. Бываў і на кватэры, і на ждановіцкай мележаўскай дачы. Ужо смялей пачуваў сябе ў кабінеце пісьменніка, які заставаўся ўсе гэтыя гады ў мележаўскай кватэры нязменным. Дачу, праўда, апантаны прагаю ўдасканалення Барыс неўзабаве ўзяўся перабудоўваць на сучасны лад — пагнаўся надаць ёй выгляд тых палацаў, што панабудоўвалі ў ждановіцкім дачным пасёлку прыблукалыя сюды ўсімі магчымымі і немагчымымі шляхамі беларускія наворушы. Ды дзе за імі ты ўгонішся! Барысаў даўгабуд расцягнуўся на добры дзясятак гадоў. Састарэлі, пагрозна нахіліліся, было, і Мележавы бярозы. Як шкада іх было спілоўваць, але давялося. Струхлявелыя ў сярэдзіне камлюкі адно толькі і пацвердзілі наяўнасць пагрозы — заваліцца на шыферны дах хаты.

Лідзія Якаўлеўна маўкліва-згодна назірала за гэтай перабудовай, асаблівых парад не давала. Мне здавалася, што яна і не вельмі ўжо прыслухалася да майго пажадання — пісаць пра свайго Івана Паўлавіча, якога і цяпер, бачылася, незабыўна кахала ўсім сэрцам. Часта згадвала, якімі намаганнямі ўдалося ёй узвесці яму надмагільны помнік, колькі зазнаць клопатаў. Яна болей бавілася з малым унукам, вучыла яго сямейнай любові да кнігі. Убачыла ў хлопчыку першай немалыя мастацкія здольнасці. Цешылася гэтым — ад двух дзядоў і ад бацькоў перадалося!

Ужо зімой, калі схлынулі дачныя клопаты, пазваніла-паклікала — Мікола, зайдзіце. Я ні разу не пачынаў гаворку пра нашу дамоўленасць, і на гэты раз думаў, што пра нешта іншае пагаворым. Яна па-сапраўднаму любіла літаратуру, чытала пастаянна класіку, сучасныя літаратурныя часопісы. Нам было пра што пагаварыць пры кожнай сустрэчы. Але на гэты раз Лідзія Якаўлеўна пачала гаворку пра намі змоўленае. Яна хутка вярнулася са свайго пакоя, трымаючы ў руках здрукаваныя аркушы паперы — цэлы стосік: вось усё, што змагла. На большае не хапае здароўя!

— Гэта наш з ім Бугуруслан. Гэта тое, што я адна памятаю і ведаю. Пра іншае ўжо багата напісана. Яго жыццё было навідавоку. А гэта, Мікола, вельмі хачу, каб у вас захоўвалася. І яшчэ — вельмі б хацела з вамі праехаць у Бугуруслан, ды, мабыць, ужо тое зрабіць здароўе не дазволіць.

Дома я прачытаў-праглынуў ёй напісанае. Руская жанчына, яна пісала на рускай мове, пісала з сапраўдным, што прыемна кранула, літаратурным умельствам. З вялікай светлынёй сэрца, парывам тых нязгаслых эмоцый, што поўнілі яе і яго нялёгкае ваеннае юнацтва, выкраслі некалі першую іскрыну кахання, распалілі вялікі касцёр пачуццяў — на жыццё. Цяпер ужо не толькі па старонках мележаўскага ваеннага дзённіка я кіраваўся ў росшук іх апаленай вайной маладосці, а меў магчымасць супрацьпаставіць вядомаму мне мележаўскаму, яе погляд на бугурусланскі кавалак лёсу таго пачаткоўца-творцы, каму выпадзе стаць літаратурнаю славай Беларусі. Доўга вагаўся, дзе друкаваць яе нататкі? Канешне ж, вельмі хацелася ў «Полымі», там, дзе і былі апублікаваныя ў свой час усе мележаўскія раманы. Аднак ці меў я права не даць гэтым згадкам прагучаць на той мове, на якой і былі яны напісаны? Таму ўсё ж такі перадаў іх «Нёману», дзе яны і былі змешчаны ў сёмым нумары за мінулы год пад назвай «Пачатак дарогі».

І вось цяпер я ступаю дальш мележаўскім суровым ваенным шляхам, разпораз зазіраючы ў яго і яе запісы. Яго — ваенныя, пранізаныя болем і скрухай, мала ўцешныя, тужліва-самотныя. Яе — прасветленыя згадкай незабыўнага юнацтва, разуменнем, з кім выпала сустрэцца на жыццёвай дарозе, якое жыццё пражыць — поўнае пяшчоты і страт, рана прыйшоўшага аўдавелага суму. І як бы яму насуперак — ускалыхнуць былую, першасную святлынь: іх Бугуруслан, зацішак між віхураў суровай вайны.

16 кастрычніка 1942 года, едучы ў глыбіню Расіі пасля тбіліскага шпіталю ў пошуках прытулку, сышоўшы ў Бугуруслане, дзе месцілася цэнтральнае бюро даведак па эвакуіраваных, Мележ запіша ў дзённіку: «Першае ўражанне — хут-

чэй павярнуць назад, пакуль не адышоў поезд. Ухапіцца на хаду за прыступку і ехаць абы-куды, толькі не заставацца тут. Стаю ў дворыку станцыі і пазіраю ўдалеч. На шэрым схіле гары паводдаль маленькія дамочкі, такія ж шэрыя, нязграбныя; толькі два-тры дамы ды шпіль царквы ўцешна бялеюць».

І вось яна ўжо аспрэчвае праз гады свайго знакамітага мужа, бароніць свой маленькі ўтульны гарадок ад ягонага першаснага расчаравання, малюе яго іншымі фарбамі, канешне ж, тымі, якія ўмее дараваць сэрцу толькі любоў. «Бугуруслан — горад своеасаблівы. З трох бакоў яго акружаюць крутыя пагоркі (горы, як кажуць у нас). Адны пакрыты лісцвяным лесам, іншыя — зялёныя вясной і летам ад травы і выгаралыя рыжыя восенню. У кастрычніку, калі ён пісаў пра горад, уся прырода рыхтавалася да зімы, усё было сапраўды шэрым. З чацвёртага боку горада, з боку чыгункі, цячэ рака Кінель, што ўваходзіць у басейн Волгі. Бераг тут абрывісты, і з вакзала горад падаецца раскінутым на адносна роўнай, прыпаднятай над рачною поймай пляцоўцы. Праўда, дамы яго не шэрыя, як падалося Івану Паўлавічу здаля. Аднапавярховыя драўляныя дамы горада пафарбаваны ў самыя разнастайныя колеры, з разной рознафігурнай ліштвой на вокнах, толькі ў цэнтры белыя цагляныя двухпавярховыя. Вуліцы брукаваныя, а тратуары вымашчаны плоскім каменем, які здабываецца тут жа, у гарах».

У Бугуруслане, які так было не спадабаўся напачатку, пасяліўшыся ў гасцінічным нумары на шэсць ложкаў, Іван Мележ затрымаўся на даволі працяглы час — год цэлы. Вакол быў часовы народ — адны ад’язджалі, другія — прыязджалі. Асабліва тужліва рабілася на сэрцы, калі праводзіў добрых знаёмцаў на фронт — гэткіх жа, як і сам, параненых, але, на шчасце, выздаравелых, маладых салдат і афіцэраў. Тады сціскалася болем і жалем сэрца. Ён прыгадваў байцоў свайго батальёна, думаў пра невядомыя іх лёсы — ці жывыя? Купляў свежыя газеты, адсочваў зводкі Інфармбюро і ўсё больш і больш сумаваў, разумеючы, што яго франтавая вайна скончылася. Правая рука, так заступна выратаваная растоўскім хірургам, была ўсё яшчэ на марлевай падвязцы, давала немалога клопату. Дый дзе прыхінуцца душой у чужым, невядомым горадзе? Думалася і пра далёкую Беларусь, занятую ворагам. Што з роднымі? Ніякіх звестак не знайшоў пра іх у бюро даведак па эвакуіраваных — ніхто не зрушыўся з месца, засталіся дома, у небяспецы. Ці жывыя?

Болей і болей разумее знявечаны вайною юнак, што яго вайна франтавая фактычна скончылася, што давядзецца абвыкацца з новай рэальнасцю жыцця — блытацца-боўтацца па чужыне. І тады, як бы наперакор горычным думкам, не жадалася ўжо нікуды рушыць, каб не зазнаць новага непатрэбнага хвалявання. Усюды вайна — тыя ж горыч і слёзы. Дый гарадок, які сустрэў так непрыветліва напачатку, зараз падаўся больш прываблівым, сонечным. А неўзабаве, як адзначыць у дзённіку за 22 кастрычніка, лёс павернецца да яго тварам. «У мяне ёсць свая «кватэра». Ложак ля печкі. З матрацам, з коўдрай, з падушкай. Круглы стол з вязаным узорамі, у клетачку, абрусам. Перад акном два маленькія дрэўцы. Светла. Адаграваюся пасля няўтульнай гасцініцы. Гаспадыня знаёміць з дачкой. «Ліда, — кажа яна чарнавокай дзяўчыне, якая маўкліва схілілася ў сваім пакоі над сталом, — гэта наш брат».

Тут хочацца даць слова і самой Лідзіі Якаўлеўне, глянуць на іх першую сустрэчу і яе вачыма: «Іван Паўлавіч звярнуў на сябе ўвагу сваёй бледнасцю, худзізной, дзіўным адзеннем — шырокія чорныя матроскія штаны і салдацкая гімнасцёрка былі відавочна не з таго пляча. Рука, сагнутая ў локці, ляжала на марлевай павязцы. Светлыя, выгаралыя валасы злёгку віліся і патрабавалі стрыжкі. Напаўпусты рэчмяшок за плячыма. Потым я даведалася, што там былі ўсяго толькі тры тамы «Ціхага Дона». Хадзіў ён заўсёды хутка, некалькі нахіліўшыся наперад з-за хворай рукі. Куды ён спяшаўся, тады мне было незразумела, бо чалавек у водпуску. Вечарамі нешта пісаў левай рукой, адзначаў на карце СССР зводкі Інфармбюро «У апошні час». Нягледзячы на нашу маладосць — яму

21 год, мне 19 гадоў, — мы жылі кожны сваім жыццём і сваімі марамі, адчувалі сябе дарослымі самастойнымі людзьмі».

Ужо 25 кастрычніка 1942 года Мележ становіцца на партыйны ўлік у Бугурусланскім райкаме. Рашэнне асесці менавіта тут выспела ў ім канчаткова. Ён унікае ў эканамічнае жыццё гарадка — бачыць, што «горад працуе на фронт, здабывае для яго паліва». Гэта адзін з раёнаў «другога Баку», дзе працуе трэст «Бугурусланнафта». Да ўсяго ў горадзе ёсць лётнае вучылішча, дзе вучацца будучыя ваенныя лётчыкі. Віруе перадфрантавое маладое жыццё, поўнае рамантычнага памкнення хутчэй рушыць біць ворага. Ён з сумам пазірае на гэтых неабстраляных яшчэ юнакоў, зычыць ім франтавой долі, лепшай за сваю. У роспачы і слязах і дачка яго гаспадыні: Ліда атрымала звестку пра тое, што на фронце загінуў яе каханы Валодзя.

З горычы і тугі, са шкадавання адзін аднаго, вырастае іх юнацкае каханне. Мележ паступіў вучыцца завочна і адначасова пачаў працаваць выкладчыкам ваеннай падрыхтоўкі ў Малдаўскім педінстытуце, які быў эвакуіраваны ў Бугуруслан. А па вечарах яны з Лідай, студэнткай факультэта фізікі гэтага ж інстытута, гулялі па вулачках гарадка. Нейк хутка змовіўшыся, 10 красавіка 1943 года падаліся ў загс і распісаліся. Паставілі, што гаворыцца, перад фактам Лідзіну маці Клаўдзію Іванаўну. Палічылі, што гэта іх асабістая справа, і толькі.

Пра гэты красавіцкі дзень Лідзія Якаўлеўна прыгадвае так: «Пасля загса мы да вечара блукалі па вуліцах горада, пастаялі на мосце праз раку Кінель, на рацэ было разводдзе, потым спусціліся ўніз па драўлянай лесвіцы і доўга сядзелі на яе ніжняй прыступцы, пазіраючы на шырокую водную гладзь і праплываючыя крыгі».

Вайна не дала Івану Мележу ўбачыць сваю нявесту ў белым вясельным вэлюме — не час для святочнае радасці. Лідзія Якаўлеўна тужліва-мудра зазначыць на схіле жыцця: «Зацікаўленыя суседзі і жыльцы нашага дома яшчэ да замужжа давалі «каштоўныя» парады накшталт такіх: «Глядзі, ён чужы, паедзе і не вернецца», «Выходзь, потым знойдзеш лепшага» і г. д.» Аднак насуперак многаму іх каханне вытрымала ўсе жыццёвыя выпрабаванні. Магчыма ад гэтага вочы Лідзіі Якаўлеўны раз-пораз свяціліся шчасцем.

Вяліся жорсткія баі ў Сталінградзе, Туапсэ і Нальчыку. Зусім непадалёк раз’юшаны вораг рваўся з усіх сіл да нафтаносных раёнаў Каўказа. У большасці засмучалі франтавыя зводкі, не давалі супакою. І толькі вялікая Сталінградская перамога павярнула ход думак у іншае, болей спакойнае, рэчышча. Мележа потым радавала і тое, што нарадзілася, падрастае маленькая дачушка — новае жыццё, наперакор вайне і яе ўсім крывавым стратам. Знявечаны вайною юнак верыць, што не смерць, а жывое жыццё пераможа. Адродзіцца зноў, закрасуе фарбамі тымі, якія і робяць яго чалавечым. Таму, калі прачытаў летам сорак трэцяга ў газеце «Правда», што пад Масквой, на станцыі Сходня, распачынае працу Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, неадкладна падаўся туды. І гэта быў першы яго парыўны крок да вяртання на радзіму.

Можна толькі здагадвацца, калі б не было гэтага рашучага кроку, не мелі б мы, беларусы, таго Івана Мележа, якога маем сягоння. Магчыма б ён, як і многія нашы суайчыннікі, асеўшы паводдаль ад роднай зямлі, стаў бы і пісьменнікам, напісаў свае творы. Але ці былі б яны, творы гэтыя, такімі нашымі, беларускімі? Ці сталі б гонарам нашай нацыі, ці расказалі б так пранікліва і па-мастацку спела пра наш народ цэламу свету? Не, яшчэ ніводнаму эмігранту-выгнанніку не ўдалося стварыць падобнага. Дый наўрад ці калі ўдасца. Як можна хаця б без жывога паветра радзімы падобнае стварыць?

Вярнуўшыся ў вызвалены Мінск, Мележ з галавой акунаецца ў літаратурную працу — катаржную і сур’ёзную. Без пэўнага творчага вопыту, падбадзёраны Кузьмой Чорным, які даслаў яшчэ на Сходню яму ліст-водгук на першы сур’ёзны выступ у друку з апавяданнямі, бярэцца за напісанне рамана. «Мінскі напра-

мак», трэба шчыра сказаць, стане пажыццёвым клопатам пісьменніка. Ён будзе зноў і зноў звяртацца да яго пераробкі, багата аддаючы ўвагі і часу, не дадаўшы іх галоўнай кнізе жыцця — «Палескай хронікі». Але ж ён, «Мінскі напрамак», стане і адпаведнай школай мележаўскага літаратурнага майстэрства. Без яго не было б так густа напісаных і палескіх раманаў — «Людзей на балоце», «Подыху навальніцы», «Завей. Снежня».

Прайшоўшы горкія вёрсты сваёй вайны, Іван Мележ вярнуўся на Беларусь, прырос да яе ўсім сэрцам. З маладой жонкай і маленькай дачкой ён неўзабаве наведаў і роднае Глінішча — яшчэ раз здрыгануўся ад усяго таго жаху, які сатварылі фашысты-захопнікі ў яго родных мясцінах. У Хойніцкім раёне, як і па ўсёй Беларусі, вайна пакінула свае жахотныя сляды. Былі спалены многія вёскі, некаторыя разам з іх жыхарамі. Такую ж долю спазналі і блізкія ад Глінішча Алексічы, дзе вучыўся некалі ў сямігодцы. Згарэла і родная бацькоўская хата.

У адной з нашых сумесных вандровак на мележаўскае Палессе родная сястра пісьменніка Любоў Паўлаўна Мележ падзялілася згадкамі пра першы паслявызваленчы прыезд брата ў Глінішча.

— Гэта было напачатку лета 45-га. Са станцыі Аўрамаўская дабіраўся пехам з жонкай і маленькай дачушкай. Мы жылі тады ўжо непадалёк ад папялішча, у пакінутай паліцайскай хаце. Няўтульна было там усім. Марылі зноў адбудавацца. Брат, яго зусім не памятала, падхапіў мяне на рукі, потым брата Расціслава, якога дагэтуль не бачыў. Лідзія Якаўлеўна, яго жонка, пачала прымяраць на маю дзіцячую ножку чаравічак — «якая прыгожая ты!». Маці абнімала Івана і плакала. Радаваўся бацька. Сышліся суседзі. Прыйшоў родны брат бацькі дзядзька Змітро. Перажыўшы багата гора, мы зноў сустрэліся ўсе.

На папялішчы роднае хаты, дзе і з'явіўся на свет, стаяў малады знявечаны жорсткай вайной чалавек. Яго вочы, узмакрэлыя ад слёз, упіваліся ў бачаную жахоту — чорную лапіну, а сэрца — сціскалася-білася, поўнае і гневу, і суму. І краіну сваю, і гэтую хату Мележ адраджаў-будаваў. Краіну — дорачы ёй моц свайго таленту, хату — дорачы сценам моц сваіх рук. Неўзабаве запахла смольнаю стружкай на папялішчы. Пах гэты, церпкі, свежы, як пах самога жыцця, гус і гус, перабіваючы прыпах абвугленых галавешак, дух гару. Смольныя новыя сцены зруба — з сосен Церамоскага лесу — бліскотна купаліся ў сонцы. А па вечарах, калі зудка шчымелі рукі, ныла параненае плячо, Мележ знаходзіў гадзіну-другую, каб занатаваць на папяровым аркушы мройныя думкі — пісаў свой «Гарачы жнівень», аповесць пра новае пасляваеннае жыццё. Падбіраўся творча да галоўнае сваёй кнігі — «Людзей на балоце».

Такі ён, мой Іван Паўлавіч Мележ. Палескі юнак, якому выпала скрушнай пуцінай крывавай вайны прыйсці да сваёй Беларусі, да свайго, так глыбока зведанага ім Палесся. Стварыць тыя раманы, якія падаравалі бессмяроцце і іх аўтару, і яго краю. Я наўмысна спыніў увагу на самым пачатку гэтай дарогі, канешне ж, ведаючы, што мележаўскі духоўны свет куды больш значны, што яго прысутнасць у памяці нашага народа — павечная. На пачатку гэтай дарогі Мележ яшчэ ўвесь хойніцкі — мой! Гэта багата прайшоўшы яе вёрст, ён стане агульнабеларускім і агульнасусветным. Стане Мележам нашым.

Марыя ШАМЯКІНА

# ЭСТЭТЫЧНЫ ІДЭАЛ МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Нярэдка можна пачуць выказванне, што сапраўдны мастак адлюстроўвае жыццё не такім, якое яно ёсць, а такім, якім павінна быць. У многім сцвярджэнне справядлівае, бо менавіта творы, арыентаваныя на ідэальны канон — эстэтычны, маральна-этычны, духоўны, інтэлектуальны — і ствараюць сапраўдную скарбонку кожнай нацыянальнай літаратуры.

Для беларусаў, мабыць, адным з лепшых прыкладаў з'яўляецца паэма Янкі Купалы «Яна і я», дзе ўсе пералічаныя ўласцівасці мастацкага ідэалу зліліся ў адно цэлае. Але, зразумела, тое ж тычыцца фактычна ўсіх класічных твораў. Магчыма, дзякуючы імкненню да ідэалу, да высокага, беларуская літаратура і здолела фактычна за стагоддзе сфарміравацца, пераадолець вялікі і складаны шлях і ўвайсці ў шэраг развітых еўрапейскіх літаратур.

Ці не падаецца выказаны тэзіс спрэчным?

Айчынная літаратура мела не толькі моцную і яскравую рамантычную плынь. На еўрапейскі і сусветны абсяг яна выйшла ў савецкія часы і перш за ўсё праз сацрэалістычныя творы. І тут узнікае пытанне пра суадносіны мастацкага ідэалу і мастакоўскай аб'ектыўнасці.

Часам імкненне да стварэння высокага, напрыклад, эстэтычнага, узору ўваходзіць у супрацьстаянне з жаданнем творцы аб'ектыўна адлюстраваць рэчаіснасць. Не кажучы ўжо пра ідэал маральна-этычны ці інтэлектуальны. Калі арыентавацца на іх, атрымаецца хутчэй фэнтэзі ці філасофская прытча, чым твор пра сучаснае жыццё. Ва ўсялякім разе так падаецца на першы погляд.

Нярэдка аб'ектыўнасць і мастацкая дасканаласць супрацьстаяць адно аднаму нават у свядомасці аўтараў. Супрацоўнікам рэдакцый нярэдка даводзіцца чуць у якасці апраўдання: «А ў нас так гавораць», «Усё было на самай справе, я нічога не выдумаў» і г. д.

Мастацтвазнаўства ведае і даволі парадаксальныя выказванні на гэты конт. Так, Ар'е ў артыкуле «Вопыт новага метаду крытыкі» пісаў: «*Каштоўнасць мастацкага твора адваротна прапарцыянальная ўспрынятаму ім уплыву асяроддзя*»[1]. А Метэрлінк сцвярджаў, што «*містычныя ісціны маюць над аб'ектыўнымі ісцінамі дзіўную перавагу: яны не могуць ні састарэць, ні памерці»*[2].

Сапраўды, паэзія — той Сусвет, якім кіруе ідэал. Свет бездакорнай рэальнасці, створанай мастаком. Яе мэта — узвысіцца над паўсядзённасцю.

У любым выпадку абсалютная мастацкая аб'ектыўнасць — недасягальная з'ява. У межах канкрэтнага твора ні празаік, ні паэт не можа ахапіць абсалютна ўсіх супярэчнасцей жыцця. Твор — заўсёды мадэль рэчаіснасці, а не прамое яе адлюстраванне. Менавіта ад гэтага, відаць, варта і адштурхоўвацца.

Вельмі яскрава і з добрай доляй іроніі парадаксальнасць літаральнага ўспрыняцця жыцця ілюструюць радкі маладога паэта з дзіўным нікам (бо гэта цяжка назваць псеўданімам) ЕХЕ КІМ УРГ:

---

[1] В. А. Крючков. Символизм в изобразительном искусстве. М, 1994, с. 52.

[2] М. Метерлинк. Сокровище смиренных. // Полн. Собр. Соч. М., 1908, Т. 3. с. 46.

Імкнешся ў неба —
Трапіш у прастору,
Трапіш у пустэчу[1].

У прыведзеных радках, хоць, паўтаруся, — яўна іранічных, — чуецца пэўная перасцярога: Паэт, калі зблытаеш духоўнае «неба ідэалу» з небам у звычайным, фізічным, яго разуменні, дык апынешся не на Парнасе, а ў касмічнай пустэчы.

Духоўны свет мастака заўсёды большы, чым тое, што даносяць да яго чалавечыя органы пачуццяў. І творчасць, якая будуецца ў асноўным на рэфлексіі, прычым рэфлексіі, якая прэтэндуе на аб'ектыўнасць, — яшчэ не мастацкая творчасць. Але наўрад ці ўсім чытачам будуць блізкімі творы, якія наогул ніяк з рэчаіснасцю не звязаныя.

Унутраная прастора чалавека невядомая, загадкавая і прыцягальная. Яна прываблівала ва ўсе часы, але ў наш час цікавасць да зрухаў душы ўзрасла шматразова. За эпохай геаграфічных адкрыццяў надышла эпоха псіхалагічных і псіхааналітычных дасягненняў. Але, на жаль, разнастайныя псіхалагічныя плыні, у першую чаргу модная ў масавай культуры школа З. Фрэйда, — надзвычай грубы і недасканалы інструмент: ён не дае магчымасці аналізаваць імгненныя зрухі ўнутранага стану чалавека, адценні пачуццяў і, нарэшце, — стан псіхічнай нормы. Псіхааналіз поўнасцю пазбаўлены эстэтычнага складніку, але ж адчуванне прыгожага — адна з самых значных уласцівасцей чалавечай душы.

Відаць, максімальна магчымы аналіз «*псіхе*» і сёння, як павялося спрадвеку, дэманструе паэзія. З гэтай прычыны разгляд пэўнага зрэзу вершаванай творчасці маладых беларускіх аўтараў падаецца актуальным. Іх творчы пошук павінен адлюстроўваць пошук свайго месца ў жыцці, уласцівы кожнай асобе. А сёння, калі свет вакол змяняецца так хутка, знайсці сябе ўсё больш складана. На жаль, ад людзей XXI стагоддзя ўсё часцей патрабуецца імгненная адаптацыя да новых умоў, а не шчырае самавыяўленне.

У наш час паэты наракаюць на тое, што іх статус у грамадстве панізіўся. Справа ў тым, што змянілася грамадства, больш за тое — змянілася сама *прастора*, у якой існуе грамадства. Свет, у якім мы жывём, больш не атрымоўваецца апісваць геаметрычнымі формуламі, справядлівымі яшчэ дваццаць гадоў таму. Рэчаіснасць пашырылася за кошт віртуальнай прасторы. Віртуальнае «насельніцтва» Інтэрнэт-рэсурсаў, магчыма, ужо зраўнялася з насельніцтвам Зямлі. Кожны чалавек мае магчымасць жыць у некалькіх экзэмплярах — адзін экзэмпляр у «старой» рэчаіснасці і яшчэ некалькі дзясяткаў на розных Інтэрнэт-рэсурсах пад рознымі нікнэймамі.

* * *

Сеціва стала часткай сучаснай культуры, у тым ліку і беларускай.

Малады паэт Арцём Кавалеўскі ў вершы «Вечар» абыгрывае перасячэнне рэальнай і віртуальнай прасторы. Вечар трэба «*расшыфраваць*», ён «*сеціва коўзкіх намёкаў*». Вечар «*нас так нахабна адфарматуе*». А таксама ён «*інструкцыя латвых уцёкаў // Для пачаткоўцаў*». [2] Памятаеце «Windows для чайнікаў»? Заканчваецца твор добра знаёмай усім карыстальнікам камп'ютараў камбінацыяй: «*Ctrl — Alt — Delete*».

Верлібры Арцёма Кавалеўскага з'явіліся ў № 1 «Маладосці» за 2010 год. З аднаго боку — творы сапраўды сучасныя, жывыя. Месцам дзеяння іх выступае горад, а для айчыннай культуры важна фарміраванне беларускай гарадской паэзіі.

---

[1] ЕХЕ КІМ. УРГ «Маладосць» № 3 / 2010, с. 13.

[2] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам», верш «Вечар», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 4.

Прычым такой, якая была б не слабейшай за паэзію, так бы мовіць, вясковую. Канешне, не ўсе радкі падборкі бездакорныя:

Твае вусны пахлі каляндрай,
Рукі — календулай,
Вочы — ахвочасцю... [1]

Вочы — пахлі?

У вершы, які па першым радку трэба, відаць, называць «Каб зразумець арфаграфію маіх...», сляды дзяўчыны прарастаюць у горле лірычнага героя: «*Потым сляды гэтыя // Ў горле маім прарасталі // Амаль пасталелым // Сталёвым крыкам // І нецвярозым папрокам // Чарговага апраўдання*»[2].

Аўтар свядома абыгрывае «дзівосы арфаграфіі і пунктуацыі», уласцівыя сучаснасці, — на гэтым уласна і будуецца верш:

Каб зразумець арфаграфію маіх
павяртанняў,
Ненадзейных расплывістых клятваў,
Працятых смугою сумневаў,
Ты мусіш забыцца на ўласную
Ўшчэнт заблытаную
Пунктуацыю
Свайго сэрца... [3]

У іншым вершы Арцём Кавалеўскі пераконваецца ў тым «*Што ўсё пачынаецца // І заканчваецца // Шматкроп'ямі*»[4]. Яшчэ ў адным абяцае: «*Я цябе да канца дачытаю // І стану тваім пастскрыптумам*»[5].

Сінтаксіс і пунктуацыя на правах галоўных герояў прысутнічаюць у розных вершах дадзенай падборкі. Несумненна, Арцём Кавалеўскі ўхапіў адну з галоўных рыс пісьмовай мовы сённяшняга дня. Ён надае знакам прыпынку і сінтаксісу ў абстрактным яго разуменні нейкія дадатковыя сэнсы. Сапраўды, у Сеціве можна пісаць са знакамі прыпынку ці без. А можна выкарыстоўваць іх для таго, каб расставіць у тэксце «смайлікі». Кропкі, дужкі і коскі цяпер не толькі тое, чым былі раней. І гэты факт не абмінаюць паэты.

Арцём Кавалеўскі валодае вялікім наборам вобразных сродкаў, напрыклад, удала выкарыстоўвае ўнутраныя рыфмы: «*...Пасля **Каля**даў // **Каля** твайго дома. // Твае вусны пахлі **каляндр**ай, // Рукі — **календ**улай...*» [6]. Або: «*Песню спяваў // Сала**вейка**... // На **вейка**х аленя // Шчэ трымцела жыццё*»[7].

Але Кавалеўскі, хоць і малады па ўзросце, але даволі вядомы аўтар, у тым ліку і чытачам «Маладосці». Яго нельга лічыць пачаткоўцам. Тыя ж, хто робіць у паэзіі першыя крокі, не заўсёды маюць неабходны багаж для ўдалага эксперымента. Не толькі тэматыка сецевых стасункаў паступова апаноўвае сучасную

[1] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам», верш «Мы сустрэліся раптам», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 4.

[2] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам», верш «...Каб зразумець арфаграфію маіх...», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 5.

[3] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам», верш «...Каб зразумець арфаграфію маіх...», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 5.

[4] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам» , верш» Калі я...», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 6.

[5] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам» , верш «...Маўчы!..», «Маладосць», № 1 / 2010, с. 6.

[6] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам», верш «Мы сустрэліся раптам», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 4.

[7] Арцём Кавалеўскі. «Мы — раптам», верш «Сон», «Маладосць», № 1/ 2010, с. 5.

творчасць (гэта якраз можна ацаніць станоўча, бо паэзія ж не павінна цалкам адрывацца ад жыцця). Але, на жаль, часам здараецца, што маладыя творцы пераймаюць з Інтэрнэта і вольныя манеры абыходжання з граматыкай і сінтаксісам мовы, а таксама прагу пісаць «ні пра што».

За паўгода ў «Маладосці» з'явілася безліч верлібраў, а таксама нерыфмаваных вершаў без знакаў прыпынку, з незразумелай разбіўкай на радкі, і тэкстаў, у якіх усе словы напісаныя з малой літары. Ёсць і прыклад падборкі, у якой усе словы верша пачынаюцца на адну літару.

Многія з гэтых твораў удалыя і чытаюцца з цікавасцю. Нярэдка іх фармальная асаблівасць аказваецца неабходнай для раскрыцця зместу. І ўсё ж узнікае адчуванне, што «арыгінальнасці» ў маладой паэзіі робіцца замнога. Тым больш, калі пасля падборак малодшага пакалення чытаеш вершы майстроў, змешчаныя ў тым жа часопісе. І сталыя аўтары таксама пішуць верлібры і шукаюць неардынарных формаў, але іх творы адрозніваюцца выключным пачуццём меры, добрым густам, сэнсавай празрыстасцю. Нарэшце — элементарнай адукаванасцю. Маладым ёсць у каго вучыцца нават таму, як трэба якасна эксперыментаваць.

Бясспрэчна, імкненне да празмернай арыгінальнасці заводзіць у тупік не толькі маладых беларускіх паэтаў. І ў Расіі, і ў замежжы сёння паэты імкнуцца «адпрацаваць», «апрабіраваць» як мага больш фармальных прыёмаў і нязвыклых матываў. Гэта нагадвае пастаянны пошук рэкламных «фішак» кліпмэйкерамі. Відаць, так адбываецца з прычыны ўплыву маскульта з яго імкненнем да «крэатыўнасці», да новых і нязвыклых формаў.

Але, пагадзіцеся, цяжка назваць словам «арыгінальны» прыём, які шмат разоў выкарыстоўваўся рознымі паэтамі і «вандраваў» з нумара ў нумар аднаго і таго ж часопіса! Напрыклад, верш без знакаў прыпынку ці верш, у якім усе словы з малой літары.

На жаль, маладая беларуская паэзія пачынае ўсё больш і больш набываць дзіўнаваты ўхіл. Фактычна класічныя паэтычныя формы паступова падмяняюцца некласічнымі, а часам і непаэтычнымі. Бывае — нават не мастацкімі. І ўсе «новыя» формы і падыходы немагчыма назваць наватарскімі і арыгінальнымі, бо ўсё гэта ўжо было, і не раз, нярэдка — проста ў папярэдніх нумарах той самай «Маладосці».

* * *

У сучаснай паэзіі маладых, як ужо гаварылася, даволі часта сустракаецца верлібр. Гэтая вершаваная форма ўжо даўно заняла сваё месца ў беларускай літаратуры, і мы маем шмат прыкладаў верлібраў вышэйшай мастацкай якасці, напісаных нашымі класікамі.

Верлібр вылучае на першы план мастацкую цэласнасць, і дасягаецца яна не аднолькавым рытмам і сістэмай рыфмоўкі, а сэнсавым і лексічным адзінствам, якое падкрэсліваецца пэўнымі прыёмамі.

У першым нумары «Маладосці» змешчаны верлібры Аксаны Спрынчан і верлібры ж Арцёма Кавалеўскага. Аксана Спрынчан у апошнія гады зарэкамендавала сябе як сапраўдны майстар верлібраў. Але яна валодае пэўным наборам прыёмаў, якія дазваляюць зрабіць творы яе ўлюбёнай формы непаўторнымі і цэласнымі. Дарэчы, нярэдка верлібрам і нерыфмаваным вершам маладых вельмі не хапае менавіта цэласнасці. Яны падаюцца бяззвязнымі і разбэрсанымі.

А. Спрынчан удаецца стварыць адчуванне мастацкага адзінства не толькі ўнутры аднаго верша. Часам яна «вяжа» цэлыя нізкі — прыкладам можа быць надрукаваны ў № 1 «Маладосці» «вершаваны пояс», — ці цэлыя кнігі («ЖываЯ»). У якасці ўнутранай звязкі аўтар выкарыстоўвае скразныя сімвалы і матывы, якія ад твора да твора пэўным чынам відазмяняюцца і паўстаюць у розных ракурсах. Так, ва ўзгаданым «вершаваным поясе» пад назваю «Мой слуцкі ткач» гэта вобразы *ніці, маланкі, пояса*, матыў *ткацтва*.

Верлібр сапраўды даўно і трывала заняў сваю нішу ў беларускай літаратуры. Але апошнім часам ніша тая моцна разраслася. Чытаючы нумары «Маладосці» ўсяго за паўгода, адчуваеш, што хутка рыфмаваная паэзія зробіцца рэдкім феноменам.

Так, у тым самым № 1 за 2010 год надрукаваная яшчэ адна падборка — Алы Нікіпорчык пад назваю «Падарожжа». Праўда, гэта не верлібры ў строгім іх разуменні. У творах паэткі адсутнічае і рыфма, і рытм, і знакі прыпынку (ёсць, праўда, адзін пытальнік, два клічнікі, некалькі пар дужак і двукоссяў, а таксама працяжнікі — але ні кропак, ні косак).

У асобных выпадках дзіўная расстаноўка знакаў прыпынку аказваецца дарэчы:

...каб хто падарыў падарожжа
у Прагу
Венецыю
Вену
або хоць — у шчасце [1]

Але ў іншых выпадках той самы прыём падаецца неабавязковым, залішнім. Часам з-за яго сэнс робіцца цьмяным:

так хутка праходжу
амаль што прабягаю
памяць
запавольваю крок каля
забыцця

Вельмі нагадвае хрэстаматыйна-гумарное: «*Казнить нельзя помиловать*». І гэта пры тым, што твор не пазбаўлены сапраўднага псіхалагізму. У такой кароткай форме ён выяўляе ўнутраны свет лірычнай гераіні, прыадкрывае і складанасці яе лёсу, і адметнасць рэфлексіі. Фармальны прыём нічога не дадаў, а толькі ўскладніў разуменне.

Ці такі прыклад:

так часта і неглыбока
папракаюць мяне ў песімізме
звысака — як дзіця
ці — ніжэйшую істоту [2]

Дарэчы, сам пасыл аўтара празрысты і па-жыццёваму мудры. Сапраўды, амаль кожны чалавек, якому даводзілася слухаць папрокі, пагодзіцца, што ў песімізме ці аптымізме (як ні дзіўна) папракаюць менавіта «*звысака — як дзіця ці — ніжэйшую істоту*». Але цяжка сказаць, пра што нам паведаміла адсутнасць кропак, косак і вялікіх літар, з захаваннем двух працяжнікаў. І з іх наяўнасцю ўсё тое ж было б сказана — і сказана дарэчы, трапна і справядліва.

І яшчэ адзін прыклад:

мой Божа
ці можаш перайначыць
трагічнасць лёсаў на святло
а ці святла і так замнога?.. [3]

Даволі незразумела гучыць вобраз «*перайначыць трагічнасць лёсаў на святло*». Адыгрывае сваю адмоўную ролю і тое, што паняцці «трагічнасць» і «святло»

---

[1] Ала Нікіпорчык. «Падарожжа», «Маладосць», № 1 /2010. с. 48.

[2] Тамсама.

[3] Ала Нікіпорчык. «Падарожжа», «Маладосць», № 1 /2010. с. 47.

не з’яўляюцца антонімамі. Калі мы кажам «Выйсці з цемры на святло» — вобраз працуе, а ў дадзеным выпадку ён проста рассыпаецца. Але, магчыма, я проста нечага ў дадзеным выпадку не разумею, бо адсутнасць знакаў прыпынку не спрыяе разуменню твора.

* * *

Такім чынам, у першым нумары «Маладосці» тры падборкі нерыфмаваных вершаў рознага кшталту. Сітуацыю тут ўратоўвае Ягор Конеў, у п’есе якога багата калядных спеваў і разнастайных прыпевак. Узгадваюцца словы рускага класіка: «Дастаткова паслухаць адну народную песню, каб зразумець, як нізка мы ўпалі».

І справа не ў якасці вершаў. У гэтым плане першы нумар выглядае годна. Справа ў той ***неарыгінальнай арыгінальнасці***, якую ён нібыта спецыяльна прэзентуе. Мабыць, вершы нешараговай формы не павінны так — на прасторы аднаго часопіснага нумара — «згушчацца», каб не сціралася іх сапраўдная адметнасць.

У паэтаў, якія імкнуцца пісаць рыфмаваныя вершы, ёсць шэраг натуральных прыёмаў, што дапамагаюць перадаць адметную аўтарскую індывідуальнасць, зрабіць твор запамінальным і яркім. Гэта, да прыкладу, спецыфічная мелодыка, яна вельмі лёгка пазнаецца нават калі сустракаеш новы, невядомы твор паэта. Успомнім выразную адметнасць вершаў Мікалая Гумілёва, Якуба Коласа, Міхася Стральцова, Леаніда Галубовіча і многіх сучасных паэтаў старэйшага пакалення. Нярэдка само гучанне радка дазваляе лёгка здагадацца, каму належыць верш. Аналагічную функцыю выконваюць асаблівасці рыфмоўкі, улюбёныя вершаваныя памеры ці віды верша (скажам, санет, трыялет).

Аўтарам, якія больш цягнуцца да верлібраў, бракуе згаданых моцных інструментаў. Ім значна цяжэй. Бясспрэчна, ніхто не зблытае твор Аксаны Спрынчан з радкамі Арцёма Кавалеўскага, але названыя паэты ўжо зрабілі свой першы, і другі, і трэці крок у паэзіі. Маладому ж творцу, які яшчэ толькі выпрацоўвае выключны аўтарскі стыль, не так і проста выдзеліцца. Мабыць, варта шукаць спосабы паказаць іх творы ў найбольш выгадным святле. Каб адметнасць выходзіла на першы план, а не гублялася сярод аналагічна збудаваных радкоў.

* * *

Цікава падыходзіць да праблемы вершавання Андрэй Сузінь, які надрукаваў сваю падборку «Горад» у другім нумары «Маладосці». Ён якраз рыфмуе вершы, і зусім няблага. Але ён так дробна пабіў свае творы на радкі, што не адразу і здагадаешся, што рыфма там ёсць. Зроблена гэта для таго, каб падкрэсліць рытмічны малюнак, але часам з-за такога шчыльнага драблення затушоўваюцца сэнсавыя дамінанты:

Вежы касцёлаў —
Ваяўнічыя здані,
Ад якіх
Цягне
Гатычным дымам,
Як толькі яны
Нахіляюцца над вамі
З непадробным
Гарадскім
Інтымам[1].

[1] Андрэй Сузінь. «Горад», верш «Вайна», «Маладосць», № 2/ 2010, с. 10.

Але калі б трэба было вылучыць каго-небудзь з маладых паэтаў на званне «самага стыльнага», асабіста я выбрала б менавіта Андрэя Сузіня. За вышэй прыведзеныя радкі і яшчэ за наступныя:

Часам
Са смеццем
Выносіцца
Нешта святое,
Каб нашчадкі знайшлі
І не звалі
Бязбожнымі
Нас[1].

Трэба адзначыць, што згаданыя радкі на самай справе рыфмаваліся. Тут вышэй было слова «*экстаз*» з якім рыфмуецца «*нас*».

Падалося, што менавіта Андрэй Сузінь з яго невялічкай, у чатыры вершы, падборкай, стаўся найбольш запамінальным з маладых паэтаў, якіх надрукавала ў 2010 годзе «Маладосць». Пры ўсёй графічнай разрэджанасці (якая асабіста мне не падабаецца), яго вершы вельмі густа насычаныя вобразнымі сродкамі. Прычым сродкамі высокай пробы: «*Легчы — лягчэй, / Цяжэй — цягнуць...*»[2] і інш.

У вершах А. Сузіня падкупляе адсутнасць усялякай манернасці і штучнай мудрагелістасці:

А каляндарны
Забыты цень
Прадасць нам
Лісты з нябыту —
За кожны
Забыты дзень —
Мільёны
Забітых літар! [3]

Дарэчы, не толькі гарадская, але і вясковая тэматыка таксама знаходзіць сваё месца ў сучаснай паэзіі маладых. Праўда, прадстаўлена яна не надта шырока, але некалькі ўдалых прыкладаў прывесці можна. У першую чаргу — творы Насты Грышчук, якія таксама выйшлі ў «Маладосці» № 2 за 2010 год. У аўтаркі атрымалася ўбачыць сапраўдную паэзію ў самых простых будзённых з’явах. Шчыра, тонка гучаць радкі:

Толькі ў хаце цёпла так і ўтульна.
Ціша. Пах вясковы. Абразы.
Нешта напяваючы, бабуля
Грабянцом прычэша валасы[4].

Звычайная карцінка з жыцця, нічога, здавалася б, незвычайнага, але яна па-сапраўднаму кранае. І нейкая выключная вытанчанасць прысутнічае ў пабытавым апісанні, дзе ўсё такое звыклае для беларускага чытача — і простая сялянская хата, і вясковы пах, і дым над камінамі. Наста Грышчук піша вершы,

[1] Андрэй Сузінь. «Горад», верш «Без трох хвілін дванаццаць», «Маладосць», № 2/ 2010, с. 10.

[2] Андрэй Сузінь. «Горад», верш «Без трох хвілін дванаццаць», «Маладосць», № 2/ 2010, с. 10.

[3] Андрэй Сузінь. «Горад», верш «Без трох хвілін дванаццаць», «Маладосць», № 2/ 2010, с. 10.

[4] Наста Грышчук. «Анёлы вучацца лятаць», верш «...Вёска. Лёгкі дым над камінамі...», «Маладосць», № 2/ 2010, с. 5.

насычаныя традыцыйнай беларускай вобразнасцю, і абапіраецца на класічную традыцыю айчыннай літаратуры («...Вёска. Лёгкі дым над камінамі...» , «...У ноч калядную Дзяды...»).

Тут знайшлося месца і беларускай міфалогіі, і народнаму календару. Цэнтрам верша «...У ноч калядную Дзяды...» робіцца таямнічы кругабег жыцця: на Купалле Дзяды засяваюць неба зорамі, каб сабраць свой нябесны ўраджай каляднай ноччу.

У другім нумары змешчана таксама падборка Кацярыны Макарэвіч «Цеплыня тваіх рук». Гэта адзін з прыкладаў нізкі, у якой няма знакаў прыпынку. Такая падборка, як ужо гаварылася, за паўгода ў «Маладосці» не адна.

Яно і няблага, што ў айчыннай паэзіі ёсць вершы самых розных відаў і форм. Адзінае шкада — маладыя, імкнучыся да арыгінальнасці, абіраюць вельмі неарыгінальныя падыходы. Адсутнасць знакаў прыпынку ў вершы — спецыфічны прыём. Можна сказаць нават — вузкаспецыфічны, але выкарыстоўваўся ён не раз і майстрамі, і маладымі паэтамі. І далёка не ў кожным выпадку аўтарам малодшага пакалення ўдаецца выразна выявіць сваё, асабістае, сказаць тое, пра што хацелася б. Вось прыклад верша Кацярыны Макарэвіч:

зімой без пальчатак няможна
не люблю выкшталцоных метафар
таму мае казкі
звычайна выглядаюць
як завуаліраваныя утопіі
тваёй чэрствасці
вельмі пасуюць
бяскроўныя дотыкі
дык вось
зімой без пальчатак
няможна[1]

У невялікім вершы шмат мастацкай інфармацыі (холад, замерзлыя рукі, казкі і ўтопіі, нелюбоў да выкшталцоных метафар, духоўная чэрствасць адрасата), але нішто не выдзелена, сэнсавы цэнтр не акрэслены. Тут не адразу ўхопіш запамінальны лірычны вобраз, які паўстае з радкоў «*тваёй чэрствасці / вельмі пасуюць / бяскроўныя дотыкі»*.

* * *

Трэці нумар «Маладосці» распачынаецца паэтычнай падборкай Волі Чайкоўскай «Я музыкай ветру стану...». У ёй дамінантай робіцца сённяшні дзень, эмоцыі чалавека XXI стагоддзя. Не кожны сучасны паэт можа паказаць свет героя, які жыве тут і цяпер, штучна не надаючы яму перажыванняў, запазычаных у творцаў, якія пісалі 20, 50, 200 гадоў таму. І такую здольнасць трэба адзначаць і заслужана высока ацэньваць. Але асобныя радкі проста шакіруюць сваёй антымастацкасцю. Прывяду некалькі прыкладаў:

«*Ля сценкі стаю на пятках // І чую худыя гудкі*»[2]. «*Твой позірк з поўні на поўныя // ногі мае пераскочыў*»[3]

Альбо яшчэ:

---

[1] Кацярына Макарэвіч. «Цеплыня тваіх рук», верш «...зімой без пальчатак няможна...» , «Маладосць», № 2 / 2010, с. 73.

[2] Воля Чайкоўская. «Я музыкай ветру стану...», верш «...Халодныя рукі ў чорных пальчатках...», «Маладосць», № 3/ 2010, с. 4.

[3] Воля Чайкоўская. «Я музыкай ветру стану...», верш «...такія цьмяныя ў горада...», «Маладосць», № 3/ 2010, с. 4.

Я спынілася
І тапчуся на месцы.
Працаптала пад нагамі
Дарэшты[1].

Ногі ў вершах падаліся мне напачатку трошкі сумніўным вобразам у эстэтычным плане. Проста я яшчэ не дачытала да наступных радкоў, якія не пра ногі, а пра сліну:

Час — самы бязлітасны ваяка.
Нака табе!
І табе — нака!
Раздорвае хвіліны і гадзіны.
Ад злосці
Напляваць на ўсё не хопіць сліны![2]

Тут рэаліі сучаснага эмацыянальнага і духоўнага жыцця паўстаюць, канечне, яскрава, але далёка не ў лепшым ракурсе. Мастакоўская аб'ектыўнасць фактычна знішчае мастацкі ідэал. Складана адразу здагадацца, з якой прычыны рэдакцыя «Маладосці» наогул абрала адзначаныя вершы для надрукавання. У аўтаркі, відаць, ёсць і лепшыя творы, такія, якія выгадна прэзентуюць моцныя бакі яе творчасці.

Здзівіў мяне і пачатак верша «Спрэс гуло»: «*Вось і скончыўся жнівень, // Быццам і не было*»[3]. Вельмі нагадвае самы, відаць, знакаміты верш Арсенія Таркоўскага: «*Вот и лето прошло — // Словно и не бывало*»... Астатняя частка верша сэнсава і, нават, фармальна не вельмі стасуецца з двума першымі радкамі:

Вось і скончыўся жнівень,
Быццам і не было.
Самагубцы рамонкі
Выпраменьваюць тонкі
Пах. Спрэс гуло[4].

Гэта цяжка прыняць за ўдалую алюзію на твор Таркоўскага.

Зразумела, паэзія не можа поўнасцю сканцэнтравацца на высокіх думках і пачуццях — у ёй павінна быць месца рэальнаму свету. А наватарства ў паэзіі таксама патрэбна, як і традыцыя. Культура — рухомы працэс, яна павінна развівацца, трансфармавацца. Але хацелася б, каб наша культура развівалася ў межах добрага густу, інакш яна можа трансфармавацца невядома ўва што.

Яшчэ ў XVIII стагоддзі ў артыкуле «Густ» Вальтэр папярэджваў: «*Густ нацыі можа сапсавацца, падобнае няшчасце здараецца з ёй, як правіла, услед за векам найвышэйшага росквіту мастацтваў*»[5]. Беларусь ведала вышэйшы росквіт мастацтваў. Мае Коласа, Купалу, Багдановіча, Танка... Няўжо гэта — усё, і цяпер адбудзецца непазбежны заняпад?

Трэці нумар «Маладосці» змяшчае і падборку вершаў, напісаных студэнтамі БДУ, якія наведваюць літаратурна-музычную гасцёўню «Натхненне». Многія выдатныя беларускія паэты выйшлі з літаратурных гурткоў і семінараў. Падоб-

---

[1] Воля Чайкоўская. «Я музыкай ветру стану...», верш «...Я спынілася...», «Маладосць», № 3/ 2010, с. 5.

[2] Воля Чайкоўская. «Я музыкай ветру стану...», верш «...Час — самы бязлітасны ваяка...», «Маладосць», № 3/ 2010, с. 5.

[3] Воля Чайкоўская. «Я музыкай ветру стану...», верш «Спрэс гуло», «Маладосць», № 3/ 2010, с. 5.

[4] Тамсама.

[5] Вальтэр. «Эстэтыка», Масква, «Мастацтва», 1974 г., с. 270.

ныя згуртаванні заўсёды былі школай высокай паэтычнай культуры і аб'ядноўвалі аднадумцаў, прыхільнікаў паэзіі. Прыемна бачыць іх спецыфічную «справаздачу» на старонках папулярнага выдання.

Кожны аўтар падборкі па-свойму арыгінальны. Вылучаюцца Ліда Наліўка і вершы ўжо ўзгаданага EXE KIM УРГ. Але ў яго творы «Чалавек» знаходзім такія радкі:

Чалавек,
Патрэбны ты мне,
Як пятая нага...[1]

Атрымліваецца, што ў лірычнага героя верша чатыры нагі? Але пры гэтым мастакоўскі падыход EXE KIM УРГ звяртае на сябе ўвагу сапраўднай творчай арыгінальнасцю. Магчыма, уплывае тое, што ён не філолаг, а фізік. Аўтар трапна выкарыстоўвае супрацьпастаўленне літаральнага ўспрыняцця таго ці іншага вобраза і яго паэтычнай інтэрпрэтацыі.

* * *

Чацвёрты нумар «Маладосці» адкрываецца вершаванай падборкай Алесі Кузьміновай. З кароткай біяграфічнай згадкі мы даведваемся, што гэтая зусім яшчэ маладая паэтэса (нарадзілася ў 1990 годзе), мае не толькі шэраг публікацый, але і ўзнагароды. І, трэба прызнаць, атрымала яна іх абсалютна заслужана.

Паэзія Алесі Кузьміновай напоўнена рэдкім у наш час здаровым аптымізмам, пазітыўным бачаннем свету, як у вершы «Маё сонца». Але тут знайшлося месца і тонкаму рамантызму («...Пад сонцам белы ветразь... караблі...», «Летняе» і інш.), і падкрэслена сучасным матывам:

Горад. Дарога. Чаканне. Святло.
Сум. Адзінота. Ўспаміны. Акно.
Стол. Каляндар. Спадзяванне. Інэт.
Вочы. Агонь. Думкі. Праца. Сюжэт[2].

Спецыфічная форма верша аказваецца поўнасцю адпаведнай сэнсу. Дробнымі мазкамі малюецца карціна і атрымліваецца імпрэсіяністычны малюнак — усё на адценнях пачуццяў, на паўтонах.

У тым жа нумары прадстаўлена і падборка Яны Явіч «Лідэрства літары». Кожнае слова яе вершаў пачынаецца з пэўнай літары:

Крытык кліча канкурэнтаў,
Кандыдаты камплексуюць,
Кіламетрамі катрэнаў
Крыюць кадры кінастужак...[3]

Творы прасякнутыя іроніяй і дэманструюць арыгінальнае стаўленне аўтара да рэчаіснасці. «*Так, творчасць — тыпалогія тэндэнцый*»[4], — паведамляецца ў адным з вершаў.

---

[1] EXE KIM УРГ, верш «Чалавек», «Маладосць», № 3/ 2010, с. 13.

[2] Алеся Кузьмінова. «Мара простай шчырасцю кранае», верш «...Горад...», «Маладосць», № 4/ 2010, с. 5.

[3] Яна Явіч. «Лідэрства літары», верш «...Камедыйнасць карэляцый...» «Маладосць», № 4/ 2010, с. 39.

[4] Яна Явіч. «Лідэрства літары», верш «...Таемнай тактыкай трагедыі тандэму...» , «Маладосць», № 4/ 2010, с. 40.

Змест і форма ствараюць мастацкае адзінства, але спецыфічнае, дзіўнае, нечаканае. Пры гэтым пэўныя фармальныя асаблівасці знаходзяцца не на першым плане. Напрыклад, лірычнай гераіні (героя) у творах дадзенай падборкі няма. У першым вершы мы бачым зварот: «*Аднойчы — адназначна! — адпрэчыш адзіноту*»[1], пры гэтым невядома, да каго звяртаецца аўтар, ці гэта рытарычнае пытанне.

А надалей у вершах адсутнічаюць і асабовыя займеннікі, і яшчэ якія заўгодна паказчыкі асобы. Узнікае адчуванне, што паэтычны свет падборкі — нейкая замкнёная прастора, населеная абстракцыямі. У ёй няма ні героя, ні адрасата, а «персанажы» — *крытыкі, кандыдаты, сатырыкі, канкурэнты* — не асобы, а нейкія персаніфікаваныя функцыі, неадушаўлёныя і надзеленыя адной адзінай уласцівасцю, якая змяшчаецца ў самім іх найменні.

Прыём, калі ўсе словы твора пачынаюцца з адной літары, добра знаёмы нам па дзіцячых чытанках, але ў дадзеным выпадку ён выкарыстоўваецца дарэчы. Дзякуючы яму ў чытача ўзмацняецца адчуванне парадаксальнасці, а часам і абсурднасці сітуацый: «*Сентыментальны сатырык // Сумна сыходзіць са сцэны*»[2]

Ці:

Прыстасаванка?! Проста прыгажуня!
Палон... Празмернасць прынцыпаў... Пакуты...
Прыхільнік празаічных парадоксаў
Пасуе першы. Правілы — пасля...[3]

Асабіста мне пры чытанні падборкі Яны Явіч пастаянна ўзгадвалася творчасць Франца Кафкі. Асабліва, канечне, раман «Працэс», бо ў творах паэткі асоб няма, але ўвесь час працякаюць нейкія працэсы, адбываецца нешта, прычым, нешта гратэскнае, фантасмагарычнае. Пры гэтым ніякіх алюзій на Кафку ў тэкстах няма. Такім чынам, можна сказаць, што перад намі падборка з двайным дном. А можа, і з трайным, бо некаму іншаму ўзгадаецца не Кафка, а, дапусцім, Льюіс Кэрал.

* * *

Наступны, пяты, нумар «Маладосці» распачынаецца падборкай вершаў Аляксея Арцёмава «Каралеўства водараў». Найбольш правільным было б ахарактарызаваць іх як «рамантычныя юнацкія вершы» ў лепшым сэнсе гэтага слова. Рамантычны пачатак у іх выразны, а лірычны герой паўстае абаяльным, непасрэдным і маладым — са сваімі перажываннямі, развагамі, поглядамі. Тут і тэма няшчаснага кахання («Музыка», «Каралеўства водараў»), і ўспаміны аб падарожжы ( «Каўказ»), і рамантычны зварот да мінулага, да кніжнай культуры ў вершы «...Пацёртыя вокладкі кніг...»:

Старонкі тамоў не памруць,
Спаліць, загубіць — немагчыма,
Бо вечнасці пільнай пачынак
Няўлоўны, як вадкая ртуць.
Старонкі тамоў не памруць[4].

Нярэдка маладыя паэты імкнуцца зрабіць свайго лірычнага героя значна старэйшым і мудрэйшым за сябе. Атрымліваецца тое далёка не заўсёды... Аляксей

[1] Яна Явіч. «Лідэрства літары», верш «...Аднойчы...», «Маладосць», № 4/ 2010, с. 40.

[2] Яна Явіч. «Лідэрства літары», верш «...Струны спяваюць санату...», «Маладосць», № 4/ 2010, с. 40.

[3] Яна Явіч. «Лідэрства літары», верш «...Паўднёвым промнем...», «Маладосць», № 4/ 2010, с. 40.

[4] Аляксей Арцёмаў. «Каралеўства водараў», верш «...Пацёртыя вокладкі кніг...», «Маладосць», № 5/ 2010, с. 5.

Арцёмаў удала пазбег гэтай спакусы. Яго вершы ўспрымаюцца па-юнацку свежымі, але ў іх адчуваецца паэтычная культура. Аўтар шукае адметнасць формы ў межах класічнага вершаскладання, удала эксперыментуе з рыфмай, напрыклад, у вершы «Каралеўства водараў»:

Ты падарыла каралеўства водараў,
Мяне ператварыла ўміг у волата,
Я ўбачыў нечакана ў мутных водах Ра,
А ў вогнішчы заходу — россып золата[1].

Дарэчы, у адрозненне ад большасці маладых паэтаў Аляксей Арцёмаў надзвычай ахайна ставіцца да граматыкі беларускай мовы, імкнецца да адпаведнасці нормам, праўда, за невялікім выключэннем: «*А дзе спакой? Напэўна, ўсё было...*»[2]

Адпаведнасць граматычным і сінтаксічным нормам — паказальнік паэтычнай культуры. На гэта ўвесь час звяртае ўвагу рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Полымя» Вадзім Спрынчан, прызнаны як лепшы рэдактар у сваёй галіне. І ў «Полымі» няпроста надрукаваць верш, у якім парушаныя асноўныя правілы беларускай мовы.

Мабыць, паэтычную культуру трэба выхоўваць у сабе з маладых гадоў. Аляксей Арцёмаў ідзе менавіта па гэтым шляху. Праз некаторы час у яго будзе значна большы шанец стаць аўтарам нашага старэйшага літаратурнага часопіса.

Аднак і «Маладосць» магла б зрабіць шмат для павышэння паэтычнай культуры і ўдасканалення мастацкага густу маладых творцаў. Менавіта гэтае выданне карыстаецца асаблівым аўтарытэтам у моладзі, і кожная публікацыя ў ім — свайго роду паказчык. Калі надрукавалі падборку з пэўнымі хібамі, недарэчнасцямі ці шматлікімі граматычнымі дапушчэннямі, значыць, так пісаць можна, а мо і трэба.

* * *

І, нарэшце, некалькі слоў пра шосты нумар. Ён адкрываецца падборкай вершаў Юрася Шамецькі «Праўда — у летняй празрыстасці». Аўтар далёка не пачатковец у паэзіі (нарадзіўся ў 1965 годзе) і сёння жыве і працуе ў Канадзе, але ў «Маладосці» надрукаваны ўпершыню. І трэба прызнаць, што ягоны дэбют аказаўся вельмі ўдалым.

З вялікай адлегласці лірычны герой бачыць мінулае і сённяшні дзень і нарэшце разумее, што квінтэсэнцыяй жыццёвай праўды былі «*вуліцы Мінска*», «*шалік дарогі*» і проста людзі «*не абмінутага небам квартала*». У вершы «Ныраючы глыбей у возера Антарыо» Ю. Шамецька піша: «*І зразумела, што праўда уся — // Ў летняй празрыстасці, ў вуліцах Мінска*»[3]. А ў вершы «Дні» ён прызнаецца: «*Не хочацца быць філосафам, хочацца проста жыць, // Каб глядзець, як хвалююцца дрэвы навокал*»[4].

Праўда жыцця зніганая ў яго вершах з успамінамі дзяцінства («Хлопчык»), а лірычны настрой не сыходзіць у песімізм:

---

[1] Аляксей Арцёмаў. «Каралеўства водараў», верш «Каралеўства водараў», «Маладосць», № 5/ 2010, с. 5.

[2] Аляксей Арцёмаў. «Каралеўства водараў», верш «...Навобмацак да праўды ідучы...», «Маладосць», № 5/ 2010, с. 4.

[3] Юрась Шамецька. «Праўда — у летняй празрыстасці», верш «Ныраючы глыбей у возера Антарыо», «Маладосць», № 6/ 2010, с. 5.

[4] Юрась Шамецька. «Праўда — у летняй празрыстасці», верш «Дні», «Маладосць», № 6/ 2010, с. 6.

Подых восені журыцца,
Там, дзе дрэў сілуэты...
Усё добрае збудзецца,
Незалежна ад мэты[1].

Ці яшчэ адзін прыклад:

Час крочыць шпарка і нястомна,
І дасць сказаць яшчэ не раз,
Што я цябе цяпер кахаю,
Як і тады, у даўні час[2].

Тонкі, глыбока лірычны і пры гэтым выразна аптымістычны верш пра шчаслівае каханне — з'ява далёка не шараговая, і не толькі для беларускай паэзіі.

Але ў рамках тэмы дадзенага агляду асабліва важным падаецца верш «Парыж». Бо ён пра тое, як у наш час па-новаму ўспрымаецца класічнае мастацтва, і даўнія творы набываюць у сучасным кантэксце новае гучанне. Змяняецца асяроддзе, і кожны шэдэўр пачынае набываць дадатковыя сэнсы. Наведаўшы Нотр-Дам, паглядзеўшы на Мону Лізу пад куленепрабіўным шклом, лірычны герой разумее «*...што свабода — гэта жаданне / Не перашкаджаць іншым і быць самастойным*»[3].

Мы назіраем, як змыкаюцца эстэтычны, маральна-этычны і, так бы мовіць, сацыяльны, ідэал. Прыгожае ідзе поруч з гуманістычным, справядлівым, з тым, што мы сёння называем агульначалавечымі каштоўнасцямі. Юрась Шамецька даводзіць іх не праз зварот да пэўнай сацыяльнай праблемы, а праз узгадку мастацкага твора, які, нібыта, і не мае дачынення да тэмы. Але паэтычны свет знітаваны з ідэалам, таму прыгажосць у ім заўсёды мае прамое дачыненне да духоўнасці, дабра, шчырасці.

У тым жа шостым нумары надрукаваная і падборка Таццяны Дубоўскай «Бясчассе і бязмежжа». Яшчэ адзін прыклад твораў без знакаў прыпынку, вялікіх літар, рыфмы і выразнага рытмічнага малюнка:

чалавечым лёсам
кіруе
бясчассе і бязмежжа
каб спазнаць
іх
чалавеку дадзена жыццё
наколькі гэта мала
і
наколькі гэта шмат
чалавек не ведае
ды
і не можа ведаць
бо
чалавечым лёсам
кіруе
Бог [4]

[1] Юрась Шамецька. «Праўда — у летняй празрыстасці», верш «...Цёплы вечар абудзіцца...», «Маладосць», № 6/ 2010, с. 4.

[2] Юрась Шамецька. «Праўда — у летняй празрыстасці», верш «...Дні вераснёўскія натхняюць...», «Маладосць», № 6/ 2010, с. 4.

[3] Юрась Шамецька. «Праўда — у летняй празрыстасці», верш «Парыж», «Маладосць», № 6/ 2010, с. 6.

[4] Таццяна Дубоўская. «Бясчассе і бязмежжа», верш «... чалавечым лёсам...», «Маладосць», № 6, 2010, с. 23.

Аўтарка імкнецца паказаць не часовае, а вечнае, не побытавае, а паэтычна-філасофскае. І ёй сапраўды ўдаецца перасягнуць межы будзённасці, дакрануцца да вышэйшага. Атрымліваецца гэта, трэба прызнаць, з пераменным поспехам. У яе радках таксама адчуваецца пэўная парадаксальнасць мастацкага свету. Скажам, у прыведзеным прыкладзе, хто кіруе чалавечым лёсам — «*бясчассе і бязмежжа*» ці *Бог*? Ці, мо, *Бог* роўны «*бясчассю і бязмежжу*» і можа быць запраста выражаны і апісаны гэтымі двума словамі? І тое і тое можа быць, паэтэса не кажа «так» ці «не». А чытач можа сам выбраць, які Бог яму больш даспадобы — Абсалют, не акрэслены ніякімі чалавечымі тэрмінамі, ці ўвасоблены ў «*бясчассі і бязмежжы*» — своеасабліва вымераны («*бясчассе*»), падлічаны («*бязмежжа*»).

Праўда, у наступных радках з той жа падборкі вобраз падаецца трохі сумніўным: «*чалавек бяжыць наўздагон / чужым слядам».*

Справа ў тым, што сляды па сутнасці аб'екты нерухомыя. Бегчы можна хутчэй наўздагон таму, хто сляды пакінуў. Але ў дадзеным выпадку мы сапраўды балансуем на пэўнай мяжы. Ці можна прыкласці матэрыяльныя правілы да свету, цэнтрам якога робіцца філасофская ідэя? І адразу ж узнікае яшчэ адно пытанне: а ці прыкладаемыя да такога свету правілы нашай зямной чалавечай граматыкі? Мабыць, гэта і хацела сказаць Таццяна Дубоўская, пакідаючы свае вершы без кропак, косак і вялікіх літар?

Што характэрна, у тым жа нумары мы знаходзім і яшчэ адну падборку верлібраў. Гэта нізка Алега Кацапава «Час чытання Басё». Падборка атрымала сваю назву, відаць, па наступным вершы:

Маленькі шэры кот,
персідскі і кашлаты,
грызе аловак, якім
пішу свае верлібры, —
відаць, час настаў
чытання несмяротнага Басё[1].

Адораны кот, якому дакладна вядома, калі гаспадару варта пачытаць Басё, як і многія вобразы твораў Алега Кацапава, звяртаюць нас да практыкі дзэнскіх парадоксаў-каанаў. Не ўсё тут выразна і празрыста, бо адчуваецца пэўная чужароднасць матэрыялу.

Але ў іншых верлібрах на першы план выходзяць канкрэтныя жыццёвыя з'явы:

Калека просіць мяне,
каб я дапамог яму
спусціцца з лесвіцы.
Ён быў вельмі лёгкі.
Да чаго ж лёгкае яно —
Чужое гора![2]

І тут ужо адчуваецца еўрапейская мараль, каштоўнасці і ацэнкі, якімі мы карыстаемся штодня. Перад намі канкрэтнае месца, акрэсленая сітуацыя. Мы бачым сцэну, якая не пакідае нас раўнадушнымі, у якой лірычны герой не паўстае прыўкрашаным: «*Да чаго ж лёгкае яно — / Чужое гора!».*

А ў наступным прыкладзе філасофскія абстракцыі і рэаліі жыцця канкрэтнага чалавека (лірычнага героя) зліваюцца:

---

[1] Алег Кацапаў. «Час чытання Басё», «Маладосць», № 2/ 2010, с. 59.

[2] Тамсама.

Я ўсё пранёс праз сэрца:
і дабро, і зло,
але ні добрым ні злым
Не стаў[1].

Спецыфічная, экзатычная эстэтыка Ўсходу даўно прыжылася ў беларускай паэзіі. Форма не новая, але, будзем спадзявацца, у хуткім часе і паэты і чытачы канчаткова пераканаюцца, што навізна — не галоўны складнік ***мастацкасці*** твора.

Пакуль што мы — на шкоду сабе — падмяняем паняцці гармоніі зместу і формы, паэтычнай дасканаласці, эстэтычнай выверанасці нейкай «навізной», сумніўнай «арыгінальнасцю» і г. д. А гэта, паўтаруся, складнікі сучаснага медыйнага бізнесу — рэкламы, музычных кліпаў, заставак і анонсаў. І сённяшні стан літаратуры (ужо прасякнутай «кліпавай эстэтыкай» і «кліпавым мысленнем») паказвае, што паэзія робіцца нецікавай і незапатрабаванай, калі пачынае мімікрыраваць пад маскульт.

* * *

Аўтары малодшага пакалення зусім не пазбаўленыя прынцыпаў, у першую чаргу — эстэтычных (бо ў дадзеным артыкуле нас цікавіць менавіта гэты бок праблемы).

Эстэтычны ідэал маладых беларускіх паэтаў увасобіўся ў постаці Максіма Багдановіча. Алюзіі на яго творы ці ўзгадкі ягонага імя не аднойчы сустракаюцца ў «Маладосці» на працягу ўсяго шасці месяцаў 2010 года. Так, да спадчыны Багдановіча апелюе Аксана Спрынчан у сваім вершаваным поясе «Мой слуцкі ткач». Наста Грышчук выкарыстоўвае характэрны для Багдановіча зварот да айчыннай міфалогіі («...У ноч калядную Дзяды...»), неаднаразова звяртаецца да асобы класіка Ала Нікіпорчык. Аднак у апошняй аўтаркі сустракаюцца і спрэчныя развагі:

...адзінае
чым цешуся Максіме
(даруй мне маё кашчуннае цешанне)
што не напаткаў цябе лёс
Вацлава Ластоўскага
ці Максіма Гарэцкага
любоўю да Айчыны — распятых[2]

Няма чым тут цешыцца, бо Багдановіч пражыў значна меней за абодвух, пакутаваў ад цяжкой хваробы, быў адзінокім і паспеў напісаць не так і многа. Параўнаем гады жыцця: Вацлаў Ластоўскі (1883—1838), Максім Гарэцкі (1893—1938), а Багдановіч (1891—1917). Да таго ж наўрад яго б рэпрэсіравалі за «Змяінага цара» і «Вадзяніка»... хоць, канечне, «опіум для народа»...

Але варта адзначыць яшчэ адзін аспект. Справа ў тым, што паэзія Багдановіча вызначаецца неўскладнёнасцю сінтаксічных канструкцый, сэнсавай празрыстасцю, імкненнем да трапных і простых для разумення сімвалаў і метафар. Яго вобразныя сродкі ўспрымаюцца імгненна і інтуітыўна, не патрабуючы спыняцца ў сярэдзіне радка і думаць, што хацеў сказаць аўтар.

Што тычыцца сучаснай паэзіі, дык «спатыкацца» на нязграбных і незразумелых радках даводзіцца часта. Заўвагу адрасую не толькі беларускім творцам, ды і не толькі маладым. Аўтары называюць гэта «інтэлектуальнай творчасцю», «інтэлектуальным мастацтвам».

---

[1] Тамсама, с. 58.

[2] Ала Нікіпорчык. «Падарожжа», «Маладосць», № 1 /2010. с. 48.

Але паэзія — не толькі думка і вобраз, яна таксама і гучанне, і рытм. І ў дадзеным выпадку, відаць, варта лічыць «інтэлектуальным» складнікам паэзіі не ўскладнёнасць, а наадварот — прастату, вытанчанасць і лёгкасць гучання. Калі чытач успрымае твор як мастацкую цэласнасць, адразу схоплівае і музычнасць, і эмацыянальны настрой, і вобразны лад, і рытм. Ды пры гэтым не сустракае ніякіх перашкод — тэхнічных у першую чаргу.

Максім Багдановіч нямала эксперыментаваў з формай вершаў, але заўсёды заставаўся верны ідэі сэнсавай празрыстасці, выразнасці і даходлівасці думкі. І вельмі добра, што маладыя беларускія паэты звяртаюцца ў сваіх творах да асобы нашага выдатнейшага паэта, які па справядлівасці лічыцца майстрам стылю і ўзорам найвышэйшага густу. Але вельмі хацелася б, каб мы не проста ўзгадвалі яго, але і бралі добры прыклад.

* * *

У паэзіі «Маладосці» традыцыйны набор лірычных тэм: Бог, Радзіма, прырода, месца ў свеце асобы і паэта, каханне, адзінота... Ні адна з іх не пакінула абыякавымі маладых паэтаў.

Сярод твораў выразна рэлігійнага гучання вылучаецца паэма Алеся Дуброўскага-Сарочанкава «Новае неба», але яна заслугоўвае асаблівай гаворкі і грунтоўнага аналізу. У межах нашай тэмы варта звярнуць увагу на тое, як удала пераплецены ў паэме матывы сучаснасці і вечнага духоўнага ідэалу. Твор гэты глыбока песімістычны. Мастацкі свет выразна падзелены на «зямны» — недасканалы, самотны і «вышэйшы» — свет Божай ласкі. Нябесны свет вечны, а ў «зямнога», здаецца, засталося вельмі мала шансаў. А вінаватыя ў гэтым толькі самі людзі, якія ў паўсядзённай мітусні згубілі і асабістае, і нацыянальнае.

Пра страту нацыянальнай адметнасці і наступствы гэтага, мабыць, найбольш моцна і прама сказаў некалі рускі паэт Велімір Хлебнікаў:

Когда у народа нет души,
Он идет к соседнему
И за плату приобретает ее…[1]

Верш пазначаны 1912 годам і адрасаваны, канечне, суайчыннікам паэта. Але наколькі ён актуальны ў наш час і, на жаль, на нашай зямлі!

Добра ў першай палове 2010 года прадстаўлена «Маладосцю» гарадская тэматыка, праблема стасункаў чалавека з урбаністычным навакольным асяроддзем. Сярод лепшых варта назваць творы А. Сузіня і А. Кавалеўскага.

Узаемаадносіны чалавека і соцыуму таксама не абмінутыя ўвагай. Сучасны гараджанін шукае не толькі сваё месца пад сонцам, але й месца сярод людзей. Адным з лепшых вершаў адпаведнай тэматыкі стаў невялікі твор Ліды Наліўкі, змешчаны ў агульнай падборцы «У пошуках натхнення» сярод вершаў іншых сяброў літаратурна-музычнай гасцёўні БДУ:

Губляю зрок.
Ўсе фарбы свету
здаюцца шэрай плямай мне.
Куды падзець самоту гэту?
Хіба яна сама міне...
Наступны крок
вядомы. Потым
усякіх думак чарада.

[1] Велимир Хлебников. Стихотворения и поэмы, стихотворение «Па-оюди», с. 76, Москва, «Эксмо», 2008, с. 352.

Губляю зрок.
Мяне ў абдоймы
бярэ людская грамада[1].

У нас, як, дарэчы, і ў рускай, і ў замежнай паэзіі апошніх гадоў назіраецца зніжэнне цікавасці да лірыкі пра каханне, прычым, з боку паэтаў, а не чытачоў. Мабыць, гэта звязана з сённяшняй модай на іранічнасць, прысычанасць, нігілізм і «*пафігізм*». Але ў шэрагу прыкладаў інтымнай лірыкі можна знайсці вельмі дастойныя і запамінальныя. Сярод іх — напісаны ў рамансным стылі верш Юрася Шамецькі, ужо цытаваны раней. Ці твор зусім маладога паэта Аляксея Арцёмава:

«Жнівень будзе», — я зноў паўтараю. Ён прыйдзе, паўстане —
Месяц жоўтых світанкаў, пяшчотнай азёрнай вады...
Хай жа ён падаруе адвечную радасць кахання,
Каб яна заставалася з намі заўжды. Назаўжды![2]

І вершаваны пояс Аксаны Спрынчан «Мой слуцкі ткач» — твор, прысвечаны тэме кахання.

Але ў цэлым інтымнай лірыкі, сапраўды, набіраецца няшмат. І асабіста ў мяне часам узнікае адчуванне, што паэты пішуць пра каханне нямала, як і раней, але — у стол. Нам па тэлебачанні паказалі ўжо такое «каханне», што творцу з тонкай душой і добрым густам брыдка выпускаць свае шчырыя перажыванні ў апаскуджаны свет. Ён лепш адгаворыцца чым-небудзь модна-іранічным, а сваё, асабістае пакіне пры сабе.

Магчыма, гэта правільна.

Так, лепшыя з паэтаў адлюстроўваюць навакольны свет, але яны робяць гэта праз ідэал, да якога рэчаіснасці яшчэ трэба дацягнуцца.

Нам, усім чытачам, варта зразумець, што мы павінны быць годнымі таго, каб Чуць Паэта — чалавека, які пусціў нас на запаведную тэрыторыю святых таямніц сваёй душы.

[1] Ліда Наліўка. Верш «...Губляю зрок...», Маладосць, № 3/ 2010, с 14.

[2] Аляксей Арцёмаў. «Каралеўства водараў» , верш «... Паслязаўтра адбудзецца жнівень...», «Маладосць», № 5/ 2010 с. 5.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЛІСТЫ Ў ВЕЧНАСЦЬ

**Казімір КАМЕЙША. Паміж кубкам і вуснамі.** Проза паэта. Мн.: Мастацкая літаратура, 2010.

Не магу ўстрымацца, каб не прывесці цалкам невялікі ўступ «Ад аўтара», што папярэднічае кнізе Казіміра Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі». Раблю гэта дзеля таго, каб чытач адразу меў уяўленне аб тым, чаму пісьменнік так крыху нечакана назваў свой новы празаічны зборнік (першынцам К. Камейшы-празаіка стала кніга «Духмянае дзіва»): «Сябры часта пытаюцца: «Чаму такая назва — «Паміж кубкам і вуснамі»? Што ты хацеў гэтым сказаць?» І даводзіцца ім адказваць сваімі няхітрымі запісамі з даўніх і сённяшніх сшыткаў, якія дарыла і дорыць мне само жыццё. А там і вясёлае, і сумнае, і горкае, і плачнае, і раскайнае... І найкароткі шлях ад кубка да вуснаў часам бывае куды даўжэйшы, чым само жыццё.

Несучы кубак да вуснаў, не праміне ш і сэрца, добрых ці злосных вачэй. І памяці таксама. Мая кніга — гэта тое, што пабачыў на свае вочы і чуў ад іншых людзей, у што веру і пра што здагадваюся, што ёсць і што назаўсёды».

Дарэчы, у адным са сваіх «няхітрых запісаў» ён мімаходзь згадвае пра Івана Буніна як пра «сапраўднага паэта, які заставаўся ім у прозе, а самае галоўнае — у жыцці». У іншым месцы запіс зусім кароткі, літаральна адзін сказ: «Мне цяжкавата пачуваць сябе ў прозе, але я адшукаў свой жанр, які ўжо нехта да мяне назваў гэтак проста: «Запісная кніжка».

Сапраўды, «Паміж кубкам і вуснамі» — у пэўнай ступені «запісная кніжка». Аднак гэта запісы асаблівага кшталту. Яны ўвабралі ў сябе ўсё тое, што патрапляе пад паняцце «запісная кніжка душы». Гэта тычыцца нават тых твораў, якія зместам сваім набліжаюцца да апавяданняў, а што да навел, то тут адказ можа быць адназначны: занатавана тое, што пабачылася ці пачулася, запомнілася, а потым у пераасэнсаваным выглядзе і легла на паперу. Але перад тым, як «вырасці» да навел, запісы гэтыя пачаліся, безумоўна, з пэўнай згадкі. Магчыма, паметкі ў блакноце. А то і ў галаве. Зразумела, у пераносным сэнсе. Засела штосьці ў памяці, дый не давала спакою. Так працягвае цца да таго часу, пакуль не з’явіцца жаданне падзяліцца гэтым з чытачом.

Мне падаецца, што такім чынам пісаліся некаторыя творы, якія адкрываюць раздзел «У лесавым разбежжы», а з раздзела гэтага, у сваю чаргу, пачынецца і сама кніга. Асобныя творы ў ім, хоць у аснову іх пакладзена тое, што не забываецца, ці нейкі канкрэтны выпадак, які асабліва ўразіў, выходзяць за межы дакументалізму, які, хочаш таго ці не хочаш, у іх прыстунічае. К. Камейша, расказваючы пра тое, што было, пераходзіць да значных абагульненняў, за канкрэтным, прыватным знаходзіць тыповае і агульнае. Як у навеле «Кругловіна».

У ёй ажывае тое, што засталося ў памяці аўтара з маленства. А таму і засталося, што некалі моцна ўразіла, пакінула такі след, які з гадамі не знікае: «Адна-адзіная ў гэтым лесавым разбежжы, ледзь не да самых вясковых гародаў, невялічкая зялёная кругловіна, у высокіх купінах, густа парослых журавінным мохам, багуном

ды конскай цыбуляй. У гэтым густатраўі нават не відаць маладых кустоў вербалозу. Асакой, вербалозам і чаротам зараслі і дзве ладнаватыя яміны-сажалкі, а вада зацягнулася густой і зялёнай раскай».

Элегічнасць настрою навідавоку. Ён і ў чытацкай душы выклікае самотлівыя асацыяцыі, прымушаючы згадваць і многае з таго, сведкам чаго ў маленстве і юнацтве быў сам чытач. Гэта не можа настройваць на суперажыванне, паток думак чытача знітоўваецца з аўтарскімі думкамі. Разам з тым уражвае тое, як умела і ў той жа час непрыкметна К. Камейша з таго даўняга, незабытага і незабыўнага пракладае своеасаблівы масток у дзень сённяшні: «Кругловіна — як вока ў маё дзяцінства, якое, здаецца, і пачыналася толькі адсюль, хоць гэта далёка не поўная праўда».

На месцы гэтай кругловіны ўжо даўным-даўно, у пасляваенны час знаходзілася тарфяное радовішча. Потым пра яго забылі, «... ямы тыя праз колькі часу завадзянелі, сталіся сажалкамі». Для вясковай малечы не было лепшага месца для купання. Узімку ж можна было па лёдзе пакатацца на самаробных драўляных каньках ці на калаўроце з санкамі. Але так працягвалася толькі да той пары, пакуль адзін з хлапчукоў, зразумела, не без падказкі дарослых, утапіў «там дзве торбы жывых кацянят, падцяжарыўшы іх яшчэ і каменнямі».

Страх і агіда прымусілі забыцца пра месца, дзе можна было адпачыць. Затое цяпер, праз дзясяткі гадоў, да кругловіны герою-апавядальніку хочацца наведацца з іншай нагоды. Хоць да сажалак не падступіцца, бо берагі адрыгвянелі, «але як пахка, як галавакружна на самой балаціне. Ды і ласункавасці колькі. Летам — сіні россып круцялёў, восенню — яркая агністасць брусніц і аж да самай зімы — іскрыстыя жарынкі журавін».

У заключных радках навелы — і працяг захаплення нерушавасцю прыроды ў гэтым месцы, і жаданне, каб іншыя маглі пабачыць цудоўны куточак, і заклік захаваць яго некранутым як мага далей: «Чалавеку не з нашых мясцін кругловіну можна было б паказваць як музей, бо, аб'ехаўшы ўсю пушчу, я з сумам заўважыў, як мала засталося ў ёй такіх кругловін. Ты чуеш, зямляча? Давай зберажом хоць гэту».

Усяго адна навела, а колькі сказана ёю. Якая глыбокая напоўненасць думкамі! І ў той жа час надзіва адчувальная лірычная падсветка. Бо напісана гэта ўсё менавіта паэтам. Няхай і ў прозе пададзена яно, але так, што далёка не кожны празаік гэта можа зрабіць. Бо яму, нават майстру лірычных адступленняў, не заўсёды ўдасца адчуць тое, што можа заўважыць і перадаць менавіта паэт. Дарэчы, падобных па-сапраўднаму паэтычных мясцін вельмі шмат у празаічных творах Віктара Гардзея. Прынамсі, у ягоных аповесцях, што склалі змест кнігі «Аселіца ў басейне Чорнага мора». Бо і В. Гардзей-празаік працуе з тым жа прыцэлам, што і К. Камейша-празік. У прыватнасці, мне думаецца, адно з выказванняў К. Камейшы, добра стасуецца да таго, што не пакідае і В. Гардзея: «Калі ты творыш, мусіш думаць не толькі пра сябе, а ў першую чаргу — пра чытача. Табе ўсё можа быць і даспадобы, і блізкім, і бязмерна дарагім. А ці будзе яно тым жа для іншых?

Тут усё залежыць ад цябе, ад твайго таленту і самааддачы».

Казімір Камейша і піша менавіта так, што тое лепшае, чым напоўнена ягоная кніга «Паміж кубкам і вуснамі», для мяне, чытача, «і даспадобы, і блізкае, і бязмерна дарагое». Прамоўленае ім, у пэўных выпадках успрымаю і сваім. Асабліва, калі гэта ў той ці іншай ступені звязана з творчым ці калялітаратурным асяроддзем. Скажам, такі запіс: «У паэзіі кожны раз старэюць і знікаюць не традыцыйныя вершы, як думаюць некаторыя маладыя наватары (я б слова гэтае ўсё ж узяў бы ў двухкоссе, бо «наватарства» гэта найчасцей нішто інашае, як спроба схаваць адсутнасць таленту. — **А. М.**), а вершы традыцыйна-пасрэдныя». Ці такая занатоўка: «Гаворыць, як піша. Заслухаешся — захопішся. Язык сапраўды працуе ў такт сінтаксісу. А выгаварыцца, спытаеш: «А што ён сказаў?»

Імпануе такое прызнанне К. Камейшы: «Жыву памяццю. Усё часцей і часцей, як бы з кішэні дробязь, выцягваю нейкія дробязі з мінулага, як быццам іду ўперад і ўвесь час азіраюся назад: ці не забыў там што». Таму і імпануе, што гэтыя аглядкі назад не патрапляюць пад тое, што класік грамадскіх навук выказваў такім чынам: «Крок наперад, два крокі назад». Асвяжаючы сваю памяць, аўтар кнігі «Паміж кубкам і вуснамі» разумее, што нават, як на першы погляд, і сапраўды дробязь, калі яна ўдала пададзена, можа шмат сказаць і пра што расказаць. Бо якраз з дробязей і складаецца жыццё. У той жа час К. Камейша не прамінае і такога, што пры жаданні магло б пацягнуць на доўгае апавяданне. Ды навошта яму такое апавяданне, калі зноў жа некалькі як бы штрышкоў, затое, як шмат сказана. Ды як сказана! Хоць у гэтай безыменнай мініяцюры:

«Ён доўга і не думаў, дзе б гэта выпіць «на халяву», гэта значыць, на дарэмніцу. Вечарам, калі добра прыцямнела, узяў дома міску квашаніны, акраец хлеба і пайшоў да мясцовай крамы. Раённыя міліцыянеры, якія наехалі, як толькі спрацавала сігналізацыя, спачатку разгубіліся, а потым доўга смяяліся, пабачыўшы, як старанна працуе ён лыжкаю, пацягваючы з бутэлькі каньяк.

Надзіва ж не вязаліся між сабою тутэйшая закусь і зусім не тутэйшы каньяк. І далі-такі бедалагу дакончыць вячэру, а потым павезлі, паслухмянага ды ціхага, туды, куды і прасіўся».

Так дзе з гумарам, а часцей сур'ёзна ўзнаўляе Казімір Камейша пэўныя старонкі жыцця. З малога высвечваючы вялікае. За адзінкавым разглядваючы заканамернае. У прыватным бачачы агульнае. Усё гэта чытаецца з вялікай цікавасцю. Ды не можа яно іначай успрымацца, бо не прыдуманае, а з самога жыцця ўзята. Жыццё ж падносіць часам такія сітуацыі, што асэнсаваць іх не заўсёды па сіле нават самаму вялікаму таленту.

Умее Казімір Камейша быць і афарыстычна дакладным. Далібог, не часта напаткаеш такія выразы, у якіх бы гэтак высвечвалася арыгінальная думка. Каб не абцяжарваць чытача прыкладамі, прывяду толькі некалькі: «Тысячы інстытутаў, мільёны навукоўцаў, незлічонства здагадцаў і пракракаў нічога не варты перад адной кропляй таямніцы прыроды. Адной кроплі загадкі хапае на тысячагоддзі прыблізных адгадак», «У паэта радасць: з'явіўся «зуд мудросці», «На караблях гісторыі бываюць не толькі выпадковыя пасажыры, а і выпадковыя капітаны, і каманды таксама», «Досыць разбіцца маленькаму люстэрку, і можа разбіцца вялікі лёс», «Мы гінем у той жа гліне, з якой і былі злеплены. З гліны зноў пераходзім у гліну».

Аднак згадка ці запіс — рэч такая, што калі яны з'явіліся, іх абавязкова хочацца надрукаваць. Часам не задумваючыся, а ці так ужо гэта неабходна выносіць на чытацкі суд. Ва ўсякім разе ў мяне з'явілася такое адчуванне, калі пазнаёміўся з такой занатоўкай: «Са слоў артысткі М. Міронавай: «У МХАТ у помніка Чэхаву — дзірка ў галаве. З вушэй Пятра Першага тырчаць караблі...» А ў нас? Класіка пасадзілі на начны гаршчок перад вачыма ўсяго горада».

Камусьці не падабаецца, як класік «сядзіць». Сёй-той сцвярджаў, што адзін з персанажаў ягонай аповесці рукой указваў на акно кватэры, дзе жыў паэт Анатоль Астрэйка. Няўжо ўсё гэта варта абмеркавання? Так, прабачце, да ўнітаза можна дайсці.

Сапраўды, дзесьці ў сярэдзіне кнігі ён з'явіўся: «Студэнт, наш філфакавец, ужо з добрай заяўкай на перспектыўнага празаіка цярпець не мог аднакурсніц-прыгажунь.

— Вось уяўлю, як каторая з іх на ўнітазе сядзіць, і не магу...»

Калі, як кажуць, для разрадкі, то і гэтае можна прачытаць. Але куды прыемней, калі напаткаеш такое: «Чырык, Чыркун, Чуркін.... Многа ў нас спеўных імён. Але салаўіна, па-нашаму гучыць суседняе — Чур-лёніс».

Чаму я назваў гэтую рэцэнзію менавіта «Лісты ў вечнасць», той, хто дачытаў кнігу да канца, магчыма, і сам здагадаўся. Тым не менш удакладню. Завяршае яе такая мініяцюра: «Амаль

кожны творца ў гады сваёй сталасці адчувае сябе так, быццам ён адправіў ліст у вечнасць і вось сядзіць, чакае не дачакаецца адказу. А яшчэ і думае, ці дайшло яго пісанне да адрасата, а калі дайшло, ці згодзіцца, ці палічыць патрэбным той ліставацца. Часцей за ўсё пісьмы застаюцца без адказу».

Развіваючы гэтую думку, не магу не дадаць, што напісаны твор, кожная выдадзеная кніга — гэта сапраўды і свайго роду ліст (хоць, правільней не ліст, а нават лісты) у вечнасць. Ва ўсялякім разе менавіта гэтым, хоча таго ці не, кіруецца пісьменнік, калі застаецца сам-насам з аркушам чыстай паперы. Пакінем па-за ўвагай тых, у каго, як кажуць, амбіцый шмат, а амуніцыя калі ёсць, то дзіравая. Гэтыя адразу прымерваюць сябе няйначай пад Льва Талстога.

Гаворка пра пісьменнікаў, якія не пазбаўлены таленту. Безумоўна, кожнаму з іх хочацца мець свайго чытача. Дый, будзем глядзець праўдзе ў вочы, часам у галаве з'яўляецца грэшная думка: як паставяцца да напісанага мною наступнікі. Таму напісанае — гэта і свайго роду лісты ў будучыню. Нават у вечнасць. Што да будучыні, дык, не сумняваюся, што кнізе Казіміра Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі» яна наканавана. А вечнасць?

Той, хто часта хадзіў у Нацыянальную бібліятэку яшчэ тады, калі яна знаходзілася ў старым будынку, не мог не заўважыць, што, да прыкладу, газета «Северная пчела», «узрост» якой набліжаецца да 200 гадоў, захавалася як новая, а возьмеш, напрыклад, нашу «Звязду», дык нумары 20—30-х гадоў мінулага стагоддзя ледзь не рассыпаюцца. І папера яе жадала лепшай якасці, дый умовы захавання. Затое ў цяперашняй Нацыянальнай бібліятэцы ўмовы такія, што кніга зможа жыць не адно стагоддзе. А калі перавесці яе ў электронны варыянт, то і па сутнасці вечна. Таму «лісты» К. Камейшы і дойдуць у вечнасць.

Няцяжка ўявіць сабе, як праз шмат-шмат гадоў які-небудзь чытач прыйдзе і закажа кнігу «Паміж кубкам і вуснамі». Гэта ж так прыемна будзе адарвацца ад камп'ютарна-мабільнікавай дый хто яго ведае, якой яшчэ рэчаіснасці, і, застаўшыся сам-насам з чорнай сяўбой па белым полі, прачытаць, прынамсі, такое: «Пад першымі промнямі сонца з возера спешна спаўзала світка туману, курчылася аблокамі, паўзла ветразькамі на лазовыя кусты. Збоку здавалася, нібы возера хто абкурыў нейкай дзівоснай і вялізнай цыгарэтай. Здаровасцю і сілай веяла ад гэтай раніцы, ажно свяжэла і чысцела на душы. Пры ўсім пры тым весяліў і падаграваў нейкі гонар, што я тут невыпадковы чалавек, а пастух па праву ўсё той жа радоўкі».

Ці такое: «У ранішнім свежаку, з расою і птушыным перасвістам, раптоўна ў россыпе сонечных промняў згледзеў яркі-яркі, амаль залаты агонь падцёку смалы на даўно не пладаноснай сліве. І так асляпіла вочы гэта бурштынава-бунтоўная яркасць. Шчасце тут толькі ў адным моманце, але яго ўжо ніколі не згубяць ні сэрца, ні вочы».

Адразу суцішна стане на душы. Гэта ж акурат тое, чаго не прыдумаеш. Яго неабходна абавязкова ўбачыць, як бы прапусціць праз сябе, адчуўшы кожнай клетачкай незвычайнасць у звычайным, непаўторнасць у тым, што, здавалася б, звыклае. Менавіта, здавалася б... На жаль, ужо шмат хто з нашых сучаснікаў пазбаўлены сузірання прыроды ва ўсёй яе нерушавасці. А што будзе далей? Таму кніга «Паміж кубкам і вуснамі» і стане (дый сёння ўжо ёсць), вобразна кажучы, тым кубкам, з якога можна піць нагбом саму першароднасць. Пры гэтым адчуваючы і ўсведамляючы, наколькі Казімір Камейша неабыякавы да таго, што адбываецца ў жыцці, як умела ён у многім з мазаічных штрышкоў ствараe цэласны малюнак свайго часу.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ЛІТАРАТУРНА-КРАЯЗНАЎЧАЕ ПАДАРОЖЖА ПА БЕЛАРУСІ

***Мар'іна Горка і блізкія ваколіцы***

У 1997 годзе ў серыі «Паэты Пухавіччыны», якую спраектаваў дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Аляксандравіч Пpановіч, пабачыла свет кніга вершаў Уладзіміра Рунцэвіча «Голас чалавека на зямлі». Аўтар — сталы сябра літаратурнага аб'яднання пры пухавіцкай «раёнцы». Прадмову да кнігі напісала Вольга Савасцюк: «Валодзю Рунцэвіча ведаю яшчэ са школьных гадоў з пасяджэнняў літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце. Як і цяпер, ён быў адным з самых актыўных аўтараў. Сарамліва, дрыготкім голасам у час знаёмства паведамляў пра сябе: «Рабочы льнозавода. Вершы пішу з дзяцінства».

Такім простым, добразычлівым ён застаўся і сёння. Не часта забягае пасля змены ў рэдакцыю, але абавязкова з цэлым сшыткам вершаў. Не чакае, каб друкавалі ўсё. А проста пакладзе на стол і скажа: «От, выберы, калі ёсць што добрае».

Кожны сшытак — цэлая гама вобразаў, пачуццяў, назіранняў. Яго хвалюе ўсё, што адбываецца сёння ў нашым жыцці. У вершах У. Рунцэвіча замілаванне беларускімі краявідамі, высокае светлае каханне, трывога за лёс роднага краю. А колькі вершаў прысвечана землякам: знакамітым і простым людзям-працаўнікам, роднай вёсцы Дайнава, дзе ён нарадзіўся крыху больш як чатыры дзесяцігоддзі назад! Валодзя шчыры, добразычлівы чалавек. І гэтай шчырасцю пранізаны яго вершы, якія друкаваліся на старонках «Чырвонай змены», «Мінскай праўды», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». У. Рунцэвіч быў удзельнікам семінара маладых літаратараў Міншчыны.

У першы зборнік вершаў Уладзіміра Рунцэвіча ўвайшла толькі невялікая частка твораў з тых тоўстых сшыткаў, што змяшчаюць цэлыя дзесяцігоддзі. Няхай жа будзе ён добрым стартам у паэтычнай творчасці нашага земляка».

(Рунцэвіч У. Голас Чалавека на зямлі. Мар'іна Горка. 1997. — С. 1— 2.)

Уладзімір Рунцэвіч — з катэгорыі тых рупліўцаў паэтычнай нівы, якія асаблівую ўвагу надаюць моўнаму афармленню сваіх твораў. Паэт уважлівы да класічнай літаратуры, ва ўсім адчуваецца яго начытанасць. Але ж Уладзімір Рунцэвіч размаўляе з чытачом сваім голасам. Апошнія гады мар'інагорскі рабочы часта завітвае ў Мінск на пасяджэнні паэтычнага клуба пры Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна «Жывіца». Сустрэчы з калегамі па творчай працы, абмеркаванне вершаў, першых паэтычных зборнікаў — тая жыватворная атмасфера, што спрыяе развіццю таленту, дапамагае рабіць наступныя творчыя крокі.

Сюды, у Мар'іну Горку, у розныя гады лёс прыводзіў многіх і многіх літаратараў. У 1930-я гады ў раённым цэнтры знаходзіўся Дом творчасці пісьменнікаў «Пухавічы» (зараз на яго тэрыторыі працуе аднайменны абласны дзіцячы санаторый). Бывалі ў ім Якуб Колас, Янка Купала, шмат хто яшчэ з масцітых і маладых па тым часе літаратараў. У доме адпачынку ці ў доме творчасці быў арыштаваны Мікола Хведаровіч. Але як, з чаго пачынаўся Дом творчасці? Да пэўнай канкрэтыкі нас адсылае газета «Звязда» за 1935 год: «У былым маёнтку Падблонь Пухавіцкага раёна, у панскім палацы абсталёўваецца Дом творчасці пісьменнікаў

БССР. Дом творчасці будзе мець 13 кабінетаў, чытальную залу, сталовую, 6 кватэр для пісьменнікаў, падсобную гаспадарку і г. д. Ён размешчаны ў маляўнічай мясцовасці, непадалёку ад ракі ў вялікім садзе. Будаўніцтва і абсталяванне каштуюць каля 300 000 рублёў».

(Звязда, 1935, 2 лютага).

Такімі былі вытокі вялікай справы. Сапраўды значнай і вялікай яшчэ па той простай прычыне, што Дом творчасці станавіўся прытулкам многіх дум і памкненняў, месцам, дзе можна было не толькі адпачываць, але і пісаць. Магчыма, у такім паяднанні і было нешта, што парушала псіхалогію творчасці адзінак, асоб, але ж разам з тым было і пэўнае спрыянне, асабліва для тых, хто не мог ва ўсю моц пісаць у складаных, абцяжараных побытам, кватэрнай цеснатою, умовах.

На пачатку 1970-х арганізатары выхаваўчай работы ў абласным дзіцячым санаторыі «Пухавічы» і галоўны ўрач санаторыя Алена Мікалаеўна Усціновіч загарэліся ідэяй узнаўлення памяці пра Дом творчасці. Як вынік — быў створаны пакой-музей, прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу. Але і перад гэтым, і ў час працы пакоя-музея ішоў збор матэрыялаў літаральна пра ўсіх, хто быў звязаны з Домам творчасці пісьменнікаў у 1930-я гады. В. Петрачэнкава выступіла ў раённай газеце «Сцяг працы» з артыкулам «Ствараецца музей», дзе і расказала пра першыя пошукавыя крокі: «Чырвоныя следапыты санаторыя ў выніку пошукаў і знаёмства з архіўнымі першакрыніцамі ўстанавілі, што ў свой час тут адпачывалі вядомыя беларускія пісьменнікі Я. Колас, Я. Купала, К. Крапіва, П. Броўка, А. Стаховіч, Э. Агняцвет.

Рабяты вырашылі стварыць музей санаторыя і звярнуліся па дапамогу да беларускіх пісьменнікаў, якія працавалі і адпачывалі ў гэтых мясцінах. Празаікі, паэты, драматургі, літаратуразнаўцы горача адгукнуліся на просьбу дзяцей, даслалі свае ўспаміны, кнігі з аўтографамі, фатаграфіі.

У канцы 1960-х гадоў у госці да хлопчыкаў і дзяўчынак санаторыя прыехаў паэт Сяргей Грахоўскі, які сам у 1936 годзе адпачываў у Доме творчасці. Разам з Грахоўскім завітаў да рабят і празаік, рэдактар часопіса «Маладосць» Алесь Асіпенка.

Сяргей Іванавіч Грахоўскі прачытаў свае новыя вершы, запрасіў дзяцей дасылаць у часопіс «Вясёлка» свае творы — казкі, вершы, загадкі, малюнкі, рэбусы, шарады, крыптаграмы. Алесь Харытонавіч Асіпенка расказаў рабятам пра свой творчы шлях. Асабліва ўсхвалявала прысутных апавяданне пісьменніка пра гады, праведзеныя ў партызанскім атрадзе ў час Вялікай Айчыннай вайны. Будучы пісьменнік быў тады падлеткам, хадзіў у разведку, дастаўляў камандаванню каштоўныя дадзеныя аб дыслакацыі і перамяшчэнні фашысцкіх войск і гарнізонаў. На студыі «Беларусьфільм» па сцэнарыі А. Асіпенкі здымаецца прыгодніцкая кінастужка «Пяцёра адважных» пра геройчныя старонкі барацьбы дзяцей у гады Вялікай Айчыннай вайны.

З хваляваннем слухалі рабяты і выступленне Т. С. Тарасавай — навуковага супрацоўніка Літаратурнага музея імя Янкі Купалы, якая цікава расказвала аб тым, як ствараўся і папаўняўся музей экспанатамі і матэрыяламі. Тарасава перадала ў падарунак новаму музею фотавыстаўку, прысвечаную жыццю і дзейнасці народнага песняра Я. Купалы.

Пісьменнікі падаравалі ў музей свае кнігі».

У Яўгена Рамановіча, вядомага драматурга, тэатральнага дзеяча, ёсць цікавы нарыс-успамін «Мацней за лёс». Прысвечаны ён беларускаму празаіку Эдуарду Самуйлёнку. І значная частка апісання адносін Рамановіча з Самуйлёнкам адбываецца якраз на фоне дарогі ў Мар'іну Горку, а пасля і бытавання ў Доме творчасці. «Прыгарадны поезд Мінск — Пухавічы, не спяшаючыся, ішоў сярод жоўтых палёў, рудых купін, хмызнякоў і імшарнікаў, пакрытых павуціннем. Па плоскіх узгорках разбягаліся вясковыя хаткі. Дзе-нідзе, прабіваючы вострымі вежамі небасхіл, тырчэлі боскія храмы і калгасныя сіласныя вежы.

У акно вагона разам са жівеньскім ветрам урываўся водар спелай збажыны і лясных верасоў…

Было ўжо зусім цёмна, калі мы з Самуйлёнкам сышлі на пухавіцкай станцыі… Мы выйшлі на невялікую брукаваную плошчу, абсаджаную з двух бакоў дрэвамі. Да нас падышоў стары фурман з Дома творчасці.

— Во-о, я ж і казаў, што нехта абавязкова прыедзе з пісьменнікаў, — шчыра ўзрадаваўся ён. — Заўтра ж нядзеля, не можа таго быць, каб не прыехалі. А дырэктар кажа: не трэба запрагаць.

— Дзякуем, даражэнькі, маглі б і пешшу прайсці, блізка. Ноч якая ціхая, не варта было турбавацца, — загаманілі мы.

— Якая мне турбота — служба. Н-но, халера! — загадаў фурман каню, калі мы селі ў мяккую каламажку…

Парыпваючы рысорамі, гушкаючыся на выбоінах брукаванкі, каламажка каціла нас пад высокімі зорамі, сярод нізкіх лагчын і малых узгоркаў і прывезла да гасцінна расчыненай брамы з белай шыльдай на ёй: «Дом творчасці і адпачынку Саюза пісьменнікаў БССР». Мы ўехалі ў алею раскідзістых ліп і пахучых акацый. Каля асветленага ўвахода ў будынак таўкліся камары і бегалі дзеці.

— Хадзем, абмыемся тым часама ад дарожнага пылу, — прапанаваў Самуйлёнак…»

(Рамановіч Я. Знаёмыя сілуэты. Мн., 1974. — С. 74—78).

Месца для Дома творчасці і адпачынку, зразумела, было выбрана невыпадковае. Яшчэ зусім нядаўна, напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя тут знаходзілася панская сядзіба. Належала яна міністру ўнутраных спраў царскай Расіі Леону Макаву.

Чым каштоўныя ўспаміны Яўгена Рамановіча? Аўтар кнігі «Знаёмыя сілуэты» падрабязна ўзнаўляе гістарычны ландшафт сядзібы. «Мы ішлі па акуратна расчышчаных, пасыпаных пяском алеях парку ўніз да ракі. Ішлі моўчкі, усхваляваныя хараством гэтага цудоўнага старога парку з магутнымі сівымі дрэвамі і зараснікамі шыпшыны. Чорныя цені кустоў вязалі карункі на светлых ад ярка асветленай веранды сцежках. З дома даносіліся гукі раяля, нехта павольна перабіраў клавішы, шукаючы натхнення.

Ад пышна расквечаных клумбаў у мяккім аксамітным паветры нерухома вісеў густы прыемны водар. Ноч была цёмная і цёплая. Мы падышлі да белых парэнчаў на мастках рэчкі, якой амаль зусім не было відаць, праўда, яна адчувалася ў ціхім плёскаце вады аб берагі ды ў журботным кваканні жаб.

— Вось, браце Жэнька, хараство якое. Уся наша пісьменніцкая сям’я цешыцца ім і творыць тут, спорна творыць. Ведаеш, Кузьма Чорны не ўстане з-за стала, пакуль дзесяць старонак не напіша; а некалі тут жыла сям’я, памешчыцкая сям’я, з трох душ, і працавала на яе не менш як сотня людзей. Кажуць, вось на гэтым самым месцы, дзе мы стаім, некалі лаўка была, на ёй старая пані любіла сядзець, на рэчку пазіраць. Рэчка заўсёды вабіць да сябе сваёй таямнічасцю. Дык вось, сядзіць аднойчы пані ў задуменні, а пакаёўка прыбегла да яе і крычыць радасна: «Рэвалюцыя, пані, бальшавікі Керанскага скінулі!» Глядзіць, а пані як сядзела, так і не зварухнулася. Глянула пакаёўка, ажно пані мёртвая. Прыбеглі людзі, хацелі яе з лаўкі падняць, выпрастаць, на насілкі пакласці — не разгінаецца пані. Як сядзела, так і акамянела. Давялося нават і хаваць яе не ў труне, а ў скрынцы такой, спецыяльна па яе гарбылю зробленай…» (Тамсама, с. 78—79).

Тут варта, відавочна, нагадаць чытачу, якога маштабу быў талент спадарожніка Яўгена Рамановіча — беларускага празаіка Эдуарда Самуйлёнка. Нарадзіўся Эдуард Людвігавіч у Пецярбургу ў 1907 годзе. Юнацкія гады правёў на радзіме бацькі ў вёсцы Бандзелі Верхнядзвінскага раёна. Хадзіў пільшчыкам па вёсках, загадваў хатай-чытальняй, быў сакратаром камсамольскай ячэйкі. Працаваў у 1930—1933 гадах у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына». Пасля ў 1934—1939 гадах — у газеце «Літаратура і мастацтва». Упершыню ў

друку выступіў з вершамі ў 1928 годзе. Аповесць «Тэорыя Каленбрун» — твор, прысвечаны барацьбе польскіх працоўных супраць фашызму, — пабачыла свет у 1933 годзе. У 1937 годзе выдаў кнігу апавяданняў «Дачка эскадрона», а ў 1938 — раман «Будучыня», у якім расказаў пра жыццё грузінскага народа і яго барацьбу за савецкую ўладу. Мажліва, якраз многія старонкі і аповесці, і рамана былі напісаны ў Мар’інай Горцы. Памёр Эдуард Самуйлёнак у 1939 годзе, маючы за плячыма ўсяго толькі трыццаць адзін год…

Яўген Рамановіч, які нарадзіўся ў Мінску 8(21) студзеня 1905 года, пачаў свой шлях у літаратуру яшчэ ў 1923 годзе. Першыя публікацыі падпісваў псеўданімам Брацішка. Вучыўся ў БДУ. Працаваў акцёрам, рэжысёрам, загадчыкам літаратурнай часткі ў Беларускім тэатры імя Я. Купалы (1922—1948). У 1949—1963 гадах — у Міністэрстве культуры БССР. Заслужаны артыст БССР (1944). Аўтар п’ес «Кантракт, альбо Усё добра будзе», «Вір», «Мост». Усе яны былі пастаўлены на тэатральнай сцэне яшчэ ў 1920-я гады. Да пазнейшых работ адносяцца «Камяні на дарозе», «Палешукі», «Таварыш Андрэй». Напісаў шэраг лібрэта па творах Я. Коласа, П. Броўкі. Беларускаму тэатру прысвяціў кнігі «Народны артыст СССР Б. В. Платонаў», «Рэкі цякуць з ручаёў», «Людзі і маскі». Пераклаў на беларускую мову творы Л. Талстога, А. Чэхава, А. Астроўскага, М. Горкага, К. Транёва, А. Карнейчука. У 1930-я гады Яўген Сцяпанавіч быў дастаткова вядомым тэатральным і літаратурным работнікам, сябраваў з многімі пісьменнікамі, да яго цягнуліся многія паэты і празаікі. Памёр Яўген Рамановіч у 1979 годзе.

Яшчэ адзін фрагмент з успамінаў Яўгена Рамановіча, які дапаможа зазірнуць у творчую ўвогуле і, у прыватнасці, у пухавіцкую біяграфію Змітрака Бядулі: «Мы ехалі са Змітраком Бядулем у Пухавічы, у Дом творчасці, там ужо былі нашы сем’і. Ехалі мы ў літфондаўскай каламажцы, якую цягнуў Кавалерыст — так звалі рудога каняку, не надта вялікага спрыту, але і не зломка.

Звоняць мне раніцою, — загаварыў Бядуля, калі мы паселі ў каламажку і пакацілі па дарозе на Пухавічы, — і гавораць: «Васька захварэў, што рабіць?» Я кажу: «Ці будзе Васька, ці не Васька, абы конь, бо я на машыне не паеду. Нашто мне «эмка», я не люблю аўтамабіляў. Я люблю ў дарозе пагойдацца на рысорах, падумаць, падыхаць свежым паветрам, нарэшце. У горадзе ж такі шум, грукат, смярдзіць бензінам…»

Потым мы ехалі моўчкі і любаваліся лесам, кожны па-свойму. Наўрад ці знойдзецца чалавек на нашай зямлі, які б не любіў прыроду: і рэчку, і луг, і магутны бор, і поле, і спевы птушак.

«Вы любіце лес?» — запытаўся я ў Бядулі, які амаль што ляжаў на высокім сядзенні, выцягнуўшы ногі, і аб нечым думаў.

«Ого, яшчэ як! Я, можна сказаць, нарадзіўся ў лесе. Ён даглядаў і калыхаў мяне. Спяваў песні, расказваў байкі. Карміў смачным мёдам, паіў бярозавым сокам. Я вырас у лесе, я навучыўся разумець жыццё не ў хедары, дзе вучыўся малы, а ад леснікоў і плытагонаў, з якімі праводзіў часамі і дні, і ночы. Мне лес і цяпер — палац мудрасці і харастваа…»

У тыя 1930-я гады Бядуля карыстаўся надзвычайным аўтарытэтам у чытачоў. Нарадзіўся Самуіл Яфімавіч Плаўнік (сапраўднае імя Змітрака Бядулі) у вёсцы Пасадзец Лагойскага раёна 23 красавіка 1886 года. Вучыўся ў хедары — пачатковай яўрэйскай школе, ешыбоце — школе рабінаў, але не скончыў апошнюю. Працаваў хатнім настаўнікам. Першы друкаваны твор — абразок «Пяюць начлежнікі» — змешчаны на беларускай мове ў газеце «Наша ніва» ў 1910 годзе. У 1911—1912 гадах друкаваўся на рускай мове ў часопісе «На берегах Невы» (Пецярбург) і «Молодые порывы» (Вільня). У канцы 1912 года пераехаў у Вільню. Працаваў сакратаром газеты «Наша ніва». У 1913 годзе пабачыла свет першая кніга Змітрака Бядулі — зборнік «Абразкі». У 1915 годзе вярнуўся на Лагойшчыну, у Пасадзец. У хуткім часе — у Мінску. Працуе сакратаром таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Пасябраваў з паэтам Максімам Багдановічам, жыў на

адной кватэры з ім. Першы паслярэвалюцыйны зборнік — «Пад родным небам» (1922). У 1923 годзе друкуе паэму «Беларусь». Адгукаецца на смерць У. І. Леніна паэмай «Чорна-чырвоная жалоба» (1924). У ліку нямногіх старэйшых пісьменнікаў быў прыняты ў таварыства «Маладняк». У 1926 годзе пераходзіць ва «Узвышша». З'яўляюцца паэтычныя кнігі З. Бядулі «Буралом», «Паэмы». У 1927 годзе — аповесць «Салавей», якая ў 1937 годзе будзе экранізавана. У 1928—1932 гадах напісаў раман «Язэп Крушынскі». Апошні твор — казка «Сярэбраная табакерка». Памёр 3 лістапада 1941 годзе — па дарозе ў эвакуацыю ў Вялікую Айчынную вайну. Пахаваны ў горадзе Уральску (Казахстан).

З успамінаў Яўгена Рамановіча: «…Перад вячэраю мы ўсе, не згаворваючыся, збіраліся каля выхада з Дома творчасці і ішлі цераз вялікае поле да лесу, потым назад, стараючыся не падымаць пылу нагамі.

У шырокай панаме, палінялай кашулі, парусінавых штанах і скураных сандалях на босую ногу, неяк заўсёды ў сярэдзіне кампаніі, абапіраючыся на высокі кій, ішоў звычайна Бядуля. Калыхалася спелае жыта, з яго выглядалі сінія, як дзявочыя вочкі, васількі. Хтосьці пачаў задумліва дэкламаваць:

І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узору
Цвяток радзімы васілька…

— Не ўспамінайце мне Максіма, бо я плакаць пачну, — ціха папрасіў Бядуля. — Для вас Багдановіч толькі паэт, а для мяне гэта чалавек, сябра, які высушыў маё сэрца, як ліст у кнізе. Ён гарэў у мяне на вачах, і я нічога не мог зрабіць. Я не ведаў, як пагасіць яго хворы агонь…

Насустрач нам з лесу, па палявой сцяжынцы, ішоў Якуб Колас. Ён быў таксама, як і ўсе, у лёгкай летняй адзежы, з саламяным брылём на галаве. Правая рука Коласа абапіралася на самаробны кіёк, у левай ён трымаў кошык з грыбамі.

— Во-во, а я меўся зайсці да вас, адпачыць з прагулкі, — яшчэ здалёк загукаў Колас, — там мяне машына будзе чакаць.

— То павернем назад, хлопцы, — загулі ўсе з кампаніі.

— Не, мо крышачку пасядзім каля жыта.

Усе абселі, як вераб'і, і пачалі разглядаць лясныя здабыткі праслаўленага грыбніка.

— Якія там грыбы пад вечар! — махаў рукамі Колас. — Раніцою — іншая справа. Раніцою і баравік галаву з-пад моху высоўвае, каб расы напіцца.

— То што ж гэта вы адзін, Канстанцін Міхайлавіч? — запытаўся Бядуля. — А дзе ж вашы віцебскія госці?

— Адгасцявалі ўжо, — сказаў Колас. — патрабуюць новую п'есу. Але дзе там — часу няма. Узяўся б ты, Змітрок. Твой Салавей пяе ўжо са сцэны. Добра пяе. Напішы, які ён стаў цяпер, калі скончыў кансерваторыю.

У Доме творчасці ў Пухавічах было ўсё неабходнае для плённай працы пісьменнікаў. Тут быў стары сад з квяцістымі клумбамі, і рэчка, і паэтычны гаёк, і шырокія разлогі палёў і лугоў. Ранняй вясной з'язджаліся сюды літаратары і жылі, многія з сем'ямі, да глыбокай восені. Домам мар і натхнення называлі гэты былы памешчыцкі будынак з добра абсталяванымі пакоямі і вялікай адкрытай верандай…»

(Рамановіч Я. Знаёмыя сілуэты. Мн., 1974. — С. 94—94).

Гасцявалі і працавалі ў Доме творчасці ў Мар'інай Горцы і народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў, паэты Ізі Харык, Мікола Хведаровіч, іншыя вядомыя літаратары.

Міхась Ціханавіч Лынькоў (18 (30). 11. 1899 — 21. 9. 1975) нарадзіўся ў вёсцы Зазыбы Віцебскага раёна. Скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю (1917). Удзельнічаў у партызанскім руху ў Грамадзянскую вайну. У 1919—1922 га-

дах — у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у савецка-польскай вайне (1920) і разгроме банд Булак-Балаховіча. Настаўнічаў у Буда-Кашалёўскім (1917—1919) і Рагачоўскім (1922—1925) раёнах. Працаваў адказным сакратаром, рэдактарам бабруйскай газеты «Камуніст» (1925—1930). У 1930—1932 гадах — у Дзяржаўным выдавецтве БССР. Недзе ў той час, відавочна, шляхі Міхася Лынькова перасякаліся з ураджэнцам мястэчка Пухавічы Львом Стронгіным, вядомым кнігавыдаўцом, арганізатарам кнігавыдавецкай, паліграфічнай справы. У 1933—1941 гадах Міхась Лынькоў — галоўны рэдактар часопіса «Полымя рэвалюцыі». Адначасова ў 1938—1948 гадах Міхась Ціханавіч — старшыня Саюза пісьменнікаў БССР. Напружанае грамадскае жыццё, у эпіцэнтры якога знаходзіўся празаік, публіцыст, вылучала М. Лынькова ў асяродку іншых. Ужо да яго пераезду ў Мінск у 1930 годзе пабачылі свет першыя кнігі апавяданняў — «Апавяданні» і «Гой». У 1930—1941 гг. выйшлі зборнікі «Саўка-агіцірнік», «На вялікай хвалі», «Андрэй Лятун», «Сустрэчы», аповесці «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў», «Міколка-паравоз» (асаблівы чытацкі і літаратурна-крытычны розгалас займеў апошні са згаданых твораў, стаўшы на доўгія гады фактычна ўзорам для ўсёй беларускай дзіцячай літаратуры). У 1934 годзе друкаваўся няскончаны раман «На чырвоных лядах».

Так, шмат часу забіралі рэдакцыйныя клопаты, работа ў Саюзе пісьменнікаў. І ўсё ж знаходзіўся час на творчасць. Відавочна, што шмат што было напісана і на Пухавіцкай зямлі. Міхась Лынькоў і сам ездзіў у Дом творчасці ў Мар'іну Горку, і сям'ю сваю на лета адпраўляў сюды на адпачынак. Захаваліся наступныя сведчанні пра гэта. Вось што піша, у прыватнасці, народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва: «…Нашы сем'і звычайна былі ў Доме адпачынку Саюза пісьменнікаў у Пухавічах, дзе і мы праводзілі свой адпачынак або прыязджалі на выхадныя дні. Міхася заўсёды чакала з малым Марыкам на руках яго жонка Хана Абрамаўна — жанчына сціплая, заўсёды ветлівая, без якога-небудзь праяўлення адзнак «начальніцы». «Яна, відаць, і была прататыпам Рывы з аповесці «Гой»). Міхась браў Марыка на рукі і ўжо не расставаўся з ім цэлы дзень…»

(Крапіва К. На скрыжаванні шляхоў і надзей. / Святло яго душы: Успаміны пра Міхася Лынькова. Мн., 1979. — С. 60).

Пра «пухавіцкія» дні Міхася Лынькова згадвае і вядомы беларускі пісьменнік Віталь Вольскі: «Міхась Лынькоў быў і мужны, і цярплівы, і вытрыманы. Мне ўспамінаецца, як у цяжкі для яго час прыехаў ён улетку 1938 года да сям'і ў Пухавічы, уражаны ўжытай да яго несправядлівасцю. Нікому ні слова не сказаў пра сваю бяду. Хадзіў у задуменні па парку Дома творчасці, гуляў з сынком Марыкам, рабіў фотаздымкі. Зняў мяне і Макара Паслядовіча ў бярозавым гаі. Быў маўклівы і засяроджаны. Вытрымка не пакідала Міхася Ціханавіча ўвесь час, пакуль не развеяліся над яго заўчасна пасівелай галавой цёмныя злавесныя хмары…»

(Вольскі В. З успамінаў. / Тамсама. С. 151).

Душэўныя якасці, жаданне дапамагчы маладым калегам заўжды вылучалі Міхася Лынькова сярод іншых літаратараў, якія часам, займеўшы і невялікую пасаду, праяўлялі фанабэрыстасць, недаступнасць. У памяці вядомага літаратуразнаўцы, крытыка Янкі Казекі застаўся такі цікавы эпізод. 1937 год. Няпросты час ў палітычным жыцці рэспублікі і ўсёй Савецкай краіны. Наступалі «чорныя хмары» найвышэйшага піку карнай сталінскай машыны. У кастрычніку 1937 года многія беларускія пісьменнікі будуць расстраляныя. Шмат хто ўжо арыштаваны… Але ж — слова — Янку Казеку: «Прыгадваецца такі выпадак. Аднойчы ў пачатку верасня 1937 года (быў я ўжо на апошнім курсе літфака Мінскага педінстытута і надрукаваў некалькі рэцэнзій) мне і Рыгору Бярозкіну паведамілі ў дэканаце, што званіў Міхась Лынькоў і прасіў прыйсці да яго.

Мы адразу пайшлі. Працаваў ён тады рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі». Размову з намі пачаў з жартаў: маўляў, ведае, што мы, студэнты, жывём

не ў вялікай раскошы, таму хоча даць нам крыху зарабіць. Прапанаваў паехаць у Пухавічы ў Дом творчасці, папрацаваць там, напісаць кароткі агляд развіцця беларускай літаратуры за дваццаць гадоў Савецкай улады. «З дэканам я дамовіўся, не пярэчыць, а пуцёўкі ў Дом творчасці атрымаеце заўтра», — сказаў ён.

Краіна тады рыхтавалася да вялікай урачыстасці — дваццацігоддзя Кастрычніка, і даручэнне Міхася Ціханавіча было звязана з гэтай юбілейнай датай: агляд, які ён прапанаваў напісаць, меркавалася выкарыстаць як матэрыял для дакладаў у святочныя дні.

Два тыдні пражылі мы ў гасцінным Доме творчасці на беразе Цітаўкі, працавалі з раніцы да вечара і ў вызначаны тэрмін падрыхтавалі агляд (я — прозы, Рыгор Бярозкін — паэзіі і драматургіі). Прынеслі рукапіс Міхасю Ціханавічу, ён пагартаў яго, падзякаваў, сказаў, калі можна атрымаць ганарар…»

Як бачым, Дом творчасці ў Мар'інай Горцы, адрасам якога ўсе па зразумелых прычынах лічылі Пухавічы, быў сапраўдным прытулкам пісьменнікаў і іх ідэй. Тут, на беразе Цітаўкі, пад сімпатычнымі таполямі, у садзе і парку, ва ўтульных пакоях колішняй панскай сядзібы нараджаліся новыя творы, складаліся вершы, адсюль у вялікі свет выходзілі сюжэты, тут шліфаваліся мастацкія вобразы і персанажы.

Шмат было звязана з Домам творчасці і трагедыйнага. Якраз тут былі арыштаваны Ізі Харык і Мікола Хведаровіч.

Паэт Мікола Хведаровіч нарадзіўся 24 сакавіка (6 красавіка) 1904 года ў Капылі. У 1926 годзе ўжо ўступіў у шэрагі Камуністычнай партыі. Яно і зразумела. З 1919 года быў арганізатарам камсамольскіх ячэек на Случчыне. Працаваў у часопісах «Партыйны работнік» і «Бальшавік Беларусі» (1929—1932). Пасля — у рэдакцыях часопісаў «Чырвоная Беларусь» і «Полымя рэвалюцыі». У 1937 годзе арыштаваны. Да гэтага часу творчасць паэта разгарнулася досыць шырока. Першая кніга вершаў «Настроі» пабачыла свет, праўда, не вельмі рана — у 1929 годзе, калі М. Хведаровічу было ўжо 25 гадоў. Па тым часе ўзрост для пачатку не юны… Затое пасля — узлёт! Адна за другой выходзяць кнігі вершаў — «Баявыя песні», «Рытмы» (яна пабачыла свет двойчы — у 1930 і 1932 гадах), «Тэмпы — кантрасты», кніга пародый «Ха», «Вайна за мір», «Усім сэрцам». У 1930 — 1938 гадах выйшлі і кнігі перакладаў М. Хведаровіча: «Як аўтамабіль вучыўся хадзіць» М. Ільіна, «Сонечны горад» В. Ільянкова, «Бахчысарайскі фантан» А. Пушкіна, «Апошні з удэгэ» А. Фадзеева. Пасля арышту пачаліся доўгія, шматгадовыя пакуты. Некалькі гадоў вязень прабыў на Кольскім паўвостраве, удзельнічаў у будаўніцтве Манчагорска. З 1941 года — ва Усцьвытлагау (Комі АССР). З 1946 года працаваў у горадзе Каршы Узбекскай ССР. З 1949 і да самай рэабілітацыі — у горадзе Енісейск Краснаярскага краю. У 1956 вярнуўся ў Мінск. Першая кніга паэзіі пасля вяртання пабачыла свет у 1957 годзе — «Залаты лістапад». Як і іншыя «вяртанцы», тыя, каму пашчасціла выжыць у лагерным і астрожным тлуме, як Сяргей Грахоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Ян Скрыган, Алесь Пальчэўскі, Алесь Звонак, працаваў Мікола Хведаровіч наўздзіў напружана. Меней як за чвэрць стагоддзя выдаў болей як дваццаць арыгінальных і перакладных кніг. З іх — і дзве кнігі ўспамінаў: «Памятныя сустрэчы» і «Незабыўнае».

І ў тыя гады пасля лагера, відавочна, памятаў пра Пухавіччыну. Што гэта так, сведчыць і наступнае... Хацеў бы звярнуць увагу на адну нататку з пухавіцкай «раёнкі» — «Сустрэча з пісьменнікамі»: «У актавай зале Мар'інагорскага саўгаса-тэхнікума адбылася сустрэча з беларускім пісьменнікам Міколам Хведаровічам. Паэт прачытаў свае новыя вершы, прысвечаныя У. І. Леніну.

З чытаннем сваіх твораў выступілі выкладчык саўгаса-тэхнікума Захар Бірала і пачынаючы паэт Анатоль Сакалоўскі». Подпіс — У. Глушакоў, слухач школы рабселькараў.

(Сцяг працы, 1970, 30 мая).

Сваім, родным быў Дом творчасці і для народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Успамінае пра гэта і дачка літаратара — Валянціна Аркадзьеўна Куляшова ў кнізе «Лясному рэху праўду раскажу».

Паэт Васіль Вітка шчасліва пазбег пакарання лагерам. Але і ён, як кажуць, вісеў на валаску. І тады маладога чалавека выратаваў… Дом творчасці ў Мар'інай Горцы. Вось як успамінае пра гэты адрэзак жыцця знакамітага дзіцячага паэта і празаіка, таленавітага перакладчыка і публіцыста яго сын — доктар Вісарыён Васільевіч Крысько: «Калі ў 37-м бацьку выключылі з камсамола і выгналі з рэдакцыі «Чырвонай змены» «за страту пільнасці і лібералізм», мне было каля трох месяцаў. Пачаўся горкі перыяд нашага жыцця: свайго жылля і ашчаднай кніжкі ў нас не было, на работу бацькоў не бралі.

Сяброў стала менш, але нас не пакінулі ў бядзе браты Лыньковы: Рыгор узяў на сваё імя тэрміновую работу і передаў яе бацьку. Той пачаў перакладаць творы Чэхава і, сумесна з Рыгорам, — паэму Маякоўскага «Добра!»

Хоць бацьку аднавілі на працы праз дзевяць месяцаў, жыць было цяжка. Гаспадыня дамка на вуліцы Розы Люксембург, якая здавала нам пакойчык, спалохалася і пагнала з кватэры «лішэнца» і яго сям'ю. Тады Міхась Ціханавіч Лынькоў дамогся праз Літфонд, каб нас пасялілі ў флігельку вартаўніка пры Доме творчасці ў Пухавічах. У гэты час бацька захварэў на сустаўны раматус і пачаў хадзіць з кіёчкам…»

Неаднойчы згадваючы Міхася Лынькова ў стасунках з Домам творчасці (што і зразумела — кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі, у тым ліку і ў перадваенныя 1938—1941гады, яшчэ і чулы, адказны чалавек, добразычлівы калега, ён многіх скіроўваў у Дом творчасці як у месца адпачынку)… І нельга з гэтай жа нагоды не ўзгадаць імя пісьменніцы Яніны Бранеўскай. Вядома, што яна нарадзілася ў 1904 годзе. Мне ўдалося знайсці толькі дзве яе кнігі на рускай мове — «Записки военного корреспондента», куды ўвайшлі яе матэрыялы пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны, і аповесць «Приключения тряпичной Бальбиси» (пабачыла свет у Маскве ў 1956 годзе). Вось што згадвае Яніна Бранеўская (у Мінск яна патрапіла з падтрымкі Міхася Лынькова з Беластока, куды ўцякала ад фашысцкай навалы яшчэ ў 1939 годзе, калі Варшаву, Польшчу акупіравалі гітлераўскія захопнікі): «…Гэта яны (Яніна Бранеўская мае на ўвазе пасланцоў СП БССР, якія прыехалі ў Беласток высветліць сітуацыю. — **А. К.**) прыдумалі маё першае падарожжа ў Мінск і пісьменніцкі Дом творчасці ў Пухавічах. Дом гэты, у ціхім аснежаным лесе, пасля акружанай ворагам Варшавы і перапоўненага Беластока быў для мяне нейкім санаторыем, на мяжы светлай мары і сну. Хто ж гэта з іх так дакладна падлічыў мой матчын час, што і прыданае для майго сыночка прыйшло потым, у маі, перад самым выхадам з раддома? Як падарунак ад Саюза пісьменнікаў, які зімой, у Пухавічах, не толькі падкормліваў майго маленькага перад яго нараджэннем, але і першы потым прыадзеў яго ў цудоўныя распашоначкі з беларускай вышыўкай.

Тады, калі я ўпершыню апынулася ў Доме літаратара, у старой камяніцы на цэнтральнай вуліцы Мінска, мне давялося пазнаёміцца са старшынёй беларускай пісьменніцкай арганізацыі — Міхасём Лыньковым. Ён выйшаў з-за пісьмовага стала насустрач мне, нібы добра знаёмы, ён, відаць, ужо ведаў мяне па расказах тых двух таварышаў, што прыязджалі ў Беласток. Я не маю ніводнай яго фатаграфіі, але ў сардэчнай памяці ён стаіць, як жывы, — просты, адкрыты твар, блакітныя вочы, што глядзяць з увагай і добразычлівасцю, як быццам хочучы папярэдзіць, што наш лёс, нашу бяду ён ведае даўно і добра, што ўжо і абдумаў, як нам найлепш, найхутчэй памагчы. І зноў размова польска-беларуская, без перакладчыка. Я ведала, што ён — аўтар кніжак апавяданняў пра грамадзянскую вайну, у якой прымаў удзел, аўтар аповесцей з вясковага жыцця, якіх я яшчэ не чытала, бо толькі пачала сяк-так разбірацца ў кірыліцы. Аднак ужо разумела, здаецца, кожнае слова жывой беларускай мовы. Мой тагачасны літаратурны багаж

складаўся з трох кніжачак для дзяцей, і кніжачак гэтых таварыш Лынькоў, вядома ж, не чытаў, што мы абое добра разумелі. Але ж неяк усё, пра што мы гаварылі, зусім не было для нас экзотыкай, бо столькі мелася ў нас агульнага ў ацэнках падзей, фактаў, як быццам нас да верасня 1939 года не падзяляў гранічны кардон, як быццам мы не гаварылі на розных мовах. І ў гэтым не было нічога дзіўнага — яднала ідэалогія, бо да нас, у Польшчу, Вялікі Кастрычнік — яго ідэі, яго легендарная прыгажосць — даходзіў, прабіваўся праз краты санацыйных турмаў, праз драты Картуз-Бярозы…»

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў шпіталі на тэрыторыі Дома творчасці лячыўся публіцыст, аўтар шэрагу дакументальных кніг Раман Ярохін. Пра гэта ён расказвае ў кнізе «Интонация вздоха».

Ніяк мы не можам адысці ад Мар'інай Горкі. Колькі літаратурных сцежак пралегла праз райцэнтр, паблізу яго!

На ўскраіне горада ці дакладней — зараз у пасёлку Мар'іна размешчаны Мар'інагорскі агратэхнічны каледж імя Героя Савецкага Саюза У. Е. Лабанка. У свой час — з 1945 па 1974 гады — у тэхнікуме выкладаў беларускую мову і літаратуру Захар Бірала (а нарадзіўся паэт у вёсцы Раўнаполле, таксама Пухавіцкага раёна, у 1906 годзе). Першая кніга Захара Біралы, між іншым, пабачыла свет аж у 1929 годзе — «Смех і радасць вёскі». І паэта-сатырыка зачапіў махавік сталінскіх рэпрэсій — знаходзіўся ў зняволенні з 1936 па 1940 год у Горкаўскай (цяпер Ніжагародскай) вобласці.

Агратэхнічны каледж носіць імя Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Елісеевіча Лабанка, які нарадзіўся на Пухавіччыне, у вёсцы Востраў, 3 ліпеня 1907 года. Выпускнік Мар'інагорскага сельскагаспадарчага тэхнікума, у час Вялікай Айчыннай вайны ўзначаліў аператыўную групу ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Полацка-Лепельскай партызанскай зоне. Быў адзначаны званнем Героя Савецкага Саюза. Сярод баявых і мірных узнагарод У. Е. Лабанка, які ў 1962 годзе быў прызначаны першым намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР, — тры ордэны Леніна, ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі, ордэны Чырвонага Сцяга, Суворава 1-й ступені, Айчыннай вайны 1 ступені, тры ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр У. Е. Лабанок 4 лістапада 1984 года. Аўтар кніг «У баях за Радзіму», «Партызаны прымаюць бой», якія неаднойчы перавыдаваліся ў Мінску і Маскве.

У перадваенныя гады выкладчыкам Мар'інагорскага сельскагаспадарчага тэхнікума працаваў крытык і літаратуразнаўца Якуб Усікаў (нарадзіўся ў вёсцы Кадзіна Магілёўскага раёна 20 верасня 1919 года). Вучыўся ў мінскім педінстытуце. З трэцяга курса перавёўся на завочнае аддзяленне. Працаваў дырэктарам сярэдняй школы ў вёсцы Вялікае Сяло Дзяржынскага раёна. У 1939—1940 гадах выкладаў рускую і беларускую мову і літаратуру ў Мар'інагорскім тэхнікуме. Адначасова займаўся завочна ў педінстытуце. У 1940 годзе паступіў у аспірантуру пры АН БССР. У Вялікую Айчынную вайну — у партызанах. З 1948 па 1975 год — загадчык кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута. Аўтар кніг «Драматургія Кандрата Крапівы», «Беларуская вуснапаэтычная творчасць», «Беларуская камедыя», «Грамадзянскае сумленне мастака», «Андрэй Макаёнак», на многія з якіх рэцэнзіямі ў розныя гады адгукнуўся наш зямляк Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі, між іншым, вучань Усікава па Магілёўскім педінстытуце (у часопісах «Нёман», «Беларусь», газеце «Чырвоная змена»).

Малавядомы факт у дачыненні да літаратурнай гісторыі Пухавіччыны і тое, што з нашым краем звязана пісьменніца Ганна Новік (нарадзілася ў горадзе Аўгустоў, цяпер Польшча, у 1914 годзе). Першыя яе вершы былі надрукаваны ў 1937 годзе — у часопісе «Беларускі летапіс». Удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Арыштоўвалася польскімі ўладамі. У Вялікую Айчынную вайну — сувязная партызанскага атрада на Вілейшчыне. У 1948 годзе была прызначана старшынёю калгаса ў вёсцы Кузьмічы Вілейскага раёна.

У 1951 годзе паступіла на завочнае аддзяленне агранаміі Мар'інагорскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Праз два гады з-за хваробы пакінула вучобу. Аўтар кнігі вершаў «Мае вёсны» (1961), аповесці «Другая сустрэча», фрагменты з якой друкаваліся ў перыядычных выданнях.

Студэнтам тэхнікума таксама быў у 1969—1971 гадах празаік, публіцыст Уладзімір Глушакоў. Аўтар раманаў «Цветение калины», «На круги своя». А пачынаў Уладзімір Сцяпанавіч з вершаў. Нарадзіўся ў Давыд-Гарадку, на Століншчыне (Брэсцкая вобласць). Між іншым, адным з настаўнікаў Уладзіміра Глушакова быў наш зямляк — Міхась Шэлехаў, ураджэнец вёскі Бахаравічы. У 1978 годзе будучы празаік скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. А ў 1982 годзе — Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Працаваў у часопісах «Нёман», «Беларуская думка». У 1999—2001 гадах — першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Затым — першы намеснік галоўнага рэдактара «Народнай газеты». Зараз — на творчай працы.

Адным з уважлівых сведкаў творчасці, ды нават у значнай ступені памагатым Уладзіміра Глушакова, калі ён яшчэ рабіў першыя творчыя крокі, з'яўляецца Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі. Яго успамінам — слова: «…Падборка вершаў паэта (з прадмовай рэдакцыі) была надрукавана на старонках раённай газеты. Чытачы (у асноўным гэта былі школьнікі старэйшых класаў) пісалі ў рэдакцыю, прасілі прадоўжыць публікацыі аўтара.

Мяркуецца, што паэзія У. Глушакова дала штуршок да ўваходу аўтара ў вялікую прозу. І сапраўды, яскравыя, эмацыянальна насычаныя пейзажныя замалёўкі Уладзіміра Сцяпанавіча дапоўнілі каларыт яго першага рамана «На круги своя». Гэта — твор пра гады вучобы студэнта ў сценах Мар'інагорскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Галоўнага героя рамана Уладзімір спісаў з сябе.

Так ён скажа пазней на чытацкай канферэнцыі ў Светлаборскай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна. Тэхнікум узброіў ведамі. А вопыт агранома падмацоўваўся практыкай у калгасе «Селецкі» (упраўленне сельскай гаспадаркі Пухавіцкага райвыканкама накіравала У. Глушакова ў гэтую гаспадарку ў якасці брыгадзіра пасля завяршэння вучобы).

Героі рамана Глушакова надзвычай сумленныя, працалюбівыя людзі. Аднак у творы пісьменніка было нямала іроніі і сарказму ў адрас прагульшчыкаў, парушальнікаў працоўнай дысцыпліны. А галоўны герой рамана сапраўды выклікаў сімпатыі чытачоў. Так, ён — максімаліст, не церпіць фальшу. Характар героя, паказвае аўтар, фарміраваўся ва ўмовах пошуку ідэалаў дабрыні. І гэта галоўнае. Тэму чалавека на працоўным фронце Уладзімір узбагаціў і ў наступным творы «Цёплая лістота таполяў». Пасля службы ў арміі Уладзімір Глушакоў працуе на трактарным заводзе. І піша пра людзей працы. У яго нарысах пра трактаразаводцаў разгорнуты карціны стваральніцтва, памкнення людзей да ўзвышанага, адухоўленага… Пранікаючы ва ўнутраны свет герояў, малады аўтар высвечвае памкненні людзей абавязку…»

(Регион, 2005, 5 студзеня).

Доўгі час у Мар'інагорскім аграрна-тэхнічным каледжы працуе краязнаўчы музей. Шмат намаганняў па яго стварэнні прыклаў Рыгор Ільіч Грабчыкаў. Ён з'яўляецца і аўтарам цікавай гісторыка-краязнаўчай кнігі «125 лет Поиска и Свершений» (Мінск, 2001 год). Дарэчы, у сваім даследзе краязнаўца расказвае пра тое, што выкладчыкам тэхнікума ў 1920-я гады працаваў драматург Васіль Савіч Гарбацэвіч. У кнізе — і сведчанні пра стасункі з навучальнай установай Уладзіслава Галубка (15. 5. 1882, ст. Лясная Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці — 28. 9. 1937), беларускага тэатральнага дзеяча, рэжысёра, акцёра, мастака, драматурга. Уладзіслаў Галубок (сапраўднае прозвішча Голуб) — першы народны артыст Беларусі (1928). Пачаў літаратурную дзейнасць як паэт і празаік яшчэ ў 1908 годзе. Друкаваўся ў газеце «Наша ніва», часопісе «Лучынка». У 1913 годзе выдаў у Пецярбургу зборнік «Апавяданні». З 1917 года выступаў як драматург.

Аўтар каля 40 п'ес з жыцця беларускага народа. Назавём хаця б некаторыя з іх: «Апошняе спатканне», «Бязродны», «Пісаравы імяніны», «За мураванаю сцяною», «Душагубы», «Залаты бог», «Шчасце мужыцкае» і інш. Сабраўшы трупу артыстаў, падарожнічаў па Беларусі з вандроўным тэатрам. Удзел у рабоце тэатра прымаў і бацька народнага артыста СССР славутага кампазітара Ігара Лучанка — Міхаіл Лучанок, які некаторы час у пасляваенныя гады жыў у Мар'інай Горцы. У дачыненні да стасункаў У. Галубка з Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікумам Р. Грабчыкаў піша наступнае: «…у 1931 годзе тэхнікум наведаў знакаміты ўжо на той час народны артыст БССР, беларускі акцёр, рэжысёр, драматург, тэатральны дзеяч, заснавальнік беларускага тэатра Уладзіслаў Іосіфавіч Галубок. Ён прывёў сваёй дачку Эму вучыцца ў тэхнікум. З тых часоў да 1937 года, калі Галубок быў рэпрэсаваны, ён часты госць тэхнікума, часта выступаў сярод студэнтаў, аказваў дапамогу драматычнаму калектыву. Эма паспяхова скончыла тэхнікум, але пасведчанне аб прысваенні спецыяльнасці агранома не атрымала як дачка «ворага народа». І толькі ў студзені 1954 года Эме Галубок тэхнікум уручыў дыплом аб заканчэнні навучальнай установы».

(Грабчиков Г. И. 125 лет Поиска и Свершений. Мн., 2001. — С. 68).

З літаратурных адрасоў Мар'інай Горкі асаблівую цікавасць у апошнія гады ўяўляюць Пухавіцкі раённы цэнтр культуры, Пухавіцкая раённая бібліятэка, а таксама выставачная зала Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея. Склаўся своеасаблівы трыумвірат устаноў, што належаць аддзелу культуры Пухавіцкага райвыканкама (доўгія гады пасаду начальніка займае вопытны арганізатар культурна-асветніцкай справы, чалавек, уважлівы да роднай літаратуры, да творчасці пісьменнікаў-землякоў) Яўген Аляксандравіч Сушко. Дарэчы, праца яго на культурнай ніве адзначана Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Мерапрыемствы, якія ладзяцца па лініі аддзела культуры, цэнтра культуры, раённай бібліятэкі, раённага краязнаўчага музея, выклікаюць у горадзе і раёне самую шырокую ўвагу. Як прыклад — святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння паэта Алеся Бачылы, ураджэнца вёскі Лешніца, у сакавіку 2008 года. Раённая газета «Пухавіцкія навіны» вось што расказала пра гэтую падзею ў артыкуле Аляксандра Прановіча «Яго памятаюць на Пухавіччыне»: «У госці да пухавіччан прыехалі родныя паэта: старэйшы сын Барыс Аляксандравіч са сваёй дачкой Валянцінай, сынам Алесем і дзвюма ўнучкамі. Спецыяльна з Масквы на юбілей завітаў малодшы сын Мікалай, а таксама наш зямляк, пісьменнік, краязнаўца, публіцыст, дырэктар выдавецтва «Літаратура і Мастацтва» Алесь Карлюкевіч, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі, карэспандэнты радыё і газет.

У зале раённага цэнтра культуры сабраліся настаўнікі і вучні гарадскіх школ, бібліятэкары, якія наладзілі ў фае вялікую выставу, прысвечаную творчасці Алеся Бачылы, члены літаратурнага аб'яднання «Мар'інка», ветэраны вайны і працы.

Літаратурнае свята адкрыла намеснік старшыні райвыканкама Таццяна Уладзіміраўна Ішуцінава. Яна запрасіла на сцэну родных паэта, пісьменнікаў, якім былі ўручаны сувеніры і кветкі. У сваёй кароткай прамове яна адзначыла, што Алеся Бачылу памятаюць на Пухавіччыне. Яго імя носяць вуліца ў Мар'інай Горцы, Зазер'еўская сельская бібліятэка, на будынку якой устаноўлена памятная дошка паэту, а ў мастацкай галерэі краязнаўчага музея адкрыты літаратурны пакой, дзе знаходзяцца асабістыя рэчы Алеся Бачылы, кнігі з яго ўласнай бібліятэкі, дакументы, рукапісы, фотаздымкі.

Для прысутных прагучала цікавая літаратурная кампазіцыя «Мне лепей ад роднага краю нічога на свеце няма», якую падрыхтавалі работнікі раённага цэнтра культуры, самадзейныя артысты, выкладчыкі Мар'інагорскай школы мастацтваў. Прагучалі песні, напісаныя на словы Алеся Бачылы, яго вершы. Выступілі сыны Барыс і Мікалай, літаратары Алесь Карлюкевіч, Мікола Мятліцкі…»

(Пухавіцкія навіны, 2008, 22 сакавіка).

У 1970-я гады, калі актыўную краязнаўчую работу ў Мар'інай Горцы, увогуле ў Пухавіцкім раёне вёў заслужаны настаўнік БССР Віктар Рыгоравіч Арлоў, у СШ № 3 часта прыязджалі пісьменнікі. І сам памятаю быў удзельнікам такой сустрэчы, калі ў Мар'інай Горцы гасцяваў генерал-маёр у адстаўцы пісьменнік Мікалай Аляксееў, які, як помніцца, падпісваў тады і сваю кнігу пра генерала арміі І. Чарняхоўскага, што выйшла ў Маскве ў «Палітвыдаце».

Часты госць у Мар'інай Горцы, Блоні, Ананічах — паэт Леанід Дранько-Майсюк. Яго прыводзіць у Мар'іну Горку яшчэ і сяброўства з народным артыстам СССР кампазітарам Ігарам Лучанком. У 1998—2009 гадах завітвалі на сустрэчы з чытачамі ў Мар'іну Горку Віктар Шніп, Барыс Пятровіч, Эдуард Акулін, Мікола Гіль, Анатоль Вярцінскі, Казімір Камейша, Вольга Іпатава, Раіса Баравікова, Алесь Марціновіч, Людміла Рублеўская, Віктар Жыбуль, Уладзімір Арлоў, Ганад Чарказян, Рыгор Барадулін, Алесь Пісьмянкоў, Валерый Пазнякевіч, Алесь Камоцкі і інш. Такія сустрэчы заўсёды запамінальныя для грамадскасці.

Напрыклад, звернемся да стасункаў з Пухавіччынай літаратурнага крытыка, гістарычнага пісьменніка Алеся Марціновіча (нарадзіўся на Случчыне ў 1946 годзе). Вось што ён расказвае пра свае сувязі з Мар'інай Горкай, Пухавіцкім краем:

— Вельмі шмат для знаёмства з Пухавіччынай, праўда, для знаёмства завочнага, у свой час мне дала кніга выдатнага беларускага паэта Кастуся Кірэенкі «Вандроўнае шчасце». Сам Кастусь Ціханавіч пазначыў жанр яе як «Рыбацкая паэма». І сапраўды — гэта паэма, толькі паэма ў прозе. Нараджалася яна не ў цішыні кабінета. За пісьмовым сталом клалася на паперу ўжо тое, што было загадзя асэнсавана, прадумана, а пачатак гэтаму твору быў пакладзены тады, калі К. Кірэенка, заўзяты рыбак, часта ўлетку бавіў свой вольны час на Пухавіччыне, гадзіны праводзячы з вудай у руках, ці збіраючы ў лясах грыбы… Чытаеш ягонае «Вандроўнае шчасце», і быццам увачавідкі бачыш вялікія і малыя рэкі, адны назвы якіх гучаць ужо напеўнай мелодыяй: Балачанка, Цітаўка, Свіслач… Нібыта сам блукаеш па чароўных мясцінах — па тых самых мясцінах, якія блізкімі і дарагімі былі не толькі Кастусю Ціханавічу, а і Канстанціну Міхайлавічу — незабыўнаму народнаму песняру, нашаму Якубу Коласу. Калі ж у думках вяртаешся ў яшчэ больш даўняе мінулае, то прыгадваеш, што некаторыя з пухавіцкіх сцяжын былі добра знаёмыя і мастаку Генрыху Вейсенгофу, які значную частку свайго жыцця правёў у вёсцы Русаковічы, дзе і напісаў многія свае палотны. А яшчэ Пухавіччына — родныя пенаты Ельскіх. У тым ліку і Міхаіла Ельскага — кампазітара і скрыпача, дый шмат каго яшчэ са знакамітасцей… З нашых жа сучаснікаў нельга не згадаць ганаровага грамадзяніна горада Мар'іна Горка, аднаго з самых выдатных сучасных нейрахірургаў, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Арнольда Смеяновіча. Арнольд Фёдаравіч, праўда, нарадзіўся ў Расіі, але пухавіцкая зямля назаўсёды стала для яго роднай, бо менавіта ў мястэчку Пухавічы прайшлі ягонае ваеннае маленства, пасляваеннае юнацтва, тут жывуць ягоныя блізкія людзі і сюды прыязджае ён, каб адпачыць ад гарадскога тлуму… З паездак, што асабліва запомніліся мне, — і наведванне некалькі гадоў назад Талькаўскай сярэдняй школы, у якой створаны куток, што расказвае пра жыццёвы і творчы шлях вядомага беларускага пісьменніка Аляксандра Капусціна, які паблізу ад Талькі меў дачу. Дзякуючы намаганням настаўнікаў і дапамозе ўдавы Аляксандра Пятровіча Эміліі Іванаўны ўдалося сабраць цікавыя матэрыялы… Я не кажу ўжо пра тое, што заўсёды прыемна наведвацца ў «Дудуткі», дзе прысутнічае сам дух беларускасці, які праяўляецца ў зберажэнні даўніх нацыянальных традыцый праз развіццё народных промыслаў. Тая добрая справа, якая нарадзілася стараннямі Яўгена Будзінаса, знаходзіць свой годны працяг. Нядаўна ж я пабываў у пасёлку Свіслач, дзе пазнаёміўся з дырэктарам унікальнага прадпрыемства — завода горнага воску — Валерыем Мулярчыкам. Магчыма, гэтае знаёмства будзе мець працяг, бо ёсць жаданне расказаць і пра сам завод, і пра яго

цудоўнага кіраўніка, дый увогуле пра тых, вынікі чыёй працы вядомы не толькі ў краіне, а і далёка за яе межамі. Дый падставы для гэтага ёсць: у 2011 годзе прадпрыемству спаўняецца 50 гадоў…

…Такія вось літаратурныя штрыхі ў гістарычную біяграфію Мар'інай Горкі і колішняй яе часткі, а цяпер — пасёлка Мар'іна. Дарэчы, давайце ўзгадаем і вуліцы горада, якія носяць імёны пісьменнікаў: Паслядовіча, Бачылы, Коласа…

Несумненнымі экскурсійнымі «кропкамі» ў спасціжэнні гісторыка-літаратурнай памяці Мар'інай Горкі павінны прадстаць адрасы СШ горада, а таксама Мар'інагорскай гімназіі. Калі б мы зазірнулі ў СШ № 1, то, пэўна ж, настаўнік гісторыі Барыс Ібрагімавіч Муха расказаў нам пра тое, што на сустрэчу з вучнямі прыязджаў вядомы пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў. А сярод выпускнікоў школы пасляваеннага часу — дзіцячы пісьменнік, літаратурны крытык Браніслаў Зубкоўскі.

СШ № 2, якая размешчана па вуліцы Ленінскай, прымала ў розныя гады паэта і барда Валерыя Пазнякевіча, балгарскіх пісьменнікаў Міколу Пецева і Маю Длгчаву. СШ № 3 знаходзіцца ў мікраараёне Новая Зара. Раней тут працавалі заснаваныя заслужаным настаўнікам БССР Віктарам Рыгоравічам Арловым грамадскія музей «Героі і подзвігі» і музей У. І. Леніна. З чырвонымі следапытамі школы ліставаліся многія пісьменнікі, ваенныя мемуарысты. На сустрэчу са школьнікамі ў розныя гады прыязджалі публіцыст Раман Ярохін, ваенны пісьменнік Мікалай Аляксееў і іншыя літаратары. На мяжы Новай Зары і даўнейшай гарадской рысы знаходзіцца Мар'інагорская гімназія. Гасцямі гімназістаў у 1990 — пачатку 2000 гадоў былі сын Якуба Коласа — аўтар кнігі «Пад бацькоўскім дахам» Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, паэты Анатоль Зэкаў, Леанід Дранько-Майсюк і інш. СШ № 4, якая размешчана на ўскрайку Мар'інай Горкі, як часта гавораць, за чыгункай, бо — па другі бок вакзальнай плошчы, прымала ў сябе паэта Анатоля Зэкава, Міхася Міцкевіча. Таксама часты госць у школе — Браніслаў Зубкоўскі.

Але ж выглянем за гарадскую рысу. І перш-наперш скіруем свой шлях на Гарэлец… Толькі перад тым, як адправіцца ў Гарэлец, давайце звернемся яшчэ да аднаго фрагмента літаратурнай гісторыі ваколіц Мар'інай Горкі. Праўда, у гэтым звароце ёсць яшчэ нямала загадак. Ды ўсё ж хацеў бы расказаць…

З літаратурна-краязнаўчай памяці пра падзеі на Пухавіччыне гэты фрагмент гісторыі надзвычай цікавы і адметны. У 1931 годзе ў Лондане, Бамбеі і Сіднеі выходзіць дакументальная кніга англійскай пісьменніцы Сесіль Чэстэртон «Мае рускія прыгоды». Не блытайце гэта імя з Гілбертам Кітам Чэстэртонам, вядомым англійскім пісьменнікам, які нарадзіўся ў Лондане ў 1874 годзе і памёр у 1936 годзе. Г. К. Чэстэртон — адзін з буйнейшых прадстаўнікоў дэтэктыўнага жанру. Пачынаў пісаць, праўда, як паэт — першыя вершаваныя зборнікі выдаў у 1900 годзе — «Гуляючыя старыя», «Дзікі рыцар». У 1909 годзе выйшаў яго раман філасофскага характару «Шар і крыж». Зборнікі апавяданняў з займальнай інтрыгай пра сышчыка-святара Браўна прыходзілі да чытача з 1911 па 1935 гады. Гілберт Кіт Чэстэртон — і аўтар гумарыстычных раманаў «Напалеон з Нотынг Хіла» (1904), «Вяртанне Дон-Кіхота» (1926). А што ж вядома пра Сесіль Чэстэртон і чаму яе варта ўзгадаць у звязку з Пухавіччынай?..

У 1982 годзе вядомы беларускі культуролаг Адам Восіпавіч Мальдзіс атрымаў стыпендыю ЮНЕСКА і адправіўся на два месяцы ў Англію, каб у бібліятэках Вялікабрытаніі шукаць у замежнай літаратуры, ды ўвогуле ў кнігах і рукапісах, якія там захоўваюцца, згадкі пра Беларусь, пра беларускую літаратуру. Часткова вынікі сваіх даследаванняў вучоны і пісьменнік агучыў у «Англійскім дзённіку» (ён і склаў большую частку кнігі «З літаратуразнаўчых вандраванняў», Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987 год).

17 снежня Адам Мальдзіс занатоўвае: «Першым англійскім літаратарам, хто трапіў у Савецкую Беларусь і падрабязна яе апісаў, была Сесіль Чэстэртон. Яе

выключна цікавыя, хоць часам і супярэчлівыя нататкі пад загалоўкам, які можна перакласці «Мае рускія прыгоды», або «Мая руская рызыкоўная задума», былі выдадзены ў 1931 годзе. Беларускія ўражанні тут займаюць каля 120 старонак… Як можна меркаваць з самой кнігі, у сваё падарожжа па Беларусі і Украіне Сесіль Чэстэртон адбыла познім летам 1930 года. Па-першае, аўтар згадвае падзеі 1929 года ўжо ў мінулым часе. Па-другое, і гэта галоўны аргумент, яна прысутнічала ў Мінску на Першай Усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўцы. А яна, як вядома, дзейнічала ў жніўні—кастрычніку 1930 года…»

«Беларускія старонкі» кнігі спадарыні Чэстэртон распачынаюцца расповедам пра Стоўбцы. Тут журналістка з Англіі спыняецца ў атэлі з гучнай назвай «Еўропа». Пасля — сустрэча з Нясвіжам, іншымі ваколіцамі. У Нясвіжы Сесіль і спадарожніцу Бані адгаворвалі ад падарожжа ў СССР. Ды англічанкі праявілі настойлівасць…

У Мінску Чэстэртон знаёміцца з упаўнаважаным Наркамата замежных спраў СССР пры СНК БССР Аляксандрам Фёдаравічам Ульянавым. Адкрывае для сябе Пралетарскі парк (зараз — парк імя Горкага), тэатр, наведваецца ў кафэ. Чэстэртон цікавіць літаральна ўсё: і дзейнасць цэркваў, і рэкламныя абвесткі на слупах. Добрае ўражанне робіць выстаўка. Але даверымся занатаванаму Адамам Мальдзісам: «І вось аўтамабіль з англійскімі гасцямі спыніўся ля ўваходу на выстаўку (прыгадаем, што размяшчалася яна на плошчы ў 75 гектараў паміж цяперашнімі паркам імя Чалюскінцаў і вуліцай Якуба Коласа). Чэстэртон адразу зразумела, што па сваім характары, па маштабах гэта выстаўка была зусім непадобная на ўсё тое, што яна бачыла раней, у тым ліку на англійскую экспазіцыю ў прыгарадзе Лондана Уэмблі. У Мінску ўсё было «задумана сур’ёзна, каб паказаць гандаль, індустрыю, сельскую гаспадарку і агульнае развіццё Беларусі за час пасля ўстанаўлення Савецкай улады».

На пачатку знаёмства з выстаўкай англійская пісьменніца «адчула самыя моцныя ўражанні за ўсё сваё жыццё».

Набыўшы нямала досведу ў спасціжэнні жыцця ў Беларусі, Сесіль плануе далейшы маршрут. 19 снежня 1982 года Адам Мальдзіс занатоўвае наступныя ўражанні ад прачытанага: «Місіс Сесіль Чэстэртон і яе спадарожніца Бані пакінулі Мінск у добрым настроі. «Замежны міністр» Ульянаў дапамог ім купіць спальныя білеты да Кіева, яшчэ раз памяняць грошы. У чамаданах ляжалі падарункі «агракультурыстаў». Савецкія людзі аднесліся да англійскіх гасцей добразычліва, спачувальна. Такім чынам, робіць вывад пісьменніца, не збыліся ўсе «прароцтвы», выказаныя з польскага боку: «Нас ніхто не мучыў і не праследаваў, не рэгламентаваў і афіцыйна не інструктаваў. Мы бачылі ўсё, што нам хацелася, заходзілі, куды пажадалася, і ніводзін камісар ці работнік АДПУ не аказаўся на нашым шляху».

Усеўшыся ў вагон, падарожніцы яшчэ раз прыгледзеліся да натоўпу за акном. У адрозненне ад Захаду, на тварах жанчын тут не віднелася грыму ці памады. Адзенне было просценькае і таннае, без розных там дадатковых «аксесуараў» — летніх пальчатак, рыдыкюляў ці шаўковых панчох. Але маладыя, загарэлыя, бадзёрыя дзяўчаты добра абыходзіліся і без іх. Старэйшым, уздыхае Чэстэртон (з гэтага вынікае, што і сама яна была пажылога ўзросту), прыдалося б крыху грыму ды розных «жаночых штучак». Праўда, самі беларускі такой патрэбы, відаць, не адчувалі…»

Цягнік рушыў… Канчатковы пункт — Кіеў. Але ж не забывайцеся, што пасажырамі з’яўляюцца зусім не шараговыя турысты. На адным з бліжэйшых прыпынкаў пісьменніца з сяброўкай выходзяць на станцыю. У кнізе назва станцыі не згадваецца. Адам Мальдзіс, уважліва аналізуючы ўсе тэкставыя пазнакі, зазначае: «…мяркуючы па адлегласці, гэта было недзе ў раёне Пухавіч…»

Здзіўлены і разгублены «станцыйны майстар» (так называе чыгуначнага чыноўніка са станцыі Пухавічы англійская пісьменніца) пазнаёміўся з дакумен-

тамі вандроўніц са «Старога Свету», пасля дапамог з «цялегай». Пясчаная дарога прывяла Сесіль і Бані ў адну з вёсак, «дзе новае своеасабліва перапляталася са старым». Былі і пахілыя хаты, і сучаснае жытло. На начлег падарожніцы спыніліся ў гаспадароў Івана і Марты. «…Вось бы, падумалася, — піша Адам Мальдзіс, — неяк адшукаць іх, даведацца, як далей склаўся іх лёс…» Мо хто з нашчадкаў Івана ды Марты трымае ў памяці гісторыю з англійскай пісьменніцай?..

І хаця Марта паказала, дзе знаходзяцца школа, магазін, пошта, кантакты не дужа ладзіліся. Мясцовыя жыхары прывялі тады немца Ганса, які крыху ведаў і англійскую мову. Яшчэ да вайны немец ажаніўся з уладальніцай мясцовай крамы. Яна ў хуткім часе памерла, а Ганс застаўся ў Беларусі, пачаў працаваць у мясцовай камуне. Як бачыце, ужо ёсць некаторая падказка… А каб зазірнуць у 1930 год з пэўнай доляй дакладнасці, звернемся да гісторыка-дакументальнай хронікі Пухавіцкага раёна «Памяць»: «…Арганізатарамі першай камуны на Пухавіччыне былі камуністы — былыя эмігранты, якія вярнуліся з ЗША: Федарынчык, Лысак, Іванюкевіч, Дрычыц і іншыя. Камуна «Звязда» была створна 1 красавіка 1921 года ў былым маёнтку «Шчамысліца». За ёй замацавалі 200 гектараў ворнай зямлі, 5 гектараў саду, які раней належыў памешчыку Шабуні. Наркамзем БССР аказаў камуне дапамогу ў набыцці жывёлы, насення, інвентару. Камунары пабудавалі жылыя дамы, памяшканні для грамадскай жывёлы, крыху пазней адкрылі клуб, сталоўку.

Сяляне з бліжэйшых вёсак — Крупка, Скобраўка і іншых — часта наведвалі камунараў, прыходзілі паслухаць радыё, паглядзець канцэрт мастацкай самадзейнасці. Ініцыятарамі цікавых спраў выступалі старшыня савета камуны Іосіф Жмырко, сакратар партыйнай арганізацыі Дзмітрый Федарынчык…»

Ганс пазнаёміў жанчын-чужаземак з многімі сялянамі. У хатах з земляной падлогай, як і ў багацейшых дамах, пісьменніца звярнула ўвагу на імкненне да ўтульнасці, добры густ гаспадароў. Сесіль уражваюць «сатканыя сялянамі вясёленькія, упрыгожаныя ружамі заслоны, што віселі на дзвярах, зялёна-блакітна-жоўтыя дываны ўласнай работы, што ўпрыгожвалі сцены, велічны выраз твару Леніна, паказанага на партрэтах у юным і сярэднім узросце, партрэты гэтыя былі ўпрыгожаны вельмі дасканалай вышыўкай… тут, у хатніх рамёствах, праявіўся прыроджаны геній народа, якога не змагла зламаць рабская праца на працягу многіх пакаленняў».

На наступны дзень вяскоўцы апрануліся ў святочнае адзенне, чым надзвычай уразілі англічанак. Дзяўчаты, што прыйшлі дахаты з камуны ў яркіх блузах, з бліскучымі ўпрыгожаннямі ў валасах. Хлопцы фарсілі ў белых кашулях з сіняй і чырвонай вышыўкай. І бабулі ў гэты нядзельны дзень вылучаліся святочнасцю, павязаўшы хусткі, на якіх па чорным фоне ішлі зялёны, чырвоны, блакітны і пунсовы колеры.

Пабывала Чэстэртон і ў вячэрняй школе, на свае вочы ўбачыла, як ліквідоўваецца непісьменнасць. У школе Сесіль праслухала па радыё «трансляцыю оперы з Берліна». Ганс, добраахвотны гід англійскай пісьменніцы, не толькі вадзіў па вёсцы, але і шмат расказваў як пра сённяшняе, пачатку 1930-х гадоў, жыццё, так і пра даўніну. Тлумачыў, што кулакі па-ранейшаму спрабавалі эксплуатаваць чужую працу, нажывацца на продажы прадукцыі гараджанам. Таму і неабходна праводзіць, маўляў, калектывізацыю, ліквідаваць кулацтва.

Прапанаваў Ганс спадарыні Чэстэртон наведацца і ў саўгас, на «дзяржаўную ферму». У саўгасе — пэўна, у Блоні? — пісьменніцы спадабалася болей. «…У гаспадарцы мы агледзелі трактары і хлявы, а таксама невялікі малочны завод, падобны да таго, які мы бачылі ў выставачным павільёне. Усё было клапатліва дагледжана і акуратна адладжана».

Знаёмячыся з падарожнай кнігай Сесіль Чэстэртон, Адам Мальдзіс запісвае і наступнае: «Праз некалькі дзён Чэстэртон і Бані дабраліся да маленькага гарадка М. (хутчэй за ўсё Мар'інай Горкі), дзе пабывалі на «масавым камса-

мольскім мітынгу» (усе яго ўдзельнікі былі нібы «магнічаны» новымі ідэямі), назіралі цырымонію пахавання маладога вайскоўца. Пераначаваўшы ў мясцовай гасцініцы, яны вырашылі прадоўжыць падарожжа ў Кіеў і селі на цягнік, які ішоў на Бахмач».

Расказваючы падрабязна пра змест «беларускай» кнігі англійскай пісьменніцы, Адам Мальдзіс не знайшоў ніякіх звестак з біяграфіі аўтара падарожнага нарыса «Мае рускія прыгоды». Не было жыццяпісу літаратаркі і ў Брытанскай энцыклапедыі. Мо таму, задаецца пытаннем А. Мальдзіс, што яна з сімпатыяй пісала пра Савецкі Саюз? А магла ж напісаць «сенсацыйную» кнігу пра недахопы, многія заганы… Знайшоў Адам Восіпавіч у лонданскіх бібліятэках яшчэ дзве кнігі С. Чэстэртон — «У самым змрочным Лондане» і «Жанчыны дна»… Але ж пісьменніца, якая спрычынілася ў 1930 годзе да Беларусі і Пухавіччыны, у прыватнасці, — асоба сапраўды даволі вядомая. Сапраўднае імя Міс Сесіль Чэстэртон — Ада Элізабет Джонс Чэстэртон (нарадзілася ў Лондане ў 1888 годзе). У 1916 годзе выйшла замуж за роднага брата Гілберта Кіта Чэстэртона (1879 — 1918), які быў яшчэ і біёграфам вядомага літаратара. А таксама напісаў манаграфію «Гісторыя ЗША» (выдадзена ў 1919 годзе), даследаванне «Партыйная сістэма» (1911). Досыць часта выступаў у перыядычным друку як палітычны аглядальнік і публіцыст, як гісторык літаратурных рухаў. Пражыў, на жаль, толькі 39 гадоў. Хто ведае, можа быць, і яшчэ паспеў бы напісаць не адну кнігу…

Аўтар унікальнай падарожнай кнігі «Мае рускія прыгоды» напісала і такія работы, як «Святая Тэрэза» (1928), «Малады Кітай і новая Японія» (1933)… С. Чэстэртон актыўна падарожнічала па свеце. Не баялася новых і невядомых дарог. Калі ў Кітаі збірала матэрыялы для новай кнігі, падрыхтавала шэраг інтэрв'ю. Сярод іх — і гутарка са славутым Чан Кайшы. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны Сесіль працуе ў Жаночым англа-савецкім камітэце, які ў верасні 1941 года ўзначаліла Беатрыс Кінг. У 1942 годзе С. Чэстэртон выдала кнігу «Прывітанне Саветам». Гавораць, што згадвала на яе старонках і сваё падарожжа 1930 года ў Беларусь і Украіну. Мо нешта на гэтых старонках — і з памяці пра сімпатычны і цікавы Пухавіцкі край?..